# ПОЛЫМЯ



КНІГА ВОСЬМАЯ

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

1931

МЕНСК

БЕЛАРУСІ



# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕСЯТЫ

## ЖНІВЕНЬ
## 1931



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК — 1931

# НАША СОНЦА

*Аповесьць*

Барыс Мікуліч

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### Кірункі вятроў

Старамодны пакрой хмар—

над палямі, над лугамі, над лясамі, над імшарамі, над сыпучым пяском—(вецер павее—і сьцяной ідзе пясок, хіліць сухотны лазьняк, прыгінае да зямлі: і тады здаецца—на пясчаным целе набраклі крывёю вены-лазьняк), над балацьвяньнем, над густым хмельным чорназемам—

старамодны пакрой хмар нязьменны над зямлёй.

Ї нязьменнай—як хмары—была зямля: абвяваў яе вецер—то пяшчотны, на крыльлі, то пачвары ў раптоўных выкрунтасах кірунку; то—ён павяваў з поўначы—нёс гэты вецер, град, сьнег, дрэвы плацілі даніну—фэўдал-вецер!—(гэта па восенях); то ляксаваў земныя прасторы неадольнай гарачынёй (сухмень валацужыў па палетках)—ня стрымаеш нічым яго—гэты вецер!

Ї нязьменнай—як хмары—была зямля: у капальнях вясны—і яна можа быць прамыслоўцам!—шмат дыямэнтаў, а куды больш малахітаў (непадроблены малахіт мае колер цыбулі ў сьмятане):—упрыгожваліся дрэвы ў малахіты, а вясна-прамыслоўца ўсё адно бяднела (час ішоў, мінала вясна, а за ёю і лета праходзіла).

Ї нязьменнай—як хмары—была зямля: на ёй не зьмяняліся вятры, кірункі вятроў—калі-б частымі былі зьмены, тым, чый хлеб мэтэоролёгія, як было-б чым займацца, у навуку ня верылі-б іхную; на ёй не зьмяліся вёсны—малахіты цьвілі, адцьвіталі, каб зноў—з новай вясной—расьцьвітаць:—у сусьвеце разьлічана ўсё,—так нам кажа закон.

1

Ї нязьменнай—як хмары—была тая восень: вецер ішоў з-за ракі, гнаў страмніну пяску і на пясчаным целе набракалі крывёю вены-лазьняк; гэты лазьняк хіліўся, а пясок ішоў сьцяной, грабнямі асядаў на бераг ракі, шумеў, сыпячыся ў раку,—грабяні зьнікалі, каб праз колькі часу зноў зьявіцца, зноў шумець, сыпячыся ў раку.

Кірунак вятроў быў нязьменным усе гэтыя дні—ён гнаў пясок у раку, вецер пералётаў праз плынкасьць рачную і нэрвова церабіў афішы на

парканах гораду, біўся акеніцамі, атрасаў з каштаноў лісьце ў гарадзкім садзе, атакоўваў людзей—пясок калоў вочы, хрумсьцеў на зубах.

Нэрвовы вецер церабіў афішы на парканах, перашкаджаў чытаць гэтыя афішы праходжым, нешматлікім праходжым: адны, прытрымліваючы рукой аркуш, дачытвалі да *„Білеты прадаюцца ў канцылярыі..“*, іншыя, раззлаваныя няўрымсьлівасьцю ветра, не дачытвалі афішы нават і да сярэдзіны, ішлі далей—сваёй дарогай.

На афішах было:

*Лекцыя профэсара І. Д. Шастакова*
*— на тэму —*
*„Падвей“ і „Сухавей“*
*у сьвятле дакладных навук адбудзецца сёньня (24-X) у памяшканьні Летняга тэатру.*
*Пачатак роўна а 8 гадзіне.*
*Білеты прадаюцца ў канцылярыі этнографічнага музэю і ў касе тэатру ад . . . да . . .*

А 8 гадзіне вецер пашоў на раку з гораду, адвячоркам ён зьмяніў кірунак. Заходзіла сонца, расставіўшы ў варотах сваёй місіі варту ў рубінавых панцырах—(сонца заходзіла так, як бывае перад сьцюдзёным золкім днём). А 8 гадзіне каля Летняга тэатру прыпыніўся рамізьнік. Фаетон нахіліўся на бок ад цяжару чалавека, які вылазіў, крэхчачы і сапучы, з яго. Вецер падхапіў крылы крылаткі—пашарпанай гадамі крылаткі—і тады чалавек успомніў, што пакінуў у фаетоне кій.

— Дайце мне палку, галубок мой... Яна там... з правага боку...

Чалавек пашоў дарожкай саду да Летняга тэатру, на войстры канец кійка ўзьдзялося колькі пажоўклых каштановых лістоў. Ля тэатру стаялі людзі. Чалавек, не заўважаючы іх, прайшоў у тэатр, нешта шамкаючы пасінелымі вуснамі, зьнясілена цягнуўся за ім ягоны спадарожнік—кій—і на войстры яго канец узьдзелася колькі пажоўклых каштановых лістоў.

— Профэсар,—ціха сказаў нехта.

— Васковы Бісмарк з паноптыкуму,—азваўся другі.

Тады далі сыгнал. Нешматлікія слухачы расьселіся па сваіх крэслах. Узьнялі заслону. Са сцэны пацягло цьвільлю і сьцюжай. І сьцюжу адчулі яшчэ больш, бо на стале—на сцэне—стаяла шклянка чаю: віўся над шклянкай трыкутнік—войстрым кутом угару—віўся над шклянкай трыкутнік пары.

Профэсар Іларыён Дамінікавіч Шастакоў вышаў у чорным фраку—у залі запахла нафталінам. Профэсар дакрануўся рукой да шклянкі, пакрывіўся ад гарачыні, пацёр палец аб палец.

— Наш народ, прыціснуты нацыянальным прыгнечаньнем, спакон веку намагаўся скінуць з сябе кайданы гэтага нацыянальнага прыгнечаньня, якое...

Нехта ля ўваходу спрачаўся з білетэрам, які наважваўся захлопнуць дзьверы, але гэта ніяк не ўдавалася. Чалавек за дзьвярыма моцна навальваўся ўсім сваім тулавам на дзьверы, тое-ж самае з гэтага боку рабіў білетэр.

— ... народныя казкі і паданьні, сабраныя нашымі этнографамі ў розных паветах, сьведчаць якраз аб гэтым-жа. Менавіта цяпер, калі наша нацыя набыла гістарычнае права на самавызначэньне, калі лепшыя сыны нашай нацыі змагаюцца за самавызначэньне... настаў час уважлівага, навуковага вывучэньня народных павер'яў, звычаяў для таго, каб і з гэтай недасьледванай яшчэ крыніцы ўзяць дыямэнты для далейшага будаваньня і росквіту нашай роднай, нацыянальнай...

Недзе дзвынкнула шыбіна. Уварваўся на сцэну вецер, затрэсьліся віттавай пляскай палотнішчы. Профэсар перадзёргнуў плячыма, яшчэ ніжэй адвісла губа, ён глытануў ахаладалага чаю.

І раптам:—

— Цссс!.. Што гэта?

— Гудзіць? Вэрнэр?

Прыхлуплены гуд лузаўся ў набракшую чаканьнем і хваляваньнем цішыню. А ўсьлед за гудам, нібы адказваючы на немыя запытаньні слухачоў, пачуўся трэск (ён быў, відаць, далёка, бо буфэт у тэатры зачынены, дый корак вылётае з бутэлькі з іншым крыху трэскам).

— Страляюць?

Трэск зноў пачуўся. Яшчэ раз. Бліжэй. Гуд сьціх. А трэск рабіўся часьцей. І—апанавала залю цемра: пагасла электрычная жырандоля. Пагасла жырандоля, а людзі стаялі—прымарожаныя—і прыслухоўваліся да трэску, да цемры.

Іларыён Дамінікавіч Шастакоў, абмацваючы рукамі кант стала, пашоў за сцэну, узьбіўся на груд старое дэкарацыі, балюча выцяў калена аб сьцяну, дзьверы ў прыбіральню рыпнулі танклява, ён нават спужаўся гэтага рыпу. У прыбіральні доўга шукаў таго крэсла, на сьпінку якога павесіў крылатку. Нарэшце знайшоў. Апрануўся. Трымаючыся за сьцяну— вышаў у залю. Нехта сунуў у самы твар запалку.

— Гэта вы, профэсар?

Профэсар нездаволена адказаў плаксівым тонам:

— Ну, а хто-ж? Я і ёсьць. Пойдземце, грамадзяне. Лекцыю адкладзем на...

Тады ўсе пайшлі да выхаду.

Трэск пераростаў на вуліцы ў звычайныя стрэлы.

## 2

У вокнах было сьвятло.

Профэсар прыпыніўся на тротуары, зірнуў на вокны, убачыў незнаёмы махнаты цень на фіранцы—цень хістаўся, крывіў свой вырыс (у пакоі, відаць, палілі сьвячу).

Раней чым пазваніць, профэсар азірнуўся—азірнуўся і ўбачыў профэсар: з боку рынку плыве хмара — цяжкая і няўхлюдая хмара, а край яе падплынаў барвовым полівам:—над рынкам разгойдвалася полымя (гарэў, відаць, рынак). Сюды, у завулак, даносіўся лемант, рып і трэск—момантамі гэта ўсё заціхала і наступала жахлівая, нявыносная цішыня.

Профэсар націснуў званок. Ніхто не азваўся. Ён безразважна шпурнуў кійком дзьверы, яны ціха адрыпелі ў цёмны калідор, зьдзіўлены профэсар падняўся па ўсходцах.

У дзьвярох сустрэў яго Анатоль.

— Цішэй, татусь, з Лёвам няпрыемная гісторыя,—і ён паківаў выцягнутым угару пальцам, дакрануўся пальцам да вуснаў.

У суседнім пакоі былі людзі. Профэсар прайшоў да дзьвярэй, рукой адгарнуў порт'еру і застыў—здэтанаваны.

На канапе ляжаў Леў з перавязанай галавой—на перавязцы выступіла кроў, кроў была чорнай,—у пакоі чадзіла сьвяча, цьмяным было сьвятло. Так вось — а ў вачох: белы, амаль парцалянавы твар сына і чорная крывавая пляма на павязцы, на гэтай пляме нярухома застыў русявы кудзер—так вось застыў ля дзьвярэй профэсар.

Да яго падыйшла—зусім нячутна, нібы недакранаючыся падлогі — высокая жанчына (абветралы твар, узьбітыя ўгару валасы) і ціха сказала:

— Добры вечар, профэсар!.. Лёву куды лепш, чым было раней, ён заснуў...

— Чым было раней?..—мэханічна перапытаў профэсар, і тады ўспомніў, што яшчэ ня зьдзеў крылаткі.

Ён наважыўся выйсьці, павярнуўся і стрэўся позіркам з Анатолем. Той, прытаіўшы дыханьне, пазіраў на бацьку, меўся нешта сказаць, не адважваўся, здавалася.

— Ідзі, Толік, спаць, позна ўжо... — павесіў крылатку на цьвік пад портрэтам Бонапарта.—Ты вячэраў, Толік?

— Вячэраў, татусь...

— Вячэраў? Гм... А вось я яшчэ нічога ня еў, прыдзецца пачакаць на Лёву, ён зноў недзе забавіўся...

— Татусь!..

Профэсар успомніў. Ледзь асьвятлёны сьвечкай з суседняга пакою, Бонапарт на портрэце крыва ўсьміхаўся ў твар профэсара. Тады ён пайшоў зноў у пакой, дзе ляжаў сын, але на гэты раз сказаў першым:

— Лёва сьпіць... А... вы... У чым, між іншым, справа, га?

Высокая жанчына (абветралы твар, узьбітыя ўгару валасы) адказала:

— Ля Паліцэйскага ў яго стрэлілі за крокаў дзесяць. Мы гэта ўсе бачылі. Тры кулі, адна за аднэй...

— Стралялі вэрнэраўцы?—чамусьці запытаўся профэсар.

Цень—незнаёмы махнаты цень, што быў кагадзе на фіранцы — хіснуўся па сьцяне,—жанчына адмоўна пакачала галавой.

— Стралялі салдаты...

Профэсар зразумеў. Ён цяжкімі, зморанымі крокамі — ад самага тэатру ён ішоў пешкам, рамізьнік некуды зьнік, на'т не чакаў на грошы—пайшоў з пакою. У сталоўцы, седзячы на крэсьле, спаў Толік. Профэсар пацалаваў яго ў лоб, прайшоў у габінэт, прыпыніўся ля стала, пазьвягаў сухімі пальцамі, пачаў сьцягваць з сябе фрак—у габінэце запахла нафталінам.

(Профэсар хварэў на бяссоньне).

У вакно паўзьлі сьлізкія вусені золку; яны распаўзаліся па габінэце, залазячы ў самыя сукрытыя шчыліны. Паўзьлі ў вакно сьлізкія вусені золку, сьлізкім было няпэўнае сьвятло сьвітаньня.

### 3

Наступныя дні вецер зноў ішоў з ракі:—разносіў па горадзе навалы пяску, засохлага лісьця, патыхаў вецер лугавіньнем—чарнобыль, чарот, чабор, руга-мята (клясычныя расьліны!), вецер настойліва дбаў усё пра адно і тое-ж, восень.

Новую забаву знайшоў сабе вецер на вуліцах гораду; крэмсаў, гайдаў, драпаў і рваў ён каляровыя палотнішчы штандараў,—іх—штандараў—была безьліч, і, здавалася, што павеўная пэрспэктыва каляруецца, набракае крывёю.

І былі людзі пад каляровымі штандарамі.

Ля рынку—рынак гарэў уначы, і вось цяпер панорама яго была бязладнай: брук апудраны быў попелам ды вугольлем, мукой ды сольлю—ля рынку, на пляцы, пасярод якога стаяў бронзавы Аляксандр III („Император русский, король польский, князь финляндский и проч., проч., проч.“) без галавы, бо яе ў лютым ампутавалі без наркозу і нейкі салдат, узьдзеўшы галаву пустую на штых, трофэем пераможцы, дэманстраваў з ёю па вуліцы, аж покуль яна не звалілася ў вулічны пыл; тады гэтую галаву „самодержца“ знайшлі галапузыя, гулялі ў лялькі, абвязвалі хусткай, пялюшкавалі—(псыхіка дзяўчынкі спакон веку накіроўваецца ў адзін і той-жа бок);—дык вось на пляцы зьбіраўся народ са штандарамі, з шырокімі кавалкамі крамніны, густа ўмаляванымі літарамі (аб гэтых, напэўна, кавалках крамніны крышку раней тужыла бабулька з „Дванаццаці“ Блока), голасна гаманілі людзі—сьвяточныя, чыста ды прыгожа прыбраныя.

З боку кашараў плыў на натоўп грузавік. І на ім былі каляровыя штандары, і на ім былі людзі—іх было няшмат, чалавек дзесяць. Твары

ў дзесяці былі бледымі, з зялёнымі падцёкамі каля вачэй:—людзі забыліся на сон у гэтыя дні;—бледым, з зялёнымі падцёкамі каля вачэй, быў і твар шофэра; людзі на грузавіку выкрыквалі ў натоўп лёзунгі, размахвалі рукамі, а шофэр выціскаў з свае глоткі важкія і з гэтай прычыны—цяжкія, бы пах бэнзынавага перагару, зрыгі псямацканьня на адрас хлапчукоў, якія мужна атакоўвалі грузавік.

Гэта тады паплылі горадам—

імем вялікай! беларускай рады,
імем Часовай Цэнтральнай Беларускай рады,
імем Беларускага Спаўняючага Камітэту Заходняга фронту,
імем Беларускай Сацыялістычнай Грамады,
імем Беларускай Народнай партыі соцыялістаў

—паплылі горадам словы лістовак (іх уначы прывезьлі таварным, на скрутку быў надпіс: „Осторожно. Воспламеняется“).

„... Браты-беларусы, працоўны народ, сыны зямлі і абаронцы вольнасьцяй Бацькаўшчыны!..“

Плылі гэтыя словы горадам—лістоўкамі, штандарамі, плякатамі, палотнішчамі, газэтнымі рулонамі, словамі прамоўцаў, крыкамі натоўпу—плылі словы, і гэтае адно—Бацькаўшчына—няўхільна пачыналася вялікай літарай „Б“.

І ў розных канцох гораду—ля рынку, ля цырку, ля рэальнага, ля комэрчаскага, ля кафэдральнага сабору, ля этнографічнага музэю—з грузавікоў прамоўнічалі людзі з бледымі тварамі, зялёнымі падцёкамі каля вачэй:

— Вялікая беларуская рада... верыць у сілу і мудрасьць беларускага народу, у руках каторага вялікая будучыня Вольнай Беларусі, воля, зямля і згода.

Прамоўнічалі людзі на грузавікох, а натоўп бяздзельных зявак—шчыльным ланцугом наўкола грузавікоў—крычаў, маўчаў, аплёдыраваў, і на тварах людзей, на абліччы нацягнута была ды глуха зашпілена на ўсе гузікі проформа ўрачыстасьці.

Прамова канчалася. Чалавек размахваў шапкай. Грузавік плыў, гайдаючы на бакі, далей. Дзесяткі два людзей па командзе крычалі—„гуррра!“, зноў гэтае адно—Бацькаўшчына—няўхільна пачыналася вялікай літарай „Б“.

З боку кашараў плыў на натоўп новы грузавік. І на ім ужо былі звычайныя людзі—пульхнашчокія, ружовыя,—гэтыя людзі спалі ўсе ночы звычайным сваім сном. Людзі на гэтых грузавікох былі звычайнымі—у фрачных пэрах, накрухмаленых камізэльках, з пазлачанымі pence-nez,—яны ня ладзілі мітынгаў, а толькі памахвалі насоўкамі—белымі (накрухмаленымі), у гарошак, з пасачкамі,—людзі крычалі на ўсіх вуліцах адно і тое-ж:

— Няхай жыве вялікая! беларуская рада!

— Віват вольнай бацькаўшчыне!

— Віват!..

Кашары маўчалі.

Вецер зноў ішоў з-за ракі: крэмсаў, гайдаў, драпаў, і рваў ён каляровыя палотнішчы штандараў,—іх—штандараў—была безьліч, і, здавалася, што павеўная пэрспэктыва каляруецца, набракае крывёю.

4

Профэсар, трымаючы ў руках тэлеграму, прайшоў у пакой сына. Леў павярнуўся ад сьценкі (на сьцяне быў машастовы дыван: сярод жоўтага каменьня пустэльні ляжаў леў, леў лагодна выскаліў зубы, зірнуў на бацькаў твар, позірк прыпыніўся на тэлеграме (тэлеграма дрыжэла ў руках—дробненька, дробненька).

— Лёва, ты ня сьпіш?...

Блёклая ўсьмешка папсавала стэрэотып твару.

— Не, татусь, я думаю... Вы прынесьлі нешта цікавае, вы чагосьці хвалюецеся?..

Профэсар падсунуў да ложку высокае крэсла (іх называюць дзедавымі: сядзеш і агорне мудры пакой), сеў на край яго, адказаў—неяк урачыста і па-маладому:

— Мяне прызываюць служыць бацькаўшчыне, мяне чакае крэсла міністра ў Мінску—Беларускім... Я прышоў пажадаць табе скорага выздараўленьня, Лёва...

Хацеў нешта дадаць яшчэ—нейкія дужа важныя словы, а мо' бацькаўскае бласлаўленьне—хацеў нешта дадаць яшчэ, але прыпыніўся, пачатак слова абарваўся на галоснай—галосная дзіка ўзьмятнулася ў паветры.

На Лёвіным твары была ўсьмешка.

Была ўсьмешка на Лёвіным твары—бледая, слабая, але дужа гіронічная—(а на сьцяне, на машастовым дыване выскальваў зубы, лена выцягваючы сваё тулава, леў).

— Ты, татусь, жартуеш мусіць?

Профэсар пакрывіўся, матануў тэлеграмай: тэлеграма дрыжэла ў руках дробненька, дробненька. Леў—так проста, каб не абразіць бацьку—узяў тэлеграму, прачытаў яе і... засьмяяўся ціхенька—ціхенька, але і ў рогаце домінавалі ноткі гіроніі: іх было больш, чым добрадушнага гумару.

— Дык чым хужэй за цябе Тараймовіч, татусь?

Профэсар (Тараймовіч, бібліотэкар музэю, быў пэдантычным чыноўнікам, працаваў „ад—да“, праз усе гады сваёй службы пранасіў мундзір сіняватага колеру з пазлачанымі гузікамі, і каўнер мундзіра падпіраў Тараймовічаў твар) любіў пацяшацца над бібліотэкарам, моцна, да фізычнага болю ня любіў яго. Вось чаму параўнаньне, ужытае Лёвам, расхістала хронічную нэрвовасьць: профэсар задрыжэў, векі ў момант пачырванелі.

— Леў, гэта дзяржаўная служба, гэта... гонар мне, старому этнографу, старэннаму працаўніку, а ты... Эх, Лёва!—Махнуў профэсар рукой і—дрыжэла ўсё цела—пашоў да дзьвярэй.

Не абярнуўшыся, трымаючыся за порт‘еру, сказаў абыякава, спакойна:

— За Толікам прыгледзіць Эна... А ты... як сам хочаш.

Колькі часу ніяк не маглі супакоіцца складкі порт‘еры: бегалі па іх хіжыя цені.

5

У профэсаравай кватэры ўраз нарадзіліся—і так, нарадзіўшыся аднойчы, засталіся надоўга—новыя парадкі.

Парадкі складаюцца: з сьвятла (афарбоўкі яго), гукаў, пахаў і рухаў Гэта ўсё—сьвятло (афарбоўка яго), гукі, пахі і рухі—зьявіліся з новай гаспадыняй, намесьніцай профэсара—Энай Карлаўнай. Наўрад ці знайшоў-бы аматар выяўленчага мастацтва—жывапісі постаць, ці хоць-бы твар на палотнах большай ці меншай славы майстроў, каб гэтая постаць-ці хоць-бы твар быў падобны на Эну Карлаўну. Яна была апошнім—авохці, трагічным!—романам профэсара. Трагічным таму, што профэсар—цела друзьлела—ня здолеў як сьлед адказаць на гарачае каханьне Эны, яна была абражана нячульлівасьцю мужчыны (—а профэсару было за пяцьдзесят), а ён чырванеў і пакутваў, абліваючыся потам, нібы сарамяжы падлетак.

Так ці інакш, а Эну Карлаўну суседзі—і па-за вугольлі і ў твар—называлі профэсаравай прыжывалкай, яна не зьвяртала на характарыстыку жаднай увагі, і па начох—тады прачыналася ў істоце жначына—яе соракагадовае цела аддавалася маладзенькім студэнтам, паштовым чыноўнікам, армейцам (звон шпораў і пушок над верхняй губой).

Эна—аб ёй Корын Міхоэліс сказала-б: небясьпечны ўзрост—ад усяе сілы хапалася за маладосьць, за гады, што праходзілі ў нябыт, а маладосьць—гэта былі: студэнты, паштовыя чыноўнікі, армейцы (звон шпораў і пушок над верхняй губой).

Два дні Эна не ўваходзіла ў пакой, дзе ляжаў Леў. Яна занялася выключна Толікам, і тры разы на дзень гаварыла яму:

— Схадзі, Толя, да Льва Іларыёныча, занясі сьнеданьне (абед, вячэру—гэта мяркуючы ад выпадку).

Два дні Эна не ўваходзіла ў пакой, дзе ляжаў Леў. Але вечарам трэцяга дня ён быў зьдзіўлены, калі ўбачыў выпудраны яе твар над сабой. Усьмешка—ёй пазайздросьціла-б нават Сэкунтала—цнатлівая ўсьмешка ляжала на вуснах.

— Ну, Леў Іларыёныч, вам значна лепш... Я не памылілася?

Леў нават сеў ад цёплага тэмбру голасу Эны. Яна села на ложак, адгарнуўшы крыху прасьціну.

— Толя сьпіць,—сказала яна.

Леў адсунуўся няпрыкметна да сьценкі.

— І што далей, Эна Карлаўна?

Раптам яна пасунулася бліжэй, абхапіла яго рукамі, прыціснулася ўсім целам. Цела—вялікае, наліванае тлустасьцю, але добра, відаць, трэніраванае—калацілася дробнай, наднай дрыготкай: цела было блізка—нахабнае, пульхнае, вялікае, але ўсё-ж—вось гэтае ўсё-ж!—наднае.

— Лёва, ну...

Ён паспрабаваў вызваліцца ад цэпкіх Эніных рук, ад дурманячага водыру яе цела, але жаночае цела моцна навальвалася на яго, калацілася дробнай, наднай дрыготкай.

— Не гані, Лёва, мяне... чуеш?—і ўжо шаптала на вуха ціха-ціхенька спакусныя словы, выказвала жаданьні.

Ён ірвануўся ад усяе сілы, схапіў яе за рукі, хацеў адштырхнуць, але яна апусьцілася ціха на ложак, і тады Леў страціў развагу.

Ноч купалася ў водыры жаночага—вялікага, наліванага тлустасьцю, але добра, відаць, трэніраванага—цела, у непазнанай яшчэ дагэтуль жаночай ласцы. Цела ў Лёвіных руках выгіналася, білася, лена, у салодкай стоме выцягвалася, і Леў быў п'яны спрэс ад непазнанай ім дагэтуль жаночай ласкі.

Раніцай ён ціха прайшоў у пакой, дзе спаў брат. Як рыпнулі дзьверы, прачнуўся Толік, зьдзіўленыя заспаныя вочы ўтаропіў у брата. Леў быў апранутым у палітон, у руках быў маленькі чаймаданчык.

— Толік, сьпі, яшчэ рана. Я прышоў, каб разьвітацца з табой.

Толік—здэтанавана—пазіраў на брата, намацваючы рукой коўдру, якая падгарнулася ўначы пад тулава.

— Я, Толік, вярнуся... Ты ня бойся, з табой будзе Эна Карлаўна... Я вярнуся, Толік...

Браты пацалаваліся. Толік моцна абвіў рукой братнюю шыю, доўга трымаў яе, потым апусьціўся на пасьцель і сказаў:

— Татусь уехаў, ты ўходзіш, аднаго мяне з гэтай немкай пакідаеце...

Леў сьпехам пацалаваў Толіка, які ўваткнуўся тварам у ясік (ружовая насыпка была мокрай), гэтак-жа хутка вышаў з дому, унізе—на вуліцы—прыпыніўся, зірнуў на неба; яно было ў ружовых акраўках аблокаў,—узыходзіла сонца.

6

У Менску адбываўся „беларускі конгрэс“.

На яго зьехаліся так званыя прадстаўнікі ад рабочых і сялян: члены беларускіх нацыянальных партый, дэлегаты розных нацыянальных камітэтаў, што былі ў Расіі, а беларускае сялянства—сялянства, што стагодзьдзі стагнала пад бярэмам нацыянальнага і соцыяльнага ўціску, што сьпіну гнула на неўрадлівых палетках, што песьні складала, і пелася ў гэтых песьнях пра бяду: бяда спаць ня хоча, селянін ідзе шукаць долі-волі сярод людзей, прыходзіць, змардаваны і зьнясілены, дахаты, і гэтая бяда ашчэрваецца зноў на яго: „Дзе гуляў, няцнота?“—а белару-

скае працоўнае сялянства замянілі прадстаўнікі... земскіх комітэтаў (— даніна Керанскаму).

Заля, дзе пасядаў конгрэс, купалася ў белых (з чырвоным нэрвам) сьцягах, і гэта было дужа дзіўным: дзьве-ж навальніцы адгрымелі ў былой Расійскай імпэрыі, дзьве-ж адгрымелі навальніцы гэтай першай вясной расійскай рэволюцыі.

І на адным з паседжаньняў раздаўся голас:

— Я прапаную замяніць белыя сьцягі чырвонымі!

Калі раздаўся ў залі гэты голас, тады адбылося тое, што запісана к летапісах „бацькаўшчыны“. Генэрал Кандратовіч—ён быў у прэзыдыуме конгрэсу—узьняўся з месца, бліснулі генэралавы вочы бляскам гузікаў генэралавага мундзіру, ён падышоў да белага сьцягу і, схіліўшы галаву, пацалаваў гэты кавалак белае крамніны.

Заля захлынулася воплескамі: аплёдыравалі пярэднія рады—гонар „бацькаўшчыны“.

Тут быў і профэсар Шастакоў. За пярэднімі шэрагамі аплёдыравала і большасьць дэлегатаў.

— Няхай жыве рада, няхай жыве вольная бацькаўшчына!—крыкнуў профэсар Шастакоў.

Профэсара качалі, і сьмешна целяпаліся ў паветры фалды ягонага фраку.

Праходзілі дні. Абласны выканаўчы комітэт прыслаў у залю паседжаньня конгрэсу сваіх дэлегатаў. Заля шумела. Толькі жменька дэлегатаў—гонар! „бацькаўшчыны“—слухала профэсара Шастакова. Дзьверы расчыніліся з грукатам. Усе павярнуліся, каб паглядзець на прышоўшых павярнуліся з нейкай захаванай надзеяй, што прышлі дэлегацыі, якія неразумна пакінулі конгрэс (частка дэлегатаў праз меру разумна зьбіла прадстаўніка Віцебскага сялянскага зьезду, што прачытаў дэклярацыю аб адкліканьні віцебскіх дэлегатаў-сялян), павярнуліся і ўбачылі незнаёмых людзей.

Іх было няшмат. Яны былі ўзброенымі. Наперадзе гэтай няпрошанай дэлегацыі ішоў чалавек у пашарпанай дзяжурцы. Чалавек прайшоў проста на трыбуну—сьціхшая заля сачыла за ім—і адказаў на немыя запытаньні прысутных:

— Імем абласнога выканаўчага комітэту конгрэс распускаецца. Комітэт прапануе зараз-жа закрыць паседжаньне.

Сказаў чалавек і ледзь-ледзь усьміхнуўся, усьмешку стрымаць было цяжка—мізэрным быў гонар! „бацькаўшчыны“.

Профэсар Шастакоў—рукі застылі ў паветры—сказаў ціха:

— Прыдзецца адкласьці паседжаньне на...

Ён ня скончыў, пайшоў з трыбуны, і сьмешна цялепаліся ў паветры фалды ягонага фраку.

Гэтае „на“ прагучэла праз пяць год у Бэрліне, каб больш ніколі ня гучэць.

## 7

Панадворак ляжаў, туга сьціснуты высачэзнымі—у плямах ад частых дажджоў і выпарэньняў памыйніц—сьценамі камяніцы. Сюды—на панадворак—выходзілі так званыя чорныя выхады,—і сапраўды яны былі чорнымі: выходзілі праз гэтыя шматлікія дзьверы пахі кухняў, клёзэтаў, чад і смурод перапрэлых парцянак, неператраванай стравы, нясьціранае і засьціранае бялізны.

Пасярод панадворку быў сонечны чатырохкутнік: над ім ляжала неба—сіняе, дымнае, празрыста ды матава-белае. Сонечны чатырохкутнік—гэта царства хлапцоў: тут куды мякчэйшая зямля—можна гуляць у ножыка, у арлянку, у каштаны; тут больш сонца—можна сядзець у адных штоніках, „ванны сонечныя“ рабіць.

Толік доўга глядзеў з вакна на хлапчукоў, што за аддай-душу рэзаліся ў ножыка. Асабліва добра гуляў чарнявы худы хлапец, сьцізорык лётаў перад ім, нібы цыркач з трапэцыі на трапэцыю. Толік ціха адыйшоў ад вакна, на дыбачках прайшоў у сталовую, знайшоў у шуфлядзе вялікі срэбраны нож. Сонечны прамень наблукаў на гэты срэбраны нож, на сьценцы навадзіўся вёрткі „зайка“. Толік сачыў за тым, як аббягаў сонечны „зайка“ сьцяну, столь, стрымгалаў падаў на падлогу, і праз колькі сэкунд зноў дробненька рагатаў—так здавалася—ён на столі.

„Зайку“ злавіць было немагчыма, і гульня неўзабаве абрыдзела, Толіка зноў пацягло да хлапцоў. Ён абыйшоў усе пакоі. Эны Карлаўны ня было. Тады ён борзда зьбег па прыступках і апынуўся на панадворку. У нерашучасьці прыпыніўся ля дзьвярэй, трымаючы ў руках нож. Пучкі сонца разьбягаліся радыюсамі.

— Гэта профэсараў сын,—заўважыў адзін з гульцоў.

— Хадзі да нас!

Толік падыйшоў бліжэй.

— Давай тваім ножыкам згуляем. Будзеш гуляць?

Няўмелымі рукамі Толік зрабіў „вілачкі“. Нож бліснуў на сонцы, царапнуў зямлю і лёг на ўсё лязо.

— Двух пальцаў няма,—падставіўшы пад нож пальцы, сказаў чарнявы.—Мая чарга цяпер.

— А на што вы гуляеце?—запытаўся адзін з гульцоў. У яго нехапала пярэдніх чатырох зубоў.

— На што мы гуляем? Ай, праўда, мы-ж ня ўмовіліся.

Толік маўчаў, толькі міргаў вачыма: ён не разумеў, прасьцей ня ведаў, што гуляць трэба на што-небудзь.

— Я на сьвісток буду гуляць. А ты?

Толік аж пачырванеў.

— Ня ведаю...

Бяззубы тады прапанаваў:

— Гуляйце на ножык.

Чарнявы ўжо вёў партыю, навар ня спытаўшы, ці згодзен Толік гуляць на нож. За „вілкамі“ ішлі „каленка“, „зубкі“, „барада“, „галава“ і толькі на апошнім ходзе чарнявы прамазаў. Бяззубы скрывіў рот усьмешкай.

— Што-ж ты паддаешся?

— Бывае абмах. Адгуляюся,—сур'ёзна адказаў чарнявы.

Праз колькі часу гульня скончылася: прайграў Толік. Чарнявы бяз лішніх слоў забраў у яго нож, схаваў у кішэню і наважыўся было ісьці. Толік раптам запратэставаў:

— Аддай нож. Эна Карлаўна будзе сварыцца.

Чарнявы засьмяяўся.

— Як гэта аддаць?

— А вось так, аддай і ўсё. Я першы раз гуляю ў ножыка...

— Гэта, брат, не адгаворка. Мала што, але-ж прайграў... Мусіш аддаць ножык,—уставіў сваё аўтарытэтнае слова бяззубы.

Толік пачырванеў. У галаве ўжо маляваласся тое, як Эна Карлаўна—гэтая „немка“—будзе сварыцца з-за ножыка: дый мала таго, што пасварыцца, чаго добрага і на вуліцу больш ня пусьціць. Вочы падплывалі сьлязьмі.

— Аддай мой ножык!

— Ён мой, я яго выйграў.

— Аддай, кажу,—ледзь ня плачучы паўтарыў Толік.

І тады замест чарговай рэплікі чарнявы даў здаравенную поўху. Толік ледзь устояў на нагах. Чарнявы наступаў.

— Яшчэ адну маеш!

Толік павярнуўся і пайшоў да дзьвярэй свае кватэры. Сьлёзы засьцілалі вочы, нешта саланаватае плыло ў рот,—ён ішоў і ня бачыў дарогі.

Толік тады яшчэ ня ведаў, што парадкі складаюцца: з сьвятла (афарбоўкі яго), гукаў, пахаў і рухаў (няхай сабе нават і поўху).

Толік плакаў, схаваўшыся ў порт'еры, а разам са сьлязамі ў маленькай істоце нараджалася адчуваньне крыўды, і крыўда гэтая была не на чарнявага, а—чамусьці—на бацьку, на Лёву і—больш за ўсё, мацней за ўсё,—на Эну Карлаўну: гэтую „немку“.

8

Па краіне веялі вятры.

Старамодны пакрой хмар—

над палямі, над лясамі, над імшарамі, над сыпучым пяском—(вецер павее—і сьцяной ідзе пясок, хіліць сухотны лазьняк, прыгінае да зямлі: і тады здаецца—на пясчаным целе набраклі крывёю вены-лазьняк), над балацьвяньнем, над густым хмельным чорназемам—

старамодны пакрой хмар нязьменны над зямлёй.

І нязьменнай—як хмары—была зямля: на ёй не зьмяняліся вятры, кірункі вятроў,—калі-б частымі былі зьмены, тым, чый хлеб—мэтэоролёгія, ня было-б чым займацца, у навуку ня верылі-б іхную; на ёй не зьмяняліся вёсны: малахіты цьвілі, адцьвіталі, каб зноў—з новай вясной расьцьвітаць:—у сусьвеце разьлічана ўсё,—так нам кажа закон.

Па краіне веялі вятры.

І тады—у тыя гады (дзевятнаццаты і дваццаты) людзі забыліся на навукі, на мэтэоролёгію: вецер веяў у невядомых кірунках, непазнаных яшчэ дагэтуль, і пад гэтым ветрам зьмяняліся абрысы зямлі (закон аб рацыяналізацыі сусьвету зьмяніўся раптоўна!): старамодны пакрой хмар ня вечным быў—былі новыя хмары—дымавыя заслоны,—нявечнай была і зямля—яна цьвіла—цьвіла, хоць і не малахітамі, а рубінамі, караламі:—рубінамі і караламі XX стагодзьдзя: выбухамі, крывёю, агнём з гарматных жоралаў.

Цяжка было зразумець—дый гэтага ў тыя гады (дзевятнаццаты і дваццаты) ніхто і ня важыўся зразумець—цяжка было зразумець, дзе нараджаўся вецер, і, раз нарадзіўшыся, куды трымаў ён кірунак. Адно толькі лёгка было зразумець: усе вятры аднальковыя—і з поўначы, і з поўдню, і з захаду, і з усходу прыносілі гэтыя вятры адно і тое-ж—выбухі, кроў, агонь з гарматных жоралаў [1]).

Вятры нараджаліся раптоўна; каля любога мястэчка, каля любога гораду. І гэтак-жа раптоўна нараджаліся на парканах местачковых і гарадзкіх вуліц плакаты. Крычаў з плакатаў чалавек—стандарт чалавека:

„СТОЙ! ТЫ ЗАПИСАЛСЯ ДОБРОВОЛЬЦЕМ?"

І як вятры—раптоўна ўзьнікаў голад,—і ён (голад) ня меў адмысловых кірункаў. Быў голад і была: сыць. Сыць пачыналася пры пачатках эвакуацый: разьбівалі склады, рассыпалі па бруку—(па гразі)—муку і соль,—гэта сыць была зьвярынай, вокамгненнай і—з гэтай прычыны, з гэтых дзьвюх прычын—хімернай.

І была яшчэ сыць, сыць другога гатунку, сыць крыві. Набракала зямля крывёю, набракала ропай (—добра расьце трава на ўгноенай чалавечымі целамі зямлі—): зямля стагнала, паварочвала свае няўхлюдыя бакі, стагнала зямля ад крывяной сыці. Усё зьмянілася на зямлі, засталіся толькі нязьменнымі: вятры, кірункі вятроў; вёсны і малахіты (—праўда, малахітыператвараліся раптоўна ў рубіны, і гэта не таму, што адрадзілася алхэмія, а толькі таму, што пажары надоўга засталяваліся на зямлі—); голад і сыць (—крывяная, сыць зямлі).

На парканах местачковых і гарадзкіх вуліц—тых вуліц, што ствараліся спачатку інстынктыўна, а потым, падпарадкаваўшыся чалавечаму рацыяналізатарскаму розуму, тых вуліц, дзе жылі людзі, і гэтыя людзі

---

[1]) Былі людзі, яны разумелі: гэты вецер нараджаўся на Захадзе, у Эўропе.

жывілі крывёю зямлю,—на парканах раптоўна нараджаліся плякаты. Крычаў з плякатаў чалавек—стандарт чалавека:

„СТОЙ! ТЫ ЗАПИСАЛСЯ ДОБРОВОЛЬЦЕМ?!"

І людзі (людзі, а не стандарты) ішлі па вёсках, па сёлах, па паселішчах, па мястэчках і гарадох аддаваць свой розум, сваё цела рэволюцыі, ішлі людзі сотнямі, тысячамі, сотнямі тысяч рабіць рэволюцыю, бараніць рэволюцыю, паміраць за рэволюцыю (—праз дзесяцігодзьдзі хай помняць герояў: ім слава!—) перамагаць імем гэтай рэволюцыі, бо людзі-ж гэтыя створаны былі—а сказаць больш выразна: набылі сваё быташаньне—рэволюцыяй!

Было ім: восемнаццаць, дзевятнаццаць, дваццаць.

Быў ён: комітэт КСМ (райком, павятком, валком).

І была мобілізацыя комсамольцаў:

— На фронт, таварышы!

— Вырваць краіну з кіпцюроў драпежнага белага арла!

І была вайна: за творчую ідэю станаўленьня соцыялістычнага грамадзтва, і тысячы юнакоў паміралі за права жыць і сьпяваць, за права ствараць тое, што потэнцыяльнай энэргіяй сьпела стагодзьдзямі.

Тысячы юнакоў паміралі, памерлі—праз тысячагодзьдзі хай помняць герояў: гэтымі радкамі пяю ім славу!

9

З цемры голас—і цемра густая, нібы каламазь, і неба цемра шаліць (аматарам вобразаў: ноч—монах-францысканец—і доля, і бог, і жыцьцё чорныя ў яго), і ня відаць за крокі тры—такі жаласьлівы, амаль дзіцячы і—гэта зусім нечакана!—па-жаночаму цёплы:

— Эх, таварыш родны мой, не разумею, не разумею гэтага—бог сьведкай... Сядзім тут нямаведама праз чыю ласку, чакаем. Спаць няможна, курыць няможна, сьпяваць няможна. Вось табе і вайна!

— Так, таварыш, вайна.

Перапынак. А ў ім: рака трызьніць (вада ў вірлівых вірох), шуршыць дробнае каменьне, сыплецца яно ў ваду, і аер шуршыць; у другой купцы чырвонаармейцаў пануе таксама цішыня, толькі нехта—як і гэты з гэтай купкі—пэўне тужыць аб нечым: ён ціха—зусім, зусім—сьпявае журботную сялянскую песьню,—дый, уласна кажучы, песьні ня чуваць, толькі асобныя словы яе, прапетыя шэптам, але гэтыя словы, прапетыя шэптам, гэтая песьня, недасьпяваная чырвонаармейцам, усё-ж пяецца, афармляецца—бяз слоў, у душах, як кажуць, усіх чырвонаармейцаў.

— Гахнуць-бы па апошняму разу дый дахаты. Там жыты высьпяваюць, жней трэба шукаць...— (у цішыні чуваць выразна, як уздыхае чалавек, у цішыні гэты ўздых—глыбокі)—А ведаеш, як сьпяваюць жанкі ў жніво? Ня ведаеш, мусіць, дзе табе ведаць гэта.

„Ой, багат, багат наш пан"...

— Цішэй, таварыш, не забывай...

— Ды я што, я так,—напэўна чалавек махае з дакорам рукой.

... Цішэй, таварыш, не забывай: за вадой у вірлівых вірох—за ракой, на тым беразе—вораг. Цішэй, таварыш, не забывай: вораг не павінен ведаць пра сілы на гэтым беразе—(на гэтым беразе—так павінна быць—толькі алешнік, толькі каменьне, толькі цемра). І яшчэ, таварыш, не забывай: ты салдат рэволюцыі—першай у сьвеце пролетарскай,—твая тактыка павінна быць максымальна выразнай, вар'іраванай (мяркуючы ад выпадку), матэматычна дакладнай. І не забывай яшчэ, таварыш: золкам—бой, не апошні бой, іх будзе шмат, таварыш!..

— Хоць-бы дахаты ліст напісаць... Хто ведае, чым гэта ўсё скончыцца...

— Ну, ну!..

— Прычакаеш раніцы, напішаш.

Лагчына, дзе разьмясьціліся часьці, мяжуючы адным бокам з ракой, другім адагнала лес. За лагчынай, у лесе, засталася жменька людзей: штабісты—(будзе бой і яны першымі пойдуць—гэта факт). Тут—склерознае сьвятло дарожнага ліхтара, тут—карта: крыжыкі, кружочкі, рысачкі, плямы танцуюць уваччу, але— —

На тым беразе, напэўна, таксама тужаць аб жытах, аб маладых жонках, чырвонашчокіх пазнанках. Мо' які-небудзь Стась—малады жаўнер—на грудзі схаваў аркушык паперы, нязграбна замусолены алаўком, нязграбна пачаты:

„Moja kochana. Bóg da, będzemy żywy".

— — але трэба сьціснуць рукамі скроні, сьцяць зубы і вырашаць, вырашаць, вырашаць задачу, якой ня вучылі ў сельскай школе, задачу пераправы, задачу абхода ў тыл, задачу наступленьня. І задачу вырашыць трэба зараз-жа: арытмэтыка пролетара—першыя чатыры дзеяньні—грамадзянская вайна.

Лес цёмны, і кашлатыя дрэвы ў ім. Сьвятла мала—яно склерознае—дрэвы адыйшлі ў цемру, іх ня відаць, на іх-бы забыліся: толькі шумы дый гуды, што на шпацыр выйшлі па верхавіньні, напамінаюць людзям аб дрэвах, аб лесе, аб тым—што за лесам: лагчына, рака.

— Гэта месца прыкрыта добра, сюды можна перасунуць гарматы.

— Яно і выгоднае.

— Так, я-ж і кажу.

Ледзь чуваць: крокі. Правільней—дэталі чалавечых крокаў: хрумст і шум; галіны рассунуліся чалавечымі рукамі.

— На беразе па-ранейшаму.

Чалавек—у яго доўгая барада (а каб пагаліўся гэты чалавек—дваццаць восем, ня больш, гадоў яму)—адрывае вочы ад карты, узіраецца ў

цемрыва, адчувае: стаміліся вочы (цемрыва пайшло агністымі акружынамі).

— Ты, Шастакоў, адпачні.

Але той, што прыйшоў, ужо сеў побач з барадатым, прасачыў рух алаўка па карце, адказаў, счакаўшы хвіліну:

— Потым, Сьцяпан, адпачываць будзем.

Трэба сьціснуць рукамі скроні, сьцяць зубы, сачыць рухам алаўка па карце (крыжыкі, кружочкі, рысачкі, плямы танцуюць уваччу).

— Выведчык сказаў, што— —

Трызьніць рака (вада ў вірлівых вірэх); недасьпеваная песьня армейцам усьцяж пяецца, афармляецца—бяз слоў, у душах, як кажуць, усіх чырвонаармейцаў; а недзе—на родных гонях—высьпяваюць жыты, а яны—жыты—што тое мора!—эх-бы песьню жніўную грымануць, журботную сялянскую песьню ў паходах, пераходах даўгіх пяюць жніўную песьню чырвонаармейцы—лягчэйшымі тады пераходы, паходы робяцца дый цела—струджанае—наліваецца моцаю. Эх-бы песьню жніўную грымануць, дый так грымануць, каб гахнула песьня гэтая куляй, шрапнэльлю!

І цемра густая, нібы каламазь (аматарам вобразаў: ноч—доля сухотніка), і ў густаце гэтай цемры: людзі. Будзе раньне і грымане тады песьня жніўная, інструментаваная на партытуру куляў, шрапнэлі.

— — што ніжэй па рацэ ёсьць брод, вярсты чатыры адсюль.

— Цяжка?

— Дарога чыстая—грунт.

— Дай загад, каб Цімашэнка сваіх людзей зараз-жа перакінуў на брод. Біць трэба з тылу.

— Ёсьць, таварыш командзір, Цімашэнку сваіх людзей зараз-жа перакінуць на брод. Біць трэба з тылу.

— Ёсьць, командзір.

10

Вось дакуманты.—

I

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі як выбраная прадстаўніца Беларускага Народа, зьвяртаецца да Вашай Імпэратарскай Вялікасьці са славамі глыбачэйшай падзякі за асвабаджэньне Беларусі Нямецкімі войскамі з цяжкага ўціску чужага пануючага зьдзеку і анархіі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дэкляравала незалежнасьць цэльнае і недзялімае Беларусі і просіць Вашую Імпэратарскую Вялікасьць аб абароне ў яе кіраваньнях дзеля ўмацаваньня государственнай незалежнасьці і недзялімасьці края ў зьвязі з Германскай Імпэрыяй.

Толькі пад абаронай Германскай Імпэрыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыні.

Прэзыдэнт Рады *Іван Серада.*

Прэзыдэнт Сэкрэтарыяту *Язэп Варонка.*

Сябры Рады:
*Раман фон-Скірмунт.*
*Антон Овсянік.*
*Паўлюк Алексюк.*
*Пятро Крэчэўскі.*
*Язэп Ліосік.*

II

Б. Н. Р.

Вайскова-Дыплёматычная
МІСЫЯ
Рады Б.Н.Р. у Латвіі і Эстыі

*17 лютага 20 г.*
№ 180
гор. Рыга.

**Камандзіру асобнага атрада Беларускай Народнай Рэспублікі генэрал-маёру Булак-Булаховічу**

У дадатак № 62 ад 15-XI—19 г. гэтым маю гонар паведаміць Вас, што Старшыня Рады Міністраў Б. Н. Р. адносінай ад 26-I—20 г. за № 31 паведамляець, што пратакольным пастанаўленьнем Рады Міністраў ад 22 студзеня 1920 года Ваш Атрад прыняты ў склад войска Б. Н. Р.

Прыміце завярэньне ў вялікай да Вас пашане

Шэф Місыі, Палкоўнік *Езавітаў.*

Сэкратар *Казячы.*

III

№ 122
6. 1. 20 г.
Рыга.

**Камандзіру Асобнага Атрада Беларускай Народнай Рэспублікі ў Эстыі Генэрал-Маёру Булак-Балаховічу.**

Павялічэньне Атрада мяне вельмі радуе, але ў зьвязку з тым, што эсты ўздумалі мірыцца, гэта вельмі таксама дае клопату.

Чуў, што ў Вас некаторыя сынкі ўшлі да палякаў, але гэта нічога, няхай уходзе ўсё ненадзежнае, няхай астаюцца толькі свае, беларусы.

Справа ня ў ліку, а ў дабраце. Няхай будзе сто добрых, чым дзесяць тысяч плахіх. На Ваш атрад накладаю вялікія надзеі.

Пачынайце патроху налажываць добрыя адносіны з латышамі: можа прыйдзецца працаваць з імі разам. Памятайце, што Вам трэба будзе спускацца пабліжэ да Дзьвіны.

Вельмі быў недаволен наш Пасол, калі яму нехта сказаў, што афіцэры асобнага Атраду дужа п'янствуюць у Рэвеле, Дорнаце і Марыенбурге. Ці гэта праўда?

Калі праўда, дык—трэба крута спыніць.

Будзьце ласкавы паведаміць, чаму да гэтага часу ня прышоў да Вас брат з коньнікамі і „Міцька". Дзьвінск ужо ўзят. Трэба думаць аб Віцебску і Полацку.

Аб Вас ведае ўжо ўся беларуская, латышская і нямецкая прэса. Все спатыкаюць вельмі прыхільна. Хутка будзе трубіць французская, ангельская і амэрыканская. Крокі ўжо зроблены. Моцна трымайцеся, як-бы цяжка ня было. Ваш атрад павінен прыйсьці на бацькаўшчыну з такім-жа трыумфам, як атрад Галлера ў Польшу. Прывет ад сэрца

Генэрал-маёр *Вэнт П.*

(Вайсковы райца Вайскова-Дыплёматычнай Місыі Б. Н. Р, у Эстыі і Латвіі).

## IV

**Сяляне, браты-беларусы!**

Дзікая маскоўска-бальшавіцкая орда ізноў ідзець на нас, каб зьнішчыць дабрабыт нашае роднае старонкі і завесьці ў нас чужацкі парадак. Ізноў у зьдзеку і паняверцы з боку маскоўцаў можам апынуцца мы.

*Браты-сяляне!*

У нас, на Беларусі, досыць зямлі і памешчыцкай і нашай, каб здаволіць ёю ўсіх нас, тутэйшых людзей. Нам трэба толькі наладзіць парадак. Мы стаім перад пераменай цяперашняга парадку на лепшы. Мы напярэдадні прызнаньня незалежнасьці нашае бацькаўшчыны, у каторай усе мы, тутэйшыя людзі, будзем лічыць і пачуваць сябе гаспадарамі. Выбраныя ўсімі намі пры вольнай падачы галасоў дэпутаты ўладзяць парадкі, патрэбныя нам.

Польская Рэспубліка ў гэтым нам гатова дапамагчы і, пакуль войска яе стаіць на нашым фронце, будзем разам з імі бараніць нашую зямельку. Але маскоўскія бальшавікі, якія ўжо здружыліся з Брусіловым і другімі чорнасоценнымі царска-самаўладнымі прыслужнікамі, хочуць нас пазбавіць нашае лепшае будучыны, яны зноў ідуць на Беларусь і зноў нясуць з сабой вайну і руйнаваньне нашае Бацькаўшчыны.

У часе вайны з бальшавікамі немагчыма ўстанавіць які-небудзь парадак, і няма чаго нам спадзявацца ад іхняга панаваньня.

Адгонім-жа, браты, бальшавіцкіх разбойнікаў, не дапусьцім іх на нашую зямельку. Не патрэбна нам бальшавіцкая комуна, ні брусілаўска-генэральская маскоўская ўлада. Станавіцеся ўсе на дапамогу войску, якое бароніць Беларусь. Афіцэры і жаўнеры, беларусы, нашы вясковыя людзі, якія ахвотнікамі зьявіліся ў Беларускую Вайсковую Камісію, выступаюць на фронт проці бальшавікоў.

Памагайце! Навала маскоўская бліска. Не дамо панаваць на Беларусі Троцкаму і яго кампаніі!

Зьбірайцеся да беларускіх вайсковых часьцей і зараз-жа на фронт бараніць сваю зямельку, родную Беларусь!

*Беларуская Вайсковая Камісія.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І тое, што не запісана ў дакумантах.—

Голад. І сыць (—крывяная, сыць зямлі).

І было:—

За вокнамі навісала ноч. Навісалі хмары. Навісаў дождж. Навісала трывога. І вось у гэтай трывозе—начы, хмар, дажджу—прыкархнула на адзін бок вёска, каб ад першага-ж шолаху прачнуцца, заюрліць, засьпяшацца.

У хаце ціха. Цішыня-ж формуецца сумай гукаў—вярней дэталяў гукаў—і гэтыя гукі ў спалучэньні даюць агульны фон: цішыню. Сьпяць дзеці, зморания за дзень. Яны сьпяць сном лёгкім—дзяцінства-ж бесклапотнае!—і дужа глыбокім—як глыбока ў дзіцячую сьвядомасьць уядаюцца ўражаньні.

Нічыпар сьпіць на лаве. З дзецьмі спаць горача, на лаве вальней. Ён шырака раскінуў рукі, адна—левая—аж дакранаецца падлогі. Няпрыемна глядзець, калі сьпіць зморани чалавек. Чалавек вялікі, ляжыць на сьпіне, галава неяк скрывілася на бок, разяўлены рот, а губы такія бледыя!—няпрыемна глядзець на чалавека—зморанага—калі ён сьпіць.

Яна ляжыць з шырока расчыненымі вачыма. Яна ня сьпіць. Яна позна хадзіла за драбязой хатняй, яна вячэру ладзіла—нямудрую—дзяцей карміла, і каб мужык хаця крыху адпачыў—сама каню аўса ўсыпала, хай конік паесьць, жвавейшым будзе: раньне прыдзе, нямаведама куды пагоняць і яго—канягу—і гаспадара.

Яна ня сьпіць. Ня першую ноч. Ды ці можа спаць беларуская жанчына ў такія ночы?—думаць яна будзе доўга, аж за поўнач, а сон заснуў, сон не ачнецца: думы-ж мацнейшыя!—

— (Васіль Каваль! Ты ў сваёй „Крыніцы" пісаў:

„О, вялікая, пакутная, беларуская маці-сялянка. Вечна хадзіла ў лапцях, з вечным клопатам аб другіх, блізкіх табе. Чым я цябе ўшаную? Ты—вялікая і ў сваёй любові да жыцьця, не апетая на працягу дзён чалавецтва. Ты даеш пачатак новаму жыцьцю, што доўга будзе жыць—і ў гэтым ты—бесьсьмяротная".

Васіль Каваль! Ты сказаў тое, што сказаць няможна словамі, ты ўшанаваў беларускую—працоўную—жанчыну ня словамі, а *душой слоў*, бо: „ня ў слове справа, а для чаго слова гаворыць", як сказаў-бы горкайскі Лука).—

— Думы-ж мацнейшыя, да таго-ж—горныя. Яна зірнула на вакно: цемнач. Цемнач цягнецца ценкай цыратай, палахлівым павоем агортвае горнасьць, гора, горач чаканьня. Цвыркун цырлікае—бы цурчыць цурок—(і вобразы могуць асоцыявацца: цемнач—цвыркун, цвыркун—цішыня).

І было:—

Сьвітаньнем сьлізотным (сонца схавалася за сопухай хмар)—сьлёзы салоныя, сурэпка слоў—адчайных.

— А божухна мой, маці-заступніца, прачыстая дзева!

— А людзюхны-ж мае, што гэта парабілася, што-ж гэта сталася!

— Галубочак-жа мой! На каго пакідаеш мяне з дзеткамі дробнымі!

— Авохці-ж мне, няшчаснай!

Так: сьлёзы салоныя сьцеляцца, і сьлёзы сьлепяць вочы: зыркія зоры зьнікаюць. Так: словы суцешныя—сурэпка, адчайныя.

— Вярнуся, маці. Далёка не пагоняць—(а ў душы: хто-ж ведае, куды выпраўляюць абоз).

— Ня плач, Адарка, дапаможам панам выбрацца жывымі. Вернемся.

— Жывы будам.

Коні—адзін за адным—пайшлі, спаважна матляючы вялізарнымі галовамі (аб чым думаюць коні? Якія думы ў галовах—вялізарных—песьцяць яны?).

І было:

Гоняцца. Ужо чуваць: капыты па бойнай дарозе такату граюць.

— Эх, вынасі, сівы, ратуй!—Нічыпар аж устаў на возе, сьцяў зубы.

Калёсы па карчох скачуць, таго і глядзі—воз абернецца. Парай сьпіна каня ахутана, пена камамі падае.

— Аэх!—

Стрэл. Конь—вынасі, сівы, ратуй!—вылузнуўся з пастронкаў, шарахнуў у бок, неяк урачыста матануў галавой—і ўпаў на пярэднія ногі. Стрэл. Нічыпар застыў на возе. Пазіраў—няўпрыцям—на каня: парай сьпіна каня ахутана, а на вачох конскіх: сьлёзы.

За сьпіной: ляцелі жаўнеры.

І было:—

Ой, у полі вярба! Скрыпіць яна.

Пад вярбою ў полі конь ляжыць [1]).

... Ды аб чым гаварыць багата!

Аднак: не прычакала Адарка Нічыпара. Магілай ягонай была: вярба.

11

Ён прыпыніўся за дзьвярыма.

У сталовай чуліся вясёлыя галасы мужчын, візглаяватыя ўскрыкі жанчын, барабаньканьне роялю, звон посуду, чаўканьне.

Ён прыгнуўся і зірнуў у шчыліну. У тым кружочку, што быў полем ягонага позірку, ён убачыў расчырванелую Эну Карлаўну. Яна сядзела на каленах спрэс п'янага афіцэра, афіцэр važыўся цалаваць яе ў губы, яна—са сьмехам—ухілялася ад пацалункаў,—афіцэр люцеў. Навокал-жа рагаталі, крычалі, сьпявалі, лаяліся, чокаліся, а ў гэты гармідар лузаўся танклявы голас маладога паручніка:

— Панове! Панове!

Яго ня слухалі, ён пастаяў колькі хвілін, чакаючы на цішыню, потым перакуліў чарку і, зьвесіўшы галаву, засьпяваў напаўголаса:

Jeszcze Polska nie zgineła,
Poki my żyjemy...

Адняў вока ад шчыліны. Ціха—на пальцах—прайшоў у кухню, асьцярожна адчыніў дзьверы і стрымгалаў спусьціўся па прыступках.

— Ну?

— Тпру.

— П'юць?

— І нам не даюць.

Лаканічныя адказы Толіка ня дужа спадабаліся таварышам і яны настойлівей узяліся за допыт.

— А немка твая што робіць?

— У паляка на каленах сядзіць.

— Б...е,—зьняважліва заўважыў адзін з хлапцоў.

— Гэта якраз і лепш. Пройдзем у габінэт. Яны не заўважаць. Што трэба возьмем—і гайда.

Адзін за адным падняліся наверх. Толік ішоў наперадзе, паказваючы дарогу астатнім. Двое засталіся на варце: адзін ля дзьвярэй, другі на

[1]) Набухла конскае цела. З вачэй, з вушэй, з раны—чмурая жыжка (ропа). Чырвачочыны на конскім целе.

кухні, схаваўшыся паміж шафамі. Толік з Рубаном прайшлі ў габінэт, нажом ускрылі шуфлядку ў пісьмовым стале, доўга абмацвалі рукамі. Засоўвалі ў кішэні. Рыпнула палавіца. Яны прыслухаліся. Нехта ішоў у габінэт. Рубан шмыргнуў за высокае крэсла. Толік здэтанавана застыў на месцы.

Трымаючыся за порт'еру, у дзьвярох стаяла Эна Карлаўна. Яна ўглядалася ў Толіка, важачыся добра разгледзець яго.

— Так, так, малады чалавек. Надзвычайна добрыя вашы паводзіны прымушаюць мяне ўжыць больш строгія мэтоды выхаваньня.

Толік расшавяліўся. Ён, нечакана для самаго сябе, звонка плюнуў.

— Гэта ня вашая справа.

Эна Карлаўна разьвяла рукамі. У габінэце мацней запахла жаночым—церпкім—потам, парфумай і віном.

— Наогул я-б ня раіла табе прыходзіць дахаты тады, калі ў мяне госьці. Ты—брыдкае стварэньне, ты абрыдзеў мне, ты мне перашкаджаеш...—Яна нават захвалявалася, голас афарбаваўся злосьцю (фарба-ж жаночай злосьці—цьмяная, густая)—Ідзі, ідзі на вуліцу, там твае таварышы, а я рукі абмываю, вось што.

Толік усьміхнуўся. Было цёмна, а хацелася, каб гэту ўсьмешку ўбачыла Эна Карлаўна: для гэтага ён проста чмыхнуў—атрымалася солідкае „ха!"

— Сьмейся, сьмейся, нягодны малчышка. Столькі часу змарнавала, каб зрабіць з цябе чалавека.

— А сама-б...ш,—гіронічна кінуў Толік.

Эна Карлаўна была разьбіта ўшчэнт. Абураная яна ўскочыла з крэсла, падбегла да Толіка, учарэпілася за валасы, дзёрнула.

— Вось табе, вось табе! Паспрабуй крычаць толькі, дык яшчэ горш будзе.

Толік адбіваўся. А яна--вялізарнае тулава—ішла на яго, біла, тупа паўтараючы адно і тое-ж:

— Вось табе, вось табе!

Раптам яна крыкнула. Дзіка. На ўвесь пакой. У гэты-ж момант каля Толіка вырас Рубан.

— Уцякай!

Толік паімчаўся да дзьвярэй (бачыў: Эна Карлаўна грузна асела на падлогу), праз калідор, кухню, па прыступках—на двор.

Наверсе быў пярэпалах.

12

Ехалі.

Тарахцелі колы па даўно нячыненым шляху—(каменьне павыварочана, тэлеграфныя слупы ўпоперак дарогі)—рытмічна хадзілі пад скурай конскай рэбры, дымілася сьпіна конская.

Паабапал шляху—курганы сьвежыя, непасьпела яшчэ замля патрэскацца на сонцы, паабапал шляху—магілы невядомых, нятутэйшых, з чужадальняй стараны.

Ехалі.

Потым-жа ня было пэўнае надзеі: даедуць да шчасьця, стрэне гэтае шчасьце ў дарозе (аджа — хто ведае, дзе блудзіць—ходзіць гэтае шчасьце), і не адзін чалавек, напэўна, думаў: можа шчасьце ў сьвежых курганкох закапана?

Ехалі.

Абагрэтыя сонцам (прымруж вочы і зірні так на сонца: крывёю налілося яно), абвеяныя пяском (пясок на бойнай дарозе—белы) і ветрам, абмытыя дажджамі (тымі, кірунак якіх войстрым кутом вызначаецца,— дажджы пад войстрым кутом бываюць дынамічнымі, войстрымі, як і кірунак, дажджы, такія колюць цела, сякуць яго).

Як адпачывалі коні (тут-жа пры дарозе), сядзелі моўчкі, унурыўшы ў плечы галовы, маўчалі ўпарта, бо перагаворана-ж' было нямаведама колькі, бо ніхто-ж ня ведаў, якая наперадзе будзе дарога—ці скора канец ёй, ці не.

Як адпачывалі коні (тут-жа, пры дарозе), тады жанчыны ціха ўспаміналі тое, што пакінулі, ад чаго адарваліся, успаміналі ў соты, у тысячны раз.

— Потым неяк ажыліся на новым месцы...

— Жыць пачалі...

— Лепшага каня набылі...

— Кароўка ацялілася...

І аднойчы—прыстанкам—хваляй пайшоў па вазох жах, было-ж вазоў няшмат—дванаццаць—трынаццаць—і хваля (яна ішла ззаду) неўзабаве дакацілася да пярэдняга:

— *Чорная воспа*!

На шасэйнай дарозе (можа пад Магілевам, ці Бабруйскам, а мо' пад Баранавічамі—гэта ўсё адно) узьнік новы курганок, на якім невядомая рука зрабіла з веццяя крыж. Чалавека з задняга возу—(быў гэты чалавек ростам з сажэнь, дужасьцю раздаліся ў бакі плечы, барада ў чалавека расла густая, нібы шчыр-бор, дый колер яе быў колерам зямлі)— абвярцелі ў посьцілку, посьцілка закрыла твар (чалавека няможна хаваць з адкрытым тварам), а ногі засталіся неабверчанымі. Нязграбнае цела чалавека апусьцілі ў магілу, а яе—магілу—рылі—сьпехам, вырылі няроўнай: чалавек нібы сеў адпачыць, так яго і засыпалі.

Людзі пайшлі да вазоў, не азіраючыся на сьвежую магілу, на хлапца, што застаўся ля гэтай магілы: вецер церабіў русыя валасы, лізаў твар, рукі і ногі. Пэўне таму, што быў вецер, ня было на вачох сьлёзаў— (а вочы былі празрыстымі, нібы вецер). Стаяў хлапец ля магілы, камячыў у руках шапку (пылам і дажджом беленую), раз-по-раз адганяў шапкай мушыну, а мушына—буйная, зялёная—важылася зноў сесьці на губу.

Людзі пайшлі да вазоў, паднапяліся коні—пыл закурэў (—пясок на бойнай дарозе бэлы). Задні конь матануў галавой—лейцы аслабла цялепаліся па бакох—пасігаў таксама, каб не адстаць ад вазоў. Людзі ехалі моўчкі, глядзелі пад ногі каням, не азіраліся—адзаду застаўся жах—чорная воспа!—застаўся жах, закапаны ў курганох: хто гэта ведае, ці можна жах закапаць, пахаваць у зямельцы?—пэўне-ж нямożна.

Хлапец—нібы спаў—узьняў галаву, зірнуў на дарогу, ірвануўся, пабег. Не дабегшы да тэлеграфнага слупа (шмацьцём на ім драты паабвісалі), прыпыніўся, абцёр рукавом успацелы лоб, павярнуўся.

Пясок па магіле засыхаў, засыхаў крыж з вецьця.

Хлапец пастаяў, шырокім узьмахам рукі перахрысьціўся, як маці вучыла калісьці, бязрупатліва пабрыў уздоўж дарогі.

13 [1])

Неяк людзі надумаліся—солідныя людзі ў замежных гарнітурах, купленых у часе навуковых падарожжаў у Нямеччыну ды іншыя краіны цывілізаванай Эўропы—каб вынайсьці культурныя каштоўнасьці, наладзіць так званую экспэдыцыю.

Чалавек, што ўздумаў заняцца гэтай справай, меў на мэце знайсьці ў курганох продкаў сучаснага чалавека, а адкапаўшы нябожчыкаў—як кажуць вучоныя людзі—адкапаеш што-кольвек і з рэштак старадаўняе культуры. Яно-ж зразумела. Няможна-ж чалавеку сучаснаму бяз продкаў абыйсьціся, бо продкі грамадзян Савецкай Беларусі—нейкія адмысловыя продкі. Да ўсяго даходзяць розумам. Прыкладам, адзін на дзіва вучоны чалавек дайшоў сваім розумам да таго, што палявы васілёк—(гл. батанічную тэрмінолёгію)—даўней, за старым часам, быў сымболем прыгажосьці, дый такой прыгажосьці, якая магла быць толькі тутэйшай, беларускай.

Спрытны вучоны разважаў так:

На слуцкіх паясох васількі красуюцца (нават Багдановіч уславіў іх: слуцкія ткачыхі, бач, не аб хлебе чэрствым думаюць, а аб тым, як вока песьціць сіняя кветка).

У часе дажынак плятуць дзяўчаты вянкі з каласоў дый васількоў (што-якое пра гэта, напэўна, знойдзем у працах Шэйна дый у пасьлядоўцаў ягоных—сьветлай памяці апосталаў этнографічнае катэдры БАН).

Нават на рызе „беларускага дзеяча“ архімандрыта Пчолкі панашываны васількі.

Ну, а калі ўзяць поэзію (ці як той казаў прыгожае пісьменства)... Дайце рады! Што ні поэт—васількі. Што ні дзяўчына ў гэтага поэта, дык таго і чакай, што вочы дзяўчыніны васілёчкамі сінімі зьяюць (каб

[1]) Разьдзел 13 не патрэбен для аповесьці ў гэтым месцы. Але аўтар мяркуе, што чытач не адмовіцца прачытаць гэтае „Лірычнае адступленьне“ менавіта цяпер, бо аўтару нявыгодна, каб яго палічылі за схолястыка і містыка.

паўней у радку было, дык на апітэт не забываюцца, хоць кожнаму вядома, што чорным васілёк не расьце). Нават да россыпаў васільковых дайшло, і, здаецца-ж, поэт гэты яшчэ не дажыў да таго, да чаго дажыў вар'ят Апухціна...

Так ці інакш: васілёк—гэта нешта сымболічнае.

На тым часе, як наважыліся ў экспэдыцыю выбірацца, у Менску на гасьцей замежных чакалі: мелася быць конфэрэнцыя па пытаньнях канчаткаў розных—абы галава не балела. Пасьля таго, як гасьцей вазілі на адчыненьне тэатру ў Віцебск, пасьля таго, як банкеты там ладзілі наш вучоны прапанаваў замежнаму гасьцю:

— Праедземся разам з намі, даўно, пэўне, ня бачылі беларускіх загонаў.

Замежны госьць згадзіўся, і экспэдыцыя распачалася.

Аднаго разу замежны госьць успомніў пра сымболіку васілька, і гэта было якраз у той момант, калі яны пад'яжджалі да вёскі.

— Вы заўважылі, панове, на полі амаль ня відаць васількоў.

— Так, я гэта заўважыў... Прыкрае, ведаеце, зьявішча...

Ля плоту стаяў хлапец і, захінуўшы рукою вочы ад сонца, пазіраў на прыехаўшых.

— Як завуць гэтую вёску?

— Дзямідкавічы,—адказаў хлапец, зьдзівіўшыся, што людзі прыехалі ў вёску і ня ведаюць, у якую.

— А чаму гэта ў вас у жыце васількоў няма?

Тут ужо хлапец ня сьцерпеў: усьміхнуўся.

— Сартаваным засеена.

Пасьля гэтай размовы—вечарам—госьць пісаў артыкул аб тым, як зьнікаюць рэшткі самабытнай беларускае культуры, аб тым, што трэба як мага хутчэй вывучаць беларушчыну, бо яна гатова зьнікнуць зусім (рэдактар соліднай краязнаўчай часопісі гасьцінна прапанаваў адмысловы гонорар за гэты артыкул).

Неўзабаве дайшлі да мэты экспэдыцыі—да раскопак.

Гэта быў вялізарны курган: нічога на ім не расло—пясок адзін, зalізаны ветрам. Рыхталіся да раскопак шмат, а прышлося капаць—дакапаліся хутка.

Было крыўдна этнографу: апрача напоўзгніўшых трупаў, пакіданых бяз жаднага парадку адзін на адзін, нічога не знайшлі. Праціраючы акуляры, этнограф сказаў у роспачы:

— Нават няможна ўстанавіць час пахаваньня...

Маўчаў і замежны госьць,—у кургану ён знайшоў кавалак крамніны, на якім быў зьбялены ад часу васілёк.

Доўга стаялі вучоныя над разрытым курганом і меркавалі, да якое эпохі беларускай культуры трэба аднесьці гэты курган.

— Дарагі чытач! Я ня ведаю, да чаго дайшлі гэтыя вучоныя людзі, дый—нарэшце—ня ў гэтым справа.

Адно я ведаю:

засяваем поле сартаваным зернем.

У курганох—вялікіх і малых—тлеюць косьці тых, хто пакутваў, хто змагаўся за волю нашу, за ўладу нашу, за сонца наша.

14

Тады Рубан цьвёрда сказаў:

— Пойдзем у Менск. Кажуць, калі пайсьці па Скобелеўскай, раз заврнуць, другі, трэці, дык акурат у Менск патрапіш.

— А дзе ты будзеш заварачваць?

Тут Рубан не знайшоў, што адказаць, а наступнае запытаньне зусім зьбіла з панталыку:

— Каля таго самага месца, дзе пазнанец з дзеўкай гуляў?

Рубан сьвіснуў. Гэта азначала, што ён не задаволены скэптычнымі распытамі Толіка, незадаволены тым, што ён—Толік—не разумее прапановы Рубана. Сядзеў Толік, спусьціўшы галаву паміж каленаў, рысаваў пальцам на мяккай зямлі дзівосныя нейкія рэчы: рысы сяклі адна адну, вілаваціліся, круціліся. Рубан сьвіснуў у другое.

Толік адарваў вочы ад мудраватага рысунку, зірнуў на таварыша (твар Рубана быў смуглявым, тонкія русыя бровы адцяняліся на твары дужа выразна—бровы былі зьведзены ў адну—даўгую), усьміхнуўся бяз дай прычыны.

— Ты не кіпяціся, Рубан... Я мяркую, што калі мы застанемся тут, дык ліха ня міне.—Толік уздыхнуў—(так уздыхаюць толькі дарослыя людзі,—адно: хто ведае, якімі гэта гадамі мерыць жыцьцё чалавечае трэба?).—Ці прасіцца зноў у немкі, каб хаця паесьці дала, ці шукаць брата... А дзе ты яго знойдзеш цяперашнім часам?

— А ты Талалайка разваж сур'ёзна. Ці ў дарозе паміраць, ці тут—адзін смак.

Вочы Толікавы прымружыліся—(сьвятло ў прымружаных вачох ходзіць спэктрам)—ён адкінуў назад галаву, рукамі абхапіў калены і гэтак застыў на момант.

— Хіба ты думаеш, што мы памром, Рубан? Мне калісь бацька казаў...—Вочы шырокімі зрабіліся: успомніў бацьку...—што людзі памруць тады, калі сонца пагасьне. Вось, прыкладам, пойдзем мы ў Менск, а сонца па дарозе возьме дый пагасьне. Што ты скажаш тады, га?

Рубан толькі цяпер заўважыў, што на зямлі Толік намаляваў шырокае сонца—сонца гэтае было падобна на сонечнікі, што расьлі за каменнай сьцяной, у гародчыку.

— Што я магу сказаць? Я вось мяркую, што мы ўсё-ж пасьпеем да Менску дайсьці. Пакуль яшчэ тое сонца...

— А чаму канешне ў Менск?—запытаўся Толік, і па гэтаму запытаньню Рубан зразумеў, што таварыш ужо не супярэчыць яго ідэі.— Пойдзем брата шукаць. Ён недзе на фронце.

Рубан працягнуў руку і сур'ёзна сказаў:

— Давай руку, сламшчыкамі будзем. Брата дык брата. Абы адсюль выбрацца.

— Заўтра за пераездам чакай. Дый у слабодку не хадзі, пойдзем удвох.

— Не шманай, хлапец, са мной не прападзеш,—і Рубан выкаціў грудзі, надзьмуў шчокі.

Яны разышліся.

Над панадворкам стаяла сонца, гарэла на сонцы дробнае каменьне ды аскеп'е шкла, зямля гарэла сонцам, а на зямлі было старанна выведзенае пальцам сонца, сонца гэтае было падобна на сонешнікі, што расьлі за каменнай сьцяной, у гародчыку.

І былі на зямлі—на сонцы—сьляды босых ног.

15

Былі перапынкі, а ў іх: няма адпачынку ўсё адно—майткі падраліся, залатаць трэба; чаю згатаваць ня шкодзіць; вошы заядаюць—паміж складак густым напластам; ліст да жонкі, да мацеры, да радзімы напісаць трэба: *„Жывы і здаровы, чаго і вам жалаем. Бяспрыменна ворага адолеем, патаму як мы ёсьць—Чырвоная армія, першая ў сьвеці“.*

Былі перапынкі, а ў іх: баліць струджанае цела; марыць чалавек соладка аб пругкіх дзявочых грудзях, і ў пераходах, паходах даўгіх мае чалавек права марыць аб жаночай пяшчоце,—у марах гэтых гартуецца надзея, а калі чалавек мае надзею—ён зробіць усё, ён пройдзе лясы і рэкі, твань і чвыр; пройдзе разам з чалавекам надзея; чалавек умее пераўзбройваць надзею, мару, а пераўзброеная надзея, мара робіць такое, якога ня зробіць іншы час чалавечы розум.

Былі перапынкі, а ў іх: прыбывалі на франты новыя тысячы тых, якім няма імя, аджа імя адно ўсім гэтым тысячам: комсамол.

І было так:—

Стаялі пад Барысавам. Пад Барысавам лясы густыя, а праз тыя лясы шлях-пуціну праклала, адагнаўшы па бакох дрэвы, Бяроза. У Бярозе— віры (ванцаковы калодзежы). На беразе скамандавалі на прывал: заходзіла сонца, крывёю абліваючы вяршаліны дрэў; коні і людзі змарыліся, пахне зямля потам.

У атрадзе былі навакі: адзінаццаць маладых хлапцоў—комсамольцаў—нагнала ў дарозе атрад; чырвонаармейцы стрэлі іх дружна—у сям'ю сваю прынялі.

На прывале заняліся сваімі справамі. У той час—як мылі парцянкі, стаўлялі лапікі, пяклі на вугольлі бульбу (хлапцы нажылі недзе) і вошы,

чынілі зброю, купалі коняй—у той час да навакоў—яны трымаліся разам—падышоў камандзір.

— Змарыліся, хлопцы?

Маладзейшы—вочы калолі камандзіраву постаць—адказаў за ўсіх:

— Дармо, таварыш камандзір, прывыкнем.

Камандзір прачысьціў саломінкай мунштук, скруціў цыгарку, ледзь прыкметная ўсьмешка нарадзілася—каб наступнай хвілінай сканаць—па кутках губ.

— Прывыкайце, хлопцы. Наша справа такая, што прывыкаць нахаду трэба. Мы нават да сьмерці прывыкаем.

Хлопцы словы камандзіравы прынялі за жарт—адказалі маладым рогатам (зубы паблісквалі—моцныя зубы, за такімі зубамі век пражывеш—яны на‘т не пажаўцеюць).

Камандзір падышоў да другой купкі чырвонаармейцаў, каб прыкурыць. Але ён не дайшоў да іх.—Перад ім вырас конь. Хваляваўся на кані чалавек: высака ўзьнімаліся грудзі, буйнымі кроплямі поту блішчэў лоб.

— Таварыш...

Але камандзір яго папярэдзіў—мунштук быў моцна заціты зубамі—працадзіў спакойна праз зубы:

— Не хвалюйся, таварыш, ты—баец.—Потым махнуў рукой, паказваючы кірунак.—Пройдзем вось туды, там і раскажаш, у чым справа.

Коньнік зьлез з каня, пайшоў з камандзірам, і постаці іхныя праважалі сотні цікаўных позіркаў.

Сонца зайшло.

І тады—у напаўзаючую вячэрнюю волкасьць, у купарваснасьць зьмярканьня, у прыхлупленасьць чалавечага чаканьня,—была каманда:

— Быць гатовымі да бою.

Сапёры пайшлі да ракі—залеглі ў купаўі, чакаючы на поўнакроўную цемру: праз раку перакінуць пантон.

Навакі праверылі вінтоўкі. Камандзір яшчэ раз трапіў ім на вочы. Папыхкваў цыгаркай: ледзь асьвятлялася ніжняя частка камандзіравага твару.

Ішла на зямлю глухая ноч, а ў глухаце ночы былі: мандалінныя гукі ракі, сонны гогат качак, ціхае ірзаньне коняй, гамана—даведзеная да мінімуму, пярэклікі—там, унізе, ля ракі.

— Будзь гатовы...

Шугануў змрок і цемра захвалявалася ценьмі.

— На пераправу.

Бераг стрэў чаканай нечаканасьцю: ахнула цішыня—нібы бліскавіцай усё навакольнае асьвяцілася—залемантавалі прасьцягі: шалелі шрапнэлі, картавіў кулямёт, кіпела вада ў рацэ, гайдала пантон.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . Раньнем прыйшла перамога, а разам з перамогай раньне ўнесла коракты ву ў ночнае роіла.

З адзінаццаці навакол застаўся адзін —маладзейшы. Ён, відаць, першым выбраўся на бераг, наважыўся бегчы, але ў гэты самы момант яго прысьпела куля. Распластаўшы рукі, ляжаў ён на беразе тварам у зямлю, тонкім струмочкам сьцякала ў раку кроў.

Яго паднялі. Рукі сударгава драпанулі зямлю. Яго паклалі на сьпіну, разрэзалі вопратку, падплыўшую крывёю. Хлапец драпаў рукамі зямлю, прагна глытаў паветра, у горле булькатала кроў—(куля трапіла ў лёгкае).

— Давай сюды насілкі.

Яго несьлі да санітарнай павозкі (на ёй—на гэтай павозцы—іншым часам кулямёт вазілі), вочы раптам шырака-шырака расчыніліся, рука ўзьмятнулася ў паветры і ён ціха—праз крывяное булькатаньне—сказаў:

— Нават да сьмерці прывыкаем.

Ён усьміхнуўся—(вы бачылі калі-небудзь, як сьмяецца чалавек у вочы сьмерці?),—усьмешка і боль назаўсёды акамянілі твар.

16

Так вось ішлі каторы дзень: была белая бойная дарога, старанна абрысаваная полем, лесам, вёскамі і мястэчкамі. Удзень ішлі, адыходзячы ад дарогі ў глыб прастораў, каб пажывіцца чым-хаця, а ўначы—дбаючы аб начлезе з вечару—спалі моцным сном, які можна прыдбаць толькі ў шляху мулкім дый колкім, які можна прыдбаць у малады—стомлены—век.

Яны—Рубан і Толік—ішлі, не распытваючы стрэчных, праходжых і праежджых (а іх—праходжых і праежджых—было шмат: абшарпаных, абтрапаных, скалечаных, зьнядоленых), ішлі наперад: наперадзе (яны гэта ведалі) была нейкая (якая-ж?) мэта.

Аднаго разу іх засьпеў у дарозе дождж. Наўсьцяж ляжала поле, наканаванае сонцам, лес быў далёка, а хмара ішла валавянай аграмадзінай (казачным волатам), ручаіны бліскавічныя сачыліся з хмары (волат сьцякаў крывёю).

— Шанцуе потым нам, Толік. З учорашняга ў роце ані каліва ня было, а тут яшчэ дождж. Кішкі прамыць, ці што?

— А ты не гавары лішняга,—заўважыў Толік, узіраючыся ў валавяную (хмары фарбуюць зямлю) далеч.—Ці бачыш, Рубан, там нешта стаіць.

— Стог?

— Стог.

— Ну, дык давай прыўдарма, пасьпеем дабегчы.

Рубан з разгону бабахнуў у стог, і раптам прыстыў на сене.

— Хто тут?

З сена вынырнуў чорны твар, буйныя кроплі дажджу трапілі на яго, на твары паплылі каламутныя раўчучкі. Мальцы зарагаталі.

— Прымай у суседзі, мармыль.

Неўзабаве яны сядзелі ў сене і распытвалі новага знаёмага па ўсіх правілах судовага допыту.

— Адкуль ты?

— Даўно ходзіш?
— Чый ты?
— Дзе бацькі?
„Мармыль“ на ўсю гэту безьліч запытаньняў адказаў адно:
— Бацьку закапалі на шашы, на чорную воспу хварэў.

Дождж ішоў і тарахцеў гром—візгляватым і разам з тым адчайным лямантам адзываліся прасторы нязьлічонымі водгульлямі, і, здавалася, канца-краю нямашака густой хмары.

Яны спалі. Бачылі сны. Рубан імчаўся на цягніку, навокала лёталі кулі, адзаду ляцела полымя, і трэба было абавязкова выратаваць цягнік ад агня, сябе—ад навалы куляў. „Мармыль“ сьніў зусім іншае: сваю хату, родную матку...—і ўсё блыталася: маці, бацька падалі некуды ў прадоньне, а заставаўся толькі шлях—дый бясконцыя прасторы, выглянцаваныя сонцам.

Толіку сьніўся брат. Ён ляжыць з перавязанай галавой у сваім пакоі (на сьценцы, на машастовым дыване лена выцягваецца леў), кроўю набрыняла павязка. Раптам усё зьнікае. Толік ідзе па шляху, балючаісьці басымі нагамі па гарачым каменьні, а сонца пячэ неміласэрна, нявыносна. Перад Толікам вырастае—на дарозе—брат. Ён на кані; конь ня можа ўстояць на месцы; брат нахіляецца, бярэ Толіка да сябе на сядло, і яны імчацца: вецер сьвішча, гудзіць, галосіць.

Адбуяў буякамі дождж.

Першым прачнуўся Рубан. Ад ягонага таўхаля прачнуўся Толік.
— Час вылазіць адсюль. Што з ім будзем рабіць? Возьмем?
— Бяры, калі пойдзе.
Ішлі ўтрох.
Наперадзе быў горад.

## 17

Шматтысячны натоўп плыў вуліцамі, рос гэты натоўп, і пакуль дайшлі да пляцу—разбушавалася мора. Гайдала паветра рытмічны рух—сымфонію—натоўпу, а над галовамі натоўпу гайдаліся штандары. Былі штандары — крывавілася паветра—і былі: дваццаць чатыры труны. Ураньні іх прывезьлі таварным, былі яны сьпехам змайстраваны з негабляваных сасновых дашок: пахла смалой і мёртвымі чалавечымі целамі. Пакуль прыбыў таварны на станцыю—(ён ішоў лясамі і пералескамі, над пляцформамі сьвяціла—буяніла—сонца, на дошках выступіла смала)—горад жыў нэрвовым жыцьцём, горад поўз да станцыі, і ўжо тут, на станцыі, нэрвовасьць будняў пераўзброілася ў адзін, монолітны рух жальбы і помсты.

Мітынгі былі кароткімі.

А на пляцы—натоўп, бяз шапак, маўчаў, і маўчалі прамоўцы.

Вецер ірваў штандары.

Гэты вецер ішоў на горад з-за ракі, ён гнаў пясок у раку, вецер пера-

лётаў праз плынкасьць рачную і—нэрвова церабіў афішы на парканах гораду, біўся акеніцамі, атрасаў з каштанаў лісьце ў гарадзкім садзе, атакоўваў людзей—пясок калоў вочы, хрумсьцеў на зубах.

А людзі на пляцы стаялі і маўчалі, і было гэтае маўчаньне мацней за ўсякую іншую ўрачыстаць, прамовы былі непатрэбнымі—над натоўпам быў транспарант, што сьвідраваў розум, пачуцьці мацней за словы тысяч прамоўцаў: труна за труной, дваццаць чатыры.

Брацкую магілу—даўгую і глыбокую—вырылі ў гарадзкім садзе. Як пахавалі, насыпалі ўзгорак жоўтага пяску: на ім на пяску—засыхалі на сонцы вянкі—кляновае, альховае вецьце. А над магілай—у галовах—укапалі калочкі з дошкай:

**Вечная память боевым орлам**

І далей ішоў сьпіс—дваццаць чатыры прозьвішчы пахаваных.

— Пойдзем на пляц,—прапанаваў Рубан.—Там нейкія хаўтуры вялізарныя.

Пакуль прыйшлі яны на пляц, ён апусьцеў, людзі разыйшліся рабіць свае справы—жыць напружаным жыцьцём рэволюцыйных будняў.

Яны прайшлі ў сад—да магілы, прыпыніліся. Раптам халодны пот выступіў на Толікавым твары. Упяўшы позірк у дошку, ён застыў—ураз згорбіўшы свой хлапечы стан.

Ён прачытаў:

**Лев Шостаков—помкомбат**

Сьлёзы—буйнымі кроплямі—пакаціліся па шчаках, заказлыталі нос, губы.

Рубан і „Мармыль“ моўчкі пазіралі на таварыша,—яны былі здэтанаванымі.

А вецер ішоў на горад з-за ракі, ён гнаў пясок у раку, вецер пералётаў праз плынкасьць рачную і—нэрвова церабіў афішы на парканах гораду, біўся акеніцамі, атрасаў з каштанаў лісьце ў гарадзкім садзе, атакоўваў людзей—пясок калоў вочы, хрумсьцеў на зубах.

Людзі сьпяшаліся рабіць свае справы—жыць напружаным жыцьцём рэволюцыйных будняў.

18

„Мармыль“ здрадзіў.

Праходзілі праз мястэчка, занятае палякамі, напоўзруйнаванае гжэчнымі пераможцамі: дзе-ні-дзе тырчэлі сіратлівыя коміны сярод нагруяджанага каменьня і абгарэлага бярвеньня.

Трэці дзень лютаваў польскі разьезд у мястэчку.

Белатварыя маладыя яўрэйкі былі згвалчаны ў першую-ж ноч. Дачка старога шаўца Цывеля, вырваўшыся з рук пазнанца, кінулася з другога

паверху на брук,—на белым твары застыла назаўсёды грымаса, нечаканая для мерцьвяка: грымаса радасьці і нейкай урачыстай гордасьці. Уначы вуліцай ехалі пазнанцы: труп шаўцовае дачкі зьбілі капытамі.

„Мармыль“ здрадзіў у гэтым мястэчку.

Яны засталіся начаваць, атайбаваўшыся ў старой лазьні. Рубан з „Мармылём“ пайшлі на росшукі ежы. Толік, чакаючы іх, заснуў. Раптам ён усхапіўся ад трывожнага голасу Рубана. Той штырхаў яго за руку і крычаў:

— Гэты паршывец аказаўся здраднікам!

— Хто гэта?

— „Мармыль“! Яго палякі паклікалі да катла, ён—сьвіньня—пачаў убіраць кашу за абедзьве шчакі. Я яго зваў, зваў—нічога, аглох.

— Ну?

— Наліўшы трыбух, прыходзіць да мяне. „Добра зьеў“, кажа.

— А што з сабой узяў? „Нічога“, кажа, „Забыўся“. Ну, ня сьцерпеў я гэткае абразы, ды як садану яму кулаком у пысу. Ён у гвалт. Учулі пазнанцы. Нехта крыкнуў, што яўрэй хлапца лупцуе. Ну, брат, траха што ногі прынёс. Трэба адсюль зараз-жа выкатвацца.

— Я шамаць хочу,—у роспачы сказаў Толік.

Рубан маўчаў. Потым ён сьвіснуў. Гэта азначала, што ён нешта надумаў.

— Ну?—запытаў Толік.

— Пойдзем на хутары. Тут недалёка, вярсты дзьве. Помніш—праходзілі паўз іх. Там пад‘ямо.

Толік узьняўся з зямлі, глыбака ўздыхнуў,—затхай патыхалі сьцены лазьні; у пабітае вакно пазіраў змрок; дрынчэла мушына, заблытаўшыся ў павуціньні.

Шалёнымі гукамі (—лемантам, крыкамі, песьнямі, рогатам, стрэламі, конскім іржаньнем—) пенілася мястэчка, і, здавалася,—гукі гэтыя зьліваліся ў адзін шматгранны гук, акорд—акорд роспачы.

Ішлі аселіцамі, выбіваючыся на дарогу.

І ішло—без дарог—небам полымя, аднатаванае трэскам, рымстам, стрэламі, лемантам, галошаньнем, рогатам і плачам.

Ішоў Толік і маўчаў. Ён думаў пра тое, што няможна асуджаць „Мармыля“, што Рубан жорстка з ім абышоўся, але—(балелі ногі, балела цела, смылела дробнымі струпамі, жывот падводзіла пад грудзі, у горле салоным камяком стаяў голад)—але Толік ведаў, што ён-бы не зрабіў так ніколі, але Толік ведаў: касьцёр цёпла награе схаладалае цела, цёплая каша награе кроў, а чалавечая ласка—запаляе сэрца.

Рубан сьвістаў.

19

У цемры вырас агеньчык. Ён міргнуў—ідзі! ідзі!—дый зьнік за ўзгоркам, каб зноў міргнуць—зазыўна і прыветна, каб зьнікнуць. — Хутары былі блізка.

За крокаў шэсьць хісталася постаць Рубана. Ён сьвістаў. Раптам ён спыніўся, выцягнуў у ляноце — лянота пайшла сударгамі па целе — рукі і сказаў:

— Напіцца-б, у горле перасохла...

Пад нагамі танцаваў грунт, ногі мякка загразалі ў балацьвяньні. Яны ішлі заліўным лугам, — пахла паветра: чарнобыль, чарот, чабор, рута-мята (клясычныя расьліны!).

— Тут, напэўна, ёсьць крыніцы.

Рубан падаўся ў бок, праз колькі часу сьвіснуў. Сьвіст нарадзіў водгульле.

— Ідзі сюды, напіся.

Толік, падыходзячы, убачыў: ляжыць Рубан на жываце, жменяй ваду чэрпае і з прыхлёбам п'е яе. Крыніца малая—„акенца“.

— Адно дрэнна—вада цёплая, а так—што піва!..

Толік здрыгануўся. З цемры—адтуль, дзе былі хутары, — пачуўся сковыт—нудны, адчайны, ён раздьдзіраў душу—гэты плач.

— Сабака?

— Цётка мне некалі сказала, як жывой была, што сабакі выюць так на нябожчыка.—І ён зноў нахіліўся да вады.

У цішыні сковыт набываў сілу. Здавалася, што не адзін сабака вые, а сотні, тысячы. Плакала цішыня безьліччу водгульляў, на зьмену аднэй хвалі стогнаў нараджалася новая, яшчэ больш нудная, больш адчайная.

— Пі, Толік,—абціраючы аб порткі рукі, сказаў Рубан.

— Нешта расхацелася. Пойдзем.

Рубан засьмяяўся.

— За сэрца ўзяў сабачы плач? Кінь, Талалайка, нудзіцца! Прывыкай.

— Пойдзем.

На дарозе іх стрэла нечаканасьць. Упоперак дарогі ляжаў конь: набухла конскае чэрава. З брэхам разьбегліся сабакі. Яны пасталі на краі дарогі і сачылі,—відаць—прышоўшых.

— Праходзь, не азірайся,—сказаў ціха Рубан.

Конскае—пагрызанае—тулава засталося адзаду. Яны падыходзілі да хутара. Вароты былі расчыненымі. Навокала было пуста. Недзе ў полі выў, плакаў сабака.

Рубан пастукаў у шыбу. Цішыня дзвынкнула.

— Зойдзем у хату. Нехта-ж павінен быць.

Абагнуўшы хату, яны падыйшлі да дзьвярэй, стукнулі ў другое. Недзе ў полі выў, плакаў сабака. Рубан шпурнуў нагой дзьверы. Яны зарыпелі — танклява, нібы заплакала цялё. Рубан зрабіў крок і крута спыніўся.

— Бачыш?

У парозе ляжаў мярцьвяк. З вакна ішло бляклае—сухотнае—сьвятло: твар мерцьвяка ашчэрваўся цёмным правалам роту.

— Пойдзем адсюль, Рубан.

Выў, плакаў у полі сабака. У цішыні сковыт набываў сілу. Здавалася, што не адзін сабака вые, а сотні, тысячы. Плакала цішыня безьліччу водгульляў — на зьмену аднэй хвалі стогнаў нараджалася новая, яшчэ больш нудная, больш адчайная.

20

Спустошаныя палі сьпявалі ночнай прахалодай — гарачы дзень праміну́ў; запыленая трава пакрылася расой, буйной, нібы сьлёзы мацеры.

Наўпрост ляжала дарога. Яна патакала ў змроку: змрок ліўся лілёвай ракой, змрок залівае неба—і небам тады плылі далёкія—здалёк чараўніча-залатыя—караблі-сьветы.

Ужо колькі дзён чулася страляніна. Недзе—з правага боку—быў гасьцінец: сюды, на прасёлкавую дарогу, даносілася тарахценьне колаў, пературушчаныя адлегласьцю галасы і песьні, а наперадзе — далёка (і здавалася часам: зусім блізка)—быў: фронт.

Цяпер яны ня спыняліся на начлег, а спалі тут-жа, пры дарозе, у траве. Цэлымі днямі ня елі, ішлі наперад, туды, дзе: фронт. Ні Рубан, ні Толік ня ведалі, што будзе на фронце, але ў галовах было шмат думак, што прымушалі ісьці наперад, і самай большай, самай галоўнай думкай было:

перацярпеўшы холад, гарачынь, голад і сыць,
падмяўшы нагамі палі, балаты, нязьлічоныя дарогі,
кінуўшы выкліч сьмерці—

яны здолеюць дапамагчы там, на фронце.

Была ноч.

На гэты раз ішоў наперадзе Толік. Рубан маўчаў ужо шмат часу, нават не насьвістваў традыцыйнага свайго „яблычка“. Толік ішоў і думаў пра тое, пра што думалася ўсе гэтыя дні, пра што думалася з таго моманту, калі да слыху пачалі даходзіць цяжкія ўздыхі гармат.

— Толя!

Толік схамянуўся. Ня можа быць, каб клікаў гэта Рубан: ён ніколі так не называў яго, дый голас быў нейкім нязвычайным. Ён павярнуўся: твар-у-твар з Рубанам. Гарачае дыханьне абдала Толіка ў твар.

— Што ты?

— Не магу ісьці, ногі адзервянелі.

Голас быў чужым, дзіцячым—чуліся ў ім нявыразныя яшчэ, але глыбокія ноткі тугі, болю і плачу.

Рубан апусьціўся на зямлю — проста ў дарожны пыл. Толік сеў каля яго.

— Давіць нешта, Толя, вось так—усю галаву...

Навокал была багатая аксамітная ноч: прахалодай павявалі прасьцягі, дарога патанала ў лілёвым—празрыстым—змроку.

Рубан часта дыхаў, грудзі пад кашуляй уздымаліся высака, пальцы церабілі кашулю. Толік паклаў сваю руку на Рубанаў лоб. Ён быў мокрым і гарачым.

— Табе горача, Рубан?

Маленькае цела выгіналася на зямлі ад неадольнага нутранога болю. Рот крывіўся, бліскацелі—пустым бляскам—вочы.

— Піць, братцы, ой, як піць хочацца... Цісьне, Толя, вось тут... галава..

Толік адцягнуў Рубана ў траву, пабег шукаць вады. Адыходзячы ён чуў, як стагнаў, як скардзіўся на боль Рубан.

Была багатая аксамітная (лілёвай афарбоўкі) ноч, але такія ночы— —

— Мне хочацца расказаць два факты. Папераджаю: яны—абодвы—мелі месца ў нас, у Савецкай Беларусі, у 1931 годзе. Майце гэта на ўвазе, слухаючы мяне.

У адным з лістоў я прачытаў:

> „Што рабіць мне ў гэтай справе (а справа: марна маладосьць мінае!—*Б. М.*) — ня ведаю, наперад заглядаць баюся, і таму ня хочу. Няхай жыцьцё паклапоціцца аб гэтым, а я і так вельмі заняты: трэба-ж і выпіць, і закусіць, а ўсё гэта патрабуе часу. Дзе там ужо нам наперад заглядаць і намагацца зьмяніць цячэньне рэчаў: няхай яно будзе само-па-сабе, а мы самі-па-сабе“...

Быў такі выпадак. У габінэт псыхіятрычнай клінікі ўвайшла маладая жанчына. Доктар наважыўся было агледзець яе, але жанчына раптам схапілася за галаву і—з жахам у вачох—сказала:

— Доктар! Я чытала сёньня вершы поэта Поп:чак-Бурава.

— Выпіце валер'янкі,—параіў оптыміст-доктар.

І для вас, таварышы, і для мяне—вынік эразумелы.

Ня мець пэрспэктывы—сьмерць.

Няхай не біолёгічная, а моральная, але што ёсьць больш жахлівага, больш трагічнага за моральную сьмерць!

Доктар-псыхіятр! Я веру ў мэдыцыну. Але я не памыліўся: вы не давучыліся.

Ня мець пэрспэктывы—сьмерць.

Валер'янка—ня ёсьць пэрспэктыва.

Гэта аповесьць напісана для тых, хто верыць у мэту, верыць у свой шлях, верыць у свае сілы, у сілы свайго колектыву.

Хто ня мае гэтай веры—прэч рукі ад напісанага мною! — той няхай ня чытае гэтай аповесьці, аўтар якой—я, і сааўтар мой—наша сонца.

— — але такія ночы скора блякнуць, няпрыкметна прыходзіць золак.

Толік прынёс у шапцы вады. Падняў Рубанаву галаву, уліў у рот. Вада палілася па твары, па шыі, пад кашулю.

Рубан ня катаўся.

Толік асьцярожна паклаў таварышову галаву на траву, і тады ўбачыў: твар быў земляным, войстрым—прасьвечалася скура.

Ішло сьвітаньне.

Тады было: сьпёртае паветра са сьвістам вырвалася вонкі—Рубан уздыхнуў лёгка.

Толік устаў. Узьняў цяжкую галаву.

Ішло сьвітаньне.

Над зямлёй было хворае на воспу сонцавага ўсходу неба. Наперадзе быў юр. На канцы юру—на памеранцавым фоне—стаяў сабака. Яго сьпіна выгіналася войстрымі хрыбецінамі (чорны сілуэт нагадваў Цянь-Шань). Сабака, аблізваючыся, глядзеў на неба.

Неба было размалявана майстрамі Палеха.

*Канец першай часткі.*

Менск—Церахавічы,
чэрвень—ліпень
1931.

## КАСТРЫЧНІКА НАШЧАДКАМ, БУРНАМУ ПЛЕМЮ

**Алесь Звонак**

... Найсіньшыя ворлікі воч,
дзе юнацтва
у кожным адсьвеце
гарачага зроку,
Дзе юныя душы
расчынены насьцеж,
Дзе шчасьце йснаваньня—
у кожным кроку,—
Ізноў паўстаюць
лятуценьні далёка:

Ішлі маладыя...
Ідуць маладыя,
Кастрычніка нашчадкі,
бурнае племя!
А я—сузіральнік—
дзіўлюся ўздыму,
Хадзе іхнай пруткай...
Пакуты бярэмя
Пранесьці ня выпала
іх пакаленьню...

Ступай-жа ўпэўнена
цьвёрдай ступою,
Кастрычніка нашчадкі,
бурнае племя!
Я шчырасьць і сэрца
напоўню табою....
Тваё і маё не стаўляла сумленьне
Паміж учарайшым і заўтрым дылемы,

Дарогай бясконцай,
няезджаным трактам
Па ўсіх паралелях
і мэрыдыянах,
Праз тропікаў сьпёку,
праз сіберы арктык
Ты пройдзеш па сьвету
хадой нячуванай,
Па мацярыках,
па марох,
акіянах!

Наступнага промін
гарыць над табою
І яркія водблескі
граюць на тварах
І клічуць да працы,
і клічуць да бою
Тваіх галасоў
баявыя фанфары...

Хай сьвет настарожана
слухае рокат
Прыбою,
твайго маладога запалу,
І скіўцы крывіць
у шале Эўропа,
І чорныя пасткі гарматныя скаліць,
Але няўмольна
грымяць твае крокі
Па вуліцах,
плошчах
і шэрых кварталах.

Ідзі-ж, ідзі шчасьлівых пакаленьне!
Ня ведаць стомы маладым нагам...
Няхай плывуць чаўны тваіх імкненьняў
Пад лёгкі брыз к далёкім берагам...
Няхай хістае вецер злосна мачты—
Ня скрышыць ён тваіх высокіх рэй...
Ты пераможцам выйдзеш ў гэтым матчы,
Ў далёкай гавані спыніўшыся на рэйд...
Ступайце-ж цьвёрда, юныя брыгады,
Высока ўзьняўшы гордай волі сьцяг...

Ня спыняць вас ніякія завады,
Імпэту вашага ніхто ня можа сьцяць...
Расколат сьвет ударам нашай клясы,
Два лягеры ў астатні выйшлі бой.
Ужо гараць масты, ўжо рушацца балясы,
І перамога—сьледам за табой...
Ступай-жа ў даль бадзёрымі нагамі
З палёў і шахт, ад фабрык і будоў.
Ўгрызаючыся ў заўтрае зубамі
Адолеем бар'ер цяжкіх гадоў.
*Табой* падмурак будзе дабудован
І на ўвесь рост устане волат-гмах.
Ступай-жа ў Будучыню, племя маладое,
Ня ведаюча стомы у нагах!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Падкупная шчырасьць
і сьвежасьць юнацтва,
Дзе ў ворліках воч—
зіхаценьне прадвесьня,—
Як гожа было
разам з вамі сьмяяцца
І граць пад сурдзінку
бадзёрыя песьні!..

Спушчалася ноч
на зямлю, на палаткі,
Прасочваўся сьмех,
рассыпаўся званочкам...
Адбой закамандваў
ваш слаўны важаты...
На крыльлях дрымоты
спусьцілася ночка...

Я йшоў з піянэрскага лягеру...
поле
Шаптала аб нечым
таемным і дзіўным,
Я быў маладосьцю і радасьцю повен
І песьні сьпявала душа пад сурдзінку.

Масква, 1931 г.

## НАЧНОЕ ПАДАРОЖЖА

**Алесь Звонак**

Набліжаецца стрэлка
да выходнага стану,
Завяршаючы сутачны крузварот.
Нечакана пакорнымі
вуліцы стануць,
Зачыняючы шчыльна
крыклівы свой рот.

Але далей і далей
ў кругабезе няўмольным
Стрэлка рушыцца ўперад,
пачынаючы новы зварот.
І з крамлёўскае вежы
па плошчы маўклівай
Рассыпаюць куранты
ў цішыню звонкі шрот...

Зачыняюцца дзьверы,
зачыняюцца вокны і вейкі.
Зачыняюцца наглуха
вакяніцамі мёртвага сну.
І па ордэру часу
ноч дае чалавеку
Згодна сьціплае нормы
на спачын цішыню.

Сэрца сьвету сьцішае
напружаны пульсу стукат,
Сэрца сьвету сьцішае
ліхаманкавы бой...
Над Масквой цішыня
і глытаюцца позьнія гукі
Чорнай пасткаю вуліц
шэра-гмахавай грамадой...

Не, ня веру,
каб змоўкла жыцьцё
на хвіліну,
Каб суцішыла сэрца сусьвету
свой гуд!
Бо ўсё так-жа
працуюць у цэхах машыны
І з канца у канец
цягнікі па краіне бягуць.
Хіба-ж можна спыніць
вадаспаду разьбег шалёны?
Хіба-ж можна спыніць
нясьціханны марскі прыбой?
Хіба-ж можна спыніць
наступленьне фалангаў мільённых,
Што выходзяць
ў астатні й рашучы бой?

Але ноч прыкрывае
выразнасьць абрысаў і контураў,
Але ноч афарбоўвае ўсё
на адзін пакрой,
Але ноч,
набываючы выгляд
дзівоснага монстра,
Зацямняе рэальнасьць,
яе сімэтрычны строй...

[У вакне чалавек
галаву абапёршы на локці
(На стале—
абажуру зялёны грыб)
Разважае аб нечым
і думка ў далёкім палёце
пэўне будзе блукаць
да сьвітальнай зары].

Ў дыялектыцы ночы
не знайсьці ні канца, ні пачатку
І дарэмна, мысьліцель,
адшукоўвацьмеш нейкі ключ
І за аркушам аркуш
забрукоўвацьмеш слоўнай брусчаткай
І шуканьнем для думкі
непраходных нізін і круч.

Вы падумайце, чалавек,
з галавой пасівелай,
Колькі мудрасьці тоіць
гэты ўяўны спакой!
І тады не заснуць вам,
сну дакучлівы вэлюм
Нечакана адыйдзе ад вас
сам сабой...

Вы і так шмат праехалі,
Вы праспалі прыйсьце рэволюцыі,
Вы назад азіраліся,
шукаючы месца сваё,
Калі ў ярасьці вораг
па зямлі нашай лютаваў,
Калі кроўю і потам
мы сьцякалі на полі баёў.

Зразумейце-ж цяпер
без трактатаў адменных,
Дзе лёгічных законаў
ня ступала й нага:
Дыялектыка руху
вылічаецца намі ў тры зьмены,
Паскараецца ход яе
тампамі ўдарных брыгад!

Паспрабуйце
такое ўкласьці
ў вузкія рамкі
Вашых куцых концэпцый,
продукту абстрактных разваг:
Ад чаго, скажам,
сталі ўдвая выплаўляюць вагранкі,
Апынуўшыся
ў мускульных нашых руках?..

І яшчэ:
дзе шукаць
нявычэрпнае сілы крыніцу,
Што ў развоі сваім
перайначвае твар зямлі,

Што сьцірае
адвечныя грані й граніцы,
Што высока ўздымае
прыгожае й гордае:
*социялізм?*

Разумееце вы,
валадар таямніц навуковых? —
У гэтай сіле галоўнае—
*энтузіязм*—
Гэтая творчая ярасьць
пакаленьняў суровых,
Гэта цьвёрдая воля
мільённых мас.
Не ўкладаецца гэта
ні ў якія азначэньні.
Тут—
сьвядомасьць вялікае клясы маёй,
Тут—нястрымны паход
нячуваных імкненьняў
У астутні й рашучы бой...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Скончан досьлед...
Складаю пяро, як зброю.
Ноч да золаку дойдзе
бяз удзелу майго.
Расьсяваецца змрок
за Масквою—ракою,
Хутка сонца папрэ
з Вараб'ёвых гор...

20-V—31 г.
Масква.

# ДЫНАМА

## А. Вечар

Ёсьць многа такога
на нашай зямлі,
чаго і стагодзьдзі
з яе не зьмялі,
і моцна злучаецца
сёньнешні дзень
з мінулым жывых
і памёршых людзей.
Нямала, напэўна,
пакінем і мы
пра нашу эпоху
сьведак нямых,
каб доўга відзён быў
дзён нашых маяк —
дынама мая,
дынама мая.

Я ведаю добра,
што нават тады,
калі залатыя
надыдуць гады,
якія агорнуць
бліскучым крылом
і нас
і сучаснасьці буралом,
аддасьць прывітаньне
далёкім дням
заўсёды юнацкае
сэрца дынам
ад нас,
што любілі тваё імя,
дынама мая,
дынама мая!

О, бурнае сэрца
машынных сыстэм!
Вітаю высокі,
напружаны тэмп...
Нішто ня супыніць
разьбежысты рух.
Дынама —
мой лепшы і моцны друг,
калі застаюся
адзін з табой
у бок адыходзяць
туга і боль,
нібыта іх толькі
выдумаў я,
дынама мая,
дынама мая.

Пад шолах алешын
і белых бяроз,
краіна,
дзе я нарадзіўся і рос,
ад веку гібела
ў балотнай імгле,
аж месяц на небе
стагнаў і млеў.
Але-ж і балотам
прышоў канец!
Прышлі эскадроны
сталёвых каней,
прышлі эскадроны
ліхіх ваяк,
а з імі дынама,
дынама мая.

Прышлі і рассыпалі
тысячы воль,
а кожная воля
ў мільёны вольт.
Які-ж гэта вораг
ня будзе біт?
Шукае плянэта
другіх орбіт,

бо ўжо чалавека
ня схіляць ніц
маланкі суровых
яе навальніц,
і хутка ўжо будзе
маланка—зьмяя
такой-жа ручной,
як дынама мая.

Павіснуць на месцы
туманных плям
празрыстыя яблыкі
электролямп
і трактар
ля самай апошняй мяжы
з надрывам пакліча:
— барждждэй памажы!—
І выйдзе на зьмену
электроплуг,
быць можа з ім выйду
і я на луг
і ўспомню, як сёньня,
тваё імя,
дынама мая,
дынама мая.

## ШУМІЦЬ БЯРЭЗІНКА

**В. Сташэўскі**

Ідзе Паўлік па вузенькай лясной дарожцы, а маладая чэрвеньская раніца бадзёрыць яго раньнімі песьнямі рэзвых птушачак. Нікога-ж у лесе больш няма: ён і птушачкі. Усё такі гэта-ж жывыя істоты, усё такі ён не адзін у лесе. Вось адна птушачка так моцна зашчабятала, што Паўлік аж спыніўся, каб пабачыць яе. Маленькая птушачка пырхнула на другое дрэва, узьляцела на тую галінку, на якую падаў прамень ласкавага сонца. Там яна зноў зашчабятала. Людзям весела, калі шчабечуць птушкі, яны радуюцца. А ня ведаюць, што гэта за песьні, ня ведаюць, якія яны пяюць песьні. Вось і гэтая, можа яна ўтраціла сваіх дзетак? Можа які драпежнік разбурыў яе хатку і гэтая яе песьня—песьня крыўды і жальбы. І яна ўзьляцела высока, на праменьні сонца, каб яно сагрэла яе, каб з вышыні сасны далей гучэла яе песьня-жальба. А можа гэта птушкі радасна вітаюць сонца ўсход? О, з вялікай радасьцю пайшоў-бы на ўсход і Паўлік. Там-жа яго хатка, маці... але што аб гэтым думаць. І ён ішоў на захад, да вялікага будынку з кратамі, каб там пабачыць свайго бацьку.

І вось яно жыцьцё: малады хлапчук Паўлік у пару ўсходу чэрвеньскага сонца, пад песьні раньніх птушак, сярод лясного хараства такога стрункага, здаровага соньніку—павінен уяўляць халодныя муры з халоднымі жалезнымі дзьвярыма, халоднымі людзьмі-вартаўнікамі. А там, у невялікім, сырым, цёмным пакоіку, на жалезным, прыкаваным да цэмантавае падлогі ложку ляжыць галодны, пабіты яго бацька. Ці-ж можна аб гэтым ня думаць? Ды шмат расказваў дзядзька Захарык, які калекам вышаў адтуль.

Няпрыкметна Паўлік наблізіўся да вёскі Качаны. Перасек яе ўпоперак, і вышаў у поле. Нікога ня відаць, разломанасьць у нагах праходзіла, але калі-б хто ехаў, ды падвёз... о, як-бы ён за гэта падзякаваў! Э, ды сёньня-ж нядзелька. Шкада, што ня спыніўся ў вёсцы, можа хто пачаставаў-бы гарачым блінцом са здорам. Азірнуўся Паўлік. З комінаў струнка ўздымаюцца дымкі. Пахне гарачы блін са здорам. Вярнуўся. У нядзельку людзі дабрэйшыя—не адкажуць.

Але ўспомнілася свая хатка, як яны ў нядзелю сьнедаюць... вось татка адразае кавалачак здору і кладзе на Паўлікаў блін, а сам рэшткай водзіць на бліне кругі. Раптам спыніўся.

„А таткі-ж няма, — адказаў сам сабе. — Я буду есьці, а тата недзе галодны. Не, пайду далей.“

Назад на гэту вёску Паўлік больш не аглядаўся. Яшчэ прайшоў невялічкі засьценак і спыніўся ля могілак. Прысеў на стары паркан, разьвязаў торбачку і пачаў есьці той „панскі“ кавалачак каўбасы, што знайшоў ля вогнішча. Яму ўспомнілася, як ён учора ехаў у фаэтоне. Нейк сьмошна стала. З вялікаю прыемнасьцю разоў чатыры адкусіў ён смачнае каўбасы. І вось недзе блізка, з кустоў могільніку чуе Паўлік:

А куды-ж ты пайшоў, сынок,
а куды-ж завяла цябе
твая долечка?
А куды-ж вядзе яна ўсіх нас?

Вось такім голасам гаварыла аднаго разу маці Паўліка.

А куды-ж цябе павялі, Марцінка,
а куды-ж вядзе нас доля наша?

Няпрыемна стала есьці хоць і добрую каўбасу. Кінуць-бы, але рука сьціснула, а кішэня старога халаціка прыняла.

Прыгледзеўся Паўлік. Сьвежая магілка. А над ёю схіліўшыся жанчына.

А за што-ж яны цябе задушылі,
Завошта душачку тваю загубілі?

І такім, Паўліковае маткі, голасам прычытвала жанчына. Цяжка слухаць. Немагчыма.

Паўлік пайшоў далей.

А паны ў маёнтку, пасьля гулянкі ў лесе, салодка сьпяць.

А гэтая жанчына можа і чакала нядзелі, вольнае часіны ад працы, каб прыці паплакаць.

Эх, зямля, зямля ты наша! Калі-б ты ня ўбірала ў сябе сьлёз людзкіх, крыві і поту—шмат вазёр было-б тады на крэсах.

---

Калі сонца сыходзіла з паўдня, Паўліку заставалася прайці да сяла Высокае кілёмэтраў пятнаццаць. Гарачыня ня зьменшылася. Здаецца яшчэ мацней прыпарвала. А тут на вадзяным млыну так прывабна шуміць халодная вадзіца і такімі тоненькімі струменчыкамі цвыркоча яна праз застаўкі, што нельга так сабе прайці. Азірнуўся Паўлік—нікога ня відаць. Млын зачынены, а хатка—воддаль. „Пакупаюся скоранька і пайду“.

Разьдзеўся Паўлік каля мосту, сышоў з грэбелькі, ступіў на памост і хацеў падыйці да халодных струменчыкаў. Раптам над вухам:

— Ага-а!

Адскочыў Паўлік назад.

Перад ім стаяць два хлапчукі і рагочуць. Яны былі пад мостам і чакалі, каб каго спужаць. Мусіць ім аднаго разу ўдалося, дык захацелася паўтарыць.

— А што, спужаўся?

— Ня вельмі,—адказаў Паўлік.

— А мы тут Янука як спужалі, дык ён не назад адскочыў, а ў ваду, а вада і пагнала яго пад кола. Плаваць умееш?—пытаюць хлапчукі Паўліка.

— Умею.

— Ну, дык плыві за намі.

І кінуліся яны ў ваду, даплылі да кола, пачалі лазіць па ім: пішчаць, сьвішчуць і завуць Паўліка:

— Плыві сюды!

Цяжка ўтрымацца. Паўлік паплыў. Ён нават пераварочваўся на сьпіну, каб паказаць незнаёмым хлапцом, што ён яшчэ можа навучыць іх плаваць. А тыя сядзяць на коле і выгукваюць:

— Во, маладзец! Во, маладзец!

Паўлік даплыў і быў разам з імі. Седзячы на коле, хлапцы пачалі расказваць Паўліку, якія яны могуць вырабляць штукі, купаючыся тут, з якое вышыні яны могуць скочыць у возера. Але цяпер яны нічога гэтага не рабілі. Малая, кажуць, вада, няцікава. Паўлік зьлез з кола і проста пачаў умывацца. А хлопцы ўсё лезуць на кола і пішчаць.

Раптам змоўклі. Саскочылі і паплылі на бераг. Усё гэта здалося Паўліку падазроным. Ён ведае штукі сваіх таварышоў, ён адчуў, што тут нешта ёсьць, а што—ня можа дагадацца.

Умываецца. А з моста мужчынскі голас:

— Цяпер вы пазнаеце, як лазіць па коле! Я вас навучу!

Азірнуўся Паўлік.

Мужчына згроб яго адзеньне і пайшоў да хаты.

А хлопцы аж лутуюцца са сьмеху.

— Дзядзька! Дзядзька! Гэта мая адзежа!—крычыць выбягаючы з вады Паўлік.

— Скачы, скачы, прахвост,—буркнуў дзядзька і пайшоў далей. Паўлік за ім.

— Аддайце, аддайце,—лемантаваў ідучы ззаду хлопец. Нічога не памагае. Дзядзька быў у настроі вялікага пераможца. Прынамсі ў яго быў выгляд такі, які бывае ў здаровага быка, калі ён пераможа свайго праціўніка. Дзядзька не заўважыў, што з Паўлікавага халаціка выпала дудка. Хлапец падняў і так, з голенькаю дудкаю ідзе за дзядзькам.

Капаюць з ілба капелькі халоднае вадзіцы, а з вачэй—гарачыя сьлязінкі.

Дайшлі да хаты.

На старэнькім ганку ў цяньку сядзеў шчупленькі дзядок. З выгляду даволі сымпатычны. Ён-жа напэўна мае ўнучкаў такіх як Паўлік. „Ён выратуе“—падумаў Паўлік.

— Нарэшце такі ўвабраў,—сказаў дзядзька дзеду.

— Што?—піскліва адазваўся дзед і задраў бародку. Прапала ў Паўліка ўся надзея. Дзед прышчурыў вочы:

— Эге-ты-ты!.. Дайце мне якога дубца, я сёрбну яго, псяюху,— і пачаў падымацца з ганку. Хлапец адскочыў.

— Чый ты, прахвост?

— Дзедачка, я ня тутэйшы, я з далёку. Гэта другія хлопцы лазілі па коле.

— Падыдзі бліжэй, а то я ня чую,—кліча дзед і сам падступаецца. Паўлік адскаквае далей. Спыніўся стары. Тупнуў нагою.

— Падыдзі, кажу, псяюха! Сьцёбну раз, ды аддам адзежу.

На раз Паўлік мог-бы даць сваю згоду, каб стары сапраўды стрымаў сваё слова. Але-ж бародка не на гэта паказвае. Чаго-б гэта ён ускакваў з лаўкі дзеля аднаго разу? Ого, дапусьціся да разу, дык тут будзе ўсе дзесяць.

Глянуў Паўлік, а дзядзька, які забраў адзежу, забягае на дарогу наперад. Паўлік шмаргануў у кусты, абабег, ды зноў на мост. Падбягае хлапец, адзін з тых, што купаліся разам, і шэпча:

— Не давайся яму ў рукі, скуру злупіць гэты Чэмер.

— Адзежа-ж мая там,—скардзіцца ў сьлёзах Паўлік.

— Глядзі, глядзі!—торкае Паўліка хлапец і паказвае на хату млынара.

— Не чапай!—крыкнуў Паўлік, і раптам змоўк, хлапец прылажыў сваю далоню да Паўлікавага роту. Прыгнуліся абудва і глядзелі, як адзін хлапец, скамячыўшы Паўлікаву адзежу, драпануў ад ганку млынаровае хаты.

— Лаві таго шэльму!—крычыць стары. А дзядзька недзе ў кустох шнэрыць, ды мо' думае, што гэта стары пра Паўліка гаворыць.

— Адзежа ў нашых руках, у нашых!—падскакваючы, крычыць хлапец, што каля Паўліка, а той з адзежаю выскачыў на грэблю і махае рукою, каб і гэтыя ішлі.

Як-жа тут пойдзеш, калі недзе дзядзька ў кустох пільнуе? Паткніся на грэблю, дык і сцапае.

— Як-жа мы цяпер пойдзем туды?—пытае Паўлік.

— Цяпер не бяда,—адказвае хлапец.—Праўда, далекавата прыдзецца абыходзіць, ды па балоце, але-ж іншае рады няма. Пойдзем!

Азірнуліся назад—вязе чалавек сена.

— Пачакаем крышку,—кажа хлапец,—пойдзем яму насустрач.

Сустрэліся.

— Дзядзька, Чэмер украў адну нашу адзежу, ды не прапускае праз грэблю. Падвязеце, дзядзька!

— А вы што тут рабілі?—пытае чалавек.

— Мы? Нічога, толькі купаліся каля млыну, а Чэмер ня любіць.

— Лезьце на воз,—скамандваў чалавек.

Адна хвіліна і хлопцы ляжаць на возе, прытуліўшыся да рубля. Праехалі мост, пачалася трасяніна на грэблі, а тут і сена такое, што

быццам агнём падсмальвае голае Паўлікава цела. Хто-ж яго ведае, мо, дубец таго старога так-бы і ня пёкся...

— Зараз мінем яго хату,—шэпча хлапец Паўліку.

— Добра,—адказаў Паўлік, з сашчэпленымі зубамі. Пакутна так ехаць, але затое, як будзе прыемна, калі выскачыш з аблавы.

— Стой! Бачыш ты іх, папрытульваліся, думаюць, што я ня бачыў...—голас Чэмера.

— Ня лезь на воз!—крычыць той дзядзька, што вязе сена.

— Чаму гэта ня лезь?

— Адчапіся кажу! Прыстаў да дзяцей...

— Я іх убяру!

— А я ня дам!

Хлопцы натапырыліся. Чуюць, што ўзьнялася калатніна. Паўлік бачыць, як нечыя рукі ашчарэпілі канец рубля, паказваецца галава мужчыны. Ясна, што гэта млынар. Ён-бы ў момант ускочыў на воз, але відаць яго ня пускаюць. Конь спыніўся. Хлопцы гоцнулі з перадка, зайцамі пашлі па грэблі. Хата млынара засталася ззаду. Стары патрос у дагонцу дубцом і бародкаю.

А той хлопец, што выбавіў Паўлікаву адзежу, мусіць з радасьці, ці што, вырабляў на дарозе такі танец, якога Паўлік яшчэ ня бачыў.

А мужчыны там ззаду воза відаць моцна сашчапіліся. Хлопцы пачалі гукаць. Адышоў млынар ад воза, дахаты падаўся. А той з адзежаю даў такі сьвіст, што, здаецца, кусты закалаціліся. Вядома, што гэты сьвіст накіраваны быў у вуха Чэмера, напэўна ён пранізаў яго, бо Чэмер высока падняў кулак і з лютаю пагрозаю патрос на хлапцоў.

Паўліку падалі кашулю. Надзяваючы яе на пакусанае сенам цела, ён ніколі ў жыцьці не адчуваў такое прыемнасьці, як сёньня.

А хлопцы стараюцца, услугоўваюць, папарадку падаюць Паўлікава „облачение“. У момант завяршылі шапкаю. Пад'ехаў і дзядзька з сенам.

— А дзе-ж той голы?

Паўлік усьміхаецца.

— А вось ён,—паказваюць хлопцы.

— Дык вы, значыць, падманілі мяне з адзежаю?

— Не, дзядзька, гэта Кадзя выбавіў,—заявіў хлапец. А Кадзя горда дадае:

— Як толькі Чэмер са старым паперлі за ім, каб увабраць, дык я забег, ды з-за хаты цапнуў яе.

— О, ты на гэта спрыцен, ну а гэты-ж чый?—паказвае дзядзька на Паўліка.

— Ня ведаем,—пацiскаюць плячыма хлопцы.

— Я здалёку,—адказвае Паўлік,—я іду ў горад, татку майго забралі ў турму.

Хлопцы пераглянуліся і здаецца ім крыху ніякава стала. Усё такі праз іх ускочыў хлопец. Самі, нябось, ведаючы небясьпеку, уцяклі. Ну, але яны-ж і выратавалі яго з бяды. Чэмер застаўся з носам.

— Ну, дык мы пойдзем дадому сюдэю, хмызьнякамі, сказаў на разьвітаньне Кадзя.

— Дзякую табе, братка,—адказаў Паўлік.

---

Дзядзька моўчкі ішоў побач з канём, за дзядзькам Паўлік і думае Паўлік: „ці гэта сапраўды так насалілі чалавеку хлопцы, ці гэта ўжо ўрадзіўся такі чалавек, што яму так і хочацца лупцаваць нашага брата?“ А сапраўды ёсьць-жа такія і ў яго вёсцы. Бегаюць хлопцы па вуліцы, дык ён: чаго вас ліха носіць? Засьпяваюць—чаго вас нешта дзярэ? Засьвішчуць—каб вы сьвісталі ў чыстым полі (быццам у полі дрэнна сьвістаць). Зайграеш на дудцы...“

— Дзядзечка, а дзе-ж мая дудка?—раптам спыніўся Паўлік.

— Якая там яшчэ дудка?

— Яна са мною была, калі я лез на воз.

— Шукай!

Дудка знайшлася на возе.

Мінулі грэблю і разьвіталіся.

— Вось што, галубок,—кажа дзядзька,—у Высокім ёсьць мой сваяк—Гальяш Кармяга. Перадай паклон ад мяне, Пятруся, і ён цябе пусьціць начаваць і напэўна дасьць павячэраць.

Паўлік адзін. Напруджвае сілы, каб нагнаць патрачаны час. Шпарка йдзе. А праз кілёмэтраў чатыры пачаў адчуваць слабасьць, нават рукі пачынаюць млець ад торбачкі, купаньне звычайна бадзёрыць чалавека, а вось такое купаньне, з якога Паўлік толькі што вышаў, адымае сілы. Ї горна робіцца.

Жытняе калосьсе нахілілася над сьцежкай. К каленям Паўліка схіляюцца галоўкі—паклон удзячнае зямлі свайму гаспадару. Сотні сініх вочак паглядаюць з вузенькіх загонаў—у ціхай, лёгенькай журбоце васількі...

---

Вёска Высокае.

Хата Гальяша Кармягі.

— Што скажаш, хлопча?—пытае Кармяга.

— Дзядзька Пятрусь вам кланяўся.

— Ага, што-ж у яго там добрага? Як ён там?

— Нічога.

— Ты гэта значыць адтуль будзеш?

— Не, я не адтуль, я здалёк.

Дзядзька Кармяга пацёмкамі канчаў вячэру і крыху падазронна паглядаў у бок дзьвярэй. Чатырохгадовы хлопчык ужо выскачыў з-за стала, падбег да Паўліка, глянуў, адступіўся ў бок.

— Запалі лямпу,—сказаў Кармяга жонцы, а сам пачаў вярцець папяроску.

— Падыходзь сюды бліжэй, хлопча!

Паўлік прытуліўся да лавы.

Кармяга прыкурыў ад запаленае жонкаю сярнічкі, глянуў на столь, на Паўліка.

— Дык што-ж табе дзядзька Пятрусь казаў?

— Нічога такога. Толькі кажа—зойдзеш, перадасі паклон, ды... можа пусьціце начаваць...

— А табе далёка куды йці?

— У горад.

Гэтым часам гаспадыня сьцерла са стала і Кармяга зноў прысеў скраю. Маўчыць, пакурвае.

Паўлік пачынае заўважаць, што гаспадар ня вельмі рад такому начлежніку, але выйці з гэтае хаты ня хочацца. Ён чакае запытаньняў. Самому абрыдла гаварыць кожнаму хто ён і куды ідзе.

Кармяга падняўся, прайшоў да парога, павярнуўся, глянуў на Паўліка. Пасьля падышоў да яго блізенька, стаў і глядзіць у вочы. Паўліку робіцца нейк ніякава.

— Хто цябе прыслаў сюды?—нахмурана пытае гаспадар.

— Я-ж кажу—дзядзька Пятрусь. Ён мяне перавозіў праз грэблю...

І расказаў Паўлік усе свае прыгоды на мосьце, адкуль і куды ідзе. Кармяга выслухаў усё, памаленьку вышаў у сенцы. У хаце гаспадыня, двое дзетак і нейкая прыкрая цішыня.

Як-бы выйці з гэтае хаты, думае Паўлік. Дзе-небудзь пераначую, бо тут нельга заставацца. Так. Я выйду адсюль.

Хлапец надумаў, сабраўся з сіламі і энэргічна падняўся з лавы. Гаспадыня маўчыць. Паўлік глянуў на яе і шпарка пашоў да дзьвярэй.

Расчыняюцца дзьверы. З сянец уваходзіць Кармяга.

— Пачакай, хлопча.

— Я пайду, дзядзька...

— Пачакай, скідай халацік, павячэраеш і адпачынеш.

Зусім другі голас чуе Паўлік,—добрадушны, ласкавы.

— Ну, разьдзявайся, а ты, маці, дай павячэраць яму. Я гэта спачатку ня ведаў хто ты такі. Думаў мо' (Кармяга ўсьміхнуўся) які шпіён, ці хто.

Вячэрае Паўлік, паглядае на гаспадара. Сур'ёзны чалавек гэты Кармяга, але зусім ня страшны. А кладучыся спаць Паўлік падумаў: чаму ён так сур'ёзна запытаў хто мяне сюды прыслаў і пасьля вышаў нечага ў сенцы? А адтуль увайшоў зусім другім чалавекам.

З гэтаю думкаю Паўлік і прачынаўся. Раніцаю ён заўважыў, што гаспадары ўсё такі нейкія неспакойныя, разам з гэтым надзвычайна ветлыя да яго і спачуваюць нібы круглай сіраціне.

Калі Паўлік адыходзіў, Кармяга правёў да варотцаў і кажа:

— Як будзеш іці назад, заходзь, хлопча, падначуеш, перакусіш. Як ты мне ўчора расказаў пра бацьку, дык я ўспомніў... Я здаецца бачыў яго. Вось так стаяў каля варот і бачыў, як везьлі. А мо' каго другога... Ваду ён піў вось тут каля калодзежа. А ўчора і ў нас было... Ідзі, хлопча, ды глядзі-ж—зайдзі.

Выходзячы з вёскі Высокае, Паўлік ведаў, што было тут учора.

Дэпутат польскага Сойму, член Беларускага Сялянска-Работніцкага клюбу прыехаў у вёску раніцаю. Вялікая вёска Высокае і многа, многа крыўды носіць бедната. Расказвалі свайму паслу, пыталіся аб праўдзе на зямлі. Запісваў пасол іх крыўды, каб расказаць законадаўчай уладзе. Трэба-ж ведаць чым жыве і чаго жадае яе „вернападданы", лапцюжны, працавіты люд. А ўлада ў фашысцкай Польшчы ведае толькі тое, што гэты люд хацеў-бы бачыць вось такую ўладу на асінавым суку.

Снуюць шпегі па гарадох і вёсках.

Плямы чорныя на крэсах—асаднікаў фальваркі. І лезуць у сэрца чалавека пазурамі белага арла.

Шуміць бярэзінка!

Шуміць па вузенькім дварэ, на вузенькай палосцы поля. Глыбокай скаргаю шуміць.

Ой, якая-ж мая доля,
Вецер гне мяне да долу.
Ломіць, топча маё вецьце,
Не дае і ў май адзецца.
Даражэнькая сястрыца!
Нас адна рака-вадзіца
Спавівае
Я ня думала разлучаць
І так будуць мучыць, мучыць,
Ды навалай.
А віталі й мяне кветкі
З майго вузкага палетку,
Ой, віталі!
Любыя мае кветкі!
Й вас на гэтым-жа палетку.
Патапталі.
Ой, і горка жыць на сьвеце,
Калі й рвуць і кветкі й вецьце
Ліхадзеі.

Па гасьцінцы імчалася конная паліцыя. Мітынг у Высокім толькі-што пачаўся. Яшчэ паліцыя не пад'ехала да месца мітынгу, прамоўца адчуў яе прысутнасьць. У натоўп упаў аднекуль камень. Вядома, што сярод натоўпу і за вугламі ёсьць замаскаваная паліцыя. На ёй ляжыць адказ-

ная задача. А конная павінна „ахоўваць“ парад і асобу мужыцкага пасла. Вядома, што яна надзвычайна старанна „ахоўвае“. Так „ахоўвае“ каб гэты пасол ня вышаў адсюль з неразьбітаю галавою.

З-за вугла хляўчука паляцелі ў натоўп два камені. Пасол-прамоўца схапіўся за галаву, захістаўся. Нейкая хвіліна—напружаная цішыня І ў гэты момант жудасны крык жанчыны. Частка натоўпу шарахнулася ў бок. Некалькі чалавек падбегла да жанчыны. Другі камень папаў ёй у грудзі. На руках гэтае жанчыны грудное дзіця. Тры мужчыны кінуліся за хлеў. Злачынцы і ня думаюць уцякаць. Мужчыны выцягваюць іх адтуль. Пачынаецца туваніна. У натоўпе знаходзіцца яшчэ некалькі шпікаў: „Далоў Пілсудзкага!“ „Няхай жывуць бальшавікі і комуністы!“. Провокацыйныя выкрыкі, а там тузаніна—вось вам і парушэньне парадку. Коннай поліцыі гэтага і трэба. Цяпер ёй ёсьць работа. Арыштоўваецца 18 чалавек.

Пасол Сойму, закрыў хустачкаю скрываўленае месца на патыліцы, падбягае да поліцэйскага начальніка:

— Пан начальнік! Я патрабую спыніць злачынства. Я патрабую не перашкаджаць мне праводзіць сход!

Начальнік далікатна супакойвае пасла:

— Пан пасол! Я таксама хачу, каб быў парадак, каб пан мог праводзіць сваю працу. Дзеля гэтага я мушу заарыштаваць хуліганаў і злачынцаў. А вам раю іці на кватэру. Для аховы вашай асобы я даю вам двух поліцыянтаў.

— Не патрэбна мне ваша „ахова“!

— Мой абавязак зрабіць гэта.

Два поліцыянты ішлі за паслом.

У хаце аднаго селяніна „ахоўваюць“ яго. Уваходзяць тры нейкія чалавекі. Пасол завязвае хусткаю пабітую галаву, жандары стаяць перад ім, „ахоўваюць“. Адзін з тых трох, з-за плячэй жандараў б‘е пасла дубінкаю па галаве. Усхапіўся пасол. Жандары далікатна садзяць яго на лаву:

— Не хвалюйцеся, пане, вам гэта шкодна. Усё будзе ўпарадку.

У гэты момант пасол адчуў другі і трэці ўдар дубінкі і страціў прытомнасьць.

Ачнуўся ў сенцах на ложку.

Пры ім быў адзін мужчына—Гальяш Кармяга. Самі жандары вынесьлі пасла ў сенцы. Адзін з тых невядомых трох яшчэ раз замахнуўся на няпрытомнага чалавека, але жандар, выконваючы свой абавязак „аховы“ пасла, сказаў: „хопіць з яго“.

---

Маўклівая дарога пад нагамі Паўліка.

Абцасы жандараў утапталі сьцежкі. І людзі па іх ходзяць з каменем на сэрцы.

У Паўліка ня зьвязаны вяроўкай ногі, у Паўліка ня скуты рукі, а на сэрца і яму ўскінулі каменчык. І хочацца Паўліку крыкнуць голасам восемнаццаці, шасьці, дваццаці... голасам свайго бацькі, голасам мільёнаў. Паўстань, працоўная зямля! Выходзь з убогіх хатак! Зьмяці з сябе асаднікаў, паноў і тых суседзяў, што служаць ім!

Бурліць узбунтованы розум Паўліка.

Ён бачыць як адусюль бягуць людзі, бягуць, каб схапіцца з ворагамі. А многа-ж, многа, пакрыўджаных людзей... О, якая-ж гэта вялічэзная сіла!

Ён бачыць, як з маёнткаў вылятаюць на кручаных конях паны, а людзі забягаюць на дарогу... „Стой, ня выскачыш!“. Дубка становяцца коні, перакульваецца каляска. А там паўз лес уцякаюць тыя жандары, якія забралі бацьку Паўліка. Іх наганяюць мужчыны. Вось Паўлік узыходзіць на гару, яму відзен горад, а скраю высачэзная турма. Вакол яе паўнютка народу. Выпусьцяць усіх. Хутчэй да таткі!

У Паўліка многа сілы, ён шпарка йдзе, амаль бяжыць.

Раптам ззаду пырхнулі коні. Агляну ўся Паўлік, шаргануўся ў бок. На пары стаенных праехалі паны. Здаецца тыя, што пазапрошлай ночы ў лесе балявалі. „Тыя самыя, халера-б іх узяла“, пацьвердзіў у думцы Паўлік.

Маўклівая дарога пад нагамі.

Цяжка йці.

---

Горад Б. невялікі, павятовы. А турма не маленькая. Паўліку ня доўга прышлося шукаць. Вось яны, шырокія шэрыя вароты, з вузенькай каліткай. Які адказ пачуе ён тут? А раненька прыпёрся Паўлік. Вартавы сказаў прыйці праз тры гадзіны. Тупае хлапец каля сьцяны. Не падыходзіць блізка да вартавога.

Зыркае летняе сонца рассыпала праменьні па расе. Саграваецца цяплынёй вільготныя мясьціны і напорна прабіваецца праз акеніцы, праз фіранкі ў спальні сонных дзетак. Усе яшчэ сьпяць, нікога няма на вуліцы. Здалёк пачуліся два гудкі, адзін працяжны, мабыць з нейкай фабрыкі, другі з паравозу.

Прысеў Паўлік ля сьцяны, моцна сьціснуў торбачку ў руках, заблытаўся ў пасмах ласкавага сонца, і сон—вялікі ўладар пацалаваў дзіця.

Ого, скажаце Паўліку, што ён дзіця і вы заслужыце пагардны зірк на вас рэволюцыянэра.

Так, тут пад сьцяною гэтага вастрогу адпачывае рэволюцыянэр. Яго абавязак, змагацца за тых, што па тым баку сьцяны ў доме за кратамі, яго абавязак—вырваць карэньне таго зельля, што труціць розум чалавека, яго абавязак—разьбіць кайданы, у якія скоўваецца капіталам праца, яго абавязак—разбурыць дом з густымі кратамі, яго абавязак—сеяць сонечнае зерне ленінскае праўды!

Адпачывай, наш брацік, сын!

---

Варушыцца турма. Хіснулася страха. Бачыць Паўлік—трэснуў вугал, адышоў. Раскрываецца ўся сьцяна, а столь, падлога застаецца. Відаць людзі. Яны ўстаюць з падлогі, увачавідкі вырастаюць у волатаў, шчыльна становяцца адзін каля аднаго, утвараецца жывая сьцяна. Нібы з адных грудзей чуе Паўлік магутнай сілы песьню. Ляціць хлапец праз каменную сьцяну-плот. У той жывой чалавечай сьцяне ён бачыць свайго татку. Падбег да шэрых варот:

— Пусьцеце!—крычыць ён вартавому.

Расплюшчваюцца вочы. Над ім стаіць вартавы. Дзесьці недалёка гудзе фабрычны гудок.

— Ты што, заснуў быў?—пытае вартавы.

Паўлік усхапіўся.

— Я?.. але... заснуў. А тры гадзіны мо' прайшлі?

— Ого, які ты скоры. У нас, голубе, ня так, як усюды. У нас яны марудныя, расьцягненыя. Вось толькі тыя гадзіны, калі арыштантаў выводзяць на двор пагуляць—тыя гадзіны хутка праходзяць. Ну, я падышоў да цябе, думаў, можа здарылася што з табою. Пайду на месца Падыдзі, пагутарым.

Праз некалькі хвілін Паўлік стаяў каля варот перад вартавым. Паглядзеўшы ў вочы гэтага пажылога мужчыны, Паўлік рашыў, што з ім можна разгаварыцца, ды можа нават ён і дапаможа пабачыцца з бацькам.

— Кажаш, доўгія ў нас гадзіны,—пачаў вартавы.—Я сам з мілаю ахвотаю пайшоў-бы адпачываць, сон зморвае, але-ж нічога ня зробіш, трэба цярпець. А завошта-ж сядзіць твой бацька?

— Ня ведаю, дзядзечка, ведаю толькі, што ён не вінаваты.

— Ты мо' думаеш, што я тут вялікі начальнік, што гэта я трымаю твайго бацьку? Я вось вартую знадворку і то больш склады, якія вось тут недалёчка. А там за сьцяною ёсьць каму пільнаваць. Ды і замкі не слабыя. А каторы пруткі надта чалавек, дык і ланцуг надзяваецца.

— А тату майго таксама ланцугом зьвязалі?

— Дык вось ты хочаш усё ведаць пра тату, а мне ня кажаш за што сядзіць і хто ён такі твой тата.

Паўлік расказаў адкуль ён, як забралі бацьку, як білі, а за што не сказаў.

— Ну, а скажы, голубе, як у вас там, партызанаў многа?

— Няма,—адразу адказаў Паўлік.

— Кажаш няма. А ты ведаеш, хто яны такія?

— Добра ня ведаю...

— А кажаш, што няма. Вось тут і відаць, што ты ведаеш, ды ня хочаш сказаць. Яно мне ўсёроўна, але, значыць, калі ў цябе будзе пытаць начальнік і ты яму ня скажаш нічога, дык можа быць дрэнна.

— Я ня ведаю пра што мне казаць.

— А ты раскажы пра тых, што хаваюцца ў лесе, што зьбіраюцца на таемныя сходы, што гавораць дрэнныя словы пра ўладу...

Бразнула акенца ў фортцы дзьвярэй. Паказалася галава:

— З кім ты гутарку разьвёў?—голас з гэтае галавы.

— А тут хлопчык адзін падышоў,—адказвае вартавы.

З каліткі выходзіць чалавек:

— Што гэта за хлапец?

— Да бацькі свайго хоча,—адказвае вартавы.

— Як прозьвішча бацькі?

— Карнейчык,—адказвае Паўлік.

— Стары, малады?

— Хворы мой тата.

— З вусамі?

— З вусамі.

— Якое гміны?

— Несьвіскае.

— Учора адпраўлены ў другі горад, у В.

— Тата адпраўлены?

— Не адзін твой тата...

— Не, яшчэ мо' і ня зусім вядома,—перабіў стары вартавы, усёткі лепш будзе запытацца ў начальніка.

Можна было-б падзякаваць гэтаму старому за параду, але-ж чаго ён падморгвае таму другому?

— Ты, голубе, не жальбуй, а значыць, запытаешся яшчэ, каб ведаць напэўна,—кажа Паўліку гэты стары.

Але Паўлік цяпер ня можа глядзець у яго вочы, ня тыя яны, якімі ён бачыў нядаўна, да гутаркі. Дый словы нейкія занадта ліслівыя, шыпучыя.

Пашоў той другі назад у калітку. Адышоў у бок Паўлік. З торбамі за плячыма ішлі дзьве жанчыны. Параўняўшыся з Паўлікам адна пытае:

— Ня ведаеш, хлопчык, ці пускаюць ужо, каб перадаць у вастрог?

— Яшчэ ня пускаюць. Я таксама чакаю.

Стаяць разам, паглядаюць на вароты. Бачыць Паўлік, што месца таго знаёмага вартавога заступае другі. „Можа яно і лепш, трэ' будзе запытацца яшчэ ў гэтага“. Стары той схаваўся за калітку. Набліжаецца Паўлік, а за ім дзьве жанчыны.

— Адыходзьце далей! Чаго тут швэндаецеся?—крычыць вартавы.

— Дзядзечка, я толькі запытацца,—адазваўся Паўлік.

У гэты момант раскрываецца ў дзьвярах акенца і адтуль чуваць голас: „Пусьці гэтага малога“.

— Ну, ты, хлапец, можаш зайці ў двор,—кажа вартавы, а да жанчын:—а вы адыходзьце далей.

Паўлік агледнуўся на гэтых жанчын—разам ішлі сьмялей.

— Ну, заходзь, кажуць табе,—суровы голас вартавога.

Паўлік пашоў. А тут у двarэ той стары вартавы і зноў лісіцаю шыпіць:

— Пойдзеш, голубе, да начальніка, толькі-ж слухай мяне старога, кажы начальніку ўсё, што ў вашай вёсцы, усё значыць што ведаеш.

Нейкі паліцыянт сказаў ісці за ім. Прайшлі яшчэ адны вароты, вялікім ключом адмыкаліся яны. А тут і вокны з кратамі, многа, многа іх. Хочацца Паўліку глянуць у кожнае, нават самае вышэйшае. Ня ўбачыць ён бацьку, дык мо' бацька ўбачыць яго. З аднаго вакна вырваўся здаравенны голас:

Ты-ы-ы дабычы не даб'ешся,
Бя-а-алы ожал, я ня твой!

З другога вакна нехта гукае:

— Здароў, хлопчык!

Паўлік спыніўся, задраў галаву, ня ведае з якога вакна.

— Прэндзэй ты!—гукнуў жандар.

А з вакна той самы голас:

— Глядзеце, якога бальшавіка павялі! Сюды, глядзеце!—Здаецца ва ўсіх вокнах за кратамі зьявіліся людзі.

— Самага галоўнага паўстанца злавілі!

— Атамана ўвабралі!

У першым глухім калідоры Паўлік глуха чуў яшчэ нейкія выкрыкі, а далей жудасная цішыня задушыла іх.

Паліцыянт прывёў Паўліка ў невялікі пакой. Нікога ня відаць. Стаіць стол.

— Вось гэты хлапец хоча бачыць свайго бацьку, пагаварэце з ім,— кажа паліцыянт, а сам вышаў.

Жудасна робіцца Паўліку. Нікога ня відаць. Азірнуўся на дзьверы, абвёў вачыма сьцены, другія дзьверы, спыніўся на стале. Уздрыгануўся. На яго глядзела прыжмуранае вока чалавека. За сталом канапка і там ляжыць той начальнік, да якога зварачаўся паліцыянт. Так, тут ляжыць другі паліцыянт, тоўсты. Маўчыць і глядзіць на хлапца. Вось ён быццам пашавяліўся. Так, ён палажыў пад бараду кулак, а чырвоныя свае вочы навёў на Паўліка.

Дрыжыць хлапец, шавеляцца губы. Адчувае, хоча сьціснуць іх, але яны не даюцца.

Нарэшце паліцыянт устаў, грузна абапёрся локцямі на стол.

— Чаго хочаш?—нейкім надзіва тоненькім голасам пытае ён Паўліка.

У добры час, дык колькі было-б сьмеху. Сапраўды такі караднік (вулей) і такая піскляваcьць. Паўлік крыху падбадзёрыўся.

— Я, дзядзечка, татку свайго хачу бачыць, а мне сказалі, што яго адправілі ў другі горад.

— Прозьвішча бацькі?

— Карнейчык, дзядзечка.

— Ага, ведаю, ведаю, добры чалавек. Ён нам усё расказаў. Пра ўсіх партызанаў, пра ўсе сходы. А іх у вашай вёсцы шмат было праўда? Га?

— Ня ведаю, дзядзечка.

— Як ня ведаеш?

— Я пра гэта ня чуў.

— Дык што-ж, выходзіць, што твой бацька набрахаў нам?

— Мой татка ніколі не брахаў.

— Значыць ты брэшаш? А ты падумай, прыпомні. Я пайду да твайго бацькі і зараз вярнуся. А ты падумай...

Вышаў паліцыянт. Стаіць Паўлік каля стала. „Значыць тата тут. Але, што я павінен сказаць паліцыянту? Сказаць яму, як клянуць асаднікаў, жандараў? А хіба ён ня ведае? Напэўна пра Катковіча будзе пытаць. А хіба я ведаю дзе ён? Яны такія выжлы ня ведаюць, а я павінен ведаць. От раскажу Сьцёпку і ўсім хлапцом пра гэты пісклявы караднік“.

Расчыняюцца дзьверы.

— Ну, бацька твой тут за дзьвярыма ў тым пакоі. Ён вельмі рад, што ты прышоў,—запішчаў караднік і палажыў сваю тоўстую пульхную руку на галаву Паўліка,—раскажаш мне, якія там навіны ў вашай вёсцы і тады пабачышся з бацькам. Мы думаем скора выпусьціць яго, толькі няхай паправіцца, бо крыху ня зусім здаровы. Ён расказваў, што два разы начаваў у вас Катковіч. Але-ж гэта нічога. Ён сам сказаў і мы яго вінаваціць ня будзем. Так? Два разы начаваў?

— Ніколі я ня бачыў, каб ён начаваў у нас.

Караднік прыжмурыў вочы:

— Хто гэта, скажы мне, навучыў цябе так адказваць, з кім ты меў гутарку, калі адыходзіў з дому?

— Мяне праводзіў Сьцёпка.

— Сьцёпка? Добра. Які гэта Сьцёка?

— Салавейкавых.

— Ну, вось, а пра Катковіча ня хочаш сказаць?

— Калі-ж я нічога пра яго ня ведаю.

— Ну, ладна, бацьку ты свайго ня хочаш бачыць.

Караднік павярнуўся, прачыніў дзьверы:

— Забірайце Карнейчыка назад!

У гэты момант Паўлік шмыгнуў пад паху карадніка і ўскочыў у той пакой. Нікога няма.

Караднік згроб Паўліка за каўнер, выцягнуў назад і ляснуў дзьвярыма. Зачыніў. Чырвоны стаў караднік ад злосьці, а можа і ад сораму, што падманвае дзіця.

— Пусьцеце!—крычыць Паўлік, хоча вырвацца адсюль.

Караднік ня выпускае з рукі каўняра, нават мацней узяўся, ды падцягнуў хлапца к сталу.

— Падымі вось гэтую галачку, палажы на стол і выбірайся вон,— командуе караднік.

Паўлік глянуў—сапраўды, каля самае ножкі стала ляжыць нейкая галачка, ну, так нібы зносак. Трэба падняць, бо мусіць гэтаму карадніку цяжка нагінацца і хлапец хапіўся за гэтую галачку:

— Ай, ай! ратуйце!—крыкнуў хлапец, кінуўся на падлогу. Нешта круціла яго рукі, ногі, усё цела. А караднік узьлез на стол і шыпіць:

— Кажы, начаваў Катковіч, ці не?

Паўлік нічога не адказаў.

*(Працяг будзе).*

# ЛЯСНЫ ПАЖАР

Зьмітро Віталін

Ніхто ня думаў, не гадаў
Пра патаемны сэнс запалак
(Яны—агонь,
Яны—вада,
Яны—брандсбойтаў перапалка).

Ніхто ня думаў...
І лясьнік
Ніколі нават і ня сьніў,
Што грамік нейкай мешаніны
Наробіць страху, мятусьніны
І зьнікне сам—ужо як дым—
У небе сонечна-шкляным...

У лес іх неяк занясьлі,
У лес, дзе шмат сухіхігліц.
І сонца ўздумала спаліць
Нядбайнасьць нашу да зямлі...

І ён пачаўся і пабег—
Вялізны зьвер агня і дыму—
З куста на куст,
З пянька на пень,
У даль—
ушыркі—
неабдымным.
І загудзеў трывожна бор
Туды—
у шыр,
туды—
ў прастор,
Туды...
туды...
туды...
туды...

І ўсюды—полымя і дым...
І ўсюды—
трэск і шум гальля,
І языкоў агню—
гайня;
Здавалася—
Сама зямля—
Ня больш, ня менш—
клубок агня...

А дзесьці ў горадзе гудкі
Трывожна вылі, як ваўкі,
Якіх пагнаў ліхі агонь
Шукаць другіх сабе лагоў...

А па шляху і па палёх
Ляцелі людзі у галёп;
І бы дрыготу ста асін
Лясьнік ў грудзёх сваіх насіў—
Так калаціўся ён—
І бег,
Як беглі іншыя, з рыдлёўкай
Аддацца цалкам барацьбе—
І небясьпечнай і нялёгкай...

Але дарма...
Пажар згасаў,
Зьнікалі дымныя палотны—
Аж з трох бакоў ён напаткаў
Вадой залітыя балоты.

З чацьвертага-ж—шырокі шлях
– І вецер быў, ціхуткі вецер...
... І сьпепялілася зямля,
І па грыбы ня беглі дзеці...

Ніхто-ж ня думаў, не гадаў
Пра патаемны сэнс запалак,
Якія—
Дым,
Агонь,
Вада,
Ліхіх брандсбойтаў
Перапалка;

А сонца ўздумала спаліць
Нядбайнасьць нашу да зямлі.

г. Мазыр, 31 г.

# СТАЛЯР

**Зьмітро Віталін**

Ён да касьцей увесь прапах
Сасной смалістаю, асінай...
Глядзі, глядзі—ў яго руках
Ці не сама гуляе сіла?

Уздым і—„ах“! і зноў уздым,
Як пер'е ўзьлётае сякера.
І сорак тры яго гады
Глядзяць і дзівяцца й ня вераць...

Але ўсяму ідзе канец...
І нават зайчыку з стамескі,
Які прабегся па сьцяне
І не знайшоў другога мейсца.

Прабегся і—як ня было...
Але прамень жыве, і зноўку
Яго пузырыцца улоў
І на сьцяне і у начоўках...

Ня тое з ім—са сталяром,
Які яшчэ у роўні з сынам,
Але ў якога стыгне кроў
І горб глядзіцца ў дамавіну;

Якому рэжа вочы бель
Асіны вільгатнай, якому
Ляжаць на печцы-бы ляпей
І абыймаць гарачы комін...

І будзе час—сагнецца ён,
І упадзе у пену стружак,
І недаструганы ім клён
Адзін-адным над ім затужыць...

І я такі вось...
Дагару
Я над няскончанаю песьняй,
Калі ўсе рэчы раздару
Да самых тоненькіх завесак;

Калі сваю ліхую кроў
Да кроплі выцаджу у рэчы,
А думкі, мары і настрой
Аддам істотам чалавечым.

г. Мазыр, 31 г.

# ЧАРНІГАЎ

Цыкль

**Павло Тычына**

*Васілю Эллану*

МОИ ДРУГ РАБОЧЫ ПАКАЗВАЕ МНЕ
ГОРАД І ХВАЛІЦЦА

Даганяем іх даганяем
як каня што ветрам пераня
ты бачыш сам Расьцём штодня
расьцём мы туга так як жолуд
а сьмех ня сьціх
    Хіба-ж не заўсёды моладзь
    маладзейшая за ўсіх

Дзе хілілася вербачка ў полі
там цяпер паравознае дэпо
праходзяць рэйкі цераз по
ляцяць гісторыю гісторацъ
Калісь быў „раб“
    сягоньня глянь як цьвёрда творыць
    сацыялістычны скарб

Цераз млявую мутную рэчку
што разьмякла разьлезлася ўся
новая мысьль наявілася
Мярэжна напружна сьцісла
напорыста мысьль
    узьнялася дугою павісла
    мост павіс

Пракладаем рэжам ламаем
ні жалю ні жаласьці няма
усюды плянавасьць відна
Дык гэй кляпайце куйце кліньнем
каб сілы зямлі
    у кроў наступным пакаленьням
    віна ўлілі

Будуемся высока й горда
нават месяц у небе чуцён
Хай навучаецца і ён
Застален розум наш цярпеньнем
каб сілы зямлі
у кроў наступным пакаленьням
віна улілі

Трэба вылушчыць з нетраў багацьці
ды энэргію рэчак пераняць
сусьвет і волю аб'яднаць
Дык гэй кляпайце куйце кліньнем
чарпай да дна
у кроў наступным пакаленьням
віна віна

КУПЛЯЕМ ГАЗЭТУ

У Бэрліне у Майнцы
ў Вэстфаліі ў Руры
буры падымаюцца
ударылі буры

Рабочыя раёны
пад брэх паліцэйскіх псоў
далі
чатыры мільёны
шэсьцьсот тысяч галасоў

Вось яна
клясава ўпартая
з баявымі песьнямі
нямецкая кампартыя
14-га верасьня

Дрыжэце сацыял-цэргібелі
проці рабочых вы гліна
горш за гліну
Бойцеся як сваёй пагібелі
мэталістаў Бэрліну

Крычэце
найвышэйшае гэта нацыя
хоць-бы памаглося
ох
Капіталістычная стабілізацыя
хруснула на зубох

У Бэрліне у Майнцы
ў Вэстфаліі ў Руры
буры падымаюцца
ударылі буры

## СУСТРАКАЕМ РАЗГНЕВАНЫХ КАМСАМОЛЬЦАЎ ІЗНОЎ ШКОДНІЦТВА

За грошы і дарэмная
усюды кожны час
жандарская турэмная
няволя пад'ярэмная
паўзе яшчэ да нас

Паўзе „рахмана" гадзіна
Чарнігавам і скрозь
То проспана то ўкрадвена
то з просьвіркай пададзена
няма і раптам ёсьць

Акрый былое плянамі
закрэсьлі закасуй
Ўзьляці аэраплянамі
Заліўчымі Элланамі[1])
Ў прасторах закрасуй

І славім мы і хвалім мы
Да мэты весялей
Аблогамі навалaмі
струхнелы Захад звалім мы
і выбухнем далей

Ня цісьне змога плечы нам
ні страху ні ныцьця
Надзеямі аквечаны
навукамі асьвечаны
за новы лад жыцьця

І славім мы і хвалім мы
Да мэты весялей
Аблогамі навалaмі
струхнелы Захад звалім мы
і выбухнем далей

[1]) *Увага перакл.* Андрэй Заліўчы, Васіль Эллан (Блакітны)—украінскія пралетарскія пісьменьнікі.

### А ЦІ НЯ ЁСЬЦЬ ГЭТА ТАЯ САМАЯ ПАХВАЛЬБА АЛЬБО ЗАМАРАЧЭНЬНЕ АД ПОСЬПЕХАЎ

О не напэўна кажам мы
з заводам школу зьвяжам мы
у ВНУ гартуемся
ўразаемся шлюзуемся
палітэхнізуемся

На панскія парадачкі
дадзім мы рады—радачкі
адкажам непакорніцтвам
а ўзмоцненым упорніцтвам
тэмпамі спаборніцтвам

Няхай Эўропа кумкае
а мы з другою думкаю
у нас свая турбацыя
традыцый падразацыя
калектывізацыя

Гэй бедныя гэй дробныя
гаспадары асобныя
каб лепшае наладжваньне
каб добрае насаджваньне
трэба аграмаджваньне

Хай мы ізаляваныя
няхай мазаляваныя
жылі жывём і будзем жыць
а сьвет стары асуджаны
пера—перасуджаны

### „ПАСЬЛЯ ГЭТАГА ЯСНА“ КАЖА РАБОЧЫ „ЧАМУ УКР—ВАРШАЎСКАМУ СЬМЯЦЬЦЮ ТАК ВЕСЕЛА ЗАРАЗ“

Выяжджаюць паяжджане на заручыны
і танцуюць і сьпяваюць і засмучаны
не танцуецца

### Абярніся парася ў карася

Чобату чобату чобату пілсудчыны
пакланіліся

„Просім ласкі просім слова справы кепскія
ці ня лішне вы сурова з тымі „крэсамі“
„Прызвычайвайцеся“

Абярніся парася ў карася

Чобату чобату чобату псякрэўскаму
пакланіліся

Ня сьпяць паны а тым больш генэралы
Безрабоцьце Паўстаньне Падпалы Падпалы
Вецер падняўся такі—і

Сьвет настаў поп ня сьвістаў

а запазычанасьць замежнаму капіталу
а падатачкі—і

Хвалілася жаба а цяпер зноў карачыцца
Украіна і Беларусь справядліва палячацца
у імя арла турмы і рознага боства

Сьвет настаў поп ня сьвістаў

Фантазуюць паны артачацца
ад убоства
Збожжавы рынак усох Экспарт паўзе ракам
І стала Эўропа суцэльным баракам
а ў Польшчы дык і трасца сама

„Гоп кінь рыжа“ а ў рыжае духу няма
Ратуюць фашызмам небараку
Дарма

Ды й чаго чакаць ад буржуазіі разбэшчанай
ад буржуазіі што пасьля распаду Аўстра-Вэнгершчыны
усё яшчэ спадзяецца

Дзьмецца свахна дзьмецца што
ў чужой наметцы

А кардоны бізунамі сьпярэшчаны
калі й ня зьнікнуць да канца
пераменяцца

## ДУЛІСЯ ПАНЫ І 25 ГАДОЎ НАЗАД

*(Рабочы ўспамінае 1905 год на Чарнігаўшчыне)*

Што за шум з-пад Катлавану
альбо дыхту даюць пану
альбо чэрні хвальба
Чаму хвальба ды чаму чэрні
Канатопскія майстэрні
чыгуначныя майстэрні
праз балоты праз палі
не сьцярпелі грымнулі

Карукоўскія заводы
Кралявец Падліпнае
Папоўка Батурын
Загрэбельле

Ой грымелі многа мала
занялося зашугала
скрозь паўстаньне пайшло
Чаму пайшло чаму паўстаньне
Гэта з Выхвастава сяляне
Выхвастаўскія сяляне
дзякуюць сваім паном
і касою і калом

„Fata morgana"
Кацюбінскага

Білі білі але мала
рабочаму-б сілы стала
не пасьмела сяло
Чаму сяло чаму ня сьмела
Дробнаўласьніцтва заела
гаспадарка заела
Бач „здабрэлі" поп і цар
маніфэст даруецца

Хоць мы яго Фінансавым
Маніфэстам

„Даравалі" цацай цешаць
на другі дзень сталі вешаць
Эх з разьбегу паддай
Чаму паддай чаму з разьбегу
То ня бюргеры з Нюрнбэргу
і ня цэхі з Нюрнбэргу
ня Ліонскі бунт ткачоў
не Хмяльніцкі—Пугачоў

Вядома Ліонскае
першае паўстаньне
а ня другое

Пачалі канчаць хацелі
За „Крывавую Нядзелю“
крыўды шмат нарасло
Чаму расла ды чаму крыўда

„У вастрог калі ня быў там
пасядзі калі ня быў там
Будзе хаме пагуляў
тут табе твая зямля“

Звычайная
іхняя
насьмешка

Рух прытух Сяло заснула
Раптам грозна страсянула
То Пацёмкін гэрой
Чаму гэрой чаму Пацёмкін
Бо ўжо кончыліся пацёмкі
адцямнелі пацёмкі
новым заясьніўся сьвет
Прафсаюз Кранштадт Савет

А ўсё гэта зрабіла
ідэя ўзброенага
паўстаньня

ПРАХОДЗІЦЬ ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПРЭЧ ШКОДНІКАЎ
СЬМЕРЦЬ ІНТЭРВЭНЦЫІ

ЛЕНІН
Адно толькі слова
а мы ўжо як бура
Гатова
Напружна ў адзін бок адважна ў другі
і крэшам і крышым ляцяць варагі
ЛЕНІН
Некалькі літар
а колькі энэргій
уліта
Цару не паможа цяпер маніфэст
Шумі вышумоўвай жалезны пратэст

І ён памёр І кажуць „Брава
старое вернецца хутчэй“
Клянёмся клятваю крывавай
ніводзін вораг не ўцячэ

І ён памёр І кпяць агідна
„Няхай Эўропа адпачне
што будзе далей будзе відна
свабода зводзіцца пачне“

Няхай-жа знаюць „патрыёты“
няхай паведамяць „мяшчан“
не супакоімся мы дотуль
пакуль з палёў увесь бур'ян

ня выкарчуем вон з няславай
Абманы Крытыка сьсячэ
Клянёмся клятваю крывавай
ніводзін вораг не ўцячэ

ЗЬМЯНІЦЦА ПАВІННА СТАРАЯ УКРАИНА

Перакачоўваючы ненасытныя
хлюпаючы па колькасьці па якасьці
праймаючы ўзаемна працілегласьці
супярэчаньнем старога выбухаючы
прастуем за законам дыялектыкі
да нявымернага наступнага

Аджа перашкоды усе дасьледжаны
аджа глыбіні ўсе разгаданы
аджа зьясьнелі ўсе недамудраньні
Разгонімся цюкнем па гісторыі
можа адкрышыцца нам выламак
ад нязвычайнага наступнага

Як часта дробным незадаволены
мы зьняверваемся хілімся падаем
мы спатыкаемся аглушана
і ўжо нам нячутна як поршнямі
ходзяць па сьвеце штурхаты
ад непаседлівага наступнага

Загарайся палыхай акрыльвайся
уключайся ды ня млявасьцю абыякавай
не вар'яцтвам і не адчаямі п'янага
а заўзятаю сілаю сьвядомасьці
каб мы былі больш чёткія больш неспакойныя
ад неспакойнага наступнага

Выдзяляй не паўтарай увязвайся
Адплылі а ўжо далёка ад берагу
Над глыбінямі сухавейна нягодліва

Карабель садрыгаецца поршнямі
І такія па сьвеце штурхаты
ад нестарэючага наступнага

Перакачоўваючыя ненасытныя
хлюпаючы па колькасьці па якасьці
праймаючы ўзаемна працілегласьці
супярэчаньнем старога выбухаючы
праструем за законам дыялектыкі
да нявымернага наступнага

Пераклад з украінскай **Ю. Гаўрука.**

## РАЗМОВА З ПОЭТАМІ-ЎДАРНІКАМІ

**Юрка Лявонны**

Вас падымаюць
драбіны гісторыі,
Лепей за ліфта
намасьлены шруб,
З нетраў,
што доменным бляскам
азораны,
На поэтычны
заежджаны брук.
... Часта поэт—
гэта кудры і ружы,
І кволая муза
Ўведзена ў штат;
Часта ў поэта—
ліра аружжа
(Такі ўжо спрадвеку
клясычны штамп)!
„Поэты ня маюць
грамадзкіх намераў,
цікавы-ж,—
далёка ня ўсе!—
Гордасьцю Байрана,
Брэдам Бодлэра,
Ці плыннасьцю строф
дэ-Мюссэ..."
Краіна дрыжыць
на сталёвых тросах,
Сьпявае басовай
нацятай струной,—
Краіна вядзе
скрозь паклёпы, пагрозы
Індустрыяльны развой.

І кожны поэт—
гэта стрэл
і паходня,
І кожны радок—
што бікфордаў шнур!
З усходаў
славутага нашага
Сёньня
Мы ўгледжваем вобліскі
Заўтрашніх бур.
Вы крочыце мерна
паўстаньнем заранку,
Штурмуючы цемразі,
тормазы, шлак...
Вы здольныя бачыць жыцьцё
бяз фіранкі,
І воляй працяць
поэтычны варштат.
Як на манежы,
ганяючы коняй,
Пугаю, часам,
аглушыць вас крытык:
Чаму, значыць,
вобразы
сьпеюць на гонях,
А не ў цяплічным
ягоным карыце?
Мо' не ў аднэй
з самых лепшых поэм
Зьлямчыцца кроў
парадкоўных артэрый,
Калі Выдавецтва
вас абаўе
Халодным жахам
сваіх бухгальтэрый!
Часам напомняць
„сябры" і „сяброўкі":
— Ў балота агітак,
ты, братка, зайшоў;
Чаму ў цябе мэтрам—
поэт á la Броўка?
Куды лепей
Таўбін ці Куляшоў!

Вы горда мінеце
гушчар дэмагогій,
Вы,—рупары клясы
найлепшай з краін.
Ї выйдуць далёка
за нашы парогі
Патрэбныя, шчырыя
вашы страі.
Бо не дарма
з нетраў,
лявай азораных,
Без урачыстых
літараў і труб,
Вас падымаюць
драбіны гісторыі
Лепей за ліфта
намасьлены шруб!

## КАЛЯ АДЧЫНЕНАЙ БРАМЫ

**Доўгапольскі**

*(Канец)*

### XVII. Яўрэйскія дзеці ў вёсцы

У самой Лесарубаўцы, а таксама ў вакольных вёсках па абодвых берагох ракі яўрэі ня жылі. Час-ад-часу сюды прыяжджалі яўрэйскія гандляры лёнам. Часам прыяжджаў сюды які-небудзь яўрэй-мясьнік, ці наогул яўрэйскі селянін. Бывала заедзе яўрэй, які транты па вёсках зьбірае, каб тут пераначаваць і пагрэць свае косьці на гарачай ляжанцы і пакарміць дарэмным сенам худую клячу сваю, якая ледзь цягала расхістаную каламажку на драўлянай хадзе з гадамі нямазанымі коламі, рыпеньне якіх чутно было за шмат кілёмэтраў.

Добра ведаў яўрэяў тутэйшы настаўнік, які сам выхоўваўся ў яўрэйскім мястэчку. Ведаў таксама яўрэяў і тутэйшы бацюшка, які мёд свой прадаваў знаёмым яўрэям; ён меў у горадзе знаёмых гандляроў-мануфактурнікаў, гандляроў жалеза і скуры. Ведала яўрэяў і камісарыха, да якой бацюшка любіў прыходзіць некалі, калі яна яшчэ дзеўкай была, яшчэ ў тыя спакойныя часы, калі протоерэй гвалтам прымусіў яго ўзяць у жонкі яго дачку, высокую, худую, як дошку, дзяўчыну, якая пасьля жаніцьбы яшчэ больш схудала.

Багата лесарубаўцы наглядзеліся на яўрэяў, ня так на яўрэяў, як на яўрэйскіх дзяцей і яўрэйскіх кабет толькі год таму, на тры месяцы раней чым у Лесарубаўку прыехала экспэдыцыя з прадкому, раней чым забілі старшыню выканкому т. Варкіна з двума таварышамі з прадкому. Гэта яшчэ было раней, чым Глонц, ратуючы сябе ад сьмерці, забіў бандыта на парозе лесарубаўскай школы.

Пазнаёміліся лесарубаўцы з яўрэямі вось як. Вёрст дванаццаць ад Лесарубаўкі, уверх па рацэ, шмат год жыла яўрэйская сям'я. Аднойчы, пасярод белага дню, добра ўзброеная банда абкружыла двор, дзе жыла гэтая сям'я, па аднаму выцягнула з хаты ўсіх мужчын, адвяла іх недалёка, у лясок вёрст са тры ад двара, забіла іх, а пасьля вярнулася ў двор, забрала быдла і іншае рознае дабро, што там было, пакінуўшы жывымі толькі кабет ды дзяцей. Сіротам ды ўдовам нічога не засталося, як пакінуць двор і шукаць сабе дзе-небудзь прытулак у горадзе.

Забітых рашано было ўзяць з сабой у горад, каб там пахаваць іх на яўрэйскіх могілках. Жалобная процэсія разьмясьцілася на некалькі дзесяткаў сялянскіх фурманак. Уперадзе везьлі забітых, загорнутых у мяхі і рагожы, накрытых старым адзеньнем і цёплымі коўдрамі, а пазадзі ехалі ўдовы з дзецьмі, везьлі розныя лахманы, якія бандыты ня лічылі патрэбнымі забраць.

Упоўдзень лесарубаўцы—фурманы спыніліся ля ракі коняй напаіць і самім падсілкавацца. А ўдовы з нейкім шалёным выразам у вачох хадзілі ад фурманкі да фурманкі, ледзь пазнаючы сваіх родных братоў ды мужоў, стараючыся накрыць іх як мага ляпей ды цяплей, нібы баючыся, каб яны як-небудзь не прастудзіліся, ці каб што ня здарылася.

Вось тады з-за ракі вышла ўся Лесарубаўка. З гармонікам вышаў таксама і Мікола. Ён ня іграў, але так сабе трымаў гармонік у руках. Мікола падышоў да аднэй маладой пекнай яўрэйскай кабеціны і пачаў заспакойваць яе.

— Ня сумуй. Няхай фурманкі далей едуць, а ты можаш тут у нас у вёсцы застацца. Спаць ты зможаш у нас на сенавале... Гі-гі-гі.

І палова лесарубаўцаў пачалі гігікаць разам з Міколам, пакуль старая лесарубаўская жанчына не падыйшла да ракі з поўным вядром малака, і пачала крычаць на ўвесь натоўп, шамкаючы сваім бяззубым ротам.

— Чаго вы тут гігікаеце, антыхрысты. Прынясеце лепей малака для ўдоў і сірот. Давайце хоць накормім іх, няшчасных... А ты, Мікола, з гармонікам прышоў сюды. Эх ты, байструк.

— Бабуля мае рацыю,—сказаў настаўнік: мы—хрысьціяне, пойдзем па малако. А ня так, як у яўрэйскім мястэчку, дзе, калі нашых каго-небудзь на могілкі вязуць, калі сваякі плачуць, яўрэйскія кабеты выходзяць насустрэч, плюнуць тры разы, ды кажуць, каб іх больш такіх.

„Аф воер блайбэніш",—сказаў настаўнік паяўрэйску. Жонкі забітых нібы ад сну прачнуліся. Адна з іх пачала гаварыць.

— Ня трэба нам твайго малака. Чаму вашыя забілі нашых мужоў і братоў? Што яны калі каму кепскага зрабілі? Мы са ўсімі добра жылі. Добра, што нашых мужыкоў забілі? Мо' ты таксама ў бандзе быў? Мы ў горадзе пра ўсё раскажам.

Стогн і енк падняўся на рацэ. Настаўнік, белы ад сполаху, захацеў як-небудзь паправіць уражаньне ад сваіх слоў, але фурманкі крануліся з месца і хутка пакінулі лесарубаўскі лес.

Гэтак адбылося першае знаёмства лесарубаўскіх сялян з першай яўрэйскай сям'ёй. А праз год і тры месяцы чатыры даверху нагружаных грузавых аўтомобілі зьвярнулі з шырокага шляху на вузкую пясчаную сьцежку.

— „На Лесарубаўку"—паказалі дзеці на слуп, што стаяў па дарозе. Шум і гармідар шасьці дзесяткаў дзяцей пакрываў грукат матораў. Але тут на мяккім пяску, з аднаго боку лес, а з другога поле і сонца, дзеці прытуліліся адзін да аднаго і пачалі есьці вачыма ўсё, што сустра-

калася на шляху. Пах лесу ап'яняў і сон наганяў на дзяцей. Але вочы не хацелі нічога прапусьціць, а новы шум з лесу і поля яшчэ больш урэзваўся ў іх мазгі.

— Ханка, ужо царкву відаць.

— На дрэва, на дрэва!

А Надзея Львоўна, трымаючы ў руках палявыя кветкі, тлумачыла:

— Люцікі, дзетачкі.

— Канюшына, дзетачкі.

— Рамашкі, дзетачкі... Званочкі...

Перад уездам у вёска Ханка спыніла аўтомобіль.

— Давайце, дзеці, яшчэ раз дагаворымся. Давайце ўспомнім усе пастановы, ухваленыя агульным сходам.

— Помніце, дзеці, аднагалосна прынятую пастанову?

— Помнім,—і паехалі далей.

Першае, каго сустрэлі дзеці, гэта былі—лесарубаўскія сабакі. Яны адна за аднэй павыскаквалі з варот, пасвойму, пасабачаму, галосным брэхам сустрэлі гасьцей, а тыя сабакі, што за варотамі засталіся, скігіталі яшчэ больш злосна і працяжна.

Сяляне на полі спынілі работу,—гадаць пачалі—хто едзе, куды едзе; закурылі. Поп вышаў на ганак. У яго ззаду стаяла пападзьдзя. Надзея Львоўна хілілася ва ўсе бакі, віталася са ўсімі, а дзецям таксама прапанавала:

— Вітайцеся, дзетачкі, вітайцеся.

— Вунь поп стаіць,—паказала адна дзяўчынка пальцам у яго бок, і ўсе дзеці весела зарагаталі, толькі Надзея Львоўна далікатна нахіліла галаву ў бок папа, на што той ня менш ветліва адказаў, дабротліва дадаючы:

— Дзеці яўрэйскай нацыі? Як у Майсеевым пяцікніжжы сказана: павялічвайцеся, множцеся і запруджвайце ўвесь сьвет.

Шырокія гумовыя шыны машын прасавалі яшчэ мяккі пясчаны шлях, пакідаючы выразныя сьляды па ўсёй дарозе. Сялянскі хлапчук падышоў да аўтомобілю. Ханка ўзяла яго на машыну, пасадзіла на калені, гладзячы ільняныя яго валасы.

Пакуль аўтомобілі падыйшлі да школы, у іх ужо сядзела некалькі дзесяткаў сялянскіх дзяцей.

На школьным ганку чакаў ужо Мікола з сваім гармонікам. Ён неяк маладцавата раскруціў гармонік, зайграў нейкі беларускі мотыў, стаў і пакавалерску прывітаўся.

— Паненка, гэта вы столькі жыдкоў... Гі-гі-гі. А вось гэтая зусім ужо вялікая, паказаў ён на шаснаццацігадовую Геньку, якая ў гэты момант здымала з машыны маленькага сялянскага хлапчука, голенькага, беленькага, з рэдкімі белабрысымі валаскамі на галоўцы... Гі-гі-гі—вось гэта добрая дзяўчына.

— Мы яшчэ не пераступілі парогу нашае колёніі, а ты, тутэйшы чалавек, ужо лаешся,—падыйшла Ханка да Міколы. Староньнія людзі, таварыш, нам перашкаджаюць цяпер. Як мы тут усё ўпарадкуем, дзяцей заспакоім, тагды сяброў сваіх да сябе ў госьці на ўваходзіны запросім.

— А мяне таксама запросіце, паненка?

— У мяне часу няма гаварыць з табой, грамадзянін. Я толькі хачу сказаць, што нашая колёнія—дзяржаўная, савецкая—дык не перашкаджай нам працаваць.

Мікола адышоўся ў бок. Аднэй нагой, а потым другой ён пераступіў праз высокі паркан, які адгарадзіў школу ад агароду, і зайшоў да настаўніка. Дзеці пачалі здымаць рэчы з машыны і пераносілі іх у школу.

Лесарубаўская школа стаяла ў канцы вёскі на пясчаным узгорку, супроць царквы, супроць папоўскай хаты. Вакол зелянелі шырокія ворныя палі, а ззаду палёў на дзесяткі кілёмэтраў цягнуўся славуты казённы лес.

Увесь уваход у школу быў запруджаны столікамі, крэсламі, мяхамі, хлебам, ложкамі, шафамі, клункамі, кнігамі, карцінамі. Здавалася, што дзецям вельмі цяжка будзе разабраць гэтую гару рэчаў. Але дзеці ўдвох, утрох, як мурашкі пасьля нападу на мурашнік, разабралі ўсе рэчы.

У двор уехаў Ігнат з вялікім возам саломы.

— Для нас?—І пара дзяцей адразу ўскочылі на фурманку.

— Матрацы набіць,—сказала Ханка дзецям, вітаючыся з Ігнатам.

У той час, калі частка дзяцей прыводзіла ў парадак ложкі для сну, другая рыхтавала першую вячэру ў вёсцы.

Калі дзеці разьмясьціліся на вячэру, на дварэ ўжо сьцямнела.

Першая вячэра ў вёсцы была падрыхтавана пад адкрытым небам. Вакол даўгіх сталоў селі дзеці з сваімі кіраўнікамі, а Надзея Львоўна ўвесь час пакрыквала:

— Камары, дзетачкі!

Вясковая моладзь, поп з пападзьдзёй, настаўнік з жонкай увесь час спацыравалі то ўзад, то ўперад, заглядаючыся на дзіцячую дзяржаву.

— Яны мусіць добра організаваны, яны працуюць,—сказаў настаўнік.

я форткі грудзіліся вясковыя сабакі, неадважваючыся падыйсьці да сталоў. Улан голасна брахаў і рваўся з ланцуга, каб падыйсьці да людзей.

Па аднаму пакідалі дзеці стол, мылі ногі і ішлі спаць.

Пэдагогічны пэрсонал таксама сабраўся спаць. Ханка, стомленая за дзень, падрыхтавала свой ложак і зьбіралася легчы, але ў гэты час каля форткі спынілася нейкая фурманка. Яна пазнала Пётру і вышла на вуліцу. Некалькі дзявочых галовак паказаліся са спальні ў вакне.

— Бачыш,—тулілася яна да Пётры,—дзеці ня хочуць зразумець, што загадчык пасьля работы цалкам належыць сабе.

Пётра не зразумеў, што хоча Ханка гэтым сказаць, і яшчэ больш моцна атуліў яе сваімі моцнымі мускульнымі абдымкамі.

## XVIII. Успаміны Талмудтойрэніка

Глонц ніколі не адчуваў сябе гэтак спакойна і бясклопатна, як зараз у шпіталі. Яму яшчэ цяжка на бок перавярнуцца, лішняе слова сказаць, але ён жыве і ўсё адчувае, што робіцца навокал.

Вось побач з ім вызваліўся ложак. Перш вынесьлі хворага, а хутка сястра ўзяла пасьцельную бялізну.

— Вылез, малайчына,—міргае ён у бок сястры.

— А гэты?

— Гэты? Гэты, таварыш, пасьпяшаўся крыху, а ты жыць будзеш, доктар сказаў.

Ліпнёвы сонечны дзень. Вокны палаты расчынены. На падлозе гуляюць цені дрэў шпітальнага саду. Хворыя енчаць. Уваходзіць другая здаровая дзяўчына, з закасанымі рукавамі, з тэрмомэтрам у руках. Яна падымае бледую руку Глонца і ўстаўляе пад паху тэрмомэтр.

— Ніякіх клопатаў, няма табе пра што думаць. Ляжы ў ложку і забаўляйся.

— Колькі, сястрыца, як я тут адляжаў ужо?

— Лічы сам, бачыш, як цябе прывезьлі сюды... ужо шаснаццаць дзён.

— Ах, гэтая сястра. Яна, як сястра, як маці...

Ён засыпае. У яго галаве паўстаюць твары далёкія, даўным даўно забытыя.

Вось, маці бярэ яго за руку. Кожны раз і зараз таксама ён бачыць яе ў жоўтай, крыху ад старасьці пабялеўшай спадніцы. Маці згорбленая, жывот напушаны, як у цяжарнай, шчокі ў хворых ямінах.

Уваходзіць бацька з кубкам ад талмудтойры ў руках.

— Тата, чаму гэта заўсёды ты ходзіш з кубкам, чаму рыжы з ім ня ходзіць?

За гэткую гарэзнасьць Глонц адразу атрымлівае аплявуху.

Глонц прачынаецца. Яму лёгка, але ня сьпіцца. Ён яшчэ зараз адчувае боль ад бацькавай аплявухі. Вось перад ім яшчэ бацька стаіць, а маці лае бацьку за тое, што сына пабіў.

— Чаму ты хлапчука б'еш, чаму? Што ён такога сказаў? Ці мала ты працуеш за гэтага рыжага?

Бацька шукае слоў для апраўданьня:

— Гэткі хлапец, ды каб нічога не зразумеў... Бацька, мусіць, не для асалоды і не ад добрага жыцьця з гэтым чорным кубкам па гораду ходзіць. Кроў льлецца з кожнай капейкі... Наплываюць малюнкі раньняга дзяцінства.

Быццам гэта сёньня было. Талмудтойрэнікі стаяць вакол стала, валяюцца на падлозе верхняй жаночай часткі сынагогі. Рыжы, расшпілены, увесь пакрыты рабацінамі, усоўвае руку сваю пад паху, зачыняе вочы

ад нейкай асалоды, вымае рукі і мімаходзь, быццам зрабіў нездаволеную ў часе вучэньня рэч, перакульвае на свае пальцы крыху вады з гліняната гарлачыка.

— Пацан ты гэтакі. Чаго швэндаешся? Вон са стала,—кідаецца ён да Еселя.

Адчыняюцца дзьверы, і на парозе паказваецца тутэйшы фактар Бурка ў лякіраваных камашах, ва фраку з саламяным капялюшом на галаве.

— Ну, Рыжы, бяры сваю капэлю, яна ў цябе ўжо ногі павыцягнула. Можа хочаш на суботу купіць шчупака ці паўбутэлькі 57-градуснай?

Рыжы хутка апрануўся. Ускудлачыў раней правы, а потым левы пэйс свой, нізка, нізка нацягнуў ярмолку сваю, нацягнуў шапку да сярэдзіны лоба, плюнуў на пальцы і зноў ускудлачыў пэйсы, паправіў рыжую бараду сваю і сказаў:

— Бярэце, дзеткі (так ён звычайна гаварыў—дзеткі), псалтыр у рукі і ідзеце за мной.

Тры дзесяткі яўрэйскіх хлапчукоў, босыя, абарваныя, брудныя, некаторыя ў каросьце, саскочылі са сходаў уніз. Унізе рыжы спытаўся ў дзяцей:

— Ведаеце куды вы ідзіцё?.. Каб трымаліся прыстойна, як людзі... Вы павінны ведаць толькі сваю справу... Адчынілі псалтыр, прыглядзеліся да кожнага слова і каб голасна і выразна са смакам выгаварвалі кожнае слова... Каб ні на водную хвіліну не адхіліліся ў бок ад псалтыру. Ня ваша справа, што тут у хаце робіцца, у гэтых багацеяў. Яны ня любяць, калі дзеці заглядаюцца па баках, рукамі мацаюць сурвэты, фіранкі, косяць вачыма на паразьвешаныя карціны... Сказ за сказам, дзеткі, сказ за сказам, я таксама гаварыць буду, і калі надыйдзе час адпачынку... тады, каб таксама ціха было... Каб ні гуку ня чуваць было.

Памерла старая багатырка. Памерла зусім нечакана. Яе маёнтак разам з садам займаў цэлы квартал з усіх чатырох бакоў. Ля пярэдняга ўваходу стаяў вялікі натоўп. Але чаго варты яны перад талмудтойрэнікамі, якія ў сёнешнім вясельлі граюць першую скрыпку.

З імпэтам рушыліся хлапчукі ўверх на панскі ганак, і, пакідаючы свайго рэбэ ззаду, чакалі пакуль ім адчыняць дзьверы.

— Пацаны,—пусьціўся рыжы аж бегам.

Адчыніліся дзьверы і нейкі дужы мужчына сказаў:

— Праз двор.

Шэсьцьдзесят босых ног пусьціліся ўніз па сьлізкіх сходнях, адчынілі цяжкія дзьверы і ўвайшлі ў двор. Каля адчыненага акна стаяла група дзяцей, хлапчукі і дзяўчаты, сярод іх гімназісьцік, і хціва наглядалі за гэтай дзіцячай процэсіяй. Па двары шпацыравалі птушкі, а ля хлева стаяла славутая чырвоная карова гэтых багатых гаспадароў.

Калі дзеці ўвайшлі ў дом, там уздоўж пакою ўжо былі пастаўлены доўгія вузкія сталы. У другім пакоі на падлозе ляжала нябожчыца,

накрытая паверх галавы чорным пакрывалам, гарэлі стэарынавыя сьвечкі, а старыя жанчыны швэндаліся ўзад і ўперад з белым палатном у руках.

Пасьля таго, як дзеці прачыталі некалькі вершаў з псалтыру, рэбэ дазволіў ім крыху адпачыць. Тады Ёсель падняўся і сказаў:

— Піць хачу.

— І—я.

— І—я.

— Піць, рэбэ.

Піць, піць, піць, усім разам піць захацелася. І ўсе заўважылі, як рабаціны на рэбіным твары надзьмуліся, як пухіры.

— Ах вы, пацаны, ля нябожчыка, яшчэ чаго, піць захацелі, вы што, ашалелі, ці што. Вазьмеце хутчэй псалтыр у рукі—ламанацэйях[1]).

— А я, рэбэ, іду напіцца,—сказаў Ёсель.—Вунь, там на дварэ стаіць бочка з вадой.

Ёсель вышаў з пакою, за ім другі, трэці, чацьверты...

Да дзіцячых галоў у вакне дадаліся яшчэ два дарослых—маладая дзяўчына з хлопцам у студэнцкай форме. Па іх тварах Ёсель здагадаўся, што ўся гэтая гісторыя ім вельмі падабаецца. Ён таму набраў яшчэ адну конаўку вады, выпіў палову, а рэшта выліў на калматую курыцу.

З поўнымі жыватамі вады дзеці ізноў вярнуліся да псалтыру. Зноў пачалі псалтыр чытаць, але ў іх галасох ужо больш ня чутны быў той жалобны тон, які ўласьцівы псалтыру. Хутка да дзяцей падыйшла ўся гэтая багатая сямейка, спынілася аглядэець дзетвару.

— Рэбэ, чаму гэта яны разам з намі псалтыр ня кажуць?—спытаўся Ёсель.

Рэбэ ўжо не сьцярпеў, ён прысеў каля Ёселя, намацаў сваімі пальцамі яго худую задушку...

— Чаго вы шчыпаеце мяне, рэбэ,—закрычаў Ёсель.

— Божа барані,—паказалася ў дзьвярах нейкая жанчына, вывела з пакою ўсіх дзяцей гэтых багацеяў, што тут сабраліся, хутка назад вярнулася і дала кожнаму з талмудтойрэнікаў па срэбнай манэце.

— Ламанацэйях,—нанова пачалі дзеці, ужо больш сьвежымі галасамі.

Дахаты Ёсель прышоў, калі ўжо сьцямнела. Ня ішоў, а бег. У аднэй руцэ трымаў ён некалькі срэбных монэт, а ў другой кавалак чорнага матэрыялу, атрыманы ад тэй самай жанчыны.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Глонцу робіцца страшна горача. Ён здымае коўдру, а сястра яму кажа:

— Доктар сказаў, што ваш організм вельмі аслаб. Вы атрымаеце віно.

Праз некалькі дзён Глонца выпісалі з шпіталю, перавялі ў аддзяленьне для выздараўліваючых. Адтуль ён здаровым хутка вярнуўся назад у свой полк.

[1]) Гэтак пачынаецца адзін верш псалтыра.

## XXI. Дэмобілізацыя

Варочаючыся назад у казарму, Глонц сустрэў у варотах аднаго партыйнага таварыша.

— А дзе полк?—спытаўся Глонц.

— Перайшоў на грамадзкую работу. Два батальёны пайшлі правіць чыгунку і ў канцы месяца маюць вярнуцца назад. Астатнія чырвонаармейцы працуюць у вёсцы. Чакаецца загад адносна дэмобілізацыі.

Чырвонаармейцы прынялі тады ўжо зусім іншы выгляд. Атрады значна парадзелі. Пачалі лепш харчаваць. Бязупынна прыбывалі новыя і новыя транспарты адзеньня і абутку. Але адначасна ў палкох пайшлі шэрыя дні. Масавы чырвонаармеец кожны дзень чакаў загаду пра дэмобілізацыю.

— Нас яшчэ гэтак хутка не дэмобілізуюць, — скардзіўся сакратар ячэйкі.—Ужо ёсьць пра гэта загад. Эх! Як хочацца дадому.

Але хутка быў атрыманы загад Рэволюцыйнага Ваеннага Савету, што дваццаць процантаў вайсковых партыйцаў падлягае дэмобілізацыі. Дэмобілізацыі падлягаў таксама і Глонц.

Дэмобілізацыйны пэрыод расьцягнуўся аж на цэлы месяц, што аслабіла партыйную работу. Формальна ячэйковыя сходы адбываліся. Вайсковыя партыйцы наведвалі сходы мясцовай партарганізацыі, кожны член партыі рабіў усё, чаго ад яго вымагалі. Але ўсё гэта была толькі формальнасьць. Хлопцы кожны дзень чакалі, вось-вось паедуць.

Гэта ўсё былі маладыя таварышы, якія яшчэ цалкам не парвалі з сваёй сям'ёй, вёскай. Шмат каго з дэмобілізаваных дома чакалі маці, якая любіць свайго сына, брат, сястра, бацька, які паціху радуецца, што яго сын ні абы хто які, чакае мо' дзяўчына, таварышка. Кожны вёз да хаты дзівосныя асабістыя ўспаміны з баявых эпізодаў.

— Куды Глонцу ехаць? Чым яму заняцца? На многа пытаньняў Глонц чакаў адказу і ніяк яго знайсьці ня мог. Выходзячы з казармы ён адчуў на колькі ён адстаў.

— У парткоме ўсё высьветліцца,—заспакойваў ён сябе лежачы на жорсткай лаўцы вагону чацьвертай клясы, разам з шмат якімі дэмобілізаванымі таварышамі, якія ніяк не маглі ды не хацелі ўтаіць сваю радасьць, што яны едуць дамоу, сьпяваючы і танцуючы ў такт гармоніку.

У губэрскім горадзе, куды ён прыехаў, ён амаль нікога з знаёмых не знайшоў. Новы старшыня губвыканкому, незнаёмы чалавек, новы сакратар губкому, ва ўсіх установах сядзелі новыя таварышы, сухія, чужыя.

Паўтары гады таму сад губвыканкому знаходзіўся ў надзвычайна хаотычным стане. Паркан быў зруйнаваны, кветнік раскапаны. Будынак быў вельмі запушчаны, бальком зламаны.

Зараз ён убачыў на рыштаваньнях некалькі дзесяткаў рабочых, якія правілі, бялілі знадворку сьцены, майстравалі. Увайшоўшы ў выканком

ён убачыў, што падлогі блішчаць ад новай афарбоўкі, вакол сьцен стаялі крэслы і сталы таксама нанова адпалітураваныя. Дзяўчаты хадзілі з пакою ў пакой, такія сытыя, здаволеныя.

„Губернское присутствие“, падумаў Глонц і сам сябе пасароміўся.

— Праўда, чаму гэта нашы таварышы павінны працаваць у брудзе і цясноце.

Глонц быў вельмі ўзрушаны тым, што вялікі інтэрнат для адказных партыйных і профэсыянальных працаўнікоў быў ліквідаваны, цяпер у гэтым доме організавалі рэсторан, дзе за наяўныя грошы кожны можа ўсё атрымаць.

Глонц зайшоў у комунальны аддзел з ордэрам на пакой. Ордэр ён, праўда, хутка атрымаў, але ў прыватным доме. Гаспадары сустрэлі яго даволі варожа.

— Пакой вы можаце атрымаць, але ніякага абсталяваньня і бялізны мы вам даваць ня можам.

— Але, як дэмобілізаванага чырвонаармейца, мы вас як-небудзь упарадкуем на адну ноч.

Ужо ідучы начаваць ён за 500 тысяч рублёў купіў мясцовую газэту, дзе прачытаў два паведамленьні, якія яго вельмі зацікавілі. На першай старонцы былі выдрукаваны ўмовы для паступленьня ў губэрскую партыйную школу. На апошняй старонцы ён знайшоў корэспондэнцыю пад загалоўкам: „Яўрэйскія мэламэды перад судом“.

Сярод падсудных ён знайшоў імя і прозьвішча свайго бацькі Калман Краковер.

— Як мне рэагаваць на суд бацькі,—думаў Глонц.—Суб‘ектыўна можа ён і не вінаваты, але, у такім разе, ён, Глонц, становіцца цалкам супроць антырэлігійнай кампаніі, якая распачалася ва ўсёй краіне.

Даўно ўжо як ён ня меў ад бацькі ніякіх вестак. Што з ім? Як жыве ён. Ён яшчэ і яшчэ раз паглядзеў у газэту і ніяк ня мог адарваць вачэй сваіх ад слоў—„Калман Краковер“.

Ён рашыў з першым цягнікам выехаць на суд.

Як толькі Гонц вышаў з вагону, на вакзале яго папрыяцельску і пасяброўску сустрэлі фурманы.

— Шчырае табе дзень добры. Нешта зьбляднелі.

— Я заўсёды гаварыў, што сапраўдны комуніст—гэта таварыш Краковер.

— Прыехаў бацьку з бяды выцягнуць?

— Мы тут усе пра гэта і гаворым: сын комуніст, чырвонаармеец, а ім чамусьці ўздумалася бацьку судзіць.

— Што, Калмана прысудзяць?—Гэта-ж усё агітацыя.

У горадзе хутка распаўсюдзілася вестка, што Глонц прыехаў на процэс. Гэта яшчэ больш павялічыла інтарэс да процэсу, багата хто хацеў уласнымі вачыма паглядзець на свайго ворага і прыяцеля Глонца.

Гандляры зьбіраліся групамі, гаворачы пра процэс і Глонца.

— Ён зноў возьмецца за нас.

— Дурны ты! А як яго ня было, дык хіба нас шкадавалі?

— А калі будзе...

— Усё ад фінінспэктара залежыць, каб яго выкарчавалі.

— Тут ня фінінспэктар вінаваты, а рэволюцыя.

— Яшчэ чаго ўздумалі—рэволюцыя. Дакуль гэта: паўгода, год, ну няхай два гады. Пяты год падыйшоў ужо. Колькі тады гэта цягнулася рэволюцыя... Тады хутка ўспакоілі яе...

— Табе кажуць, што гэта рэволюцыя, дык мусіш слухаць, што табе гавораць.

— Гісторыя ведае рэволюцыі, якія гадамі цягнуліся.

— Ша: „комсамолец“ гавора, больш павагі.

— А ты зайздросьціш, што мой сын комсамолец. Так... Можаш мне даравацьгэтую прыемнасьць.

— Я-б табе гэта дараваў, каб меў хоць-бы на пачын, што небудзь.

— Якія дурні да цябе пойдуць, калі пад носам коопэратыў?

— Мусіць нам ужо не падняцца.

— Ня мусіць, а факт.

— Вось Глонц едзе,—сказаў адзін.

— Гандляры кінуліся ўсе ўперад. Глонц сядзеў у фурманцы, бледны і стомлены.

— Таварыш Краковер, добры дзень,—сказаў адзін з гандляроў.

Глонц прывітаўся.

— Можаце казаць, што хочаце, яўрэі, але чаго-небудзь усё ж рэволюцыя ды варта... Ведаеце, што я хачу сказаць: Глонц усё-ж сапраўдны комуніст.

— Ты яшчэ хочаш, каб ён ня быў сапраўдным. Сын латутніка, калі дабраўся да гэткага стану, ды каб яшчэ ня быў сапраўдным...

## XX. Глонц наказвае

Абедзьве мясцовыя газэты даволі багата высьвятлялі пытаньне адносна хэйдара. Чытач быў даволі багата інформаваны ўсімі дэталямі суду. Портрэт Калмана разам з портрэтамі іншых падсудных быў надрукаваны ў газэтах. Тутэйшыя сыоністы бегалі. мітусіліся, вырывалі адзін у аднаго мясцовыя газэты, выразалі артыкулы, зьбіраліся па кватэрах, спрачаліся.

— Гісторыя адпомсьціць ім за гэта, — стукалі кулакамі па сталу ў кватэры Бэнцмана.

— Няхай Эўропа ведае, на што здольны гэтыя рабаўнікі.

— Не, усё роўна, ня здолеюць яны зьнішчыць наш яўрэйскі народ.

— Комуністычныя барбары,—сказаў Бэнцман, заўзяты сыоністы, але ўбачаўшы праз вакно свайго асабістага ворага—Додла, разрыдаўся, а за ім яго жонка і іхні кватарант, былы агент па распаўсюджаньні віленскага часопісу „Ідышэр вэлт“.

— Супакоіцца,—кажу я вам,—вось убачыце.

— Не, гэта звыш яго сіл,—плакала Бэнцманіха, паказваючы на мужа:— браце, што рабіць?

Былы агент па распаўсюджаньні віленскага часопісу „Ідышэр вэлт“ сапраўды-ткі ня ведаў што рабіць. Ён маўчаў, глянуў на портрэт доктара Гэрцля[1]), скруціў цыга, ку, вышаў на кухню за вугалем, назад вярнуўся ў пакой і сказаў:

— Доктар Гэрцэл павінен быў-бы зараз жыць.

— А—а .. Каб зараз жывы быў доктар Гэрцэл, мы-б паказалі ім.

Калман трымаў у руках мясцовую газэту і ня даў веры сваім вачом, што гэта сапраўдны ён.

— Але тут-жа выразна напісана—Калман Краковер,—тлумачыў яму адзін.

— Гэта ня я, сказаў Калман: я-б гэтак не бедаваў-бы, каб сапраўды быў-бы гэткім, як тут у газэце.

Удзень Калмана наведаў вялікі госьць — сам амэрыканец, ці, як яму прычапілі імя ў майстэрнях Утылізацыі—„Ес“.

— Ес, вы маеце ад мяне пяць доляраў, рэб Калман. Папраўляйцеся...

І „Ес“ зачыніў за сабою дзьверы, падымаючыся ўверх па сходках скляпеньня, у якім жыў Калман.

Ужо за некалькі гадзін да пачатку судовага пасяджэньня ўвесь пляц вакол тэатру быў запружаны народам. Пры ўваходзе ў тэатр паказвалі кніжкі, мандаты пасьведчаньні, мітусіліся, спрачаліся, дзьверы рвалі. Але міліцэйская варта на чале з Гімпелем нават глядзець не хацела на гэтыя паперкі.

— Не парушайце парадак, таварыш. Тут ніякія мандаты не памогуць,— спакойна гаварыў Гімпэль: маюць моц толькі білецікі — чырвоныя, чырвоненькія.

Раптам увесь натоўп ірвануўся з тэатру на пляц. Натоўп убачыў, як група мэламэдаў, нібы крадучыся, падыходзіла да тэатру. І з імі ішлі таксама кіраўнікі зачыненых сынагог. У сярэдзіне гэтае групы вылучаўся лідэр сыоністых Бэнцман. А ў яго па бакох, як канваіры, ішлі яшчэ некалькі сыоністаў.

— Добра, а? Дажыліся? — перагаварваўся Бэнцман з знаёмымі гандлярамі.

— А вы пашто ідзяце?—спытала яго камісарыха.

— Я іду, чаму-б гэта мне ня ісьці? Хіба можна ў хаце сядзець?

— А білет?

— Падумаеш, інтарэс вялікі—і са зьнявагай паказаў скомканы, скамечаны чырвоны білецік.

— Дайце дарогу—яны ідуць.—Перарэзаў дарогу нейкі хлапец.

---

[1]) Организатар і лідэр сыоністых.

Падсудныя цягнуліся ў тэатр, як сваты на беднае вясельле, дзе нявеста ўжо некалькі месяцаў таму як зацяжарыла, — вясельле і ні вясельле.

— Этап вядуць,—сказаў адзін.

— Вось гэтак царская ўлада калісьці вяла бяспраўных яўрэяў, — крычаў колішні агент, і Бэнцман раптам зарагатаўшы сказаў:

— Д-о-б-ра, добра сказана, каб мне гэтак жыць.

— А ты, Калман, таксама? Вось гэта мне ўжо зусім не падабаецца. Ты-ж цалкам іхні?!

Хутка пасьля падсудных натоўп перарэзаў прадкомаўскі аўтомобіль. У ім сядзеў увесь склад суду. Паміж іншымі сядзеў дзядуля — стары бундавец і Ісроэль.

— Дзядуля, за што гэта мы ў пятым годзе змагаліся? — крыкнуў нечы голас ззаду—а ты, Ісроэл, таксама, эх, халера на цябе.

На выгукі ніхто не адказваў. Адзін за другім яны спакойна сышлі з аўтомобілю і ўвайшлі ў тэатр. За імі зноў зачыніліся дзьверы.

Паднялася заслона. Абаронца і прокурор ужо былі на сваіх мясцох.

Увялі падсудных. Додл выпрастаў свае грудзі, памацаў рэвольвэр, які вісеў у яго на баку, і крыкнуў:

— Устаць. Суд ідзе.

І застаўся стаяць проста, як гэта ўваходзіць у абавязкі судовага комэнданта.

Уся зала паднялася. Цяжкая маўклівасьць апанавала ўсю аўдыторыю. Суд усеўся ў глыбокіх крэслах за доўгім сталом, які быў засланы чырвоным абрусам. Старшыня пералістаў старонкі судовае справы, агледзеўся, кашлянуў некалькі разоў і пачаў чытаць абвінаваўчы акт. Падсудныя паціскалі плячыма і нэрвова падымаліся з сваіх месц.

Зусім нечакана на сцэне паказалася некалькі ўзброеных чырвонаармейцаў. Гэта стварыла нейкі настарожаны настрой у залі.

— Нас ашукваюць, у пастку заманілі.

— Якая тут агітацыя? Дзе агітацыя?

— Барбарства.

— Ты выкінуў Крыга і заарыштаваў.

— Гэта вы можаце. Што вы яшчэ можаце?

Званок нэрвова заклікаў да парадку. Чырвонаармейцы больш блізка падышлі да падсудных. Додл шукаў у аўдыторыі тых, хто парушаў парадак.

— Грамадзянін Краковер: станавецеся. Ваша імя?

— Гэта я...

— Адказвайце, падсудны, на ўсе запытаньні, якія вам запрапануе суд...

— Колькі вам год?

— Каля шасьцідзесяці.

— Шэсьцьдзесят?

— Не стае яшчэ аднаго году.

— Чым займаецеся?

— Вінаваты,—я быў мэламэдам.

Заля зарагатала.

— Грамадзяне,—падняўся з свайго месца старшыня суду, пачакаў крыху і сказаў:

— За перашкоджаньне суду ў час яго работы, згодна кодэксу законаў, кожны штрафуецца грашыма і выводзіцца з залі судовага пасяджэньня.

Бярэце гэта пад увагу, таварыш комэндант.

— Вы што, вучоны крыху?—перайшоў зноў старшыня да пытаньня падсуднага.

— Якая розьніца,—адказаў Калман.

— Вы вучылі дзяцей рабочых і таму суд цікавіцца, ці ведаеце вы самі што-небудзь.

— Бязумоўна—калі вучыш людзей чаму-небудзь, значыцца тое-сёе сам ведаеш.

— Усё-ж, што вы ведаеце?

— Я, напрыклад, магу маліцца, магу кадыш [1]) гаварыць.

— Навошта трэба ўмець кадыш гаварыць?

— Дзіўнае пытаньне, кожны яўрэй павінен умець кадыш гаварыць.

— А лічыць вы можаце?

— Лічу...

— Глянь,—пацiснуў плячыма малады адвакат у бок свайго суседа,— глянь, як судзьдзя трымае сябе, няхай-бы хоць раз ухмыльнуўся.

— Ён сябе занадта добра трымае, бо хто-ж ён такі? Шавец. Разумееце? Ш-а-в-е-ц.

На кожнае новае пасяджэньне суд прыцягваў усё новыя ды новыя масы. Пра суд ужо гаварылі ў ятках, рыбным рынку, у местачковай гасьцініцы. Аднойчы да будынку суду падышоў барадаты яўрэйскі селянін з просьбай:

— Я хачу яўрэйскае слова пачуць.

— Хто вы такі?—спытаўся Гімпель.

— Яўрэйскі селянін,—адказаў той.

Яго ўпусьцілі ў тэатр.

Час-ад-часу, ня гледзячы на ўсе ўжытыя захады, суд прымаў формы вялікага мітынгу. Лідэр сыоністых сказаў: — вы не павінны забараняць хэйдар, бо вы самі, тыя, хто зараз судзіце хэйдар, у гэтым хэйдары вучыліся.

У залі пачуліся воплескі, і рабочая аўдыторыя чакала тэрміновага і вострага адказу на гэту заяву, які адразу быў дадзены старшынёй суду.

[1]) Кадыш—памінальная малітва па памерлых бацькох.

— Сьведкі,—падняўся ён абураны,—вы кажаце, што мы самі вучыліся ў хэйдары і таму мы павінны абараняць гэты хэйдар. Але мы, што сядзімо тут, а таксама значная частка аўдыторыі гэтае залі ня толькі ў хэйдар хайдзілі, але і ў турмах сядзелі, у Сібір былі засланы. Ці ня думаеце вы, што пагэтаму мы павінны абараняць і турму і Сібір?

У залі ўзьняўся гармідар. Нейчы голас з галёркі крыкнуў:

— Чаго вы цэрамоніцеся тут з ім, выкіньце яго адсюль.

---

Калі Глонц саскочыў з фурманкі, каля дзьвярэй суду стаяў міліцыянэр Гімпель. Глонц блізка да яго падышоў і расцалаваўся з ім.

— Як жывеш, браце?

— Вось як бачыш... Дзеці мае, дзякую божа, у людзі вышлі. Сын на фабрыку, дачка ва унівэрсытэце.

— Комсамольцы?

— Абодвы.

Глонц увайшоў у будынак. У калідорах гудзела, як у вульлі, каля дзьвярэй судовага пасяджэньня страшэнная штурханіна.

— Глонц, Глонц,—пачуліся галасы.

Міліцыянэрам давялося адціснуць плячыма ўвесь натоўп, які хацеў прарвацца ў залю. Асьцярожна адчынілі яны дзьверы і ўштурхнулі туды Глонца.

Глонц быў узрушаны ўрачыстасьцю, якую ёя знайшоў тут, у залі суду. Сярод групы падсудных ён ледзь знайшоў свайго бацьку. — Як пастарэў ён.—Дык вось гэта яго бацька, але ў гэты час ён адчуў на сабе погляд многіх сот вачэй.

— Глонц прышоў.

— Глонц,—Глонц.—Глонц.

— Я маю пазачарговую заяву,—сказаў Ісроэл, які быў тутэйшай організацыяй вылучаны ў якасьці абаронцы на гэтым процэсе:—тут у залі знаходзіцца сын аднаго з падсудных, грамадзяніна Краковера, які едзе зараз з фронту. Яго рэпутацыя...

— Заклікаю вас да парадку, абаронца. Перад судом усе роўныя,— заўважыў старшыня.

— Для пролетарскага суду ня ўсе роўныя.

— Заклікаю вас да парадку... Абвяшчаю перапынак на пяць хвілін.

Ісроэл шпарка саскочыў з судовай эстрады, расцалаваўся з Глонцам узяў яго за руку і пацягнуў да бацькі.

Увесь натоўп праводзіў вачыма Глонца і Ісроэла. Стары Калман быў надзвычайна ўсхваляваны ад навіны, якую Ісроэл агаласіў з судовай эстрады.

— Чаго ты стаіш, як аслупянелы, вось твайго сына вядуць да цябе, можаш ужо ўпэўненым быць...

Глонц падышоў да бацькі. Стары цяжка апусьціўся на лаўку, нізка схіліўшы галаву. Каля яго сеў Глоңц. Крыху памаўчаў. Ён паклаў руку на бацькаву сьпіну.

Да іх, міргнуўшы вокам у бок Глонца, падышоў Ісроэл.

— Вы хочаце прымаць удзел у процэсе ў якасьці сьведкі? Я лічу, што суд вам гэта дазволіць.

— Я маю багата пра што расказаць. Я хачу пазнаёміць суд з некаторымі эпізодамі з маіх дзіцячых гадоў, калі я яшчэ ў талмудтойры вучыўся.

Калі аднавілася судовае паседжаньне, Ісроэл папрасіў суд прыцягнуць у якасьці сьведкі па гэтым працэсе сына Калмана Краковера. Суд задаволіў просьбу абароны.

Допыт Глонца распачаўся цэлым радам запытаньняў фармальнага характару. Глонц адказаў, што ён 24-гадовага ўзросту, што з 1917 г. ён комуністы, што зараз едзе з фронту, што прымаў ён удзел у цэлым радзе баёў супроць бандыцкіх выступленьняў. Горад даволі добра ведаў Глонца. Ведалі па рэквізыцыях, ведалі, як чэкіста, ведалі, як камісара, як упаўнаважанага ў цяжкія часы ваеннага комунізму. І таму ўсім гэтак хацелася самім паслухаць, што скажа суду Глонц, калі на лаве падсудных сядзіць яго, Глонцаў, бацька.

Глонц расказаў адносна местачковай талмудтойры, дзе ён вучыўся.

— Цяпер, калі я ўжо вырас, я пачынаю разумець, якую ролю адыгрывалі мы, дзеці беднякоў, у агульна-асьветнай сыстэме тых часоў. Мала таго, што ў хэйдарах і талмудтойрах нас калекамі рабілі, дык нас яшчэ прымушалі выплакаць райскае жыцьцё для нашых крывавых ворагаў, для нашых прыгнятальнікаў. Мы, дзеці, ніяк не маглі зразумець, чаму гэта, калі памірае багаты чалавек, мы, ад роду чужыя для яго талмудтойрэнікі, вымушаны на псалтыры горла надрываць... Псалтыр. Псалтыр... Хто з вас ведае, што гэта такое псалтыр? Я чуў, што ў псалтыры ёсьць поэзія. Мажліва. Але я адчуваю жудасную агіду да псалтыру. Псалтыр выклікае ў маіх успамінах юнацтва годы талмудтойры, — талмудтойру, гэтую самую ганебную інстытуцыю, якую багатыя калі-небудзь стварылі для бедных. Як толькі да маіх вушэй даходзіць слова „псалтыр“, дык у маіх вачох адразу паўстае багатае яўрэйскае каханьне, тлустасьцю залітай мадам, пузатага буржуя, майго рыжага рэбэ, які як мог зьдзекваўся толькі таму, што я быў сынам бедных бацькоў... Вы ведаеце, таварышы, што азначае чорнае сукно? Для вас гэта звычайны матэрыял на штаны, але для мяне гэтае чорнае сукно такі мачорны матэрыял, які выдаюць бедным талмудтойрэнікам за тое, што яны чытаюць псалтыр за багатых.

— Падавай, Глонц, падавай,—крыкнуў з месца „кароткастанны“. Каб мне гэткае жыцьцё, як усё гэта чыстая праўда.

— Калі першы раз я ўвайшоў да нашага тутэйшага багацея рэкві-

заваць крыху з яго дабра, каб упарадкаваць жыцьцё нашага гарнізону мне тады здалося, што гэта я ўваходжу ў дом тае капіталісткі, за якую я разам з сваімі таварышамі па талмудтойры бога маліў...

Амэрыканскі корэспондэнт, які меў намер тэлеграфаваць у сваю газэту як комуніст выступае прокурорам супроць свайго бацькі—мэламэда, пачаў грызьці аловак і абапёршыся на крэсла, задумаўся:

— Ленінскі ўплыў, відаць, не такі ўжо павярхоўны, як можа шмат каму здаецца,—рашыў амэрыканец,—і пачаў густа, густа заносіць у свой блёкнот уражаньні ад выступленьня Глонца.

Вакол тэатру швэндаўся вялікі натоўп, які з нецярплівасьцю чакаў прысуду. Яшчэ ў поўдзень суд пайшоў на нараду.

— Чаго гэта цягнецца столькі?—меркавалі яўрэі.

— Суд!

— Дурны, прысуд ужо даўным даўно ляжыць гатовы ў кішэні судзьдзі.

— Але-ж бачыш.

— Табе-ж кажуць, што прысуд даўно ўжо надасланы быў з губкому.

— Дык чаго яны столькі радзяцца?

— Для блізіру.

Шэсьць міліцыянэраў шпарка падбеглі да тэатру.

Агэнт па распаўсюджаньні часопісу „Ідышэ вэлт“ ледзь стрымаў Бэнцманаву жонку, якая таксама шпарка пусьцілася бегчы з плошчы.

— Давайце пойдзем ад гэтых рабаўнікоў.

— Тут здаецца пахне сьмяротным прысудам.

— Ня інакш.

Галава высунулася з паламанага вакна з галёркі і крыкнула.

— Прысуд!

Злосна і моцна натоўп пачаў штурхацца да ўваходных дзьвярэй тэатру, але тым з большай сілай стрымлівалі конныя міліцыянэры гэты націск і пашыралі вольнае месца плошчы.

Хутка расчыніліся абедзьве дзьверы тэатру. Першым паказаўся Гімпель. За ім сьвяточны Додл, за ім пусьціўся з тэатру ўвесь натоўп які хутка перамяшаўся з тым, што чакалі на пляцы.

Вышлі ўсе падсудныя, стомленыя, абросшыя і запалоханыя.

— Рукі кароткія,—пераможна біў сябе ў лоб Бэнцман.

— Добра, што пазбавіліся ўрэшце ад гэтага ўсяго, — гаварылі сабэ кіраўнікі сынагогі і, не зважаючы на ўвесь натоўп, пасьпяшылі хутчэй дахаты, каб там крыху адпачыць ад хваляваньня гэтых дзён, а камісарыха, узяўшы пад руку свайго мужа, крыкнула на ўсю плошчу:

— Ці я гэта буду за ўсю абшчыну штраф плаціць? Каб яны так хварэлі.

Фолька занатаваў у сваім блёкноце:

— Давайце вылічым,—гаварыў ён,—колькі гэта ўсяго нам прыдзецца

ўнесьці за гэтыя чатыры паршывыя хэйдары... Ба — гэта ўнесьці прыдзецца... Што я вам казаў? Я-ж вам казаў, што ўсё гэта толькі пропаганда.

— А трыста залатых дзесятак—гэта таксама пропаганда?

— Гэта, яўрэі мае, грошы за вучобу.

— Добра, а мэламэды, як? Іх-жа да вастрогу прысудзілі?

— Умоўна.

— Што гэта за рахуба?

— Гэта якраз разумная рэч. Зноў пойдзеш у мэламэды—у вастрог пойдзеш, ня будзеш мэламэдам—усё роўна глыбока ў зямлі ляжаць будзеш, але затое ў вастрог не пасадзяць.

Калман Краковер гэтак сама, як і іншыя падсудныя, быў пакараны даволі строга. Гэтае думкі прытрымліваўся ўвесь натоўп. Калман Краковер быў прысуджаны да 6 месяцаў прымусовых работ. Ён павінен быў на працягу 6 месяцаў абслугоўваць кравецкай работай чырвонаармейскі атрад, які стаяў у горадзе. Вялікае задаваленьне выклікала пастанова суду аб тым, каб хадайнічаць пэнсію за Калмана, як за інваліда.

Прысуд адносна Калмана быў ня зусім выразны...

## XXI. Вучыцца, вучыцца, вучыцца!

Як скончыўся суд, Глонц выехаў у губэрню. Ён увайшоў у губком, але не знайшоў там ніводнага знаёмага чалавека. Ва ўсіх аддзелах сядзелі новыя таварышы.

Глонц адчуў сябе неяк чужым. Гэтак ён некалькі дзён бадзяўся па гораду. Сустрэў старых знаёмых, якія часу ня мелі спыніцца і з ім пагаварыць. Сустрэў на аўтомобілі тав. Гірушкіна, які за гэты час ужо быў перакінуты на работу з ЧК у камісарыят па гандлю. Але Гірушкін таксама яго не заўважыў.

Вярнуўся ён дахаты, калі ўжо сьцямнела і з цэлай ахапкай газэт кінуўся на ложак. Праз некалькі хвілін ён пачуў стук у дзьверы. Глонц саскочыў з ложку і адчыніў дзьверы.

— Дык гэта сапраўды ты, Глонц?

Каля дзьвярэй стаяў Пётра, а ззаду яго... хто гэта стаіць?

Глонц добра ўглядзеўся і крыкнуў:

— Ханка.

Расцалаваліся.

— Праз газэты мы даведаліся пра твой прыезд,—сказала Ханка.— Паказваю Пётры ў газэце прамову тваю, дык ён мне веры не дае. Кажу яму: гэта сапраўды ён. Дык мы рашылі прыехаць сюды, каб пабачыцца... Што, ты мяне не пазнаў? Пастарэла?

— Дзіва,—сказаў Пётра:—Гэткая работа—дзіцячы генэрал—яна-ж камандуе ўсімі дзецьмі ў Лесарубаўцы. Яна-ж жах наводзіць на ўсю вако-

ліцу. Бандыты ад яе на дзесяць вёрст уцякаюць. Мікола аж дрыжыць перад ёй.

— Ну, разгаварыўся,—сказала Ханка.

— Растлумачце мне як-небудзь, што тут здарылася,—нічога не разумею,—сказаў Глонц.

Ханка расказала, што дзіцячы дом знаходзіцца зараз у Лесарубаўцы, што яны маюць там застацца аж да верасьня месяца.

— Ведаеш, хто тут у горадзе?—сказаў Пётра Глонцу.

— Не кажы яму, Пётра, не кажы яму.

— Ён ужо ведае.

— Ня ведаю,—адказаў Глонц моцна пачырванеўшы.

— Ага! Ня ведае... Шурка, Шурка.

— Так,—сказала Ханка,—бацьку твайго я забіраю да сябе. Ен сваё пакараньне адбудзе ў нашым дзіцячым доме. Яшчэ некалькі месяцаў ён пабудзе з намі ў вёсцы. Яму хопіць амэрыканскіх трантаў на цэлых тры гады работы.

— А Шурка з бацькам дагаварылася, каб твой бацька ў нас быў... З бацькі твайго зрабілі сьвятога Сэрафіма... Што гэта такое мэламэд? Што гэта за элемэнт такі? Я хачу ўзяць у цябе лекцыю аб яўрэйскай сэкцыі...

— У пытаньнях яўрэйскай сэкцыі Глонц таксама слабы,—сказала Ханка.

Яны ўтрох вышлі з пакою. Зайшлі ў рэстаран, дзе разам павячэралі. У даволі вясёлым і ўзбуджаным настроі Глонц пасьля вячэры вярнуўся дахаты.

Назаўтра адбываўся сход гарадзкой партыйнай організацыі. У парадку дню абгаварваўся даклад губкому. Сход адбываўся ў гарадзкім тэатры. Глонц таксама пайшоў на сход. Там ён сустрэў багата знаёмых таварышоў, а паміж імі тутэйшага загадчыка фінансавага аддзелу.

— Цудоўна, браце: у нас надзвычайна мала працаўнікоў, у мяне ёсьць якраз для цябе даволі зручная работа.

— Цяпер працаваць—не, браце. Мне трэба вучыцца.

— Нам усім асьветы не стае.

— Усім не стае, але мне яшчэ больш чым усім.

Сакратар губкому таксама зьвярнуў увагу на Глонца. Ва ўсіх галінах работы не хапала працаўнікоў. Адказны сакратар губкому, надзвычайна стомлены бязупыннай і напружанай працай на працягу многіх гадоў, з сухім кашлем і з глыбока запаўшымі вачыма, спрабаваў як-небудзь зрабіць уплыў на Глонца, каб ён прыступіў да работы, але на гэты раз Глонц быў надзвычайна ўпарты і не хацеў саступіць.

— Чаму гэта вы ня хочаце лічыцца з тым, што я самы звычайны малапісьменны чалавек? Калі ў вас ёсьць людзі, якія больш чым я патрэбны для партыйнай школы, дык тады пашлеце мяне ў мой прафсаюз будаўнічых рабочых.

Гэтым Глонц дамогся свайго. Організацыя командыравала яго ў партыйную школу.

Выходзячы з губкому, Глонц урэшце адчуў, што ён яшчэ цэлы дзень нічога ня еў і пачаў шукаць месца, дзе можна было-б чым-небудзь падсілкавацца. Цяпер можна ўсяго дастаць... За грошы... Шкада, што зараз ліквідаваны дарэмныя абеды хоць-бы тымі даволі доўгімі хвастамі, якія заўсёды стаялі ля дзьвярэй коопэратыўных сталовак. Неяк тады весялей было, чым зараз.

Тысячы дзяцей зараз падрасьлі і моцнымі шпаркімі крокамі ўвайшлі ў новае жыцьцё. Тысячы рабочых вярнуліся назад дадому з ліквідаваных франтоў. Моладзь з нейкім дзіўным імпэтам кідалася да кнігі, да газэты, да школы.

Ад поўдзесятка нікуды нявартых сярэдніх школ, якія гэтак дзіўна ізоляваны былі ад рабочых, зараз ніякага ўспаміну не засталося. На іх мясцох пачалі квітнець школы зусім іншага тыпу. Бедна, пажабрацку, са зламанымі шыбамі, з нізкай тэмпэратурай, з галоднымі настаўнікамі— але новая школа ня спыніла свой трыумфальны ход і з кожным днём усё больш і больш уцягвала ў сваю работу новыя кадры з найбольш адсталых рабочых мас. Вучыліся ўдзень, вучыліся ўначы: у клюбах, у залях, на рагу, дзе зьбіраліся рабочыя, са шпальтаў газэт, у судовых залях, на фабрыках, у агародах, у тэатрах і кіно.

Партыйная школа зьмяшчалася ў былой духоўнай сэмінарыі. На купалох царквы сэмінарыі яшчэ засталіся крыжы. Яшчэ не пасьпелі як сьлед адчысьціць і прывесьці ў парадак само памяшканьне сэмінарыі, але ў напаўцёмных калідорах, як у вульлі, зыкалі маладыя рабочыя і сяляне, моладзь перошкожцаў.

Тут сабралася ня тая моладзь, якая ўжо з дому прыяжджае з поўнай галавой ведаў і культурных звычак, якія ідуць на экзаміны надзейна і ўпэўнена. На гэты раз на экзаміны прышлі ўсе рабоча-сялянскія дзеці, якія першыя ва ўсёй сям'і сваёй пачалі вучыцца, якія пакінулі ў сябе дома страшэнную адсталасьць, матэрыяльную і духоўную беднасьць, як вынік шматвяковай эксплёатацыі, уціску і заняпаду.

Шмат хто з тых, хто сабраўся сюды, адчуваў сябе даволі няёмка ў гэтых даўгіх калідорах. Некаторыя даволі бездапаможна заглядалі ў кніжкі. Некаторыя нешта занатоўвалі ў сваіх сшытках. У адным пакоі адбываліся экзаміны. І тых, што выходзілі з гэтага пакою, адразу абкружаў цэлы натоўп, які імкнуўся даведацца, што робіцца ў тым пакоі.

Ужо вядома было, што ня ўсе будуць сёлета прыняты, што для нетаго, каб папасьці ў школу сёлета, трэба багата ведаць. За гэтыя некалькі год, што Глонц быў у войску, яго сьветапогляд даволі пашырыўся, але ўсё-ж ён сябе адчуваў слабым, каб упэўнена ісьці на экзамін.

У калідоры ён сустрэў аднаго знаёмага яўрэйскага рабочага, які спытаў яго:

— Паступаеш на яўрэйскае аддзяленьне?

— Не,—адказаў ён.

З актавай залі вышаў цэлы натоўп маладых рабочых, ззаду якіх, з нейкім сьпісам у руках ішоў настаўнік з акулярамі на носе, у вельмі паношаным сурдуце. Ён выклікаў некалькі прозьвішчаў, і паміж імі Глонц пачуў сваё прозьвішча. Глонц увайшоў у пакой. Каля стала сядзеў амаль дзесятак настаўнікаў з даволі спакойным выразам твару. Паміж імі—Алтар. Адкуль Алтар мог узяцца тут, падумаў Глонц. Алтар адразу Глонца пазнаў і ўхмыляючыся першы прывітаўся з Глонцам. Глонц даволі холадна адказаў на прывітаньне. „Здаецца, што тут для яго ня месца“—думалася яму.

Ля табліцы стаяла дзяўчына, якая досыць упэўнена выводзіла геомэтрычную тэорэму.

— А я тут ані нічога не разумею,—спужаўся Глонц.

Відаць, што экзамінатары былі задаволены яе адказамі. Яны перайшлі да пытаньняў, якія датычацца палітычных ведаў паступаючага кандыдата. Тут аказалася, што дзяўчына вельмі мала ведае, блытаецца ў адказах, а часам замоўчвае.

Урэшце яе вызвалілі. З куды меншай упэўненасьцю яна накіравалася да дзьвярэй. Глонц убачыў Шуру—у сандалях на босых нагах, у чырвонай хустцы на галаве і ў белай сукенцы.

Падышла чарга Глонца. Адзін з экзамінатараў пачаў з ім гутарыць на агульныя тэмы. Глонц сказаў:

— Мне, відаць, прыдзецца ў партыйнай школе працаваць больш чым астатнім маім таварышом. Я вельмі слаба падрыхтаваны.

— Добра, добра, мы ўсё прымем пад увагу,—адказаў той самы экзамінатар, перадаючы Глонцаву анкету другому.

— Ад матэматыкі, мне здаецца, мы яго вызвалім. Гэты экзамін ён яшчэ вытрымаў у 18 годзе, калі ён у цесьця майго рэквізаваў яго багацьце,—сказаў Алтар.

— А вашу долю ў гэтым багацьці я не закрануў, таварыш Алтар?—Спытаўся Глонц.

— Маю частку я дарую вам, таварыш. Факт таму, што я лектар матэматыкі ў партыйнай школе. Але вось цесьць мой, дык ён яшчэ па сёнешні дзень злосны на вас.

Экзамін ператварыўся ў даволі жвавую гутарку. Вызваліўшы яго ад экзамінаў, загадчык школы, паляпаўшы Глонца па сьпіне, заўважыў:

— Так, таварыш, мы не сумняваемся, што вы надзвычайна добры комуніст. Але ў сэнсе ведаў вам даволі многа не стае. Нам прыдзецца пра гэта заўтра пагаварыць. Вы зойдзеце да мяне, таварыш.

Выходзячы з пакою, Глонц паціраў рукі ад радасьці.

— Вучыцца, вучыцца, вучыцца,—паўтараў ён. Два гады засаб, па дзесяць гадзін, па пятнаццаць гадзін. Яшчэ ня позна! Я яшчэ вазьму навуку! Даволі мацаць у пацёмках, як сьляпы.

Ён быў вельмі моцна ўзрушаны. Ён адчуваў сябе абноўленым.

У калідорах ужо цёмна было. Хлопцы штурхаліся, дурыліся. Да тэлефоннай трубкі падышоў загадчык школы.

— Чаму вы сьвечкі не даеце? Што кажаце? Вадаправод не дае вады? А раней забясьпечыць школу вадой вы ня здолелі?.. Якім тонам я гэта павінен з вамі гаварыць? Вы-ж дзяржаўная ўстанова... Дык і павінны лепей працаваць, чым ранейшая прыватная станцыя... Я вам лекцыі ня чытаю. Вы спынілі работу партыйнай школы... Спэц...

У калідоры ўжо было даволі цёмна. Моладзь пачала запалкі паліць. Адзін сьпяваць пачаў. Другія падхапілі. У другім кутку стварыўся другі хор. Абодвы гэтыя хоры імкнуліся як мага перакрычаць адзін аднаго.

Два яўрэі спыніліся каля адчыненага акна.

— Што, нейкае вясельле ў іх? Ці чуеш што тут робіцца?

— Я тут блізка жыву. Папы як тут жылі ня крычалі столькі.

— Чаго ім не стае? Што хочуць, тое робяць. Яны-ж гаспадары— дык вось рохкаюць як сьвіньні.

Глонц стаяў каля вакна, ён спытаўся:

— Калі тут папы жылі, дык тады лепей было?

— Нам, старым яўрэям, тады бязумоўна лепей было: тады не забаранялі ні нашага бога, ні іхняга бога,—адказалі яўрэі адыходзячы ад вакна.

Раптам нешта бліснула ў вачох. Уваход, калідоры, залі былі поўныя сьвятлом. Глонц шукаў Шуру ў калідорах, у залях, але нідзе яе не заўважыў.

Пачалі званіць на вячэру. Каля дзьвярэй сталоўкі, што глуха зачынены былі з сярэдзіны, выцягнулася чарга, якая на працягу аднэй хвіліны вырасла ва ўсю даўжыню калідору—маладыя і старэйшыя, вясковыя твары і загартаваныя гарадзкія рабочыя, брунэтыстыя яўрэйскія дзяўчаты і беларускія дзяўчаты ў вясковых вопратках. Глонц не сьпяшаўся на вячэру. У доўгай шумнай чарзе ён шукаў Шуру, але яе тут ня было.

Неяк Глонцу ня верылася, каб яна сёньня паехала дахаты. Засмучаны, з нярадасным настроем ён сеў за стол.

Дахаты ён ішоў з вялікай групай прыехаўшых таварышоў, такіх як і ён сам, якія адкінулі ў бок усякія іншыя думкі, што маглі хоць чымнебудзь перашкодзіць агульнаму жаданьню:

— Вучыцца, вучыцца, вучыцца.

## XXII. Парамі

Каротка-тэрміновыя курсы, якія Шура скончыла ўвесну, былі рэорганізаваны ў нормальную партыйную школу, у якую Глонц зараз экзамінаваўся.

Ідучы дахаты з экзаміну, яна зайшла да брата, да Пётры, які жыў у „Савецкіх нумарох“.

Яна хацела там знайсьці Глонца. Яна ніяк не магла зразумець, чаму гэта яго ня відаць, а ёй вельмі хацелася яго пабачыць. З Глонцам яна была зьвязана з першых крокаў свайго ўваходу ў грамадзкае жыцьцё— і Шура вельмі сумавала па ім, чакала весткі пра яго.

Шура сустрэла Калмана, спыніла яго і запрасіла да сябе ў вёску. Стары даволі шчыра падзякаваў і пра сябе падумаў, чаго хоча ад мяне гэта маладая здаровая дзяўчына? Добра, што яго старая заўчасна памерла... Яна-б вялікай радасьці ад свайго сына ня мела.

А Шура, разьвітаўшыся з старым Калманам, раскрыла тутэйшыя газэты і яшчэ раз прачытала Глонцаву прамову, якую ён гаварыў на судзе.

У нумары яна застала абодвых—Пётру і Ханку. Яны рыхтаваліся ў дарогу. Ханка зьбірала ўсякія сшыткі, малюнкі, паперы, картон, а Пётра набіваў свой наган.

— А ты, Ханка, забяры кулі. Яны яшчэ спатрэбяцца... А ты, Шурка, чаго сама ходзіш? А дзе ён? Што, яшчэ не расцалаваліся?

— Цалаваліся—дык цяпер табе лепей?—самотна адказала Шура, а Ханка падбегла да Пётры і кулакамі пачала яго валтузіць.

— Чаго гэта цябе так турбуе, Пётра?

— Ты-ж заб'еш мяне, Ганка.

— Не, Ганка... На табе яшчэ.

Пётра падставіў абодвы бакі.

— Дай у гэты, нешта чэшацца тут.

Шура сьмяялася, яна расказала:

— Стары едзе ў Лесарубаўку.

— Ды мяне ў дзіцячы дом.

— А жыць ён будзе ў нас. Ён сказаў, што есьці разам з дзецьмі яму ня можна. Я ніяк не забудуся, як стары латаў салдацкія штаны пад мастом.

— Стары ўжо ваколіцу ўзрушыў,—жартаваў Пётра.

— Няхай-ткі гэты стары рабочы будзе ў нас у вёсцы.

— Вось дзіва будзе,—жартаваў Пётра,—вось дзіва ў вёсцы будзе.

Шура раззлавалася. Пётра падышоў да сястры і ўзяў яе галаву ў свае моцныя рукі.

— Ну, ня злуй, добры яўрэй Глонцаў бацька... Вось глянь, як пішу я яўрэйскі альфабэт. Дай аловак, глянь—а, б, в, г, выводзіў Пётра на вокладцы аднаго сшытку, які ляжаў пад рукамі, а Ханка, абапёршыся на яго сьпіну, пацьвердзіла, што сапраўды добра і правільна напісана.

— Ну, зараз бачыш... Давай, Шурка, мы едзем дахаты. Я цябе падвязу.

Яны ўтрох селі на фурманку. Пётра ўзяў у рукі лейцы, конь рушыўся з месца і панёс.

— Вось хто прагнаў белагвардзейцаў—гэта наш конь. Некалькі дзесяткаў тысяч коньнікаў—і ніхто нас не пераможа.

— Адным коньнікам мы не абыйдземся,—успомніла Ханка прачытаны газэтны артыкул.—Аэропляны, танкі, газы.

— Правільна, Ханка, правільна. Але вось такі конь... сьце-ра-жы-ся.

Яны пад'ехалі да інтэрнату. Шурка саскочыла з фурманкі і разьвіталася.

— Вітай Глонца,—сказаў Пётра.

— А ад мяне таксама вітай,—дадала Ханка.

Глонц стаяў ля ўваходу. Ён не адгукнуўся. Ен падняўся на марму-ровых ганак і засланіў ад Шуры ўваход.

— Дай, дай, таварыш, увайсьці,—узялася Шурка за ручку дзьвярэй і, узьняўшы галаву, шпарка пыталася:

— Язэп.

— Шура.

Яны дзьвярэй не адчынілі, наадварот, яшчэ больш шчыльна зачынілі спусьціліся ўніз з ганку.

Яны абодва адышлі далёка ад партыйнай школы.

Яна—Ігнатава дачка, а ён—Глонц, сухарлявы, касьцісты, з хваравітым зморaным тварам, шалёна-вялікімі вачыма, з якіх адно было крыху вышэй паднята да ілба,—для іх абодвых кароткай была гэтая летняя ноч.

## XXIII. У партыйнай школе

У пляне каротка-тэрміновых курсаў, якія Шура мелася скончыць уваходзіў рад экскурсій. Слухачы рыхтаваліся да паездкі ў Маскву. Сёньня ўсе слухачы мелі задачай—высьветліць становішча мясцовага гандлю. Рыхтавалі матэрыялы да тэмы: „Новая экономічная політыка і мясцовы рынак“.

Трэба было прынесьці з рынку некаторыя экспонаты. Шура супольна з групай таварышоў пайшла на рынак. Сялянкі, маладыя і старэйшыя, у белых хустках на галаве, у лапцёх ці босыя, з цяжкімі камашамі ў руках, швэндаліся вакол крам, засмаленыя на сонцы і ўзрушаныя. Targаваліся за кожную капейку, паўсюды наводзілі спраўкі адносна цэн, і, закасаўшы ўверх сукенку, выцягвалі з кішэні спадніцы схаваныя сярэбраныя і залатыя царскія монэты, а таксама і папяровыя савецкія грошы і разьлічваліся. Вялікі гандаль таксама быў на конскім рынку, прабавалі коняй, плацілі савецкімі, ставілі магарыча.

— Больш мы ўжо коняй не ямо. Мы маем ужо маладога савецкага каняку,—занатавалі партшкольцы ў сваіх блёкнотах.

Паміж фурманкамі, якія запрудзілі ўвесь рынак, валэндаліся гандляры, кабеты з кошыкамі ў руках, хадзілі мясьнікі. А крамнікі стаялі ля

сваіх новых, тонкімі дошкамі зьбітых крам, параскладаўшы каля ўваходу ўвесь свой тавар. Гандлявалі на тысячы, на мільёны, нават на мільярды.

Шура разам з двумя таварышкамі сваімі падыйшла да аднэй крамы.

Каля ўваходу стаяла бочка з дзёгцем, чыгуны, гарлачыкі паліваныя. Гандлявала ў гэтай краме старая зашмальцаваная яўрэйка.

— Прадайце мне чыгун,—сказала Шура,—яўрэйскі чыгунчык.

— Яўрэйскі? Ты чуеш, што дзеўка просіць?—Зьвярнулася старая да свайго мужыка,—яна просіць, каб мы ёй прадалі яўрэйскі чыгунчык.

— Яўрэйскі чыгунчык,—мармыча сабе стары пад нос і больш пільна ўглядаецца ў твар Шуры. У нас чыгунчыкі яўрэйскія—не яўрэйскія і не праваслаўныя.

— Не,—не супакойваецца Шура—мне чыгунчык яўрэйскі.

— Ай, ніяк ня вытрымаю, ніяк ня вытрымаю,—крычыць старая яўрэйка:—яна-ж мае рацыю. Яна-ж мусіць думае, каб мы ёй прадалі пасхальны чыгунчык. Дык што тут здарылася, праз паўтары месяцы пасьля пасхі, у дні тройцы прыходзіць сялянская дзяўчына ды просіць пасхальны чыгунчык. Ой, божа, што гэта за шалёны сьвет настаў!

Старая гандлярка ледзь падымаецца ўверх, здымае з верхняй паліцы два чыгунчыкі, на якіх белымі літарамі напісана:

*„Кошэр лэйпэйсах“* [1]).

— Ах, што ў краме часам можа заваляцца. Нейкі дзіўны сьвет, калі яўрэі ня купляюць іх, дык купляюць сялянскія дзяўчаты.

Варочаючыся назад па сходнях калідору партыйнай школы, Шура сустрэла Жозэ, слухача яўрэйскага аддзяленьня, вясёлага хлопца, які ня можа ніводнага слова выгаварыць па-расійску, але які абавязкова хоча па-расійску гаварыць.

Жозэ ўбачыў чыгунчык у руках Шуры, штурхнуў яе ў адзін з пакояў, дзе сабраліся каля дзесятка яўрэйскіх слухачоў.

— Таварышы,—пачаў ён гаварыць з варшаўскім акцэнтам,—гляньце, што Шура купіла. Вось гэты надпіс на чыгунку гэта-ж вялікая рэдкасьць, нават для нашага школьнага музэю. Ай, Шура, маладзец, і чаго гэта табе ў галаву ўскочыла?!

— Добра, добра, добра,—адказвае яму Шура па-яўрэйску.—Не, у музэй ня дам.

— Дык што табе трэба?

— Мне нічога ня трэба,—адказала яму Шура сьмяючыся.

— Дык аддай чыгунчык.

— Ня дам.

„Кошэр лэйпэйсах“,—разьняслося па ўсіх пакоях партшкольскага інтэрнату. Партшкольцы групамі зьбіраліся вакол Шуры.

---

[1]) Можна ім карыстацца ў яўрэйскую пасху.

Беларускія, латыскія і польскія таварышы таксама прышлі паглядзець Шурыну цікавую пакупку, але ня можна сказаць, каб іх апанавала гэткае вялікае зьдзіўленьне, як Жовэ.

Таварышы з яўрэйскага аддзяленьня занадта разьдзьмулі гэту гісторыю. „Кошэр лэйпэйсах" іх зацікавіла шмат па якіх прычынах.

— Гэта сродак, каб яўрэйскія ганчары маглі конкураваць з неяўрэйскімі, гэтак імкнуліся некаторыя таварышы абгрунтаваць гэты факт.

Увечары Глонц знайшоў Шуру за сталом, дзе яна пісала дадому ліст. Яна прасіла бацьку, каб ён надаслаў ёй што-небудзь з харчоў на дарогу. Яна едзе ў Маскву.

— Што гэта ў цябе?—спыніўся Глонц, узяўшы чыгунчык у рукі.

— Нічога.

— Навошта ён табе?

— Старому, бацьку твайму, шкада яго,—адказала Шура не падняўшы галавы з ліста.

— Бацьку гэта ня трэба, Шура,—адказаў Глонц.

— Не.—Падняла яна галаву і яшчэ глыбей усунула грабень у свае валасы (яна была падстрыжаная):—а я хачу старому гэтую прыемнасьць зрабіць. Ня хочу, каб ён на мяне гэтак злосна глядзеў, ціха дадала яна і, падсеўшы бліжэй да Глонца, заклеіла конвэрт.

---

— Прыдзецца ехаць у горад,—сказаў Ігнат,—атрымаўшы Шурын ліст. Вось і выводзяць у людзі нашых дзяцей. Я ледзь золак выеду ў горад, палажы ў торбу харчы. Не забывайся, што там ў школе колектыўна ядуць.

Ігнат запрог каня, зашоў у хату разьвітацца з Марыляй.

— Што ты наклала сюды? Спытаўся Ігнат,—бяручы торбу ў рукі.

— Хопіць ёй на некалькі дзён... Неяк самой хочацца Шуру пабачыць. Як ты думаеш, Ігнаце?

— Дык апраніся, паедзем.

Зьзяючы, пасьвяточнаму прыбранай вышла Марыля з хаты.

Каля царквы Ігнат здалёку ўбачыў мясцовага папа. Ігнат не хацеў спыняцца і гаварыць з ім. Ён пугаўём ударыў каня, але Марыля вынула лейцы з Ігнатавых рук—трэба-ж, каб поп благаславіў на дарогу.

— У горад? Наведваць дачку?—спытаўся поп.

— Вось бачыце, баця, сялянскія дзеці аж у Маскву едуць.

— А з Масквы назад з атрутай на вуснах.

Марыля пачала жагнацца.

— Што рабіць, бацюшка, новыя часы.

— Гэта, Ігнат, правільна, новыя цяжкія часы. Ці ведаеш ты хоць, што ў тэй школе, дзе зараз вучыцца твая Шура, калісь сотні праваслаўных людзей нашую асьвету атрымлівалі? Усе папы нашага краю. Так, былі, Марыля, добрыя часы для нашага рускага народу.

Поп, відаць, не сьпяшаўся, але Ігнат узяў лейцы ў свае рукі. Конь крануўся з месца.

— Як, перапужаў цябе стары, а? Палохаешся, палохаешся, Марыля.

— Не карай нас, божа, за нашыя грэшныя справы, Ігнаце.

Пад'ехаўшы да партыйнае школы, Марыля высока ўверх падняла галаву, пераҗагналася, а Ігнат выбраўся з фурманкі і па школьных сходнях падняўся ўверх у школу. У школе было надзвычайна шумна. Рыхтаваліся да вечарыны—апошняй вечарыны ў гэтым навучальным годзе, які хутка мае скончыцца. Мылі падлогу, пісалі і клеілі плякаты. Рыхтавалі выстаўку, працавалі і разам дурэлі, шумелі і сьмяяліся.

З другога паверху заклапочаная выйшла Шура, яна нават забылася прывітацца з бацькам.

— Чакай, Шура, выходзь на двор—маці сядзіць на фурманцы.

Дачка з бацькам вышлі ўдвох з школы. Шура падбегла да маці, а Жозэ босы, з закасанымі рукавамі, стомлены, брудны вышаў на двор і пачаў гутарыць з Ігнатам.

— Школа запрашае вас абодвых на сёнешнюю вечарыну. Узьяжджайце на школьны двор.

Тым часам Шура пасьпела са двара адчыніць вароты.

Паказаўся загадчык партыйнай школы тав. Эсрык, барадой абросшы яўрэй, яшчэ маладых гадоў.

— Добры дзень,—сказаў ён, зьвяртаючыся да прыехаўшых.

— А дачка мая, як яна вучыцца?—Спытаўся Ігнат, ня ведаючы, што рабіць і куды падзець свае рукі.

— Ага, яна-ж едзе ў Маскву. Яна пераходзіць у партыйную школу,— сказаў загадчык, усупіўшы свае худыя бяскроўныя пальцы ў мазолістую Ігнатаву руку.

На дварэ паказаўся Глонц. Ён прывітаўся з загадчыкам.

— Вы ідзеце да мяне?—Папрыяцельску спытаўся загадчык.—Мы хутка пагутарым. Вы ідзеце да мяне ў габінэт, а вы ў хату ідзеце.

Глонц прывітаўся з Ігнатам і Марыляй.

— Так, ты ня ведаеш яго?—спыталася Шура.

— Яўрэйчык нейкі,—сказаў Ігнат шырока ўхмыляючыся.

— Не, тата, гэта ня толькі яўрэйчык. Ты павінен яго ведаць. Гэта ён тады разам з Пётрам выратаваўся ад бандытаў.

— Ага, сапраўды-ткі ён, ратуй нас божа.

— Дык, чаго-ж ты перапужалася, як сялянская каняка перад трамваем. Сапраўды ён, пазнаў я яго,—сьмяяўся Ігнат.

Марыля паднялася з фурманкі, узяла жменьку сьвежага сена, пачысьціла алеем памазаныя камашы свае і яшчэ больш глыбока схавала пад хустку свае валасы.

Шура расьсьмяялася і сказала:

— А ну, Язэп, нясі гэтую да мяне ў пакой.

Глонц узяў торбу і разам з Шураю ўвайшоў у школу.

— Чорны такі,—сказала Марыла.

— Хто ведае, што добра, чорнае ці белае. Калі пан, гэты немец стары, гэты стары распусьнік згвалціў усіх нашых дзяўчат, тады добра было?

— Пан царкву нашу пабудаваў.

— За нашыя грошы, Марыля.

Зноў з нейкім запалам зьбег уніз Жозэ.

— Давайце сюды каня вашага, замкнём яго ў пуні, а вы, калі ласка, да нас.

— Харошы конь.

На Марыліным твары паказалася вясёлая ўхмылка, калі яна пагля-дзела на гэтага дзіўнага напаўголага вясёлага хлапца. Нейкі—такі вя-сёлы, пасяброўску жартлівы. Ці ён таксама яўрэй, ці зусім нейкай дру-гой нацыі?

Цяжка аглядаючыся па бакох, Марыля падымала свае ногі на высо-кія каменныя сходы, якія вялі наверх, у школу.

Сьцямнела. Усё больш зьбіралася гасьцей, і ў залях школы рабілася ўсё больш цесна. Партыйныя працаўнікі пералічвалі школьныя работы вучняў, выслухвалі паведамленьні і даведкі Эсрыка.

Моладзь зьбіралася ў вялікай залі. Там граў чырвонаармейскі ор-кестр. Жозэ, ужо добра апрануты, увёў у вялікую залю Ігната з Марыляй. Марыля аж пачырванела ад гэтага нязвычайнага сьвяточнага шуму, а Ігнат глыбока апусьціўся ў мяккае крэсла і, паклаўшы свае рукі на калені, чагосьці чакаў.

— Ідзем, таварыш, я вам пакажу нашу школу,—сказаў Жозэ, просячы прабачэньня за тое, што ён дрэнна гаворыць па-расійску.

— Не, нічога,—адказаў Ігнат і пашоў разам з Жозе па пакоях.

— Вось гэты чорны малюнак—гэта буржуй, імпэрыяліст, а чырво-ны—гэта мы.

Оркестр пачаў граць, і моладзь парамі пачала хадзіць па залі. Жозэ пасадзіў Ігната на месца і падышоў да Марылі.

— Можа патанцуем?

Партшкольцы абкружылі вясковых гасьцей.

— Казачка!

— Лявоніху!

— Галоп!

— Пакажы ім, яна можа, яна можа,—сказаў узрушаны Ігнат, пад-трымліваючы патрабаваньне маладога натоўпу.

Музыка зноў пачала граць. Раптам Марыля паднялася, падняла шырокую, саматужнага вырабу клетчатую спадніцу, палажыла свае рукі на шырокія плечы Жозэ, і гэтая пара рушылася ў скокі па вялікае залі. Увайшоў тав. Эсрык разам з сакратаром губкому.

— Слухач яўрэйскага аддзяленьня, і інтэрнацыяналісты з ног да галавы, добры актывіст, з яго выйдзе добры політасьветны працаўнік,— характарызаваў Эсрык танцуючага Жозэ.

Оркестр заграў лявоніху. Марыля, апусьціўшы шырокую клетчатую спадніцу, круцілася ўжо адна, і яе цяжкія мазаныя камашы даволі лёгка рухаліся па падлозе.

Тры сьветавых сыгналы паведамілі, што вечарына пачынаецца.

І таму адразу спыніліся скокі, і ўвесь натоўп, госьці і вучні, перайшлі ў вялікую залю, у былую школьную царкву, дзе зараз была зроблена трыбуна і стаяла шмат белых лавак на некалькі сот чалавек.

Вечарына пачалася выступленьнем тав. Эсрыка. Паміж іншых гасьцей, якія былі запрошаны ў прэзыдыум, быў таксама і Ігнат.

— Запрашаецца ў прэзыдыум такі і такі, выклікаў Эсрык прозьвішча і знарок крыху памаўчаўшы, Эсрык, громка ўзьняўшы голас, сказаў:

— А ад бацькоў-сялян у прэзыдыум запрашаем лесарубаўскага грамадзяніна, таварыша Ігната.

Ніхто не ленаваўся, ніхто не шкадаваў свае далоні, і гучна пляскалі.

Ігнат устаў з свайго месца, падняўся на сцэну і крытычна аб'вёўшы вачыма ўсю аўдыторыю, а таксама і крэсла, куды яму трэба сесьці, заняў сваё месца.

Ігнат атрымаў таксама слова для прывітаньня. Добра, што аўдыторыя даволі жвава рэагавала на самы факт яго зьяўленьня на трыбуне, і гэта давала яму мажлівасьць паволі сабраць свае вясковыя думкі і сказаць некалькі слоў.

— Я не магу гаварыць,—пачаў Ігнат,—я магу лепш араць і сеяць. Калісьці тут сядзелі папы. Зараз я бачу тут дзяцей сялян і рабочых— вось гэта добрая рэч, а не як мая жонка думае, што гэта нядобрая рэч... Гэта кажа яна, жонка мая. Рабочыя і сяляне разам,—вось гэта добрая рэч, усе нацыі разам—гэта ўжо зусім добрая рэч... Але, таварышы, мы яшчэ бедныя. Прыходзьце да нас у вёску. У нас яшчэ пануе цемра. Вам палова, нам палова. Вы яшчэ маладыя, дык памажэце нашай вёсцы,—закончыў ён сваю прамову і сеў.

Эсрык падышоў да Ігната і расцалаваўся. Оркестр ужо сам ад сябе, па сваёй уласнай ініцыятыве, выказаў вялікую актыўнасьць.

Сход ухваліў узяць шэфства над Лесарубаўкай.

А ўнізе, у сталоўцы, ужо быў падрыхтаваны для гасьцей сьвяточны стол, сьвяточны для тых часоў—з белым хлебам, рысам і нават з салодкімі рознымі закускамі.

## XXIV. Руйнуюць багоў.

Ячэйка партшколы ўжо ня ставіла пытаньне прынцыпова.

Ці зьнесьці званіцу, ці пакінуць яе на месцы. Пытаньне стаяла, як кажуць, у практычнай роўніцы—хто конкрэтна зробіць гэта, хто адпусьціць сродкі.

— Ніякіх сродкаў не патрэбна,—сказаў Глонц (ён быў прымацаваны да ячэйкі партшколы),—трэба толькі арганізаваць суботнік, уцягнуць у яго больш студэнтаў і рабочых. Гэта можна правесьці праз губком.

Губком адобрыў прапанову партшколы, і ў бліжэйшую суботу, раней, чым заўсёды, прачнуліся будынкі, якія абступілі старую сэмінарыю— прачнуліся ад гуду, ад стуку, якія несьліся з сэмінарскага даху.

— Паглядзі, Любачка, яны такі зносяць званіцу.

Мужчыны, жанчыны, дзеці—вялікі сьвяточны натоўп сабраўся на вуліцы, каля партшколы. Людзі стаялі, задраўшы ўверх галовы і выкрыквалі парады тым, што працавалі на даху.

— Мне здаецца, што ён павінен узяць управа.

— Не, улева. Якраз улева.

— К сабе, к сабе.

— Ад сябе, а не да сябе, разумнік ты. Ты хіба ня бачыш, што ад сябе?

Купал ужо стаяў абадраны, ускрыты, выпатрашаны. Але крыж яшчэ высіўся, як і раней, проста і цьвёрда. Нейкія двое сялян абхапілі крыж з двух бакоў і пачалі хістаць яго, усё больш напружваючыся і злуючыся. Але крыж, падобна здароваму зубу ў здаровай сківіцы, не падаваўся.

— Яўрэі, бачыце: вера яшчэ моцна трымаецца—крыкнуў нейкі старэнькі, апрануты ў бабскі бурнус.

З даху ляцелі ўніз шматкі бляхі, вялікія кавалкі гліны, цэглы, вапна. Некалькі дзесяткаў рук працавалі наверсе.

Сынагога ўжо чакала малельнікаў, але яўрэі, праходзячы каля сэмінарыі, абавязкова спыняліся, задзіралі ўгару галовы і з-пад іх суботніх сурдутаў выглядалі пажоўклыя краі талесаў.

— Ты толькі паглядзі як яны бегаюць па даху.

— А калі хто-небудзь з іх зломіць галаву—шкадаваць будзеш?

— Ах, бязбожнікі, бязбожнікі.

— У гэтую царкву яўрэйскія грошыкі ўкладзены.

— Глупства кажаш.

— Асёл са скрынкі [1]).

— А замест крыжа зорку...

— Не, шчыт Давіда.

— Ха-ха-ха...

— А мяне цешыць гэта. Чаму харальную сынагогу забралі?

— Цішэй, поп ідзе. Паглядзіце на яго. Нібыта яго і ня тычыцца.

— Бацюшка, бацюшка. Дрэнна і нашаму богу і вашаму богу?..

— Яўрэйскаму ня дрэнна.

— А харальную малельню гэта можна?

— Вы-ж яўрэі...

1) Маецца на ўвазе скрыначны збор, які бярэцца за права забою на „кошар".

— Яўрэі, хай яго нядобрае...

— Га?

— Ну, ды наконт страхі...

— Вялікая яму бяда. Усё роўна сэмінарская царква не давала прыбытку.

— Я чуў, што пяць папоў растрыгліся.

— О, гэты не адрачэцца. Будзь спакойны.

— Яўрэі не павінны былі лезьці на гэты дах.

— Скажэце, калі ласка, не павінны былі, а калі яўрэі будуюць царквы і фарбуюць царквы?

У гурток праціснуўся старэнькі.

— Расказвайце. Я за сваё жыцьцё расьпісаў дзесяткі два цэркваў. Ад самага архірэя атрымаў падзяку. А хто, павашаму, фарбаваў гэты дах?

Крыж нарэшце падаўся. Засталося толькі выкалупаць яго з гнязда.

— У пятлю захапеце яго,—крычаў зьнізу маляр.—Так, так, так. Цяпер спусьцеце яго... Вось так... Павальней... Ціха... Адыйдзеце там, гэй.

Каля сэмінарыі, стараючыся не затрымацца, прайшоў рабін. Ён пр а-нёс свой выкармлены ружовы твар праз грамадзянскую вайну, праз голад незачэпленым, падаўнейшаму пышна разьвяваліся яго чорная барада і доўгі бацькаў сурдут.

— Рамесьнікі, што вы тут робіце? Нашто вы цешыцеся з чужой бяды?

— Мы глядзімо як скідаюць багоў.

— Яшчэ моцны, моцны бог...

— Чый бог, рэбэ?

— Багоў крышыце? Косьці нашы крышыце. Кішкі з нас выпускаеце.

— Вы згаварыліся з папом, рэбэ?

— Я ня поп,—я равін.

— Чаму-ж вам баліць, калі мы крыж здымаем?

— Я не хачу, каб гэта рабілі дзеці яўрэйскага народу.

— Сьцеражыцеся, рэбэ, камень ляціць,—закрычаў Глонц, які раптам аднекуль узяўся.—А калі-б гэта рабілі праваслаўныя—было-б добра? Вам-бы тады не балела?

— Балела-б. Бо праваслаўны, які верыць, лепш за праваслаўнага, які выходзіць з сякерай на вялікую дарогу.

— Павашаму можна або верыць, або з сякерай выходзіць на дарогу. Сьцеражэцеся, рэбэ, крыж ідзе проста на вас.

Аднэй царкоўнай цыбулінай больш ці менш — губэрскі горад роўнадушна прайшоў каля гэтых падзей. У горадзе стаялі зачыненыя тры царквы. Не знаходзілася веруючых, якія-б узяліся іх утрымаць. Пастарэлі і каменныя будынкі. Дзіравыя стрэхі, разбураныя платы, пустыя двары, зарослыя крапівой. Сьцены цэркваў гублялі тынкаваньне, зьзялі глыбокімі пляшынамі.

У горадзе прызвычаіліся да таго, што пры ўваходзе некалі арыстократычнай хоральнай сынагогі заўсёды поўна рабочых, што грыміць у сярэдзіне дому, зьневажаючы храм, ваенная музыка. І да чырвонага сьцягу, які аздобіў шпіль сынагогі, прызвычаліся, і ўжо не здавалася дзіўным яркае ўбраньне дзіцячых „чырвоных куткоў“, якія выглядалі з вакон.

Прадыбае каля сынагогі старэнькая, прычыніць рукой вочы ад буйнага сьвету, пастараецца зазірнуць у асьветленыя вокны і замармыча пра сябе:

— Любачкі мае, як-жа тут зрабілі...

Здараецца, прыдзе на досьвітках да ранейшае сынагогі затурканы багамол з талесамі пад пахай, пастукае ў адны дзьверы—ціха, пастукае ў другія дзьверы — маўклівасьць. Разьвядзе рукамі і пойдзе ў двор шукаць „жывога чалавека“ і толькі там успомніць:

— Сынагогу забралі... тэ... тэ... тэ...

І пойдзе прэч, расчараваны і злы.

... А праз нейкі час хлопцы — маляры ўскінулі на вяроўках ва ўсю шырыню ранейшай сэмінарыі шыльду з тэкстам на чатырох мовах:

„Губэрская рабоча-сялянская партыйная школа другой ступені“.

— Яны абаснаваліся ўсур'ёз і надоўга,—гаварылі прахожыя — адны радасна, другія з бясьсільнай старэчай злосьцю.

## XXV. Мікола помсьціць

Пры ўсіх сваіх арганізацыйных талентах, Ханцы, з прыездам у вёску, не ўдавалася прыбраць у рукі дзяцей. З аднаго боку тут уплывалі адносіны вёскі, галоўным чынам Пётры, заўсёды спакойнага, усьмешлівага вясковага дырэктара, які здолеў у кароткі час ня толькі адбудаваць гуту, але так моцна прыцягнуць да сябе былую бундаўку, яе — Ханку·Пётра ня кожны дзень прыяжджаў у Лесарубаўку, і ў такія дні Ханка пасьля работы надзвычайна сумавала, горача чакала хвіліну, калі яго конь са ўзгорку пакажацца гэтак блізка, што яна зможа разабраць рысы Пётравага твару. З другога боку, дзеці неяк страціліся ў вясковай вольнасьці. Першы раз у жыцьці яны адразу ўбачылі сонца, столькі зеляніны, лесу, поля, кветак, і краявідаў, наогул шырокія прасторы. Дзеці ап'янелі ад гэтага новага паветра, яны не маглі знайсьці сабе месца, усё хадзілі, назалялі настаўнікам, усім цікавіліся, задавалі гэткія запытаньні, што часам самі настаўнікі ня ведалі, што адказаць.

На пэдагогічнай радзе загадчык яўрэйскага аддзяленьня, як заўсёды, праціраючы тоўстыя шклёнцы сваіх акуляраў, сказаў:

— Няхай насмокчуцца вёскай, няхай надыхаюцца і нагуляюцца. Гэта ўсё дзеці вузкіх, брудных і сьмярдзючых завулкаў, якія ўсе гады свае толькі і дыхалі пылам з сынагогі, смуродам з яткаў і ў дадатак да гэтага—лёс вайны... Няхай яны... Няхай...

Адкуль да характва мне, адкуль, дзіцё?
Калі шлях да палёў—праз чужых і сабак,
А завулак наш меў толькі бядняцкую груду
І ля кожнае дзьверы ахапачак бруду.

Загадчык вельмі любіў цытаваць вершы Рэйзіна.

Ужо на трэці дзень настаўнік прышоў скардзіцца — чаму гэта дзеці цягнуць радыску з агародаў, чаму гэта яны Улана сапсавалі.

Ханка засьмяялася:

— Наконт радыскі — маеце рацыю. Сёньня на сходзе абгаворым пытаньне. Больш цягаць ня будуць. Будзьце ласкавы таксама наведаць гэты сход. Але якое злачынства дзеці перад Уланам зрабілі,—пра гэта я ўжо і ня ведаю.

Вы, Галіна Якаўлеўна (гэтак Ханку звалі на вёсцы), сьмяецеся, а мне гэта зусім ня сьмешна. Яны забагата есьці даюць. Яны яго ўсякага сабачага нюху пазбавілі. Столькі дзяцей... Мы жывем у бандыцкім раёне, у мяне калісьці карову скралі, дык Улан цяпер ужо нікога нават блізка не падпушчае, а зараз баюся, што яны сапсавалі сабаку майго... Яўрэі ня любяць сабак, бо ня ведаюць, што такое сабака.

— Наадварот,—вы-ж самі кажаце, што дзеці любяць Улана. Гляньце, якая мяккая ў яго шкура, як аксаміт, гляньце, як ён ласьціцца да мяне.

— Вам добра, мадмуазэль, вы маладая дзяўчына, харчы ў вас дарэмныя, а жаніха таксама маеце. А мне вы сабаку сапсавалі... Так, зусім быў, забыўся пра гэта, няхай дзеці ня лазяць у сад, яны мне дрэвы псуюць.

Дзяцей усё вабіла на цьвінтар, які быў зачынены ад нядзелі да нядзелі. Там добра было гуляць у футбол, крокет расставіць. А некаторыя дзеці не задаволіліся толькі царкоўным пад'ездам: перабіраліся праз паркан на цьвінтар, у густую траву. А аднойчы нехта на ўсю Лесарубаўку крыкнуў:

— Хлопцы, гляньце!

З вакна царкоўнае званіцы паказаўся хлопчык з дзіцячага дому.

Дзеці вельмі рады былі гэтаму раптоўнаму здарэньню.

— Горад відны?

— Ня відаць,—закрычаў ён на ўсю Лесарубаўку.

— Пацягні за вяроўку.

— Ня трэба,—крычалі зьнізу больш спакойныя дзеці.

Гэты дзень быў асабліва выдатным. Папершае, дзеці мелі шчасьце бачыць вясковае вясельле. Пятнаццаць сялянскіх фурманак віхурай праляцелі паўз дзіцячы дом, узьняўшы цэлы слуп пылу. Ля дугаў панавешаны былі балабоны, бомы, званочкі. Сялянскія ногі зьвешваліся з фурманак, бабы напоўп'яныя ўголас сьпявалі. Зусім зразумела, што дзеці не маглі застацца ў баку ад гэтага сьвята, і ўвесь дзіцячы дом разам з Уланам выбег на дарогу.

— Вунь—жаніх з маладзіцай,—паказала пальцам дарослая Геня,— давайце іх вітаць. І пяць дзесяткаў дзяцей на ўвесь голас крыкнулі: „Гура!“ Жаніх з нявестай вельмі шчыра падзяквалі за гэты прыём, а сваты адчувалі сябе нібы ў раі ад гэтага ўрачыстага прывітаньня.

— Яўрэйскія дзеці.

Дарослая Генька пацягнула ў царкву групу дзяўчат, каб паказаць ім, як у сялян вядуць нявесту пад шлюб, а Абык зноў падняўся на званіцу і першы паказаў хлопцам, што вясельле скончылася.

— Пацягні, Абык, за вяроўку.

Ханка была ў ад'езьдзе. Настаўніка таксама ня было ў дзіцячым доме. Ні жывой, ні мёртвай выбегла Надзея Львоўна на двор і што было моцы крыкнула:

— Злазь, хутчэй злазь, злазь кажу!

— Надзея Львоўна, няхай пазвоніць,—прасіліся дзеці, а Абык, нібы не пра яго гавораць, пачаў зьверху паказваць дзецям усякія штукарствы. Зачапіўшыся за плянкі вакон ён зьвесіў на двор ногі і пачаў бомкаць у фарбаваную царкоўную сьцяну.

Галасы ўнізе падзяліліся. Частка, разам з Надзеяй Львоўнай, крычалі Абыку спусьціцца назад на грэшную зямлю лесарубаўскую, а другая частка крычала:

— Маленечкі, хоць маленечкі, Надзея Львоўна, дробненькі, маленькі, Надзея Львоўна... Абык, браце, пацягні разок.

З дарогі крычаў Мікола, як заўсёды пасьвяточнаму прыбраны і апрануты.

— Чаго стаіш, чаго? Ну, пазвані, пацягні за вяроўкі.

Больш ня думаючы, Абык пацягнуў за вяроўку і гулкі звон пранёсься па ўсіх лесарубаўскіх палёх і спыніўся ля ўскраю лесу. Абык спужаўся сваёй храбрасьці і неўзабаве зьявіўся ў пакоях дзіцячага дому.

Поп выскачыў з вялікай прамовай на двор.

— А што сяляне скажуць? Сабралі ў царкву цэлую грамаду дзяцей, паркан ламаюць, а цяпер? Каго вінаваціць будуць? Вас, Надзея Львоўна, і астатніх кіраўнікоў.

— Нічога, бацюшка, няхай жыдкі навучацца званіць,—зьявіўся аднекуль Мікола.—Іш, званар! Ха-ха-ха... Дзе гэты малайчына? Вось, добры званар вырасьце. Ха-ха-ха.

У вёсцы проста ня было чаго рабіць. Палі былі засеяны. Плыты прайшлі ўжо. Варта на гуце была даволі моцная. А тут раптам зьявіўся дзіцячы дом з цэлым натоўпам новых дзяцей. І Мікола цалкам адышоў ад свайго звычайнага, штодзеннага вясковага жыцьця і пачаў на сябе глянц наводзіць. Камашы, чорныя штаны, сіні пінжак—кароткі і нават вузкі—для форсу, бо ўсё-ж адразу відаць, што гарадзкая работа, ды не абыякая. Нават пра жылетку з гальштукам і тое не забыўся.

Мікола заўсёды пакрыўджаны пакідаў дзіцячы дом. І заўсёды Ханка. Здаецца, што ён, Мікола, гэтак далікатна з ёй гаворыць, па-гарадзкому,

здаецца, што ён мае густ у справах, разумее, усё-ж не абы-які кавалер. Часам нават з гармонікам прыходзіць, але ніяк не дагодзіш ёй.

— Мікола,—як кажа яму Ханка,—тут у нас паненак няма. Генька—яшчэ дзіця.

— Ого! Генька—дзіця! Яна-ж вышэй за мяне. Яе ўжо можна замуж выдаць—і прыгэтым зусім блізка падыходзіць да Генькі выказваючы жаданьне абняць яе.

Генька ўцякае ў спальню і хутка паказваецца праз вакно.

— Чаго яна хоча ад Мікалая, думалася Геньцы.—Здаецца добры хлопец.

Ханцы ніяк не ўдавалася адвучыць дзяцей не хадзіць да Міколы. Наадварот, іх надзвычай цікавіў Мікола. На рацэ ён ім розныя штукі паказваў, куляўся ў вадзе, стоячы плаваў, часта перацягваў дзяцей праз рэчку на другі бераг, а самае галоўнае ня толькі блізка падпушчаў да гармоніка, але часам нават і даваляў памацаць яго.

Сёньня было асабліва весела—Мікола хадзіў па ўсіх пакоях, па ўсіх спальнях, як у сябе дома. Генька стаяла каля люстэркі, прыхарашывалася, а дзеці бадзяліся ўзад і ўперад,—Ханкі няма.

Яшчэ раней Генька з натоўпам дзяцей пайшла ў канец вёскі на ігрышча. А ўвечары (сьвяточны дзень быў) разам з хлопцамі і дзяўчатамі прышоў Мікола, спыніўся на цьвінтары, сьпявалі, гулялі, скакалі. Зусім зразумела, што ўвесь дзіцячы дом быў тут у поўным зборы. Нават падмаляваная Надзея Львоўна і тая была тут.

Скакалі да позьняй ночы. У скокі ўцягнуты былі ўсе дзеці. Нейкі вясковы хлопец падхапіў Геньку, і парачка закружылася на растаптанай траве, за ёю другая пара, трэцяя. Мікола, ужо крыху п'яны, перадаў гармоніку другому і падышоў да Надзеі Львоўны:

— Полечку.

Надзея Львоўна неяк замяшалася. Ці зручна будзе адмовіць? Не, ня можа адмовіць. І яна пайшла танцаваць разам з Міколам. Увесь дзіцячы дом быў у вышэйшым экстазе.

Было ўжо даволі позна. Надзея Львоўна ўспомніла, што малым дзецям даўно ўжо час спаць, але і тыя ня краталіся з месца.

— Самі мы ня пойдзем. Таксама хочам глядзець.

Ужо бралася на золак, калі дзеці вярнуліся дадому пасьля сьвята. Яны ніколі гэтак моцна ня спалі, як на гэты раз.

Прачнуліся а дзесятай гадзіне раніцы. Праспала Надзея Львоўна і нават кухары.

Толькі калі прачнуўся ўвесь дзіцячы дом, дзеці агледзеліся што няма Генькі. Куды магла дзецца Генька? На рацэ, у садзе яе ніхто сёньня ня бачыў. Ня бачылі яе таксама і настаўнікі. Яе ложак стаяў засланы яшчэ з учарайшага дню.

Настаўнік капаўся ў градках агароду і нават ня глянуў у бок дзіцячага дому.

— Што яму да гэтага...

А Надзея Львоўна, яшчэ нават незачэсаная, стаяла каля Генькінага ложку і гаварыла:

— Бачце, да чаго скокі давялі.

— Вы-ж таксама танцавалі.

— Так, дзетачкі, мне цяжка было, дзетачкі, адмовіць яму.

— Дзетачкі раз, дзетачкі два, але Генькі няма,—перарваў гэтую недарэчную размову адзін хлапчук.

З крыкам уляцела ў пакой продукцыйная камісія.

— Нас абакралі.

Усе рушыліся ў клець.

Настаўнік ачысьціў рукі ад чорнае зямлі, якая прыстала да іх, і таксама падышоў да клеці.

— Зараз вы ўжо бачыце, што вы мне Улана сапсавалі?

— Усё пакралі,—расплакаўся хлопец з продукцыйнай камісіі. Пшанічную муку, цукер, салодкае малако, какао, крупу. Пакінулі толькі дзьве буханкі хлеба.

— А бялізна?

— Бялізна ўпарадку. Будзьце спакойны,—высунулася наперад малая дзесяцігадовая дзяўчынка,—у мяне ня скрадуць.

— Што з абедам рабіць?—спыталася кухарка.

Надзея Львоўна вынула з свайго портмонэціку ўсё, што ў ім было.

— Вось грошы, дзетачкі, трэба малака і бульбы купіць і абед прыгатаваць.

Паставілі бляшаныя кубкі, налілі гарачую ваду, сыпалі соль на хлеб, вадой запівалі, елі і маўчалі. Дзеці таксама адчувалі сябе вінаватымі. Толькі адзін хлапчук неяк сказаў:

— Каб Ханка не паехала, нас-бы не абакралі.

— Міколава работа.

З узгорку паказалася Генька.—Чаго ад яе хочуць, ёй ужо семнаццаць год, яна спацыравала з дзяўчатамі, у Краеўцах начавала, а цяпер назад вярнулася. Яна сёньня прывядзе спальню ў парадак і кухню памые.— Што, няшчасьце, нас абакралі,—расплакалася Генька.

Усе чакалі з нецярплівасьцю прыезду Ханкі. Група дзяцей, замяцаных і асірацелых, пайшла ёй насустрач, але праз нейкі час яны самотныя вярнуліся назад: відаць, прыедзе толькі ўвечары.

За ўвесь час настаўнік толькі другі раз прышоў у дзіцячы дом. Ён усё распытваў дзяцей, калі яны клаліся спаць.

— Мабыць вас абакралі яшчэ да таго, як клаліся спаць. Улан-жа таксама на скоках быў. Мікола ўвесь час на ігрышчы быў?

Некаторыя дзеці гаварылі, што ўвесь час быў. Другія, наадварот, сьцьвярджалі, што ў канцы ён перадаў гармонік другому.

— А вы, Надзея Львоўна, таксама скаканулі? Няхай гэта вас цешыць: адным гарапашнікам у вёсцы больш прыбавілася: Мікола з сахой праз поле, на бульбу ідзе.

— Гэй, браток, ты чаго тут плёткі разводзіш,—раптам, нібы з-пад зямлі, паказаўся Мікола і хапіў руку настаўніка. Мо' табе не падабаецца. Вось як працуюць... Што абакралі вас?

Ён стаяў босы, у закасаных палатняных штанох, у старым паношаным пінжаку. Закурыў.

— А сяляне хвалююцца. Вось, кажуць яны, яшчэ званар знайшоўся... Ха-ха-ха-ха. Малайчына! Абык, дзе ты? Вось малайчына!

## XXVI. Ханкіна перамога

Пётра паехаў на харчовую нараду. З гэтае прычыны Ханка затрымалася ў горадзе на некалькі лішніх дзён. Яна вярнулася ў дзіцячы дом з цэлай фурманкай продуктаў. Увесь дзіцячы дом выбег ёй насустрач. Малыя ёй нават адпачыць не давалі, чапляліся за яе, выкладаючы адразу ўсе здарэньні апошніх дзён.

— Абык званіў.

— Поп крычаў.

— Малако пакралі.

— Генька...

— Улан не брахаў.

Увесь дзіцячы дом хадуном хадзіў. Ханка ніяк не магла сабе даравань, што затрымалася ў горадзе. Яна сябе вінавапіла ва ўсім гэтым здарэньні. За гэтыя два дні яна пазнаць ня можа дзіцячы дом.

— Ня так ужо і шкода рэшткі пакрадзеных продуктаў,—сказала яна ў настаўніцкай,—як таго, што Генька не начавала ў дзіцячым доме.

Генька маўчала. Зранку да позьняга вечару працавала, цягала ваду са студні, сама пакоі прыбірала, сама спальню памыла—работа літаральна гарэла ў яе руках. Усюды было ўсё прыбрана, але Генька ўсё шукала работы. Яна ўзяла на двор вялікі чыгунны казан і пачала яго шараваць.

— Даволі працаваць, Генька,—строга падышла да яе Ханка.—Дзе ты ў гэтую ноч была, Генька?

— Дасі веры, што скажу табе?—сказала Генька, і сьлёзы стаялі ў яе вачох.

— Калі праўду скажаш—бязумоўна паверу.

— Я танцавала. Пасьля пайшла крыху пагуляць. Дайшла да Краеўцаў, і баялася ісьці назад у дзіцячы дом. Позна было. Мікола п'яны быў. Я начавала з дзяўчатамі ў Краеўцах. А зараз чамусьці глядзяць на мяне, як на злачынца. І ты, Ханка, таксама,—і ўся ў сьлязах кінулася ў спальню і закапалася ў падушку.

Ханка дала ёй паплакаць. Яна добра ня ведала, як тут быць. Пасьля яна падышла да Генькі, як маці, пачала пальцамі перабіраць валасы яе астрыжанай галавы і сказала:

— Генька, даю табе веры. Даволі! Ты ўжо, Генька, даўно галаву ня мыла.

Генька кінулася да Ханкі, ціха плакала, прытулілася да яе, нібы імкнулася ўкапацца ў яе грудзі.

— Я ўжо вялікая дзяўчына, Ханка, ня дамся ў крыўду. У мяне нікога няма. Мне хутка прыдзецца пакінуць дзіцячы дом.

Пад'ехала фурманка з гуты. З яе саскочыў сакратар партыйнай ячэйкі—чалавек з прастрэленай шчакой—і яшчэ два рабочых з гуты—блядыя, худыя. Яны ўвайшлі ў дзіцячы дом.

— Фабком чуў ужо адносна пакражы. Рабочыя прыслалі вам крыху прадуктаў. Мяшок мукі, крыху цукру, задок сьвежага мяса—гэта частка месячнага пайка, што рабочыя сёньня атрымалі.—З фурманкі пераносілі прадукты, і дзеці шчыра дапамагалі.

Ханку надзвычайна цешыла, што Пётры якраз няма на гуце і што дапамога прыслана па ўласнай ініцыятыве рабочых, без яго, Пётравага ўплыву. Яна хацела, каб дзеці таксама ведалі, што Пётра ніякіх адносін ня мае да падарунку рабочых, і яна спытала сакратара.

— Калі, вы думаеце, скончыцца нарада?.. А Пётра мабыць і ня ведае пра пакражу? Я таксама ня ведала пакуль не вярнулася з гораду.

З вялікай нецярплівасьцю чакалі пакуль распачнецца сход. Асабліва дзеці. Групамі, абняўшыся за шыю, дзеці хадзілі па двары сур'ёзныя, задуманыя, вінаватыя.

Генька паўтарыла тое, што расказала Ханцы. Ня ўсе верылі ёй, але большасьць згадзілася з тым, што ёй сапраўды трэба было заначаваць у вёсцы.

Абык так тлумачыў свой учынак:

— Я-ж нічога не зрабіў. Я толькі хацеў паглядзець...

— А чаму ты званіў?

— Малюсенькі званочак.

— Добры малюсенькі.

— Ты яшчэ гаворыш? Ты-ж сам падгаварыў яго званіць.

— Зусім правільна,—пацьвердзіла Надзея Львоўна.

— Дзетачкі!—дадаў нейкі хлапчук і адразу схаваўся ў агульным дзіцячым натоўпе.

Ухвалена было выстаўляць варту з двух чалавек. Было таксама ўхвалена наладзіць вечарыну для сялянскіх дзяцей навакольных вёсак.

Сакратар ячэйкі, які застаўся на сходзе ў дзіцячым доме, горача падтрымаў прапанову аб арганізацыі вечарыны.

— Трэба было нешта арганізаваць для дарослых, для падлеткаў, бо кулакі распаўсюджваюць розныя чуткі пра вашу калёнію.—Разьвітаўшыся са ўсімі, ён паехаў.

На пэдагогічнай радзе была прынята пастанова, каб як-небудзь нагогул замаўчаць факт пакражы, хоць усе пераконаны былі, што гэта справа рук Міколы. У наступныя дні пасьля пакражы Мікола ўпарта ўзяўся за гаспадарку, відаць ужо рыхтаваўся да таго, што прыдуць да яго з вобыскам, што выклічуць на допыт. Але яму, відаць, абрыдла чакаць—скінуў з сябе гэтыя гаспадарчыя абавязкі і зноў пасьвяточнаму прыбраўся.

— Добра,—сказаў ён,—няхай яны сьвяты ладзяць. Мы таксама наладзім сьвята. Глянем, хто лепей зробіць, ці Ігнат з сваімі суботнікамі, ці мы. Ну, хлопцы. Гі-гі-гі. „Вось каб школа ня была-б ля бацькавага двара"... Гі-гі-гі.

Тры хлапцы з сякерамі ў руках узяліся ачышчаць ад кары бярвеньні, выкапалі ямы на ўскраі лесу і праз ноч, нібы з-пад зямлі, вырасьлі гіганцкія шагі, гушкалкі, і вясковыя дзяўчаты і хлопцы з вакольных вёсак, Мікола з гармонікам, а таксама ўвесь натоўп дзіцячага дому сабраліся сюды.

Позна ўначы ў Лесарубаўку пехатой са станцыі прышлі Шура з Глонцам. Яны ішлі лесам. Ноч была ціхая, цёплая. Недзе ў глыбі лесу крычалі начныя птушкі, за лесам брахалі сабакі. Шура з Глонцам зайшлі ў Лесарубаўку.

У вёсцы цёмна было, але знаёмай сьцежкай прайшлі яны ў дзіцячы дом. Прыселі на ганку крыху адпачыць. Глонц не пазнаў месца, дзе яшчэ зусім нядаўна ён сабе выратаваў жыцьцё. З настаўніцкага гораду чутны быў густы квяцісты пах. Улан пачаў рвацца з ланцуга. На двор вышаў настаўнік у цяжкім брэзэнтавым паліто, у споднях і паляўнічай стрэльбай у руках.

— Добры вечар, Андрэй Уладзімеравіч,—пазвала яго Шура. Яна падышла да Улана, які пачаў яшчэ мацней брахаць. Са ўсёй сілай свайго сабачага цела ён кінуўся на Шуру.

— З кім ты прышла, Шура?—спытаўся настаўнік.

Шура не адказала. Яны падышлі да ганку і адразу за імі—Абык.

— Хто тут?—злосна спытаўся Абык.

— А ты хто?—спытаўся Глонц.

— Вось гэта—вартавы,—падхапіў настаўнік Абыка пад пахі і пасадзіў яго на ганак.

— Колькі зараз часу?—тонам, уласьцівым вартавому, які чакае пакуль разьвіднее, спытаўся Абык.

— Што, хочацца спаць?

— Ды не, я ўдзень спаў.

Настаўнік запаліў сярнічку, і ён з Глонцам закурылі.

— Так? Значыцца, гэта вы? Я мог за вас галаву страціць. Яны верыць не хацелі, што гэта ня я вас схаваў у школе... Ну, час ужо спаць ісьці. Мо' перасьпіце ў мяне? Канапа знойдзецца, і падушка таксама.

Шура пайшла дахаты, а Глонц да настаўніка. Глонц хутка заснуў.

Калі Глонц прачнуўся, увесь пакой быў заліты сонцам. Дзьве дзіцячыя галоўкі паказаліся ў вакне. Убачыўшы, што Глонц праснуўся, яны саскочылі з падмурку і радасныя ўбеглі ў хату.

— Вам прыслалі рушнік ды мыла. Мо' пойдзеце з намі купацца? А пасьля будзеце з намі гарбату піць.—Гучныя дзіцячыя галасочкі добра чутны былі нават за сьцяной. Глонц хутка адзеўся і са ўсёй дзіцячай хэўрай пайшоў на рэчку.

— Добры дзень, добры дзень!—крычала Ханка здалёку, занятая па вушы сваімі гаспадарчымі справамі.—Калі ласка, да нас на гарбату. Усе дзеці просяць.

На беразе ракі было ўжо многа дзяцей. Некаторыя павылазілі ўжо з рэчкі. Шмат у каго зуб на зуб не пападаў, пасінелыя, худзенькія фігуркі саграваlі сябе сонцам.

З гары спускаўся Мікола—босы, шырокі, тлустасьцю заліты. Ен неяк трымаўся бачком. Хутка скінуў адзеньне, адразу ўскочыў у рэчку. Ня міргнуўшы нават і вокам, увайшоў у ваду вышэй сваёй галавы і павольна пусьціўся ўверх па рацэ, лёгка перамагаючы моцную плынь ракі.—Гэта Мікола,—сказалі дзеці. Вы можаце плаваць?

— Не, не магу,—сказаў Глонц.

— А мы тут навучыліся. Паказаць вам, як плывем? І хлопцы кінуліся проста з берагу ў ваду.

Мікола ўжо выбраўся з вады, а Глонц усё яшчэ сядзеў на беразе і грэўся на сонцы.

— Баішся вады?—спытаўся Мікола.

— Не баюся.

— Дык чаму ў ваду ня ідзеш?

— Не хачу.

— Надоўга прыехаў у Лесарубаўку?

— Чаму пытаешся?

— Інтарэс маю.

— Раскажы.

— Ты прыехаў разам з Шурай?

— Разам,—і выпрастаўся на гарэлым пяску.

За жытам паказалася Марыля з двума вёдрамі на каромысьле.

Мікола сьпяшаючыся адзеўся і падышоў да Марылі.

— Ну, старая, дай, табе мабыць цяжка з поўнымі вёдрамі... Ведаеш, хто тут сядзіць?.. Гі-гі-гі. Перадай Шурцы сваёй... Гі-гі-гі, што ён баіцца вады... Гі-гі-гі,—ня глянуўшы на бераг, Марыля разам з Міколам агародам пайшлі дадому.

З ракі Глонц вярнуўся апошнім. У сталовай стаялі ўжо прыбраныя сталы. Кавалкі чорнага сьвежага хлеба, тонка намазаныя маслам, былі раскладзены на гліняных талерках. Шарэнгі дзяцей сядзелі за сталамі, чакаючы пакуль дзяжурны прынясе гарбату з вялікага самавару. Чакалі

спакойна і адначасова, колькі пар галодных вачэй выглядалі сабе на талерцы лепшы кавалак хлеба з маслам, які можна будзе першаму ўзяць, як надыдзе гэтая шчасьлівая хвіліна.

Разносілі гарбату. Дзіцячыя ручкі цягнуліся да талерак, хутка апаражнялі іх, і ўжо праз некалькі хвілін дзеці пачалі пакідаць стол.

— Так, тыдні са два нам цяжка прыдзецца,—сказала Ханка.

Глонц ужо ведаў пра пакражу. Ён спытаўся:

— Чаму ты не паведаміла крымінальны вышук.

— Папершае—нічога-б ня вышла з гэтага. Падругое, пэдагогічная рада знайшла, што будучы тут у вёсцы ня варта ўзьнімаць гармідар. Мы гэтым можам стварыць вакол сябе надзвычайна варожы настрой. І бяз гэтага на нас тут даволі коса пазіраюць.

— Няверны падыход. Сяляне былі-б вам удзячны, каб выкрылі злодзея. Вёска ня любіць зладзеяў. А каб вам удалося гэтага злодзея выкрыць, вы-б гэтым надзвычайна ўзьнялі-б свой аўторытэт у вачох сялянства. Працуй, як комуністу падабае.

— Гэта ўжо чыста пэдагогічнае пытаньне. Усё, што мы робім, мы робім для дзяцей і за кошт дзяцей.

Пасьля абеду Глонц пайшоў у гуту. Ад'яжджаючы з гораду яму ў губкоме даручылі вырашыць на гуце некаторыя пытаньні. Ханка і Шура разам з некаторымі больш дарослымі дзецьмі праводзілі яго да лесу і вярнуліся назад. На гуце Глонц затрымаўся некалькі дзён. Назад ён вярнуўся ў Лесарубаўку разам з сакратаром ячэйкі.

Сёньня ў вёсцы зноў нейкае мясцовае сьвята. Адпачываюць зялёныя палі. На выгане пасуцца папутаныя сялянскія коні. На прызбах сядзяць старыя сяляне і сялянкі і грэюцца на сонцы. Вакол шпацыруюць дзяўчаты вакольных вёсак, прыбраныя ў шматкаляровыя сукенкі з шнуркамі пацерак на шыі, а ззаду дужыя хлопцы ў ботах і паношаных гарадзкіх касьцюмах, цьвёрдых капялюшох, а таксама ў шапках, з якіх добра відны белабрысыя чупрыны. Усе ідуць у Лесарубаўку. Там сёньня весела павінна быць. Там сёньня танцаваць будуць. Там гушкацца будуць. І мусіць шмат хто асьвяжаць будзе сваё перасохшае горла з цьмяных бутэлек, шклянак і чарак.

Каля гушкалак стаіць ужо вялікі натоўп, а дзяўчат і хлапцоў бязупынна падыходзіць усё больш і больш. Ханка нечага непакоіцца. Нешта непагаспадарску яна сябе адчувае. Яна проста баіцца за сёньнешні дзень, галоўным чынам за вечарыну, якая мае сёньня тут адбыцца. Яна пасылае па Шуру.

Каля яе праходзяць групкі сялянскіх дзяўчат і хлапцоў, якія кідаюць па адрасу дзіцячага дому даволі нядвухсэнсоўныя зьняважлівыя словы.

— Дапамажы мне, Шура, дзяцей адзець. Мы-ж павінны сёньня тут спэктакль паказаць.

— Мы маем што паказаць. Мы-ж ня можам пакінуць гэты сход так... Мы спэктакль пакажам,—кажа Ханка.

— Вось гэта надзвычай добра.

Трыццаць пар дзіцячых ног штурхаюць каляску з пяском—будучую сцэну—да гушкалак. Яны маюць паказаць даволі багатую програму: сьпевы, скокі, гульні. Ужо амаль падрыхтаваны да паказу малюнак „Пан уцякае“.

— Можам гэта паказаць. Мы ўсё ўжо добра напамяць ведаем,— з запалам гаварылі дзеці.

— І бароды і вусы.

Пара дзяцей хутка пабеглі ў дзіцячы дом прынесьці адтуль бароды і вусы. У сініх кашулях і сарочках, у сьветлых штанішках і спаднічках, сьпяваючы і маршыруючы, падыходзяць дзеці да гушкалкі.

Мікола апусьціў рукі: і яго сьвята, у яго Лесарубаўцы, і не яго сьвята.

— Ай, Ханка.

— Ну, краніся з месца, Мікола, весялей, вось гэтак.

Настрой Ханкі палепшыўся. Яна, здаецца, дамаглася свайго.

— Хлопцы, аслабанеце месца. Наш дзіцячы дом хоча вам нешта паказаць.

Яўрэйскі сьпеў пра волю, беларускі сьпеў пра волю, вольныя скокі. Таксама пакажам малюнак, спэцыяльна складзены дзецьмі—„Лесарубскі пан уцякае“.

Вясковыя рукі не сьпяшаюцца. Воплескі гулкія і працяжныя.

— Дык пачынаем, таварышы?

— Пачаць, пачаць.

Канчаюць сьпяваць першую яўрэйскую песьню. Дзеці ніколі не сьпявалі з такім натхненьнем, як зараз перад сялянскім сходам. Хор сьпявае другую песьню, трэцюю. Успамінаюць песьні, якія даўным-даўно ўжо сьпявалі, пра якія даўно ўжо забыліся, яўрэйскія і не яўрэйскія, усё гэта надзвычайна ўзьнімае настрой і захапляе аўдыторыю.

Выступае Генька. Яна за цыганку. Яна павінна танцаваць „Мёртвы танец“.

Можа Міколу на сваім гармоніку іграць? Не, ня трэба. Няхай дзеці сьпяваюць, а яна танцаваць будзе. Вось кола звужваецца, замыкаецца. Яна памірае. Генька памірае. Памёрла.

„Пан уцякае“. Абык таксама тут. Ён іграе за лёкая.

— Дай яму, дай яму,—крычаць з месцаў. Галавы на плечы, плечы на галавы, і яшчэ больш націскаюць на адкрытую сцэну.

— Пан, пан, ты-ж штаны згубіў, штаніну згубіў—крычыць Абык. Няма, пані, куды ўцячы: кола замыкаецца.

— Шаліш, сукін сын.

— А цяпер, таварышы,—паднялася Ханка на лаўку,—адразу адсюль усе пойдзем да нас, у дзіцячы дом. Мы пакажам вам, як дзеці жывуць. Шклянку гарбаты вып'еце ў нас.

Дзеці пайшлі наперад. Яны ня ідуць, а лятуць, а за імі ўвесь сялянскі натоўп, выстраены ў шарэнгу, рушыўся ў дзіцячы дом.

А ззаду самотна наігрываў Міколаў гармонік.

Успацеўшыя крэпкія дзяўчаты і шырокаплечыя сялянскія хлопцы з загарэлымі тварамі селі за сталамі, прасавалі адзін другому плечы, парылі адзін аднаго, а дзеці ўсё бегалі вакол сталоў мудруючы, як-бы чым лепей пачаставаць гасьцей.

— Ведаеце што—памажам хлеб салодкім малаком.

— Не, ляпей селядцоў.

Есьць цукеркі. Трэба цукеркі даць.

— А назаўтра?

— Няхай нам здаецца, што з гуты цукерак ня прывезьлі.

— Мы ў аддзеле асобна атрымаем на сьвята...

Прадукцыйная камісія ўвайшла ў азарт і няшчадна ачышчала ў клеці паліцы, выбіраючы ўсё з мяшкоў і клункаў.

Каля сталоў кіпела ня менш жвавая работа—госьці пераносілі ў рот усё, што падавалася на стале.

Старая сялянка паднялася ад стала, пеpажагналася, паказала нешта ў руцэ і сказала:

— Дзякую, родненькія, гэта падарунак для дзяцей, для ўнучкаў.

Сад ляжаў ужо ў глыбокім цені. Ванька—лесарубаўскі падпасак, ужо гнаў статак з поля, а настаўнік шпацыраваў па двары, паглядаючы на сваю карову.

Калі ўвесь натоўп падняўся з месца, каб разьвітацца з гасьціннымі гаспадарамі гэтага нязвычайнага для вясковых будняў, сьвята, настаўнік падышоў да Ханкі, горача ад захапленьня паціснуў ёй руку і сказаў:

— Я, Галіна Якаўлеўна,—стары настаўнік. Мы кроку не рабілі бяз інспэктара, кроку ня ступілі без яго абежнікаў. Прызнаюся, я ня ведаў, што ад мяне вымагаецца. Толькі цяпер я даведаўся, што вымагаецца ад пэдагога.

— Я—швачка, Андрэй Уладзімеравіч.

— Не, не, Галіна Якаўлеўна, вы пэдагог. Ваша месца—разам з дзецьмі. Вы атрымалі вялікую перамогу—вы пасябравалі з вакольнымі сялянамі.

— Мы наладзім для іх яшчэ адну вечарыну.

Стомленыя за дзень дзеці падрыхтавалі сабе сухую вячэру, каб, памыўшы ногі, ужо напоўзаснуўшымі кінуцца ў ложкі.

А Ханка сядзела на ганку. Начныя цені больш не палохалі яе.

Цяпер Лесарубаўка зрабілася для яе другім домам, вакольныя вёскі—яе прыяцелі і добрыя знаёмыя.

## XXVI. Кожны сваёю дарогаю

— Бачце, сёньня жыхарства галовы гораду на вакзале. Вось гэта называецца, пасяброўску сустрэцца. Быць гаспадаром сваёй капейцы, во! Дарма, што паперкі, мільёны, мільярды, калі на гэтыя паперкі ўсякага дабра купіць можна.

— Пагаворваюць ужо адносна выбіваньня монэты.

— Выбіваньня?

— Ага! Монэты будуць. Медзяныя і срэбныя.

— А золата?

— Вось дзівак. Яшчэ чаго, золата захацеў.

Каля вакенца касы вакзалу стаіць наш стары знаёмы Бэнцман—сыоністы. Ён нізка нагінаецца да цьмянага шкла вакзальнага вакна, каб за яе абаронай пералічыць ахапку грошай.

Ад касы да самага ўваходу выстраілася вялікая чарга гарадзкіх гандляроў, якія прышлі сюды з поўнымі кішэнямі папяровых грошай. Некаторыя трымаюць іх у кошыках зашмальцаваных і забруджаных, неачышчаных яшчэ ад рыбы і мяса, якія вось толькі купялі на суботу.

— Колькі ў цябе ляжыць?

— Хіба хто лічыць.

Каля касы стаіць яшчэ адна чарга. Гэта тутэйшыя савецкія служачыя, з паперкамі ад сваіх устаноў, што каса павінна выдаць ім білеты без чаргі, ды ня толькі каса — адміністрацыя станцыі павінна абавязкова забясьпечыць іх месцам у вагоне, павінна пасадзіць у вагон, ды наогул дапамагчы ўсялякімі сродкамі, якія ёсьць у распараджэньні адміністрацыі.

Додл вышаў з пакою, у якім месьціцца каса.

— Няма чаго штурхацца. Месц хопіць для ўсіх, а цягнік сёньня ня позьніцца.

Адчынілася вакенца. Доктар першы атрымаў два білеты — для сябе і Алтарыхі.

— Вось у тым і справа, галубачка, кажа доктар: урэшце жыцьцё ўваходзіць у нормальную каляіну.

— А хіба я што дрэннае кажу пра савецкую ўладу, засьмяяўся Бэнцман, паказваючы, што і ён ужо мае білет.

— Бо ты фінінспэктару нічога ня плоціш, — сказала „камісарыха“, стоячы ўжо блізка каля касы і трымаючы ў руках модны чамадан даволі буйных памераў.

— Колькі вязеш?

— Каб было толькі што купляць.

— Што ты сёньня купляеш?

— А што не? Маюся зайсьці на аўкцыён, да ювэліра, у „Дю-Бэры“.

— А колькі плоцяць?

— Даволі плоцяць.

— Дзеткі мае, усё плоцяць,—запэўніў Бэнцман.

— Бэнцман хоча зрабіцца савецкім, — умяшаўся ў гутарку Фолька-

адвокат, які толькі прыехаў з гораду на фурманцы і пры дапамозе „камісарыхі“ апынуўся ледзь ня першы ў чарзе.

— Вы чулі гісторыю з Бэнцманам?—зноў кажа адвокат:—тут нейкая зачэпка ёсьць. Яго сын—чырвоны афіцэр. А калі сын—чырвоны афіцэр, дык бязумоўна бацька таксама ня можа сьвінёй быць.

— Сын—сваёй пуцявінай ідзе, а я сваёй пуцявінай, — працяжна і задумёна сказаў пляшывы сыоністы і памаўчаўшы крыху дадаў:

— Дарэчы, сын мой пілот, дык старая мне жыць не дае. Яна-б лепш хацела, каб яе сын хадзіў па зямлі, чым лятаў у надхмар'і... Так, Фолька. А што ў цябе наконт зямлі чуваць?

— Еду цяпер у губзем.

— Ты-ж мог паперку якую-небудзь узяць.

— Калі ўсе будуць з паперкамі прыходзіць, дык якое значэньне яны мець будуць. Еду ў губзем, здаецца, што шасцьдзесят яўрэйскіх сямей атрымаюць тую зямлю, дзе бандыты пагром учынілі.

— Шчырая падзяка ім. Гэта што, каб заўтра зноў усіх павыразалі?

— Не, тут справа вось у чым, гэтая зямля будзе перададзена са згоды ўсіх навакольных сялян, якія атрымаюць чатырыста гэктараў абшарніцкай зямлі.

Бэнцман зноў варочаецца да ранейшае тэмы.

— А ад жонкі мне проста жыцьця няма. Яна астраномам зрабілася: усё на неба паглядае, акуратна вітае прыход кожнага месяца і газэты чытае—ці ня здарылася чаго. А я кажу: француз лётае, немец лётае, ангелец лётае, расіец лётае, дык няхай мой сын таксама лётае. Ведаеш хто іх начальнік? З лесарубаўскіх Ігнацёнкаў.

— Ханкін швагер?—успомніла „камісарыха“.

— Ага.

— Якое цяпер значэньне мае паходжаньне. Зараз новыя панічы растуць. Дырэктар трэсту, фабрыкі, лятун.

— Камісар.

Алтэрыха міма вушэй прапусьціла камісарыхіны кпіны і разам з доктарам адышла ў бок.

Ёй, Алтаравай жонцы, не да твару мець справу з гэтым непрацоўным элемэнтам. Як-бы там ні было, а яе Алтар—выкладчык губэрскай партыйнай школы. Яны нават мяркуюць выехаць адгэтуль, яна акампануе зараз на клюбных вечарынах, у „Рабіс“ запісалася, — ёй усё-ж не да твару стаяць з камісарыхай.

Гучны, праразьлівы званок паведаміў, што цягнік вышаў з апошняй станцыі. Увесь натоўп рушыўся да выхаду. Але ўзброены чырвонаармеец, што стаяў каля дзьвярэй, крыкнуў:

— Яшчэ рана на пляцформу, падрыхтуйце білеты і дакумэнты.

— Навошта дакумэнты, білеты ўсе маюць,—адказаў Фолька.

— У другім месцы дарадцай будзеш. Білеты і дакумэнты. Савецкія служачыя—управа. Астатнія грамадзяне—улева. Захоўвайце парадак.

У вакзал увайшоў Калман, пастрыжаны, апрануты ў зялёныя салдацкія штаны і ў кашулю колеру хакі.

— Усю ўтылізацыю адзеў ён на сябе,—заўважыў нехта з натоўпу.

— Рэб Калман, што таксама з намі едзеце?

— Еду назад у Лесарубаўку.

— Адбыць тэрмін пакараньня?

— Якое пакараньне,—зноў умяшаўся Фолька, яны зусім хацелі з нашай сынагогі маладых некалькі сот рублёў узяць, ды толькі. Колькі ты заплаціла?—спытаўся ён у „камісарыхі“.

— Каб яны так на сьвеце жылі, як ім плачу.

— Мадам! Заплоціце. Бальшавікі самі не любяць плаціць, але спаганяць—ого. Ну і спаганяюць яны.

Адчыніліся дзьверы і па адным пачалі ўсіх выпушчаць на пляцформу.

Пранізваючы праменьнямі, зьзяла сонца. Сьвежы вецер дзьмуў з палёў, якія пачыналіся адразу, як толькі цягнік пакідаў вакзал. З гэтым вецярком уварваўся ў вагон глухі грукат. Як па камандзе, усе адразу паднялі галовы. Усё больш набліжалася птушка з срэбнымі крыльлямі, на якіх да асьляпленьня зьзяла сонца.

— Аэраплян!

— Другі!!

— Трэці!!

— Чацьверты, чацьверты!!!

— Пяты!!!

Цэлая эскадрыльля аэрапланаў сьпіральлю спушчалася ўсё ніжэй і ніжэй над вакзалам, раскідаючы безьліч лёзунгаў і адозваў, якія вецер разносіў ва ўсе бакі, і раптам аэропляны зноў зьніклі ў паднябесьсі.

А на чале эскадрыльлі стаяў Міхаіл Ігнацёнак—Ігнатаў сын і Пётраў брат.

У гэты час якраз адбываліся манэўры, і Лесарубаўка была даволі зручным месцам для шырокіх опэрацый. Тут быў важны стратэгічны пункт. Шырокая Дзьвіна давала мажлівасьць тут-жа ўзьнімацца і зьніжацца гідроплянам, а добра праз многія гады апрацованае панскае поле магло замяніць любы аэродрам.

Ён паведаміў пра гэта ў гуту.

Ухвалена было выкарыстаць нядзельны адпачынак, каб усім супольна пайсьці ў Лесарубаўку. Праз пару гадзін, маючы наперадзе свой уласны оркестр, усе рабочыя з чырвонымі сьцягамі вышлі на Лесарубаўку.

А ў дзіцячым доме было падвойнае сьвята. Увечары павінна была адбыцца другая вечарына, на якую ў вакольныя вёскі было разаслана больш сотні запрашэньняў. З гораду прыехаў на сьвята Ісроэл, загадчык аддзелу асьветы. Додл з падарункамі ўтылізацыі, а таксама стары „дзед“—былы бундавец.

А поп якраз прызначыў на гэты дзень процэсію. Прышло многа сялян і сялянак з вакольных вёсак. Марыся яшчэ з нейкай кабецінай несьлі абраз, а поп разам з сваімі памочнікамі ішоў наперадзе.

Раптам процэсія пачула гукі музыкі. У небе паказалася чарада аэроплянӑў. Пачалася беганіна. З попам засталіся толькі некалькі старых кабет, але і тыя ад захапленьня жмурылі вочы на сонца.

— Марыля, Марыля, твой сын Міхась прыехаў,—крычаў Ванька падпасак. Марыля ўціснула абраз нейкай кабеціне і што было духу пусьцілася бегам да сына.

Увесь бераг быў запруджаны дэмонстрантамі—з гуты, дзіцячага дому, рэлігійнай процэсіі.

Два аэропляны спусьціліся на ваду і падплылі да берагу.

Здалёку змагліся пяць аэроплянӑў, але хутка і тыя апусьціліся на поле.

З аднэй машыны выскачыў увесь апрануты ў скуры Міхась. Першая пазнала яго Шура, яна падбегла да яго і горача пацалавала, другім падышоў Ігнат, а ззаду бегла Марыля. Міхась пабег ёй насустрач, горача абняў і пацалаваў.

— Бачыш, маці, прыляцеў у Лесарубаўку.

Ханцы крыўдна было, што на гэтым сьвяце няма Пётры. Яна не здагадвалася, што ён прыехаў ужо з гораду і пацiху падкрадваецца да яе.

Пётра падышоў і адразу паклаў свае шырокія рукі на яе плечы.

Ад раптоўнасьці яна нэрвова ўздрыгнулася, але адразу ўбачыла Пётру.

Усё прапала—на вачох ва ўсіх яны пацалаваліся.

Ісроэл падрыхтаваў спэцыяльную прамову для лесарубаўскіх сялян у гонар прыезду лётнікаў. Яму крыўдна было, што тут не яго звычайная аўдыторыя. Для яўрэйскіх рабочых ён пачаў-бы прамову прыблізна так: „Наш рабочы поэт гавора: неба належыць богу, пану належыць зямля“... Не, няправільна, ня богу належыць неба і ня пану належыць зямля...

— Як перадаць гэты гучны сказ па беларуску, сьвідравала ў яго мазгу.

На ўрачыстасьці не ставала толькі Фолькі.

— У добры час прыехаў,—прывітаўся ён з Ісроэлам і іншымі.

— Што вы тут робіце?—спытаў яго Ісроэл.

— Ведаеце, што раблю тут... фурманкі ззаду едуць. Шаснаццаць яўрэйскіх сямей, на зямлю едзем.

Шура і Глонц былі ўзрушаны ўсім гэтым сьвятам. Яны ня могуць прапусьціць выпадак, каб не паляцець у горад.

— Што скажаш—бацька?—падышоў ён да Калмана, мы-ж хутка паляцім. Ляцець нам?

— Ты сёньня са мной раішся і, глянуўшы на Шурку, дадаў; калі яна цябе пусьціць.

— Яна-ж таксама ляціць.

— Ляцеце сабе на здароўе.

Праз некалькі гадзін эскадрыльля паднялася над Лесарубаўкай. Сотні пар вачэй праводзілі лятуноў, доўга і ўпарта мацаючы іх вачыма ў хмарах, пакуль грукат матораў зусім ня зьнік ужо ў сінім небе.

Марыля рукавом выцірала нос, Ігнат глыбока зацягнуўся і выпусьціў з сваіх шырокіх грудзей густую хмару махорачнага дыму. Калман да яго падышоў і сказаў:

— Дык пойдзем, Ігнат, па нашаму махутэ [1]). Мы старыя ляцімо ўніз, а яны маладыя ўверх, у хмары, на неба.

— Праўда, махута, праўда.

Здалёку данесьліся гукі рабочага оркестру.

Віцебск-Менск 1925—1926 г.

[1]) Сваякі.

# БАЯВЫЯ ЗАДАЧЫ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ СССР

Л. Авербах

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

А ці-ж мы ня ведаем, таварышы, які значны быў размах работы шкоднікаў у Народным Комісарыяце Пошты і Тэлеграфу. Ці-ж не вядома што гэтая шкодніцкая організацыя перш за ўсё старалася паралізаваць працу тых зьвеньняў Наркомпоштэлю, якія былі зьвязаны з прасоўваньнем кнігі, з распаўсюджваньнем газэт,—з усёй сыстэмай працы з друкам? Ці-ж не вядома, што гэтыя людзі знарок падбіралі кадры вясковых лістаносцаў з кулацкіх элемэнтаў вёскі?

А шкодніцтва ў кнігараспаўсюджаньні на Украіне! Біографіі гэтых людзей таксама варта-б было прывесьці. Гэта амаль цалкам былыя пятлюраўцы, якія яшчэ пры Пятлюры працавалі ў „Кнігаспілцы“ і якія ўжо пры нас захапілі галоўнейшыя месцы ў савецкім кнігараспаўсюджаньні. Яны праводзілі працу, бадай анолёгічную мэтодолёгіі шкоднікаў Саўкіно. Максымальна распаўсюджваліся імі кніжкі найбольш нядобраякасныя кніжкі нават шкодныя і нават значная колькасьць эміграцкіх выданьняў. У той-жа час імі ў як найменшай колькасьці распашыралася наша літаратура і ў першую чаргу, літаратура, неабходная для політычных масавых кампаній. Савецкі апарат, савецкае кнігараспаўсюджаньне,—а шовіністычная эміграцкая погань на першым мейсцы, а літаратура комуністычная—на задворках! Прычым у гэтых шкоднікаў была і свая літаратурная політыка. Шырока прасоўваючы творы аўтароў „Пролітфронта“ (был. ваппЛітоўцаў) заціскалі творы вусппаўцаў.

Я павінен сказаць, што падобная ацэнка твораў нашых аўтароў шкоднікамі зьяўляецца фактам, за які мы павінны вітаць нашых маладнякоўцаў, нашых вусппаўцаў, усіх украінскіх напостаўцаў (воплескі).

Выкрыцьцё клясавага ворага на ідэолёгічным фронце, выкрыцьцё такіх форм яго барацьбы, як шкодніцтва, зьяўляецца адзнакай нашай сілы, адзнакай паглыбленьня нашай працы, адзнакай усьцяж узрастаючай сьпеласьці нашых кадраў, адзнакай пасьпяховага наступу пролетарскай культуры ў кожнай нацыі. Пакуль мы былі слабыя,—ці слабейшымі,—мы яшчэ не маглі ў дастатковай ступені разьбірацца ў гэтым.

Зараз-жа ня толькі пасьпяхова вучымся, але таму-сяму ўжо навучыліся. Пакуль яшчэ ня мелі сваіх кадраў, нас маглі вельмі часта ашукваць. Зараз ужо узгадоўваюцца нашы кадры—ашукваць цяжэй. Яшчэ мабыць ашукваюць, але і ашукваць робіцца цяжэй, паколькі абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне няўхільна вядзе ня толькі да выкрыцьця намі, але часам нават і да самавыкрыцьця шкодніцкіх элемэнтаў.

## Савецкую літаратуру вядуць пролетарскія пісьменьнікі

Мы—*Усесаюзнае Аб'яднаньне Асоцыяцый Пролетарскіх Пісьменьнікаў*—маем падставы ганарыцца тэй барацьбой, якая была праведзена нашай організацыяй у цэлым і ўсімі яе складанымі часткамі супроць контр-рэволюцыйных нацыяналістычных організацый, супроць усіх і ўсякіх форм выяўленьня буржуазнай ідэолёгіі. Я ўжо адзначаў вышэй пра барацьбу Беларускай асоцыяцыі супроць „Узвышша" і „Полымя", пра барацьбу ВУСПП і „Маладняка" супроць групы Їўчанка і г. зн. групы так званых нэоклясыкаў, на барацьбу РАПП супроць старога кіно-кіраўніцтва, колькасьць падобных прыкладаў можна лёгка павялічыць.

Пры гэтым, вядома, не абыходзілася ў нас, і без памылак,—часам нават вялікіх памылак,—калі, напрыклад, крытык Доленга ў часопісу ВУСПП „Гарт" выступаў у абарону ўспамінанага намі роману Їўчанка,—памылак у працы ўсіх нашых організацый і ўсяго ЎсеААП у цэлым. Можна прывесьці рад прыкладаў, якія сьведчаць аб нашай недастатковай клясавай пільнасьці, аб недастатковым разгортваньні наступленьня на ворага, аб няўменьні яго дабіць. Але, ня гледзячы на ўсе нашыя шматлікія недахопы і прарывы за апошнія 2-3 гады, пролетарскія пісьменьнікі Савецкага Саюзу прайшлі школу вялічэзнай політычнай вучобы, і гэта адна з вельмі паважных прычын, якія тлумачаць тое, што мы зараз ва ўсіх рэспубліках Савецкага Саюзу можам гаварыць аб вядучай ролі організацыі ЎсеААПП у літаратурным жыцьці. Савецкую літаратуру зараз усюды ўжо вядуць і стаяць на чале яе пролетарскія пісьменьнікі. Гэта прыватнае выражэньне посьпехаў пролетарскай культурнай рэволюцыі ў цэлым. Гэта прыватнае пасьведчаньне таго, як вырашаецца пытаньне—хто каго. Гэта прыватны прыклад перамог соцыялізму. І адзінства ЎсеААПП ва ўсіх баёх апошняга часу зьяўляецца выражэньнем, пасьведчаньнем і прыкладам росту інтэрнацыянальнай еднасьці ўсіх пролетарсхіх атрадаў нацыянальных літаратур у межах тэй ці іншай аднэй рэспубліканскай організацыі.

Тры гады таму назад мы зьмянілі структуру нашай усёй організацыі: з усесаюзнай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў ва ўсесаюзнае аб'яднаньне асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў. У той час былі таварышы, якія гаварылі: вы адыходзіце ад структуры адзінай організацыі, гэта прывядзе да паслабленьня інтэрнацыянальнай сувязі пролетарскай літаратуры, да росту і ўмацаваньня нацыяналістычных настрояў у па-

асобных зьвеньнях УсеААПП. Мінула ўсяго 3 гады і мы можам сказаць што новыя організацыйныя формы нашага руху апраўдалі сябе цалкам, што мы дасягнулі за мінулы пэрыод часу значна большай спайкі ўсіх атрадаў пролетарскай літаратуры, спайкі не на словах, спайкі не формальнай, спайкі не парадна-дэклярацыйнай, але спайкі дзелавой, спайкі сапраўды таварыскай, спайкі сапраўднага збліжэньня. Сёньня ЎсеААПП ня проста мэханічнае злучэньне некалькіх атрадаў. Не, сёньня мы— УсеААПБ—адзіная баявая і ваяўнічая організацыя рабочай клясы на літаратурным фронце! (Воплескі).

Я лічу, таварышы, патрэбным спэцыяльна адзначыць, што гэтае збліжэньне не сямёх рэспубліканскіх організацый, але ўсіх нацыянальных літаратур, у тым ліку і літаратур тых народаў, якія да Кастрычніка яшчэ нават ня мелі сваёй пісьменнасьці. Памыляюцца тыя таварышы, якія адмаўляюць магчымасьці росту расійскай пролетарскай культуры на Украіне, ці, скажам латыскай культуры ў РСФСР. Не, нацыянальная палітыка нашай партыі і, у суадпаведнасьці з гэтым, палітыка нашых усеапаўскіх організацый павінна забясьпечваць магчымасьць сапраўднага разьвіцьця любой і кожнай нацыянальнай літаратуры на тэрыторыі Савецкага Саюзу. Трэба пры гэтым у парадку самакрытыкі сказаць адразу, што з працай сярод нацыянальных меншасьцяй у РСФСР у РАПП справа стаіць значна горш, чым у некаторых іншых саюзных рэспубліках. У гэтым выражаецца пэўная недаацэнка радам нашых таварышоў нацыянальнага пытаньня, недаацэнка, якая часам мяжуецца на практыцы з вялікадзяржаўным шовінізмам.

## Не зазнавацца!

Мы зараз маем надзвычайнае павялічэньне ўвагі да мастацкай літаратуры, рост зацікаўленасьці да яе, што зьяўляецца паказчыкам узмацненьня яе грамадзкага значэньня. Літаратура сапраўды зьяўляецца ў нас сеньня вельмі і вельмі вялікай зброяй узгадаваньня мас. І сёньня мы ходзім крыху нават у імяніньніках,—і іменна таму мне асабліва хочацца зазначыць на найвялікшую небясьпеку зазнацца, мець галовакружэньне ад посьпехаў,—а посьпехі, якіх нельга адмаўляць, толькі падкрэсьліваюць недастатковасьць нашых дасягненьняў. Мы, таварышы, знаходзімся на першых этапах нашай перабудовы. І тыя посьпехі, якія мы, паўтараю, ня можам не констатаваць, яны дадаткова падкрэсьліваюць адставаньне нашай літаратуры ад задач, якія прад'яўляюць ёй тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва ў краіне.

А між тым ужо маюцца ўсе об'ектыўныя ўмовы для таго, каб у як найкарацейшы тэрмін была дасягнута творчая гегемонія пролетарскай літаратуры. Пытаньні барацьбы з адставаньнем і дасягненьнем гегемоніі паміж сабой непарыўна зьвязаны. Ліквідацыя адставаньня мысьліцца намі не як ліквідацыя мастацтва і замена яго продукцыі другараднай, хутка-

вытваранай продукцыі, але якая і хутка псуецца. Перамаганьне адставаньня для нас непарыўна зьвязана з барацьбой за такое мастацтва, якое, паводле слоў Леніна, зьяўлялася-б шагам наперад у мастацкім разьвіцьці чалавецтва. І мы ведаем, што, высоўваючы лёзунг вялікага мастацтва бальшавізму, мы змагаліся за лінію партыі, за лінію партыі на правядзеньне культурнай рэволюцыі, за лінію партыі на крытычнае засваеньне ўсяго культурнага вопыту мінулага, за лінію партыі на стварэньне новай культуры і новага мастацтва рабочае клясы.

## За вялікае мастацтва бальшавізму

Мы жывём у такі час, роўнага якому ня было ў чалавечай гісторыі. Задача пабудовы соцыялізму патрабуе рашучага павышэньня культурнага ўзроўню. І сапраўды, у нас на вачох усё больш шпарчэй, шырэй і глыбей адбываецца рост мільёнаў, і мільёнаў, якія будуюць соцыялізм у нашай краіне. Ці можам мы ў такі час і ў такіх абставінах зьніжаць патрабаваньні да мастацтва? Ці можам мы ў такі час і ў такіх абставінах зьменшваць тыя задачы, якія стаяць перад нашымі мастакамі? Не, мы можам і мы павінны з кожным днём павялічваць патрабаваньні, ставячы перад літаратурнымі працаўнікамі пролетарыяту вялікія задачы, задачы, памеры якіх абумоўліваюцца нашым вялікім часам.

Мне ўжо даводзілася гаварыць, што гегемонію пролетарскай літаратуры мы вызначаем ня толькі ў саадпаведнасьці з яе творчым узроўнем, у параўнаньні з творчым узроўнем папутніцкай літаратуры. Падумаеш, якая перавага—быць вышэй якога-небудзь Пільняка, гэтага мізэрнага паскрэбка буржуазнай літаратуры! І нават параўнаньнем не з Пільняком, а з лепшымі прадстаўнікамі папутніцтва мы ня можам абмяжоўваць крытэрыі гегемоніі. Мы павінны перавысіць лепшыя вузоры ўсёй мінулай літаратуры,—і пераконаны ў тым, што мы перавысім іх ня толькі тады, калі ўжо адамрэ клясавае грамадзтва, але зараз, у нашай вялікай цяжкай барацьбе за соцыялізму. Трэба сказаць, што кадры нашых пісьменьнікаў будуць расьці тым шпарчэй і тым лепш, чым больш адказныя і сур'ёзныя задачы будзем мы перад імі ставіць.

Гаворачы аб тым, каб перавысіць лепшыя вузоры мінулай літаратуры, мы ні ў якім выпадку не разумеем пад гэтым капіраваньне клясыкаў. Наадварот, гутарка ідзе аб якасна новай літаратуры, гутарка ідзе аб якасна новым мастацтве, гутарка ідзе аб складанай частцы якасна новай культуры. Наша кляса мае свой крытэрый мастацкасьці,—тое, што здавалася мастацкім адным, зусім не абавязкова здаецца мастацкім для нас. І ўжо зараз, вывучаючы водзывы пролетарскіх чытачоў, і аналізуючы іх інтарэсы, мы знаходзім хуткае фармаваньне новага эстэтычнага густу, эстэтычнага густу пролетарыяту. З гэтага пункту гледжаньня барацьба за гегемонію і нашае абмеркаваньне пытаньняў творчага мэтоду зьяўляецца аднэй з форм клясавай барацьбы на літаратурным фронце.

Гэта—ня проста дыскусія аб тэхніцы літаратурнага пісаньня і аб тым, якімі прыёмамі адлюстраваць наш час. Не, абмяркоўваючы пытаньні творчага мэтоду, мы ў складанай і спэцыфічнай форме змагаемся за якасна новае аблічча нашай клясавай літаратуры.

Тэмпы набліжэньня творчай гегемоніі—пытаньне нашай літаратурнай політыкі. Мы павінны ўмець весьці за сабой папутніка ня толькі з-за таго, што правільна праводзім партыйную лінію ў мастацкай літаратуры, што ў нашых творах адлюстроўваюцца лёзунгі партыі, што мы бальшавіцкая організацыя. Мы тады па-сапраўднаму будзем вясьці за сабой папутніцкіх пісьменьнікаў, калі будзем даваць і дамо творы, якія выразна стаяць на больш высокім мастацкім узроўні, чым творы асноўных папутніцкіх пісьменьнікаў. І іменна тады па-сапраўднаму будзе замацавана і падмацавана тая вядучая літаратурна-політычная роля пролетарскай літаратуры, якая ёсьць ужо бяз сумненьня і сёньня.

Некаторым здаецца, што абслугоўваньне бягучых політычных кампаній, абслугоўваньне дня, так сказаць, б'е па барацьбе за мастацкую якасьць. Гэта найвялікшы забабон, які адлюстроўвае ўяўленьне аб канонах буржуазнага мастацтва, як аб спэцыфікуме мастацтва наогул. Наша мастацтва—і іменна мастацтва якасна не падобнае на мастацтва мінулых гадоў – расьце тады, калі—маса нашых пісьменьнікаў уключаецца ў практыку соцыялістычнага будаўніцтва, калі маса нашых пісьменьнікаў вучыцца на абслугоўваньні дня, калі гэтае абслугоўваньне дня разумеецца не як творчасьць паводле календарнай даты, не як вульгарнае пісаньне одаў, што прапаведвалася літфронтаўскімі тэорэтыкамі, але як неабходнасьць быць на ўзроўню найвялікшай практыкі нашых дзён, але як уменьне ўсьведамляць гэтую практыку, але як уменьне разьбірацца ў найвялікшым перапляценьні розных супярэчных тэндэнцый у нашай рэчаіснасьці. Мы вучобай у практыкі клясы для практыкі клясы, можам даць надзвычай шмат і для нашага чыста-літаратурнага разьвіцьця, для правільнай пастаноўкі пытаньняў творчага мэтоду, для правільнага вызначэньня творчых шляхоў пролетарскай літаратуры.

Для таго, каб стварыць такое вялікае мастацтва бальшавізму, нам трэба яшчэ больш узмацніць нашу працу па стварэньню новага тыпу пісьменьніка.

Ня толькі твар нашага пролетарскага пісьменьніка, але нават і воблік папутніцкага пісьменьніка наогул ужо ў шмат чым розьніцца ад тыпу старога пісьменьніка. Наш пісьменьнік ужо рэдка падобен на нейкага лахматага мэсіяша, які быў вельмі распаўсюджаны ў мінулым, на богэмца і звышіндывідуаліста. У нас ужо выразна выявіліся рысы новага тыпу пісьменьнікаў. Але мы яшчэ далёка не закончылі выпрацоўкі пісьменьніка, які зьяўляўся б ня нейкім вольным стралком, але профэсыянальным рэволюцыянэрам, які ўладае зброяй мастацкай літаратуры. Словы Леніна аб профэсыянальных рэволюцыянэрах-бальшавіках, аб іх характары і аб стылю іх дзейнасьці,—яны павінны зьяўляцца і для

нас кіруючымі, якія павінны ў галіне літаратуры змагацца за тып пісьменьніка—профэсыянальнага рэволюцыянэра рабочае клясы.

Што для гэтага патрэбна? Перш за ўсё трэба, каб кожны наш пісьменьнік быў па сапраўднаму ўключаны ў практыку сёньнешняй барацьбы, у практыку культурнай рэволюцыі, у практыку соцыялістычнага будаўніцтва. Сьмешна і шкода было-б рабіць спробы дакладна рэглямэнтаваць і загадзя вызначаць усе тыя формы, у якіх можа і павінна адбывацца падобнае ўключэньне пісьменьніцтва ў сапраўдную практыку.

Другая профэсія, напрыклад, аб якой у раду рэспублік ужо ішлі спрэчкі, бязумоўна толькі карысна для вельмі вялікай колькасьці нашых пісьменьнікаў,—але нічуць не абавязкова. Будзе недарэчнасьцю думаць, што калі пісьменьнік ня мае другой профэсіі, то значыцца ён той самы тып вольнага стралка, супроць якога мы павінны змагацца. Пытаньне аб другой профэсыі не такое ўжо простае. І галоўнае тут у тым, каб умець падыйсьці да кожнага пісьменьніка ў паасобку, каб ставіць гэтае пытаньне не ў парадку ўстанаўленьня абстрактных нормаў, але цалкам конкрэтна.

Некаторым здаецца, што унівэрсальным мэтодам уключэньня пісьменьнікаў у будаўніцтва соцыялізму зьяўляюцца брыгады. Давайце, моў, хутчэй разьмяркуем усіх пісьменьнікаў на брыгады, давайце паскорым тэмпы працы гэтых брыгад, давайце, узмоцнім перакіданьне пісьменьнікаў з аднаго заводу на другі. Сёньня на Балахне, заўтра на Пуцілаўскім, пасьля заўтра ў Кузбасе і г. д. і т. п. У такіх выпадках часта ня столькі дапамагаюць працы і самі вучацца колькі робяць крыку ў газэтах. У шмат каго справа іменна ў гэтым: пабудуць на заводзе дні са тры, пасьля дзён шэсьць вершы пішуць, а пасьля тыдні тры ці шэсьць гамоняць аб гэтым ва ўсім друку. Вядома, шмат каму брыгады прынесьлі і яшчэ прынясуць у будучыне вялікую дапамогу. Вядома, адмаўляцца ад брыгад няма ніякага сэнсу, але трэба ўмець адрозьніваць работу ў брыгадах і работу брыгад ад налётаў на прадпрыемствы, ад вялікай мітусьні і малога часу на абмеркаваньне, усьведамленьне і мастацкае выкарыстаньне накопленага матэрыялу. І мне здаецца, што ў некаторых пісьменьнікаў, брыгадная шуміха прыкрывае ня толькі самарэкляму, але і выяўляе іх уцяканьне ад задач барацьбы за вялікае мастацтва, за літаратуру, якая сапраўды варта рабочае клясы. Аднак, паўтараю, брыгады пры іх правільнай арганізацыі, могуць быць выкарыстаны для перабудовы старога тыпу пісьменьнікаў.

## Заклік рабочых-ударнікаў

Асабліва шмат чаго, што характарызуе новы тып пісьменьніка, мы знаходзім у закліканых у літаратуру рабочых ударнікаў. Вельмі шмат якія таварышы ставяць пытаньне аб пэрспэктывах іх профэсыяналізацыі ў літаратуры. У гэтай справе асабліва будзе шкоднай якая-б там ні

была тараплівасьць. Мы будуем соцыялізм, які здымае і ўжо пачынае здымаць супроцьлегласьць паміж працай разумовай і фізычнай. З пункту гледжаньня гісторычнага заўтра пытаньне аб профэсыяналізацыі будзе выглядаць зусім інакш, чым яно ставіць сёньня. Да таго-ж у нас бывае так, што бяруць добрага токара па мэталю і быццам-бы ў інтарэсах яго пісьменьніцкага росту сьпяшаюцца здымаць яго з вытворчасьці. Я пераконаны ў тым, што найчасьцей гэта робіцца пакуль зусім дарэмна і няправільна... (галасы „правільна“).

Заклік рабочых ударнікаў сапраўды зьяўляецца гістарычнай тычкай, ад якой распачынаецца новы этап разьвіцьця пролетарскай літаратуры. Няма ніякага сэнсу гаварыць пра значэньне заклiку. Гэта было-б дарэмнай тратай часу. Куды важней спыніцца на пытаньні аб тым, як засвоены гэты заклік у нашых літаратурных організацыях, як пастаўлена наша праца з заклiканымі ўдарнікамі. Мне здаецца, што ў нас яшчэ маецца шмат крыку аб значэньні заклiку і не хапае практычнай дзейнасьці, каб яго замацаваць, каб яго сапраўды практычна выкарыстаць вылучыць з ліку заклiканых, якія найбольш даюць і якія найбольш абяцаюць. Хто, напрыклад, з нашых лепшых пісьменьнікаў, штодзенна працуе з заклiканымі ўдарнікамі? А без такой работы мы, вядома, не забясьпечым іхняга росту. Мы павінны стварыць такое становішча, пры якім заклiканыя ў літаратуру рабочыя-ўдарнікі былі-б на справе забясьпечаны творчай дапамогай з боку ўсіх нашых і лепшых пролетарскіх пісьменьнікаў (воплескі).

Я думаю, таварышы, што каб мы хоць крыху вызваліліся ад тэй засядацельскай мітусьні, якая вельмі часта пануе ў нашых літаратурных організацыях—а няма чаго грэх утойваць, у нас любяць рабіць політыку часам нават больш, чым у партыйных организацыях, капіруючы іх цалкам някрытычна—і калі-б мы ў першую чаргу ліквідавалі трэпатню пісьменьніцкіх кадраў на ўсіх пасяджэньнях, то няма сумненьня ў тым, што мы вызвалілі-б адразу шмат часу для працы з ударнікамі. Нашы організацыі павінны з гэтай мэтай пераглядзець нагрузку кожнага выяўленага пролетарскага пісьменьніка, і калі хто-небудзь, пасьля падобнага перагляду яго нагрузкі і дакладнага вызначэньня організацыяй кругу ягоных абавязкаў перад ёю, ня будзе працаваць з ударнікамі, то ён выкрые сябе, як чалавек, органічна чужы прынцыпам і асновам нашага УсеААПП'аўскага руху. Зараз мы маем далёка ненормальнае становішча, калі нашы асноўныя пісьменьнікі трацяць шмат часу на наведваньне і на выступленьне на такіх сходах, на якіх няма вялікай патрэбы. Паглядзеце і на Фадзеева, і на Панферава, і на Лебедзінскага, і на Кіршона, і на Ілеша і на ўсіх іншых. Ці ня было-б куды больш правільным разгрузіць іх ад таго-сяго, каб прымацаваць да іх 1—2 ударнікаў... (Галасы з месц: „Мала“) Можна, вядома, і 20 прымацаваць, але што атрымаецца? Я лічу, што лепш прымацаваць 2-х, а то і 1-го, будучы пры гэтым пераконаны ў тым, што пісьменьнік перадасьць ударніку свой творчы вопыт

і дапаможа яму ў ягоным літаратурным разьвіцьці. Я думаю, ленінскае патрабаваньне—лепш менш,—ды лепш—і тут зьяўляецца цалкам правільным. У гэтай справе, таварышы, галоўная небясьпека—гэта літаратурщчына. У нас часта навучаюць рабочых ударнікаў разьбірацца ў літаратуры не на аснове барацьбы за выкананьне прамфінпляну, скажам, ня выходзячы з іх вопыту, ня ўзьнімаючы іх агульна-культурны ўзровень, але пачынаюць навучаньне ў гуртках з таго, што вось, моў, РАПП змагаўся з тымі-то і тымі, і яшчэ з тымі-то і тымі, і вось яшчэ з такімі і такімі, што пераверзеўшчына, моў, кепская, і што Беспалаў нічуць ня лепшы і г. д. і т. п. (сьмех). У парадку літаратурнай самаадукацыі ўсё гэта нікольki не зьяўляецца лішнім, але кепска, калі гэта ідзе за лік галоўнага, за лік асноўнага, па сутнасьці справы не заклікаюць людзей у літаратуру на практыцы, але іх ад яе адштурхоўваюць.

Эстэцкі падыход можа загубіць заклік ударнікаў. Цікавы ў гэтым пляне нядаўна выпушчаны Ізогізам альбом ударнікаў. У ім зьмешчаны вялікі лік фотоздымкаў, у тым ліку і тых ударнікаў, некаторыя з якіх закліканы зараз у літаратуру. І зазначана: гэта ударнік такі-та, з такогата заводу, а гэта другі ўдарнік „імя рэк“ з другога заводу. Каштуе гэты альбом, калі не мыляюся, 3 р. 50 кап. Зразумела, што да рабочых мас ён ня дойдзе, і думаецца, ня ўсе ў ім сфотографаваныя таксама згодзяцца страціць такую суму грошай на гэта выданьне, што пасыўна адлюстроўвае, але нікога не арганізуе і нікога нічаму не навучае. Падобныя выданьні зусім не гавораць аб барацьбе за ўдарніцтва, але прыклад наскрозь эстэцкага абыгрываньня задзіўляючага росту комуністычных форм працы. І напэўна ў Ізогізе той-сёй мяркуе, што яны выканалі „соцыяльны заказ“. Ударнікі?—Калі ласка!—вось альбом аб ударніках... (Кіршон „Не хапае толькі літфронтаўскіх вершаў“). Гэта правільна, варта толькі дадаць масавыя ўзоры палітычнай продукцыі паводле літфронтаўскіх рацэптаў, і атрымаецца цалкам гармонічны і закончаны твор, які ў роўнай ступені нічога агульнага ня мае з барацьбой за прамфінплян, ні стварэньнем вялікага мастацтва бальшавізму.

Падобная альбомаўшчына мае месца і ў працы з ударнікамі ў галіне мастацкай літаратуры. Ці-ж не спаткаемся мы тут з сюсюканьнем, з непрызваітымі пахлебнымі гутаркамі аб тым, што вось, моў, якія вы закліканыя ўдарнікі, слаўныя, якія вы харошыя, толькі пра вас мы і лятуцелі, толькі за вас мы ўсе і змагаліся і г. д. і т. п. гутаркі, ад чаго закліканым ударнікам нічуць не лягчэй.

Зразумела, што сёньня нельга ўжо судзіць толькі на падставе дэкларацыйных заяў таго ці іншага таварыша, той ці іншай організацыі.

Хто скажа сёньня, што ён супроць заклiку? На словах усе за заклік. Хто згодзіцца расьпісацца ў тым, што ён опортуніст? На гэта згаджаюцца ці па дурнаце, ці ў выніку выкрыцьця на практыцы. У галіне заклiку рабочых ударнікаў опортуністычная недаацэнка гэтай справы выяўляецца пераважна ня ў форме адмаўленьня неабходнасьці заклiку,

але ў характары, тоне і зьмесьце работы з закліканымі ўдарнікамі. Іменна па тым, як працуюць з ударнікамі, што ім даюць і што ад іх бяруць, іменна ў гэтым сказваецца ўменьне па-бальшавіцку выкарыстаць заклік, ці опортуністычна яго адмаўляць, ці змазваць.

Трэба, вядома, уводзіць рабочых ударнікаў ва ўсе пытаньні нашага літаратурнага жыцьця, нашай літаратурнай політыкі, нашых творчых дыскусій. Заклік рабочых ударнікаў павінен значна ўзмацніць рабочае ядро ў пролетарскай літаратуры і на справе ўтварыць вядучую ролю рабочага ядра ў адносінах да ўсіх нашых пісьменьнікаў.

Рабочыя ўдарнікі павінны адчуваць сябе ва ЎсеААПП не выпадковымі гасьцьмі, а гаспадарамі, а мы, пасланыя партыяй на працу ў галіне літаратуры, павінны гаварыць з гэтымі ўдарнікамі ня мовай сюсюканьня, але, як з баявымі таварышамі, якія разам з намі ў поўнай меры адказваюць за літаратурны фронт, перад нашай партыяй, перад нашай клясай. Ня толькі мы—УсеААПП—адказваем за тое, як будзе праведзены заклік ударнікаў, і як ён будзе рэалізаваны, але ўжо і тыя новыя пласты рабочых ударнікаў, якія ўліліся ў нашу організацыю, павінны адчуваць на сабе адказнасьць за ход клясавай барацьбы ў галіне літаратуры. Рабочыя ўдарнікі павінны адчуваць на сабе адказнасьць за тэмпы перабудовы нашай організацыі, за тэмпы росту пролетарскай літаратуры, за тэмпы разгортваньня соцыялістычнага наступу ў нашай галіне.

## Неаднароднасьць пролетарскай літаратуры, рабочае, унутранае папутніцтва

У прыватнасьці і асабліва мне хочацца адзначыць будучую ролю рабочых ударнікаў у справе ўзгадаваньня і пераўзгадаваньня таго ўнутранага папутніцтва, якое маецца і ўнутры нашых Усеапаўскіх організацый. І тут асабліва патрабуецца індывідуалізаваны падход да кожнага пісьменьніка ўнутры-папутніцкага толку. Мы панінны дзёрціся за тое, каб наш унутраны папутнік хутчэй стэнавіўся сапраўды пролетарскім пісьменьнікам.

Для гэтага трэба на справе дапамагаць іх перабудове, і якія-ж мы працаўнікі пролетлітаратурнага руху, калі мы няздолеем стварыць гэтым пісьменьнікам таварыскую атмосфэру, якая-б спрыяла іх шпарчэйшай бальшавізацыі і ідэйна-мастацкаму росту.

Праўда, у нас маюцца такія, якія-б надзвычай хацелі разбавіць УсеААПП пісьменьнікамі, якія яшчэ ня сталі пролетарскімі. Я выказваю тут сваю асабістую думку, але я лічу патрэбным адзначыць, што ў гэтых адносінах некаторыя нашыя організацыі крыху занадта вольна падыходзяць да вызначэньня свайго складу і да прыёму новых членаў. У гэтых адносінах я зьяўляюся прыхільнікам большай асьцярожнасьці (вопдескі). Я, як відаць, тут трапіў ва украінскія разнагалосьсі, бо мне

аплёдавала адна частка украінскай дэлегацыі (сьмех). Але ў мяне, таварышы, цалкам ня было жаданьня распальваць украінскія спрэчкі... (Мікітэнка: „2-3 лішніх прынялі, гэта дакладная даведка“). Для мяне, таварышы, асноўнае ня ў тым 2, ці 3, ці 20, ці 30 унутраных папутнікаў ва Усеапаўскай організацыі, забясьпечце разуменьне таго, што гэтыя пісьменьнікі яшчэ не пролетарскія, каб ня было ніякіх недагаворанасьцяй у адносінах з імі, каб усё гаварылася зусім проста і шчыра і гэтым таварышом будзе лягчэй працаваць і лінія ўсёй організацыі будзе больш правільнай. У нас ёсьць розныя ўнутраныя папутнікі. Ёсьць такія, якія ідуць да нас, але-ж якія яшчэ да канца ня сталі нашымі. Ёсьць такія, якія пахіснуліся ў сёньнешніх абставінах, у той час, калі ўчора былі цалкам вытрыманымі пролетарскімі пісьменьнікамі. Было-б вялікай недарэчнасьцю і дзяцінствам проста адкінуць гэтых людзей на бок. Гэта было-б комчванствам самага вульгарнага характару. Гэта было-б адобраньнем лініі найменшага супраціўленьня. Выключыць лёгка, але як перарабіць? І ў парадку самакрытыкі, я лічу неабходным адзначыць, што адным з галоўнейшых прабелаў у працы расійскай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў зьяўляецца наша недастатковая ўвага да такіх пісьменьнікаў, як, напрыклад, Лугаўской, ці Багрыцкі, якіх мы прыкладна год таму назад прынялі ў свае шэрагі, але не акружылі патрэбнай увагай. Трэба, таварышы, на справе берагчы кожнага пісьменьніка, знаходзячы да яго асаблівы падыход і гаворачы з ім асаблівымі словамі.

Што азначае берагчы пісьменьніка? Берагчы—гэта азначае прынцыпова крытыкаваць. Некаторым здаецца, што берагчы—гэта значыць наадварот, паблажліва адносіцца да недахопаў і абыходзіцца з пісьменьнікам, як найбольш лібэральна. Мы думаем, што толькі там пісьменьніка сапраўды берагуць, толькі там пісьменьніку па сапраўднаму дапамагаюць перабудоўваць сваю работу—а дапамагаць перабудоўвацца і азначае берагчы пісьменьніка,—дзе на справе забясьпечваюць прынцыповую крытыку ягонай творчай продукцыі.

Іменна з гэтым справа стаіць у нас надзвычай кепска.

## Тварам да конкрэтнай крытыкі

У галіне крытыкі мы маем у нашым руху бадай ці не прарыў. Нават,—калі пакуль што не гаварыць пра якасьць працы большай часткі нашых крытыкаў,—дык верхам недабрастаннасьці зьяўляецца ўжо і тая колькасьць твораў, якая падлягае ацэнцы ў нашых асноўных часопісах. Большая частка кніжок праходзіць цалкам бяз водзываў. У выніку шмат што праходзіць каля нас, у выніку мы шмат чаго правароньваем, шмат чаго шкоднага прапушчаем і шмат чаго новага і цікавага не адзначаем.

За апошні час зьявілася ня толькі шмат новых твораў, але шмат новых прозьвішчаў, новых, раней невядомых пісьменьнікаў, у тым ліку і

пісьменьнікаў ужо наяўна і асабліва значных. Вазьмеце, напрыклад, у галіне пролетарскай прозы „Июнь—Июль“ Мітрафанава, ці „В поисках героя“ Лаўрухіна. Як-бы мы не разыходзіліся, наколькі-б мы ня лічылі патрэбным іх крытыкаваць, але гэта бязумоўна творы выдатныя. А як адклікнулася на іх наша крытыка? Па сутнасьці (—) ніяк. А ў нас-жа ёсьць далей такія рабочыя поэты, якія выперадзілі цэлы рад старых поэтаў комсамольцаў. Гэта так. (голас з месца: правільна). Той, хто гэта адмаўляе, той выражае максымальнае неразуменьне ходу разьвіцьця пролетарскай літаратуры (воплескі). Але ў нас, на жаль, ёсьць такія таварышы, якія вельмі злуюцца за тое, калі ім паказваюць памылкі.

Прыпомніце інцыдэнт паміж Трошчанка і Жаравым. Я ня ведаю на колькі мае слушнасьць тав. Трошчанка, але не сумняваюся ў тым, што частушкі Жарава ў „Комсамольскай Праўдзе“ ўяўляюць сабой разбэшчанасьць і брыдоту... (Жараў: — а артыкул Косарава, што ўяўляе?), Тав. Косарава да гэтай справы і ў гэтай сувязі прыцягваць няма чаго, у яго лісьце ня ішло і ня было гутаркі аб тым, што нібы ў нас няма такіх рабочых пісьменьнікаў, якія ўжо дарасьлі да пэўнай вышыні (Жараў: а я казаў?) У мяне няма пад рукой цытат з тваіх выступленьняў і я з гэтай прычыны асабліва ня сумую. І дарэмна ты тав. Жараў крыўдзіўшся, бо ты стары раппавец, ты ў організацыі бадай ці не спачатку яе існаваньня, у цябе ёсьць усе даныя для таго, каб ісьці ў перадавых атрадах пролетарскай поэзіі, а не конкураваць з рабочымі поэтамі, якія выяўляюцца (воплескі).

Іменна слабасьць нашай крытыкі ў шмат чым тлумачыць кепскую наладжанасьць абмену творчым вопытам кадраў пролетарскіх пісьменьнікаў. І нават тое, што мы часта ўжо робім, намі недастаткова рэалізуецца. Возьмем, напрыклад, раппаўскія вытворчыя нарады. Сакратарыят РАПП праявіў найвялікшую халатнасьць і аднёсься проста безадказна да справы выданьня стэнограм усіх гэтых вытворчых нарад — і тэатральнай, і нарысісцкай, і поэтычнай. Між тым гэтыя нарады вельмі важныя, ня толькі з таго пункту гледжаньня, што яны маглі даць і сапраўды далі вялікую колькасьць каштоўнага матэрыялу, але яны важны і прынцыпова, як прыклад ломкі старых звычак саматужнай пісьменьніцкай працы, як прыклад колектыўнага абмеркаваньня агульных для ўсіх пісьменьнікаў пытаньняў, як, напрыклад, шуканьне шляхоў да новага стылю ўсёй пісьменьніцкай дзейнасьці. Невыпадкова, іменна, на гэтых вытворчых нарадах так шмат гаварылася аб недахопах нашай крытыкі. Зараз ужо стала модным: хто толькі ня лае крытыку. І тут трэба адрозьніваць. Ня ўсякая крытыка нашай крытыкі зьяўляецца марксыцкай крытыкай недахопаў пролетарскай крытыкі. Вельмі часта за крыкамі аб недахопах крытыкі хаваецца нездавальненьне ідэйнай гегемоніяй марксызму, вельмі часта за крыкамі аб тых ці іншых, нават правільна паказаных памылках крытыкі хаваецца ні што іншае, як барацьба супроць бальшавіцкай ініцыятыўнасьці, вельмі часта фронда.

супроць крытыкі зьяўляецца нежаданьнем падняць нашу марксыцкую крытыку ва большую вышыню, але атака з клясава-варожага лягеру.

Прыслухайцеся і ўдумайцеся ў гутаркі тых, якія асабліва крытыкуюць нашу крытыку з лягеру папутніцкіх пісьменьнікаў. Найчасьцей гэта не выражэньне нездаволеньня частым няўменьнем разабрацца ў спэцыфікуме літаратуры ці кепскім эстэтыцкім густам таго ці іншага крытыка. На жаль для іх ня ў гэтым сутнасьць справы. Сутнасьць справы для іх зводзіцца да жаданьня, каб як мага паслабіць ідэолёгічныя запатрабаваньні і зусім зьнішчыць тыя палітычныя крытэрыі, якімі—вельмі часта няўмела!—кіруецца і павінна кіравацца наша крытыка.

Мы ня маем нахілу хоць у найменшай ступені зьменшваць хваробы нашай крытыкі і адмаўляць яе наогул і цалкам надзвычай нізкі тэорытычны ўзровень. Але мы — Усесаюзнае аб'яднаньне асацыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў, крытыкуем марксыцкую крытыку не за яе палітычную накіраванасьць, і бальшавіцкую нецярпімасьць: гэтыя якасьці мы вітаем і наша крытыка ідзе перш за ўсё па лініі ўказаньняў на недастатковую бальшавіцкую нецярпімасьць і на нездавальняючую палітычную выразнасьць у большай частцы ацэнак твораў сучасных пісьменьнікаў.

Асобна трэба паставіць пытаньне ня толькі аб крытыцы, але і аб літаратуразнаўстве, аб літаратурнай тэорыі, паколькі без павялічэньня ўвагі да тэорыі нам не палепшыць марксыцкай крытыкі.

## Творчая дыскусія і павышэньне тэорытычнага ўзроўню

Зазначэньні тав. Сталіна на адставаньне тэорыі ад практыкі цалкам адносяцца і да галіны літаратуразнаўства. Асноўнай тэорытычнай задачай, якая стаіць перад намі, зьяўляецца неабходнасьць крытыкі Плеханава з пункту гледжаньня новага ленінскага этапу ў разьвіцьці дыялектычнага матэрыялізму, у які мы зараз уступілі. Значэньне плеханаўскай спадчыны для разьвіцьця марксыцкага літаратуразнаўства надзвычай вялікае. Але мы да гэтага часу недаволі крытычна адносіліся да Плеханава. І гэта, вядома, было аднэй з праяў уплыву дэборыншчыны на нашыя тэорэтычныя кадры. Дэборыншчына, уплыў якой усё-ж на радзе іншых вучасткаў ідэолёгічнага фронту быў больш істотным і сур'ёзным, чым на нас. Але факт застаецца фактам. Да Плеханава мы сапраўды аднесьліся недаволі крытычна і, па сутнасьці справы, яшчэ ўсур'ёз не распачалі ленінскай крытыкі яго літаратурных работ.

Фармулёўка, якая была аднойчы дадзена ў часе дыскусіі з Пераверзевым у часопісу „На літпасту“, фармулёўка „За Плеханаўскую ортодоксію“ ні ў якай меры не павінна апраўдывацца якімі-б там ні было спасылкамі на тое, што ў дыскусіі з Пераверзевым мы павінны былі яму супроцьпаставіць Плеханава і таму мелі права даць падобны

лёзунг. Не. Гэты лёзунг быў і ў той час ужо памылковым. Я лічу патрэбным сказаць пра гэта з усёй патрэбнай выразнасьцю і рэзкасьцю. Усе мы лічым, што наша тэорэтычная лінія была ў асноўным правільная. Некаторыя супярэчаць гэтаму і зараз. Але мы, паўтараю, лічым, што ня толькі наша літаратурна-палітычная і творчая, але і тэорытычная лінія была ў асноўным правільнай. Мала сказаць, што, моў, наша лінія забясьпечыла ўздым пролетарскай літаратуры на больш высокую ступень свайго разьвіцьця,—няма патрэбы ўвільваць ад адказу на пытаньне. Ня гледзячы на ўсе памылкі, ужо раскрытыкаваныя, ці якія яшчэ не раскрытыкаваны, тэорэтычная лінія РАПП і ЎсеАПП была ў асноўным правільнай (воплескі). Гэтым, вядома, не зьмяншаюцца нашы памылкі, але наадварот, іменна такая пастаноўка пытаньня ставіць перад намі запатрабаваньні яшчэ большыя. Мала адзначыць памылкі, трэба ўмець іх раскрытыкаваць. Мала раскрытыкаваць адны гэтыя памылкі, трэба разабрацца ў тым, адкуль яны растуць, трэба ліквідаваць магчымасьці іх далейшага зьяўленьня. Трэба сачыць за тым, ці ня зьвязаны гэтыя памылкі паміж сабой, ці няма небясьпекі ўтварэньня цэлай сыстэмы памылковых поглядаў.

Шмат нам дапаможа праца па пераглядзе дэборанпічыны, не наогул у галіне філёзофіі, але ўплыву дэборыншчыны на нас, на нашу работу, на нашу галіну.

## Аб бальшавіцкай самакрытыцы і цытатных справах прыват-доцэнтаў

Большая частка прыват-доцэнтаў, якія спэцыялізуюцца на крытыцы нашых памылак і якія пэратвараюць гэта ў сваю адзіную профэсію, думаючы, што гэтым самым яны будуць мець, ці маюць якіясьці адносіны да літаратуры, займаюцца гэтай крытыкай надзвычай плоска, вульгарна і часта нават нядобрасумленна. Гэта тлумачыцца тым, што іх тэорытычная крытыка амаль заўсёды зьяўляецца зброяй, ці прыкрыцьцем палітыканскай грызьні. Дзеля гэтага яны заўважаюць найдрабнейшыя памылкі Ермілава і Лібедзінскага і ў той-жа час прапушчаюць і не зьвяртаюць патрэбнай увагі на сур'ёзныя памылкі іншых таварышоў з нашага Усеапаўскага кіраўніцтва. Вось, напрыклад, кніга Афіногенава „Творчы мэтод тэатру“. Таварыш Афіногенаў, стары напоставец, але трэба проста сказаць, што на раду палажэньняў ягонай кнігі ляжыць адбітак стопроцантнага ўплыву дэборыншчыны. Калі-б Афіногенаў сам гэтага не зразумеў, калі-б ён ня прызнаў сваіх памылак, калі-б ён ня выступіў з самакрытыкай, мы-б яго адсеклі ад нас. Мы-б сказалі: „ты дэборынствуеш, нам з табой не па дарозе. Але мы ўжо дарасьлі да зразуменьня хоць-бы таго, што вельмі лёгка адсекчы, але куды цяжэй дапамагчы выправіцца, што лёгка адсекчы, але цяжэй даць крытыку па сутнасьці, што адсекчы лёгка, а цяжэй дапамагчы па-бальшавіцку самакрытыкавацца. Наша лінія заключаецца ў тым, каб на падставе поўнай

прынцыповай яснасьці і бальшавіцкай нецярпімасьці людзей выпраўляць, дапамагаць выпраўляцца ім самім і кадры не разбазарваць.

Вось, напрыклад, на т. Ермілава вешаюць сабак больш чымсьці на каго іншага. На гэта ёсьць падставы. У яго былі вялікія памылкі, але ён ужо напісаў самакрытычны артыкул, ён напісаў яго сумленна, ён сваіх памылак не абараняе, ён сябе несупроцьстаўляе бальшавіцкай крытыцы. Ермілаў разумее, што яму патрэбна—як і ўсім нам—ня толькі вучыцца і вучыцца, але ў тым-сім і перавучвацца, Аднак, Ермілаў працуе з намі ня першы год. Ён праверany нашым рухам не ў аднэй дыскусіі з „Літфронтам", але ў радзе літаратурных дыскусій, тых дыскусій, у якіх формавалася і сформавалася лінія нашага руху. Калі-б ён — Ермілаў— паставіў сябе ў палажэньне інтэлігента пакрыўджанага крытыкай з боку пролетарскай організацыі, вядома для яго не знайшлося-б месца ў кіраўніцтве РАПП. Але гэтага няма. І пакуль гэтага няма, т. Ермілаў будзе як раней членам нашага сакратарыяту.

Тое-ж самае можна сказаць, што да тав. Лібедзінскага. Не падлягае сумненьню, што ў яго былі памылкі, што ён зусім нядаўна, скажам, памыліўся ў ацэнцы апошніх твораў Дзем'яна Беднага. Але мне здаецца, што рад сваіх памылак Лібедзінскі ў № 1 часопісу „РАПП",—яшчэ ня ўсе памылкі, але цэлы рад іх, — крытыкуе больш сур'ёзна і грунтоўна, чым усе разам узятыя прыват-доцэнты, якія крычалі аб яго правым ухіле. І калі-б Лібедзінскі не заняўся такой самакрытыкай, ён, вядома, не астаўся-б у кіраўніцтве нашым рухам. Але Лібедзінскі сумленна і па-бальшавіцку займаецца самакрытыкай. Гэта адзін з каштоўнейшых пролетарскіх пісьменьнікаў, гэта адзін з найбольш выверaных кіруючых работнікаў пролет-літаратурнага руху.

Мы, таварышы, ведаем, з якімі цяжкасьцямі ў кожнай ідэолёгічнай галіне—у прыватнасьці і асабліва ў нашай галіне—скалачваюцца кадры. З якімі цяжкасьцямі ствараецца і расьце ў такіх галінах партыйнае ядро, з якімі цяжкасьцямі і з якімі адсевамі адбіраюцца ў гэтых галінах людзі, здольныя весьці бальшавіцкую політыку. І мы адважна разгортваем самакрытыку,—яшчэ недастаткова разгарнулі, але разгортваем і будзем разгортваць, ведаючы, што самакрытыка—між іншым—зброя вялікага спрацоўваньня кадраў, большай колектыўнасьці ў працы, большага ўмацаваньня складваўшагася ядра, а нічуць ня тое разбазарваньне людзей да якога нас штурхаюць прыват-доцэнты, тыпу тых нямецкіх студэнтаў, аб якіх часта гаворыць і паўтарае тав. Фадзееў.

Гэтыя прыват-доцэнты ўжо прынесьлі шмат шкоды нашаму руху. Пры ўсіх рысах падабенства, яны таксама розныя. Вось, напрыклад, Татулаў. Гэта прыват-доцэнт клясычны, бязпрыкладны, стопроцантны і ортодоксальны. Цікава, што ў часе дыскусіі з „Літфронтам" ён казаў,— гэта друкавалася ў часопісу „На рубеже Востока",—што, моў, трэба-ж, таварышы, больш далікатна абыходзіцца з блёкам, гэта значыць з „Літфронтам". Бо-ж у ім знаходзяцца такія буйныя марксысты, як Беспа-

лаў, Гэльфанд і Зонір (сьмех). Прыват-доцэнт прыват-доцэнта бачыць здалёку! Гэтай заявай Татулаў вычарпальна ахарактарызаваў, як самога сябе, таксама і вядомую пераверзеўскую тройку [1]).

Але прыват-доцэнты бываюць ня толькі такія лашчоныя, як Татулаў. Бываюць прыват-доцэнты гаворкія. Такім звыш гаваркім прыват-доцэнтам зьяўляецца Ражкоў, які ўчора тут выступаў. Калі яму было дадзена слова, я крыкнуў тав. Стаўскаму, што гэта „последняя туча рассеянной бури". Гэта было, вядома, пачварным перавялічэньнем наконт „тучы" і наконт „буры". „Никакая это не туча, а сплошное облако без штанов" (сьмех).

Якім тонам выступаў гэты разьвязны прыват-доцэнт? Ен літаральна сказаў: патрэбна-ж выкарыстаць усе легальныя магчымасьці. Ён гаварыў аб нас зьдзекваючыся: вось, моў, ортодоксы і афіцыйная крытыка. Ці можа ў падобным тоне разважаць бальшавік? Ці—не зразумела, што гэта тон дробна-буржуазнай опозыцыі, што Ражкоў зьяўляецца яе поўнамоцным прадстаўніком (воплескі). Ражкоў адзначаў тут нашыя памылкі ня толькі мнімыя, але і сапраўдныя, адшукаў якуюсьці выразна-памылковую цытату з якогасьці майго артыкулу. За гэта я яму толькі ўдзячны. Але калі Ражкоў спрабаваў на гэтых падставах прыпісаць нам цэлую лінію памылак у галіне культурных пытаньняў, на гэта мы заслужана рэагавалі толькі сьмехам. На самай справе, хто ня ведае, што іменна мы—напостаўцы—біліся супроць Іонава, супроць Сьляпкова, супроць Лупола, супроць Баброўнікава і ўсіх іншых дэборынскіх і бухарынскіх вучняў у галіне культуры. Тав. Сутырын у спрэчках па творчых пытаньнях добра гаварыў аб неабходнасьці аналізаваць нашы памылкі з пункту гледжаньня таго, ці выяўляюць яны адступленьне ад правільнай лініі, ці проста пераход на няправільны пункт гледжаньня. Што гэтыя памылкі—складаная частка памылковай сыстэмы поглядаў, ці вядомыя, хоць і зусім неабавязковыя „издержки выработки правильной линии", ці выражэньне яшчэ непераможанага ўплыву ідэйнага праціўніка і г. д. і т. п.

Я думаю, што ўсе мы былі-б вельмі рады, калі-б можна было вылучыць спэцыяльную брыгаду, якая-б пераглядзела ўсе нашы кніжкі—мае, Фадзеева, Ермілава, усіх інш., выпісала-б усе памылковыя цытаты; можа быць можна да гэтай справы прыцягнуць і Ражкова, я асабіста загадзя згодны ахвяраваць яму ў прыватную ўласнасьць усе тыя памылковыя цытаты, якія ён у мяне знойдзе (сьмех, воплескі). І падобную работу, вядома, трэба прарабіць.

Але той, хто думае, што гэта ёсьць усё неабходнае для разгортваньня самакрытыкі, той прыніжае яе значэньне, той адмаўляе патрэб-

[1]) З гэтай тройкі трэба зараз вылучыць таварыша М. Гэльфанда—ён сумленна адышоў ад Пераверзева, ён прынцыпова пераглядае сваё літфронтаўскае мінулае, ён спрабуе на справе быць карысным пролетарскай літаратуры.

Л. А.

ную нам глыбіню і сур'ёзнасьць самакрытычнай работы. Самакрытыка зусім ня зводвіцца да таго, каб з пункту погляду 1931 г. праглядзець артыкулы 1926—27 ці 1928 г.г., і ўжо тым больш вырываючы асобныя цытаты з контэксту і не разумеючы гісторычнага разьвіцьця таго ці іншага пункту гледжаньня, тэй ці інш. сыстэмы поглядаў, тэй ці інш. лініі. Гэта толькі нязначная частка работы па разгортваньню самакрытыкі, пры гэтым не найбольш цяжкая,—яна зусім лёгкая там, дзе старыя працы праглядаюцца не для схолястычнай лаянкі цытатамі, але для таго, каб усё старое ацаніць з пункту гледжаньня новых пытаньняў—і для іх правільнага вырашэньня.

Апошні пэрыод часу характарызуецца ў нас бязумоўным узмацненьнем самакрытыкі. Але, гэта, вядома, толькі пачатак, бо і да гэтага часу самакрытыкі ў нас яшчэ малавата. А трэба-ж улічыць, што мы ў прыватнасьці, таму і „Літфронт" так пасьпяхова разграмілі, што ў дыскусіі з ім не паставілі сябе ў становішча непагрэшных папаў рымскіх, але, наступаючы на праціўніка, разгортвалі адначасова самакрытыку ў сваіх радох. І мы не ў найменшай ступені, паўтараю яшчэ раз, не прэтэндуем на якую-небудзь непагрэшнасьць. Ды адкуль маглі-б у нас зьявіцца падставы для падобных прэтэнзый: працуем мы ў галіне надзвычай цяжкай, у галіне, у якую партыйныя кадры, яшчэ толькі толькі па сапраўднаму падцягваюцца, у галіне, раней марксызмам ня так ужо моцна распрацаванай, у галіне, дзе пролетарскія бальшавіцкія кадры вельмі маладыя. Вазьмеце сярэдня-рапаўскі ўзрост—дзеля таго, каб некомпромэтаваць кіраўніцтва, я ня буду гаварыць аб сярэдняй колькасьці гадоў, якая прыпадае на кожнага з нас (сьмех).

Гэта вядома весела, але-ж гэтым маладым кадрам прыходзіцца быць у цяжкім становішчы. У шмат чым яны толькі складаюцца ў процэсе руху. Усе яны разам з рухам растуць—інакш партыйнае ядро і ня можа складацца. Інакш, у габінэтах толькі і выпрацоўваюць прыват-доцэнтаў беспалаўскага тыпу, якія церпяць самае ганебнае паражэньне пры першым датыку з літаратурнай рэчаіснасьцю.

Так, у нас вельмі шмат памылак, і адзначаючы цяжкасьці работы і маладасьць нашых кадраў, мы іх толькі ў пэўнай ступені вытлумачваем, але нічуць не апраўдваем, бо ўсе гэтыя памылкі павінны быць усьвядомлены ня толькі як пасьведчаньне нясьпеласьці ці маладасьці нашага руху, але і распрацаваны ў сьвятле клясавай барацьбы, якая адбываецца ў нашай галіне, у сьвятле націску хістаючыхся элемэнтаў на правядзеньне генэральнай лініі партыі. Ленін любіў прыводзіць, здаецца, словы Маркса, што пакідаць памылку не абвергнутай, значыць заахвочваць інтэлектуальную нясумленнасьць. Гэты выдатны выраз абавязвае нас узмацніць бальшавіцкую самакрытыку. Бальшавіцкая самакрытыка заўсёды дапамагае ўзьняць аўторытэт кіруючых работнікаў, сьведчыць аб іх сапраўднай партыйнасьці.

## Ці застаецца варонщчына галоўнай небясьпекай?

Патрэбнае для нас разгортваньне самакрытыкі дапаможа і таму, каб ня толькі разьбіваць, але і да канца дабіць варонщчыну. Трэба сказаць, таварышы, што і ў нас на пленуме ў дыскусіі па творчых пытаньнях ня зусім правільна была разьмеркавана ўвага. Вельмі шмат гаварылі аб „Літфронце" менш аб варонщчыне. А між-тым варонщчына застаецца галоўнай формай праяўленьня буржуазных уплываў на пролетарскую літаратуру.

Варонщчына—наш галоўны вораг пры распрацоўцы пытаньняў творчага мэтоду. Варонщчына больш за ўсё адчуваецца на практыцы нашых пісьменьнікаў. Трэба пры гэтым бачыць і новыя формы варонщчыны. Зусім ня ўсе выступаюць так, як раней, адкрыта, як некаторыя аўтары вядомага зборніку „Як мы пішам". Па адным гэтым зборніку можна меркаваць аб ступені распластаваньня ў асяродзьдзі колішняга папутніцтва і аб памерах уплыву на яго буржуазнай ідэолёгіі. Хто з аўтараў гэтага зборніку займае найбольш ортодоксальную позыцыю з пункту гледжаньня варонщчыны? Яўгені Замяцін. Цытаты з артыкулу гэтага махровага рэакцыйнага пісьменьніка можна параўноўваць ня толькі з духам і сэнсам пісаньняў Варонскага, які выдае сябе за марксыста, але лёгка проста параўнаць цытаты. Можна ўстанавіць з дакладнасьцю: ступень перабудовы папутніцтва зьяўляецца адначасова ступеньню яго адыходу ад тэорыі Варонскага ў агульных пытаньнях мастацтва і ў прыватнасьці ў пытаньнях творчага мэтоду. Ці не зьяўляецца гэта новай і цалкам здавальняючай ацэнкай клясавай сутнасьці варонщчыны?

Я лічу патрэбным зрабіць новы націск на нашых старых фармулёўках аб варонщчыне, як галоўнай небясьпецы, і таму, што мы таго-ж самага „Літфронту" не даб'ем без узмацненьня агню па варонщчыне.

У асноўным пытаньні—у пытаньні аб ролі, сьветапогляду ў творчасьці мастака—мы маем простае перапляценьне і зрастаньне пункту гледжаньня, як адкрыта правых, таксама і так званых левых опортуністаў. І, падзяляючы схэматычна і ўмоўна і рацыяналістычныя і эмпірычныя плыні ў творчай дыскусіі, у роўнай ступені не разумеюць, а то і проста адмаўляюць ролю сьветапогляду, г. зн. якраз тое, на чым робім націск мы, вядучы барацьбу за высокі ідэйны ўзровень пролетарскай літаратуры. Гэта наша галоўнейшая задача. Шагам наперад у мастацкім разьвіцьці чалавецтва пролетарская літаратура будзе станавіцца толькі тады, і толькі ў такой ступені, калі і ў якой ступені будзе востра і рашуча павышацца яе ідэйны ўзровень.

Нам патрэбны пісьменьнікі, якія ўмеюць браць вялікія ідэі нашае клясы, не схэматычна, не зьбядняючы іх, не вульгарызуючы і не апашляючы іх,—нам патрэбны пісьменьнікі, якія сапраўды-б стаялі на вышыні гэтых ідэй. Нам патрэбны пісьменьнікі, палітычная кваліфікацыя якіх ня зводзілася-б толькі да знаёмства з чарговымі перадавіцамі газэт. Нам патрэбны пісьменьнікі для якіх матэрыялістычная дыялек-

тыка не зьяўлялася-б прыгожай, можа быць нават і жаданай, але „незнакомкай". Нам патрэбны пісьменьнікі, удзел якіх на практыцы соцыялістычнага будаўніцтва ня быў-бы толькі практычнай формай масавага вытварэньня рэклямнай шуміхі.

Які-ж ідэйны ўзровень у большасьці пролетарскіх пісьменьнікаў? Яшчэ вельмі нізкі, які далёка і далёка не адпавядае тым задачам, якія ставяцца рабочай клясай перад савецкім мастацтвам. Іменна неабходнасьць аўладаць тэматыкай рэконструкцыйнага пэрыоду з асаблівай сілай падкрэсьлівае значэньне пытаньняў сьветапогляду. Чаму мы павінны дзёрціся за лёзунг паказу рэконструкцыйнага пэрыоду? Таму, што рэконструкцыйны пэрыод уяўляе сабой новы этап разьвіцьця пролетарскай рэволюцыі—этап больш складаны, больш насычаны новым і куды больш значным зьместам. Для таго, каб працаваць над тэматыкай рэконструкцыйнага пэрыоду, патрэбен і больш высокі ўзровень сьветапогляду, большая ідэйная глыбіня мастака, большая шырыня ўспрыняцьця ім соцыяльнай рэчаіснасьці, шырыня недасягаемая без аўладаньня матэрыялістычнай дыялектыкай на справе. За тэматыку рэконструкцыйнага пэрыоду азначае адначасова—за больш высокі сьветапогляд пролетарскага мастака. Найвялікшая бяда і грэх „Літфронту" заключаліся ня толькі ў тым, што літфронтаўцы не разумелі гэтай пастаноўкі пытаньня, але і ў тым, што яны актыўна супроць яе змагаліся.

## Чым зьяўляўся „Літфронт"?

Мы падводзім зараз вынікі барацьбы з „Літфронтам". Чым-жа ён зьяўляўся? Рэакцыяй на недастатковасьць нашай перабудовы? Рэакцыяй на нашыя памылкі і промахі? Ці гэта быў блёк плыняў, якія адлюстроўвалі дробна-буржуазныя хістаньні ў пролетарскай літаратуры пры пераходзе яе да новага этапу свайго разьвіцьця, блёк, сугучны групоўцы Сырцова—Ломінадзе? На гэтыя пытаньні патрэбна даць зусім выразны адказ. Тут няма месца ні для якога манэўраваньня, якім шмат хто, што сёньня на словах прызнаюць правільнасьць нашай лініі, хацелі-б займацца. А між іншым у нас ёсьць і такія, якія, галасуючы сёньня за нашы ўстаноўкі, адначасова апраўдваюць сваё мінулае прабываньне ў літфронце тым, што, моў, там і так яны змагаліся за перабудову ЎсеААПП і за разгортваньне самакрытыкі. Тым самым, натуральна, працягваецца і пэўная рэабілітацыя „Літфронту". Тым самым, натуральна, укосна апраўдваецца і пакрываецца іх мінулая лінія паводзін. Вядома, калі некаторыя рабочыя таварышы,—нікольк не 16 гурткоў у Ленінградзе, бо ніколі ў „Літфронту" ня было 16 гурткоў!—ішлі за „Літфронтам", то ў некаторых у тэй форме, сапраўды адчувалася нежаданьне лініі РАПП супроцьстаўляць сваю лінію, а сумленнае жаданьне дапамагчы бальшавіцкаму разьвіцьцю пролетарскай літаратуры. Былі і такія. І іх мы сёньня прыпамінаем толькі таму, што якраз яны даюць

найбольш жорсткую, найбольш вострую, найбольш ваяўнічую без усякіх паблажак, ацэнку „Літфронту“ і сваёй „літфронтаўскай“ мінуўшчыне.

У радзе месц былыя літфронтаўцы яшчэ жывуць настроямі рэваншу. Да гэтага можна аднесьціся з поўным спакоем—справа іх безнадзейная! І аднак, самым шкодным для нас было-б думаць, што літфронтаўшчына ўжо зьнішчана, і што карэньні яе выкарчаваны. Львіная доля гэтае работы яшчэ наперадзе.

Мала разьбіваць і вороншчыну і літфронтаўшчыну ў тэорытычных дыскусіях. Трэба зразумець, што дабіць гэтыя варожыя нам плыні мы зможам толькі тэмпамі нашай перабудовы. Толькі практыкай перабудовы, толькі паказам яе вынікаў. І нават выкрываючы тыя ці іншыя вылазкі літфронтаўскага характару, ці характару вороншчыны, мы павінны дашуквацца да якогасьці сваясаблівага адлюстраваньня і выражэньня ў іх, як у крывым люстэрку, хвароб нашага руху.

Мы перамаглі воронщчыну і да канца перамагаем літфронт іменна таму, што творы пролетарскай літаратуры, яе практыка і тэорэтычная продукцыя пацьвярджаюць правільнасьць нашых копіральных установак. Адзін з апошніх прыкладаў: „Разбег“ Стаўскага. У гэтай кніжцы, вядома, маецца, рад вялікіх недахопаў, але гэта сапраўдны вялікі бальшавіцкі твор, які знаходзіцца на сталбавой дарозе пролетарскай літаратуры і дэмонструе перамогу нашых творчых лёзунгаў. Я зазначаю іменна на „Разбег“ тав. Стаўскага, як прыклад таго, што самая актуальная тэматыка лепш за ўсё разгортваецца мастакамі—напостаўцамі.

Мы гэта, на вялікі жаль, растлумачваем вельмі і вельмі недастаткова. Мы яшчэ не далі ні аднэй ня толькі кніжкі, але нават сур‘ёзнага артыкулу аб выніках творчай дыскусіі. Мы яшчэ да гэтага часу не аб‘ядналі вынікаў усей тэй колектыўнай працы, якую прарабіў наш рух дыскусіяй пра творчы мэтод. Мы яшчэ нават не падсумавалі хоць-бы апошнюю дыскусію з „Літфронтам“. А між тым, яны, разьбітыя і пераможаныя, нас у гэтэй справе выпераджаюць. Вось, за апошні час, напрыклад, на расійскай мове вышлі 3 кніжкі—Майзеля, Родава і Ражкова.

„Кароткі нарыс сучаснай літаратуры“ Майзеля—кніжка настолькі-ж протэнцыёзная, наколькі і дробна-буржуазная. Праўда, Майзель дае ў ёй усё, што ён можа даць, але, на жаль, даць та ён можа вельмі мала,— 2-3 „літфронтаўскія“ ідэйкі, 2-3 інтэрпрэтацыі гарбачоўскіх ці беспалаўскіх палажэньняў. Продукцыя, для якой патрабуюцца не мазгі, а ортодоксальная адданасьць нажніцам і клею.

Кніжка Родава, якая вышла пад назваю „На посту“, да літаратуры наогул ніякіх адносін ня мае. Гэта сапраўды на пасту,—на пасту склокі, інтрыганства, дробнага політыканства, бяздарнага манэўраваньня, манэўруючых бяздарнасьцяй (воплескі).

І, нарэшце, Ражкоў. На ім, вядома, дадаткова спыняцца няма ніякай патрэбы.

Мы перамаглі ў бойцы. У дыскусіі наша ўзяла. А яны нас выпераджаюць... (Кіршон: „Ім толькі гэтае і застаецца, не адбірай у людзей апошняга"). Не, я не магу да гэтага падыходзіць з пункту гледжаньня лібэральнага гуманізму, з гэтай перавальскай літасьцю да людзей наогул (сьмех). Родаў—гэта жывы труп, які заражае абстаноўку. Ідэйна расстраляць яго—мы яго расстралялі. Трэба канчаткова літаратурна пахаваць!

Я ня спыняюся больш падрабязна на творчых установках літфронту таму, што гэтаму пытаньню пленум ужо аддаў шмат увагі пры абмеркаваньні першага пункту парадку дня.

## „Літфронт" і нацыянальнае пытаньне

У сувязі з „Літфронтам" мне хочацца толькі адзначыць той бок, які ў нас звычайна зусім ігнаруецца. Гутарка ідзе што да „Літфронту" і нацыянальнага пытаньня. Якія элемэнты гуртаваліся навакол „Літфронту" ці орыентаваліся на его? У Беларусі, напрыклад, Купцэвіч. Хто такі Купцэвіч? Нацыянал-дэмократ. Хто спачуваў „Літфронту" на Украіне?—горшыя элемэнты пролітфронта. У цюркскай літаратуры з абаронай „Літфронту" выступаў Алі-Назім—бяспрынцыпны малады чалавек, які ўхітраўся аднačасова супрацоўнічаць і ў бальшавіцкім друку і ў друку кемалісцкім-турэцкім. У Закаўказьзі наогул паўпрэдам „Літфронту" быў Татулаў, уся практычная праца якога была наскрозь прасякнута нацыяналістычным жаданьнем супроцьставіць Закаўказьзе ўсім іншым атрадам УсеААПП.

Вось якія элемэнты гуртаваліся навакол „Літфронту". Вось да каго ён сам цягнуўся. Вось на каго ён орыентаваўся, каго ён узгадоўваў і каго ён падтрымліваў. Больш таго, я павінен сказаць, што орыентацыя ўсіх гэтых элемэнтаў на „Літфронт" тлумачыцца ня толькі натуральным для ворага жаданьнем падтрымаць практычна „Літфронт", як сілу, якая расхіствае пролетарскі літаратурны рух. Не, тут справа больш складаная і глыбейшая. Тут тэма, якая патрабуе спэцыяльнага разгляду. Тут гутарка ідзе аб тэй пераклічцы па творчых пытаньнях, якую можна знайсьці паміж найбольш гарачымі тэорэтыкамі „Літфронту" і найбольш адкрытымі прадстаўнікамі нацыянал-дэмократычных плыняў у галіне літаратурнай тэорыі. Прыпомніце, што і Хвылёвы на Украіне і Зарэцкі ў Беларусі выступалі пад сьцягам барацьбы за романтыку і романтызм. Прыпомніце, што амаль усе нацыянал-дэмократычныя плыні атакавалі нас і па лініі пытаньняў мастацкага мэтоду. І можна ўстанавіць, што іх патрабаваньні „даёш романтыку" зьвязваліся з тэорыямі самабытнасьці іх народаў, з романтычнымі жаданьнямі ідэалізаваць сваё мінулае і г. д. і т. п.

Патрэбна бачыць, вядома, ня толькі падабенства, але і розьніцу, не адмахваючыся пры гэтым ад тэй своеасаблівай пераклічкі, якая ішла тут па творчых пытаньнях паміж „Літфронтам" і Зарэцкім.

Ражкоў, штосьці тут развважаў аб романтыцы і пра Шылера. Але каб для Ражкова зрабіць хоць-бы школьны элемэнтарны экзамен, дык лёгка выкрыецца, што Шылера ён ведае толькі паводле чутак, ці паводле гімназыяльнага падручніка, а можа быць нават толькі і па загалоўку гэтага падручніка... (голас: „Можа быць у тэатр Вахтангава хадзіў“). Можа быць хадзіў у тэатр Вахтангава... (Жараў—„Калі жыве на Арбаце“). Бадай, што і так (сьмех). Але не хвалюйцеся за Ражкова, ён, вядома, заўсёды будзе з вамі развважаць і спрачацца пра Шылера, бо для яго гэта вельмі проста: возьме адзін, другі творык, выцягне з яго адну-другую цытатку,—глядзіш, хто-небудзь і паверыць, што ён Шылера ведае. Шмат якія прыват-доцэнты такім чынам жывуць даволі прытульна і комфортабельна.

## Забясьпечыць разгортваньне творчых дыскусій, дапамагчы фармаваньню творчых груп, зжыць адміністраваньне і камандваньне

Разгром „Літфронту“ павінен прывесьці—і ўжо прыводзіць—не да заміраньня, а да сапраўднага ўздыму творчых дыскусій і росквіту творчых груповак. Адзіным сур'ёзным месцам у выступленьні Ражкова было яго развважаньне на тэму аб патрэбе дыскусіі і опозыцыі ў нашай арганізацыі. Але гэтае месца ў развважаньнях тав. Ражкова зьяўлялася простым плагіятам. Ці-ж не займаўся ён амаль даслоўным паўтарэньнем таго, што было надрукавана ў перадавіцы № 11 часопісу „На литпосту“?

У перадавым артыкуле аб выніках апошняга пленуму РАПП было сказана аб тым, што гэта першы пленум, на якім ня было опозыцыі. Плюс гэта ці мінус? У перадавіцы гэта разглядалася, як найвялікшае дасягненьне РАПП. Гэта правільна. І калі гутарка ідзе аб опозыцыі літаратурна-політычнага парадку. У гэтым выпадку адзінства ўсёй арганізацыі на аснове барацьбы за генэральную лінію партыі ў данай галіне зьяўляецца надзвычай вялікім дасягненьнем, значэньне якога нельга недаацэньваць. Аднак, калі гутарка ідзе аб адсутнасьці на пленуме творчай „опозыцыі“, дакладней і правільней—ня творчай „опозыцыі“, а раду „опозыцый“, ці—яшчэ больш дакладна — раду спаборнічаючых творчых груповак, калі гутарка ідзе аб адсутнасьці такой „опозыцыі“ на апошнім пленуме, дык гэта вядома не дасягненьне, а недахоп, гэта ня плюс, а мінус.

Гэта называецца: нашым-жа дабром! Чаму мы ў нашай перадавіцы слова „опозыцыя“ ўзялі ў лапкі. Таму, што ў нас ідзе гутарка не аб тэй анархічнай конкурэнцыі, да якой у свой час заклікаў нас Бухарын і не аб атмосфэры калатні і сваркі—такую абстаноўку стварыць лёгка.— А мы змагаемся за разгортваньне творчай дыскусіі і за ўтварэньне творчых груповак на аснове таварнага супрацоўніцтва і таварыскай

ўзаемадапамогі. Задача кіраўніцтва ў зьвязку з гэтым заключаецца ня толькі ў тым, каб не перашкаджаць існаваньню такіх „опозыцый“. Задача кіраўніцтва ў тым, каб фарсаваць процэсы творчых разьмежаваньняў, каб іх самому ўтвараць і ўмацоўваць, каб ім на справе дапамагаць.

Мы ведаем, што тэмпы ўтварэньня творчых груповак знаходзяцца ў пэўнай суадпаведнасьці з узроўнем творчага разьвіцьця пролетарскай літаратуры. І гэты ўзровень такі, што мы ўжо сёньня маглі-б мець вялікую колькасьць творчых груповак.

Чым шпарчэй будзе расьці і перабудоўвацца пролетарская літаратура, тым глыбей і грунтоўней будзе разьвівацца творчая дыскусія. Ёй перашкаджаюць, вядома, і нашы організацыйныя недахопы, організацыйныя прарэхі, частае неразуменьне характару нашых пісьменьніцкіх організацый, пэўная наяўнасьць мэтодаў камандваньня і адміністраваньня, а, між тым, няма нічога больш шкоднага, як капіраваньне ва ЎсеААПП мэтодаў работы савецкай і партыйнай організацыі,—на практыцы гэта здараецца і нават ня рэдка. Кожнаму з нас даводзіцца спатыкацца нават са звычайнай падменай ідэйна-выхаваўчай работы адміністраваньнем і камандваньнем. Калі мы ня здолеем гэта канчаткова ліквідаваць, дык мы выдадзім сабе патэнт на ідэйную беднасьць.

Узмацненьне ролі рабочага ядра і ў гэтых адносінах павінна прынесьці самыя найлепшыя вынікі.

## Мацней агонь па буржуазных уплывах на пролетарскую літаратуру

Творчая дыскусія павінна быць аднача́сова і творчым аглядам пролетарскай літаратуры. Мы павінны ведаць, хто над чым працуе, хто чым цікавіцца, хто як расьце. Мы павінны з як мага большай паўнатой уяўляць сабе творчы воблік усяго нашага руху ў цэлым, кожнай нашай асоцыяцыі, кожнага нашага пісьменьніка. Бяз гэтага ніякай дапамогі, ні новым, ні старым кадрам, мы ня зробім. Бяз гэтага нам не ўсьведаміць і не падлічыць творчага вопыту, які ўжо маецца. Бяз гэтага не падыйсьці нам да таго вядомага плянаваньня творнай продукцыі членаў нашай організацыі, да якога мы, вядома, прыйдзем.

Такі творчы агляд павінен дапамагчы ачысьціць нашых організацый ад чужых элемэнтаў. Вось, напрыклад, Міх. Аляксееў; нават яго вялікая барада ня можа захаваць таго факту, што ягоны роман „Рэсторан на Арбаце“ не мастацкі твор пролетарскай літаратуры, а буржуазная халтура (воплескі). Гэты, Аляксееў, спрабаваў утварыць якіясьці групоўкі, блёкаваўся з літфронтам і г. д. і т. п. Да гэтага можна аднесьціся без асаблівай зацікаўленасьці—і вельмі кепска, што ў нас больш займаліся яго групоўкамі, чым разглядам яго роману перад усёй масай рапаўцаў.

У гэтым творчым аглядзе павінны быць выяўлены і выкрыты і такія, як Осін, які здолеў надрукаваць выразна контр-рэволюцыйныя вершы у часопісу ЗОАПП „Наступ". Гэта быў буйны прарыў у нашых смаленскіх таварышоў,—мы зьнялі там сакратара абласной організацыі, павялі растлумачальную працу, але трэба памятаць, што і ў іншых АПП напэўна што ня ўсюды яшчэ выкінуты падобныя Осіны. Ці нават у грузінскай літаратуры тав. Вакелі быў раней пролетарскім пісьменьнікам, сёньня-ж ён ім не зьяўляецца (голас: „ніколі і ня быў"). Ну, гэта і пераўвялічана і ўпрошчана, гэта рэпліка Кікодзе, хоць і ня ім сказаная (Кікодзе: „Я за ўсё адказваю"). Хопіць таго, што ты за сябе не адказваеш (воплескі, сьмех).

## Больш увагі ў барацьбе за літаратурную політыку партыі

Аднак, неабходнае павялічэньне ўвагі да творчых пытаньняў не павінна зьменшыць значэньне літаратурна-політычнай работы. А між тым яна ў нас выразна паслабла за апошні час. Мы за апошні час ня толькі кепска, але ўсё горш і горш займаліся барацьбой з буржуазнай літаратурай і работай з папутніцтвам. Тав. Фадзееў меў поўную слушнасьць, зазначаючы пра гэта ў „Правде"—захапляемся, моў, унутранай дыскусіяй, а шмат якія з буржуазных твораў пакідаем без адпору. На самай справе, таварышы, пасьля „справы" Пільняка і Замяціна мы ня мелі ні аднэй больш вялікай грамадзка-літаратурнай кампаніі такога характару, а трэба быць ні чым ня прыкрытым правым опортуністам для таго, каб адмаўляць наяўнасьць у нас буржуазных твораў, наяўнасьць у нас буржуазных уплываў, наяўнасьць у нас буржуазнай небясьпекі, у самых злосных, у тым ліку ў новых сваясаблівых формах.

Без узмацненьня барацьбы з буржуазнай літаратурай—і не ў парадку дэкляарцый і алілуйшчыны, а разглядам твораў,—нам не забясьпечыць комуністычнага перавыхаваньня папутніцтва.

У апошнім нумары часопісу „Літаратура і мастацтва" у перадавіцы сказана, што мы—зьезд, ці наш пленум—зможам не займацца пытаньнямі папутніцтва. Можа гэта друкарская памылка, якую трэба чытаць—ня зможам не займацца, але калі гэта і памылка, дык, бязумоўна, у часопісу выдатны корэктар, які цалкам правільна разумее сапраўдную лінію яго рэдакцыі (сьмех). Мы павінны ўзмацніць працу з папутніцтвам, дапамагаючы тым, якія перабудоўваюцца, выкрываючы тых, якія прыстасоўваюцца, дзяручыся з тымі, хто адыходзіць на позыцыі буржуазнай літаратуры. У шмат чым ад нас залежыць паскарэньне тэмпаў рассластаваньня папутніцкіх радоў—самі папутнікі ў масе ўжо разумеюць правільнасьць нашай пастаноўкі пытаньня: *саюзьнік ці вораг*. Саюзьнік ці вораг—гэтым палажэньнем вызначаецца наша політыка ў адносінах да папутніцтва—але гэтая політыка павінна праводзіцца без лявацкіх загібаў, без раптоўнага абвяшчэньня ворагам усякага, хто яшчэ да канца ня стаў саюзьнікам.

Вядомы грузінскі пісьменьнік Міх. Джавахіжвілі казаў нядаўна аб тым, як цяжка жыць папутніку,—моў, я хачу быць папутнікам, але сёньня адны патрабаваньні, заўтра іншыя патрабаваньні—проста жыць немагчыма! Падобным чынам развažаюць шмат якія папутнікі, якія тым самым сьведчаць, што яны ня толькі былі, але яшчэ і засталіся папутнікамі. Зьмена патрабаваньняў закладзена ў абстаноўцы, і, сапраўды, бяз найвялікшага ўзмацненьня тэмпаў і глыбіні перабудовы ўчарашні папутнік перастае ім быць сёньня.

Некаторым здаецца, што можна ставіць знак роўнасьці паміж *зьменавехаўствам і папутніцтвам.* Гэта памылкова. У нас, вядома, было і зьменавехаўскае „папутніцтва“, і паводле ўдалага выразу тав. Каваленко, папутніцтва ад украінізацыі. Але ў нас ёсьць ужо сёньня і саюзьнікі па будаўніцтву соцыялізму.

Трэба тут па рознаму падыходзіць да розных пісьменьнікаў, знаходзячы розныя крытэрыі ў розных рэспубліках. Недахоп часу не дае мне магчымасьці спыніцца на гэтым больш падрабязна—спадзяюся, што т. т. ў спрэчках выкажуцца, а я яшчэ—у заключным слове. Я лічу правільным пераіменаваньне таварыства сялянскіх пісьменьнікаў у таварыства пісьменьнікаў пролетарска-колгасных. Гэтае пераіменаваньне правільна адбівае тэндэнцыі іх разьвіцьця, і іх пісьменьнікаў, і іх організацыі ў цэлым. Але будзе кепска, калі таварышы тэндэнцыі разьвіцьця прымуць за характарыстыку ўжо існуючага ў рачаіснасьці,— ёсьць такія, якія ўжо рэалізуюць гэтую тэндэнцыю, але ёсьць яшчэ і такія, якія хістаюцца, якія адлюстроўваюць тыя зрухі ў настроях тых ці інш. пластоў серадняцтва,—важна, каб яны не адштурхоўваліся ў выніку пераіменаваньня. Таварыства пролетарска-калгасных пісьменьнікаў павінна забясьпечыць перавыхаваньне тых, якія хістаюцца, быць для іх школай, не губляць іх.

Ставяць пытаньне—у тых рэспубліках, дзе няма яшчэ організацыі пролетарска-колгасных пісьменьнікаў—ці варта іх утвараць? Я не магу даць на гэтае пытаньне адзін агульны адказ—ён вызначаецца аналізам становішча. Галоўнае ў тым, як забясьпечыць пролетарскі ўплыў і пролетарскае кіраўніцтва. У залежнасьці ад гэтага павінны вырашацца організацыйныя пытаньні—як політычна больш мэтазгодна—з пункту гледжаньня пераводу на рэйкі пролетарскай ідэолёгіі пісьменьнікаў, якія ідуць з вёскі. І тут асноўнае—у адказнасьці за ўсю савецкую літаратуру.

## Нашы чарговыя задачы. Рост нашых кадраў

Барацьба за творчую гегемонію—гэта наша першая галоўнейшая задача, вырашэньню якой павінна быць падпарадкавана ўся наша праца. Гэтым лёзунгам ня толькі дыктуецца неабходнасьць усё новага і новага павялічэньня ўвагі да творчых пытаньняў, але і ставіцца мэта, даецца генэ-

ральная ўстаноўка—у наяўнасьці ўсе гісторычныя прадпасылкі ажыцьцяўленьня гегемоніі—заваюем яе, узьнімаючы ўсё савецкае мастацтва на больш высокую ступень. Я гэта асабліва падкрэсьліваю: гегемонія пролетарскай літаратуры мысьліцца намі не як вынік, скажам да прыкладу, банкроцтва папутнікаў, якія канчаткова выбываюць з радоў. Не. Нам патрэбна гегемонія пролетарскіх пісьменьнікаў у выніку і на падставе найвялікшага росту савецкай літаратуры не таму—калі так можна сказаць,—што іншыя пішуць яшчэ горш, а таму, што мы пішам ужо лепш. Гэтым я толькі зноў падцьвярджаю тое палажэньне, што гегемонія пролетарскай літаратуры не за гарамі, што мы не адкладваем дасягненьні гэтай гегемоніі на той час, калі крывая клясавай барацьбы рэзка пойдзе ўніз і калі будзе пабудаваны ня толькі фундамант, але і гмах соцыялізму. Мы можам і павінны стаць гегемонамі ў найбліжэйшы час. Папутнікі ўжо ня могуць—і ня здолеюць—творча весьці ўсю савецкую літаратуру. Пролетарскія пісьменьнікі яшчэ ня ўмеюць, але здолеюць—калі ўзмацняць вучобу, паскорыць тэмпы перабудовы, шпарчэй створаць новы тып пісьменьніка. Тады мы сапраўды зробім шаг наперад у мастацкім разьвіцьці чалавецтва—і гэтае вялікае мастацтва бальшавізму стварае пісьменьнік, які аддае справе соцыялізму ўсе свае сілы, увесь свой розум, усю сваю волю, пісьменьнік, які навучаецца ў Леніна і Сталіна спалучаць цьвярозасьць і вялікі запал, пісьменьнік, які не адрываецца ад жыцьця, а перабудоўвае яго ў гушчы будаўнічых будняў, пісьменьнік політэхнічна адукаваны, які ўмее змагацца за тэхнічнае наватарства, не эмпірык і не схэматык, а матэрыяліст—дыялектык, пісьменьнік, які кахае сапраўднасьць і які бачыць барацьбу супярэчных тэндэнцый і напрамак разьвіцьця, пісьменьнік з суровым і дакладным вокамерам і пісьменьнік лятуцеьнік—„фантазія ёсьць якасьць найвялікшай каштоўнасьці. Дарэмна думаюць, што яна патрэбна толькі поэту. Гэта—недарэчны забабон. Нават у матэматыцы яна патрэбна, нават адкрыцьцё дыфэрэнцыяльнага і інтэгральнага вылічэньняў было-б немагчымым без фантазіі“ (Ленін). Такі пісьменьнік ужо расьце, мы абавязавы дапамагчы ягонаму росту на справе, змагаючыся за бальшавізацыю пролетарскай літаратуры, індывідуалізуючы наш падыход да кожнага пісьменьніка, узьнімаючы ўсю нашу організацыю на такую справу, як паказ герояў працы. Калі мы гаворым пра гэта, дык гутарка ідзе не аб тым, каб з рук збыць—даць беглыя і пасьпешныя зарысоўкі—абы шмат і хутка. І тут гутарка ідзе аб барацьбе за якасьць, аб тым, каб паказ герояў працы прысьпешаў-бы перабудову пролетарскай літаратуры, яе набліжэньне да гегемоніі, да ўтварэньня вялікага мастацтва бальшавізму.

Выгнаць з творчай дыскусіі схолястыку, шчагаляньне цытатамі і павярхоўнае і прымітыўнае „начетничество“.Ператварыць творчую дыскусію ў школу колектыўнай выпрацоўкі стылю пролетарскай літаратуры—не бухарынская анархічная конкурэнцыя, а таварыскае спаборніцтва

і ўзаемадапамога павінны характарызаваць усю нашу работу. Нам патрэбна, каб творчая дыскусія была зьвязана з творчым аглядам, з паваротам да конкрэтнай крытыкі, з разгортваньнем творчых груповак. Пашырыць і паглыбіць творчую дыскусію—задача ЎсеААПП у цэлым і кожнай асобнай асоцыяцыі. Для гэтага і таму—весьці яе не на падставе 2-3 твораў, не для рэклямы тых ці іншых пісьменьнікаў, якія прэтэндуюць на палажэньне „мэтраў", але на падставе ўсяго вопыту пролетарскай літаратуры, і ня толькі расійскай, але ўсесаюзнай (воплескі).

Узьняць тэорэтычны ўзровень нашага руху. Мы яшчэ далёка, далёка не засвоілі ў нашай галіне ленінскай філёзофскай спадчыны. Мы мала ўсьвядомілі і ўсьвядомліваем для нашай практыкі ўсю літаратуру і літаратурнае разьвіцьцё мінулага. Наша тэорыя ня ставіць вялікіх задач перад нашай практыкай, не дае вялікіх і далёкіх пэрспэктыў. Бясплянавасьць і бяссыстэмнасьць характарызуе нашу тэорэтычную работу. Ці не пара перайсьці да плянавай пастаноўкі чарговых тэорытычных задач? Ці не пара і тут выступіць супроць перажыткаў індывідуалістычных мэтодаў працы? Ці не пара на справе аб'яднаць усе тэорытычныя кадры, здольныя на фронце мастацтва змагацца пад сьцягам ваяўнічага ленінізму? Ці не пара і тут канчаткова дабіць буржуазныя тэорыі, псэўдомарксызм, прыспасабленцаў і тых, якія перафарбоўваюцца псэўдомарксызмам опортуністам? Ці не пара і на вучастку нашай тэорыі абвясьціць вайну дылетанству, малапісьменнасьці, прэтэнцыйнаму ўсезнайству—нічоганезнайству? (воплескі). Для гэтага патрэбна моцная бальшавіцкая самакрытыка—узяць пад агонь усіх без выключэньня. Такая самакрытыка дапаможа новаму і значна шпарчэйшаму вылучэньню і росту кадраў усеапаўскіх організацый. Такая самакрытыка ўзмацніць колектыўнасьць у працы любой ячэйкі ЎсеААПП—зьнізу да верху. Такая самакрытыка забясьпечыць дружнае і таварыскае зжываньне няўхільных і неабходных сутычак поглядаў пры выпрацоўцы, распрацоўцы, і праўдзеньні нашай лініі. Такая самакрытыка—пролетарская, бальшавіцкая, таварыская—дапаможа і барацьбе з адміністраваньнем і камандваньнем, дапаможа перагляду мэтодаў нашай організацыйнай працы, дапаможа ўстанавіць тып кіраўніцтва нашай організацыі, організацыі не каманднай, а перш за ўсё ідэйна-выхаваўчай.

Трэба памятаць, што ва ўмовах вялічэзнага росту ўшыркі і глыбіню, ва ўмовах неаднароднасьці нашага руху, ва ўмовах разгортваньня творчых груповак—адзінства ЎсеААПП можа быць забясьпечана толькі поўнай ліквідацыяй элемэнтаў адміністраваньня і камандваньня, начальніцкага загадваньня і бюрократычнага націску ці заціску.

Актывізаваць нашу літаратурна-палітычную работу.

Лінія партыі—наша лінія. Няма ў нас ніякіх літаратурна-палітычных задач акрамя тых, якія выцякаюць з генэральнай лініі партыі і ёю ставяцца,—гэта мы гаварылі і раней, гэта абавязаны мы сказаць і сёньня, калі ЎсеААПП стаў асноўнай організацыяй, якая праводзіць лінію

партыі ў літаратуры. Больш увагі няпрымірымай барацьбе з ухіламі ад бальшавіцкай політыкі—з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай, з „левымі“ загібамі і заскокамі. Больш увагі барацьбе за перабудову папутніцтва, за сапраўдны саюз з саюзьнікамі, за адпор хістаньням у бок ад нас. Лепш організаваць і ўзмацніць наступ на буржуазную літаратуру, на буржуазныя ўплывы, на папутніцтва, на буржуазныя ўплывы і на некаторых з пролетарскіх пісьменьнікаў. Соцыялістычны наступ на літаратурным вучастку ідэолёгічнага фронту патрабуе ўзмацненьня клясавай пільнасьці.

Прышоў ужо час, калі можна і патрэбна зблізіць усе атрады пралетарскага мастацтва (воплескі). Мы ўжо дарасьлі зараз да буйнага і баявога аб'яднаньня з пролетарскімі музыкантамі, мастакамі, работнікамі кіно, радыё—да гэтага патрэбна падцягнуць і пролетарскіх архітэктараў. На справе ўжо ў шмат чым УсеААПП адыгрывае вядучую ролю ў адносінах да ўсяго пролетарскага мастацтва, але трэба адзначыць, што вельмі часта музыканты ці мастакі ведаюць нас значна больш і лепш, чым мы іх—а іх вопыт можа нам шмат дапамагчы. Патрэбна ўзмацніць і пашырыць удзел усіх атрадаў УсеААПП у міжнароднай працы. Мы, таварышы, зьяўляемся складанай часткай міжнароднай пісьменьніцкай організацыі, якая пасьля Харкаўскай канфэрэнцыі пашла крута ўгору, якая мае такія значныя сэкцыі як, напрыклад, Германская, Японская, Амэрыканская, якая вядзе буйную рэвалюцыйную працу ў міжнародным маштабе, якая дэмонструе рост пралетарскай культуры, яшчэ пад уціскам капіталізму. У нашых таварышоў і па Эўрапэйскаму і Амэрыканскаму заходу, і па Ўсходу мы можам і павучыцца і можам і павінны ім перадаць наш вопыт. Ці ўсе ў нас адчуваюць сваю адказнасьць перад міжнародным аб'яднаньнем? Ці дастаткова ў нас вядзецца гэтая інтэрнацыянальная праца?

Па сапраўднаму наладзіць удзел пролетарскіх пісьменьнікаў ва ўсёй практыцы культурнай рэволюцыі. Раней мы займаліся гэтымі пытаньнямі больш чым зараз. А між-тым мы павінны актыўна ўдзельнічаць у барацьбе за бальшавіцкія тэмпы культурнага будаўніцтва, за напрамак усяго культурнага росту па соцыялістычнаму рэчышчу, за ленінскую тэорыю культуры. Раней мы змагаліся за пролетарскую культуру — гэтую барацьбу мы працягваем і сёньня, калі гаворым аб соцыялістычнай культуры, якая ўзмацняецца і перамагае ў процэсе культурнай рэволюцыі. Раней мы—у дыскусіях з Багданавым, напрыклад,—супроцьстаўлялі культуру пролетарскую соцыялістычнай культуры, але культуры комуністычнай, культуры бясклясавай комуністычнай грамады. І мы правільна рабілі, што супроцьстаўлялі, змагаючыся за клясавую чоткасьць і выразнасьць, за культурную гегемонію пролетарыята, пролетарскі наступ у клясавай барацьбе на фронце культуры. Зараз патрэбна ўдакладніць, што мы не супроцьстаўляем культуры пролетарскай культуры соцыялістычнай, што мы будуем соцыялістычную культуру і змагаемся пад яе сьцягамі.

Узмацніць і паглыбіць інтэрнацыянальнае адзінства ЎсеААПП.

Мы павінны быць у першых радох барацьбы за міжнародную пролетарскую культуру. Супроць нацыянальнай замкнёнасьці, супроць консэрваваньня якіх-небудзь рэшткаў нацыянальнай адасобленасьці працоўных, супроць нацыяналістычнага провінцыяналізму і за шырокі кругазор салдатаў арміі сусьветнай рэволюцыі. Нам яшчэ патрэбна больш зблізіць усе нацыянальныя атрады ЎсеААПП, і, даючы жорсткі адпор найменшай праяве вялікадзяржаўніцтва—гэтаму галоўнаму ворагу—расчышчаць шляхі да як мага большага зьліцьця працоўных усіх нацый. Патрэбна ўзмацніць УсеААПП, як кіруючых цэнтр усесаюзнага руху. Т. Ермілаў унёс ужо прапанову аб ператварэньні тэорытычнага часопісу „РАПП" у орган УсеААПП. „Страна савецкая" таксама павінна быць Усеапаўскім часопісам (воплескі).

Таварышы! Яшчэ на вельмі даўно даводзілася гаварыць аб тым, што мы больш абараняліся, чым нападалі. Гэта быў адзін з найбольш крызісных момантаў пераходу да новага этапу, да новых тэмпаў перабудовы, да ўзмацненьня ў новых абставінах барацьбы за бальшавізацыю пролетарскай літаратуры. Гэты момант хутка праляцеў. Наша арганізацыя здолела даць адпор ворагам генэральнай лініі ЎсеААПП, здолела даказаць сваю адданасьць партыйнай лініі, здолела — ня гледзячы на шмат якія памылкі і недахопы—адшукаць асноўныя ключы да перамаганьня адставаньня. Мы сёньня ў нашай галіне ў суадпаведнасьці з курсам партыі разгортваем соцыялістычны наступ, мы — бальшавіцкі авангард савецкай літаратуры!

---

## ТРЫВОГА, А НЕСАМАЗАДАВОЛЕНЬНЕ

*(Заключнае слова)*

Таварышы, спрэчкі па маім дакладзе і па дакладзе т. Селіваноўскага далі вялікую колькасьць каштоўнейшага матэрыялу, матэрыялу, які дапаўняе рад нашых палажэньняў, матэрыялу, які ілюструе шмат якія з гэтых палажэньняў, матэрыялу, які прымушае нас рабіць рад новых дадатковых вывадаў перш за ўсё ў адносінах палітыкі зблiжэньня ўсіх нацыянальных атрадаў пролетарскай літаратуры Савецкага Саюзу. Спрэчкі ня толькі далі нам вялічэзную колькасьць матэрыялаў. Спрэчкі іменна таму былі каштоўнымі, што ў іх і ў тым матэрыяле, які мы атрымалі, выявіўся вялічэзны вопыт, ужо накоплены нашым рухам, вялічэзны вопыт барацьбы з рознымі нацыянал-дэмократычнымі плынямі, вялічэзны вопыт клясавай барацьбы на літаратурным фронце. І таксама, таму былі так важны нашыя спрэчкі, што яны паказалі рост нашага руху. Тое, які матэрыял мы атрымалі на нашым пленуме ў параўнаньні з ранейшымі пленумамі, тое, як асьвятляўся гэты матэрыял па ўзроўню

пастаноўкі пытаньня і на папярэдніх пленумах і на гэтым пленуме, усё гэта гаворыць аб бязумоўным росьце асноўных кадраў нашага руху, такім росьце, якія адбівае сапраўдны рух наперад усёй масы пролетарскіх пісьменьнікаў. Асабліва значэньне мае тое, што, паставіўшы перад сабой вялікую колькасьць новых пытаньняў і паставіўшы гэтыя пытаньні на новым матэрыяле, мы павінны канстатаваць найвялікшае адзінства ўсіх выступаўшых тут таварышоў, адзінства, якое сьведчыць аб магутнасьці нашага руху, паказвае, што Ўсесаюзнае аб'яднаньне асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў зьяўляецца на сёньнешні дзень такой організацыяй, тэмпы бальшавізацыі якой пачынаюць усё больш адпавядаць задачам, якія перад ёй стаяць.

Калі перайсьці да некаторых пытаньняў, якія закраналіся ў спрэчках, то на першае месца трэба паставіць проблему нацыянальнай культуры. Мне здаецца, што асноўнае павінна быць намі сёньня ўсімі канстатавана — гэта тое, што з тэорытычнай распрацоўкай пытаньняў нацыянальнай культуры справа абстаіць вельмі кепска. Нашы спрэчкі паказалі, што на мясцох у адносінах увагі да нацыянальнай праблемы, у адносінах да тэорытычнай распрацоўкі нацыянальнай культуры, робіцца крыху больш, чым тут у Маскве,—а тут, у Маскве, робіцца вельмі мала, вельмі недастаткова. Адгэтуль вывад для сакратарыяту ЎсеААПП: паставіць на абмеркаваньне ўсіх нашых організацый рад вузлавых пытаньняў і ажыцьцявіць пад кіраўніцтвам УсеААПП плянавую распрацоўку асноўных проблем нацыянальнай культуры. Гэта азначае: узяць на вучот усе тэорытычныя кадры нашага руху, усеапаўскія кадры. Гэта азначае, далей, узяць на вучот усе партыйныя тэорытычныя кадры, якія ў гэтых адносінах нам змогуць дапамагчы. Гэта азначае: заключыць практычны блёк з тымі організацыямі, якія гэтай справай займаюцца, павінны займацца ў кожным выпадку. Комакадэмія ў першую чаргу і намеціць разам з імі дакладны плян працы ў гэтых адносінах.

## Займацца ня толькі тэорыяй, але і практыкай культурнай рэволюцыі

Ніякіх агульных гутарак аб увазе да нацыянальнай культуры! — нам патрэбна конкрэтная распрацоўка такіх-та і такіх вузлавых пытаньняў, і будзе добра, калі мы здолеем, падобна таму, як калісьці праводзіліся вытворчыя нарады па пытаньнях поэзіі і нарысу, у выніку нашай працы склікаць вытворчую тэорытычную нараду па пытаньнях тэорыі нацыянальнай культуры. Мне здаецца, што спрэчкі выявілі і другі вялікі недахоп у працы нашых асоцыяцый. Я кажу аб увазе да практыкі культурнай рэволюцыі. Вельмі мала тут казалася аб практычных пытаньнях культурнай рэволюцыі. Проблема ліквідацыі няпісьменнасьці, проблема ўсеагульнага навучаньня, проблема політэхнізацыі школ і г. д. і т. п. Гэтыя проблемы ў спрэчках амаль не закраналіся. Ці гэта праўда, ці не?

Праўда. Плюс, ці мінус?—мінус. Пролетарскія пісьменьніцкія кадры гэтай справай займацца павінны, і калі за культурнае жыцьцё кожнай нацыянальнай рэспублікі, кожнай саюзнай рэспублікі адказвае Народны Камісарыят Асьветы, то мы—Усесаюзнае аб'яднаньне асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў, маем права называцца складанай часткай УсеАAПП і мы—УсеAAПП—тады будзем мець права прэтэндаваць на кіраўніцтва пролетарскім літаратурным рухам, калі на справе будзем ставіць рад пытаньняў культурнай рэволюцыі і будзем дзёрціся за іх бальшавіцкае вырашэньне. Гэтага пакуль што няма.

Гэта толькі адносна новыя задачы, мы іх і раней ставілі, але зараз яны ўстаюць па-новаму, у сувязі з новым размахам культурнай рэволюцыя, і гэтыя новыя задачы мы павінны паставіць перад сабой абавязкова.

## Кадры растуць на бальшавіцкім вырашэньні новых усё больш цяжкіх задач

Усе выступаўшыя таварышы гаварылі, што па гэткай-та лініі ў нас промах, па гэткай-та лініі ў нас недахоп, па гэткай-та лініі мы аддаем мала ўвагі і г. д. Новых пытаньнаў і задач можна налічыць вельмі шмат. Сапраўды, перад намі зараз, у зьвязку з тым, на колькі вырасла значэньне пролетарскай літаратуры ў цэлым, УсеAAПП у прыватнасьці, перад намі паўстае шмат новых задач і пытаньняў, а між тым, мы ўжо на сёньнешні дзень маем вельмі вялікі разрыў паміж нашымі задачамі і нашымі кадрамі. Перад намі значна большая колькасьць задач, чым мы маем сіл, кадраў, для таго, каб з імі спраўляцца.

Пытаюся: як выйсьці з такога становішча? — тут ёсьць два выхады. Першы выхад заключаецца ў тым каб звузіць круг задач, якія мы павінны вырашаць, каб абмежаваць колькасьць спраў, якімі мы займаемся. Гэта няправільная пастаноўка пытаньня, гэта раўнаньне на вузкія мясьціны. Есьць другая, правільная, бальшавіцкая пастаноўка пытаньня, якая заключаецца ў зразуменьні таго, што кадры растуць на пастаноўцы новых задач, што кадры растуць тады, калі ставяцца ўсё больш і больш цяжкія з кожным днём новыя задачы. Мы выбіраем другую лінію, выбіраем тую лінію, якая не абмяжоўвае колькасьць пытаньняў, якімі мы займаемся ў літаратурным руху,—мы бярэм усю тую суму пытаньняў у цэлым, якія няўхільна стаяць перад літаратурным рухам, будучы ўпэўнены ў тым, што, беручы гэтыя задачы і падыходзячы да іх у суадпаведнасьці з устаноўкамі, якія дае партыя, мы будзем мець рост кадраў, які будзе ўсьцяж павялічвацца. Кадры толькі так могуць расьці і будуць расьці.

Гэта, таварышы, наша лінія, і адпаведна з ёй, у прыватнасьці мы высунулі лёзунг заклiку рабочых ударнікаў. Калі мы гаварылі аб гэтай

задачы, здавалася-б: нясправіцца, ня хопіць сіл. І на самай справе, на сёнешні дзень яшчэ ня справіліся. Не, мы толькі падышлі да пастаноўкі на справе гэтай працы. Калі казаць пра вопыт РАПП, аб Маскоўскай і Ленінградзкай асоцыяцыі, то там мы маем ужо новае рабочае кіраўніцтва. І ў Ленінградзкай і Маскоўскай організацыях, там за невялікі адрэзак часу вырасьлі і занялі ў арганізацыі па сапраўднаму кіруючае становішча новыя рабочыя таварышы. Калі не гаварыць толькі аб тых задачах, якія перад намі стаяць, а працаваць над імі, як належыць, то будуць выяўляцца новыя кадры. Гэта закладзена ва ўсёй нашай абстаноўцы, гэта закладзена ў гіганцкім уздыме соцыялістычнага будаўніцтва, гэта закладзена ў тым гіганцкім трудавым энтузіязьме нашай краіны, які ня можа не адбівацца і на галіне літаратурнай працы.

## Аб пролетарскай організаванасьці і літаратурным асяродзьдзі

Калі мы гаворым аб супярэчнасьці паміж нашымі задачамі і кадрамі, калі мы даем лёзунг яшчэ большага пераключэньня нашай увагі на творчыя пытаньні, мы павінны завастрыць пытаньні організацыйнага парадку, каб усе нашы організацыі выканалі тыя задачы, якія перад намі стаяць. Аб гэтым казалася мала, а між тым, вазьміце практыку кожнай літаратурнай організацыі, перш за ўсё РАПП. Колькі безадказнасьці, няхлюйства, невыкананьня прынятых пастаноў,—на адным паседжаньні разьбіраецца пытаньне, ставіцца яно-ж і на другім паседжаньні, пераносіцца на 3-е паседжаньне і ізноў усплывае на 4-м. Гэта тлумачыцца тым, што звычкі літаратурнай богемы, уласьцівыя дарэволюцыйнаму літаратурнаму асяродзьдзю, гэтыя звычкі ў тым-сім пераносяцца на сыстэму працы пролетарскіх літаратурных організацый, прычым мне здаецца, што гэта ня толькі маецца ў РАПП, але што і ва ўсіх пролетарска-літаратурных організацыях такое становішча маецца. Калі не разумеюць, што гутарка ідзе не аб гуртку сяброў, не аб літаратурнай гутарцы, а гутарка ідзе аб вялікім руху, які адказвае за ўсю літаратуру ў цэлым, за ўсіх пролетарскіх пісьменьнікаў, за ўвесь фронт літаратуры,—вось такога падобнага зразуменьня ў нас яшчэ няма.

З тых спрэчак, якія тут адбываліся, выцякае яшчэ адно сур'ёзнае пытаньне па лініі організацыйнай—зжыць богемшчыну, дабіцца такога становішча, калі нашы літаратурныя організацыі будуць працаваць, як рабочыя організацыі, будуць ня толькі „заклікаць“ ударнікаў і дэкляраваць, але перабудоўвацца так, каб па-ўдарнаму працаваць. Бяз гэтага мы ня справімся з задачай вылучэньня новых кадраў, і сапраўднага павароту да творчых пытаньняў, які мы павінны зрабіць.

Гутарка ідзе не аб тым, каб богемшчыну замяніць бюрократызмам, нельга кідацца ў крайнасьці. Гутарка ідзе аб тым, каб на пачатках сапраўды пролетарскай дэмократыі дабіцца сапраўды добрай, бальшавіц-

кай работы арганізацый. Гэта не азначае, што трэба капіраваць мэтоды работы іншых арганізацый. Гэта прынесла-б толькі шкоду. Наадварот, трэба больш увагі аддаваць арганізацыйным пытаньням раз і назаўсёды, каб пасьля займацца імі значна менш. Таму, шчыра кажучы, зараз на арганізацыйнае пытаньне аддаецца больш часу, чым, калі-б мы ўстанавілі патрэбны парадак і адказнасьць у сябе, як у іншых арганізацыях. Але тут трэба адзначыць нашу спэцыфічнасьць. Яна заключаецца ў тым, што мы не павінны капіраваць мэтод працы партыйных арганізацый, мэтод працы савецкіх арганізацый, чым менш займацца арганізацыйнымі пытаньнямі, а ўсю практыку працы, усю арганізацыйную сыстэму падпарадкаваць творчым задачам, таму каб дапамагчы нашым творчым кадрам, тэорэтычным, пісьменьніцкім—з гэтым мы павінны справіцца, каб дапамагчы куды большаму вылучэньню новых кадраў у літаратурным руху. І гэтая задача ўскладняецца тым, што ў нашых арганізацыях маецца вялікая колькасьць звычак мінулага літаратурнага асяродзьдзя.

Няма нічога горшага за дробна-буржуазнае асяродзьдзе, няма нічога горш гэтага дробна-буржуазнага акружэньня, якое спатыкаецца каля кожнай нашай пролетарскай літаратурнай арганізацыі і няма нічога горшага, як звычкі мінулага, якія засталіся ў галіне літаратуры, калі шмат якія з пісьменьнікаў і нават пролетарскіх пісьменьнікаў, адчуваюць сябе ня столькі таварышом другога пролетарскага пісьменьніка, колькі конкурэнтам, які супернічае з ім, калі мы маем становішча, што замест таго, каб цешыцца посьпехамі свайго суседа і хварэць за яго няўдачы, мы маем зусім іншыя адносіны. Хаваць няма чаго, гэта і ў нашых арганізацыях ёсьць, і гутарка ідзе аб тым, каб так перабудаваць нашы арганізацыі, каб адкінуць усё тое дробна-буржуазнае ахвосьце, якое круціцца навакол нашых арганізацый, адкінуць усю тую каля-літаратурную публіку, якая на любым літаратурным сходзе, на любым літаратурным дакладзе—я ня ўпэўнены, што яе няма і тут, заўсёды круціцца і прысутнічае,—падобных людзей і людзішак нам патрэбна адкінуць на бок, каб нашы пролетарскія літаратурныя арганізацыі працавалі сапраўды ў пролетарскім літаратурным асяродзьдзі, са звычкамі пролетарскай дэмократыі, каб была здаровая партыйная атмосфэра ў арганізацыях, а не атмосфэра групаўшчыны і гурткоўшчыны (воплескі).

Аб гэтым патрэбна абавязкова гаварыць у сувязі з падрыхтоўкай і вылучэньнем новых кадраў. Трэба разумець, што мы па сапраўднаму ня здолеем высунуць новыя кадры з рабочых да кіраўніцтва да тэй пары, пакуль па-сапраўднаму ня справімся з рэштками дробна-буржуазнага літаратурнага асяродзьдзя.

Гэта мае значэньне і таму, што ў нас усё больш будуць адчувацца пэўныя ўнутраныя супярэчнасьці ўнутры-пролетарскага літаратурнага руху, будзе усё больш і больш адчувацца неаднароднасьць руху ў цэлым.

## Аб творчай дыскусіі і творчых групоўках

У свой час мы маглі ставіць знак роўнасьці паміж напостаўствам і РАПП, паміж напостаўствам і ВУСПП і „Маладняком“, паміж напостаўствам і Закаўкаскай організацыяй. На сёньнешні дзень мы маем іншае становішча. Мы маем шмат таварышоў, якія не зьяўляюцца напостаўцамі. Напостаўства застаецца толькі адным з асноўных плыняў у нашай літаратуры—гэта кіруючы рух і кіруючыя кадры ЎсеААПП, гэта тыя кадры, якія прайшлі школу напостаўства, хочуць быць у напостаўстве і надалей, бо лічаць, што яно найбольш адпавядае генэральнай лініі партыі, што гэта своясаблівая бальшавіцкая разьведка на літаратурным фронце. Побач з гэтымі старымі напостаўскімі кадрамі мы маем і інш. кадры, якія ўсьцяж павялічваюцца. Прычым у ліку новых ёсьць і анцінапостаўцы. Гэта, вядома, павялічвае адказнасьць напостаўства за кіраўніцтва ўсім пролетарскім літаратурным рухам, але, зьяўляючыся кіруючай плыньню ва ЎсеААПП, павінна забясьпечыць сапраўдную свабоду разьвіцьця ўсім творчым плыням. Гэта першая задача, якая ляжыць на кіраўніцтве.

Некаторыя разумеюць задачы напостаўцаў так, што гэта, моў, ісьціна ў апошняй інстанцыі. Гэта значыць, хтосьці спрачаецца, а мы нарэшце вырашаем. Гэта памылкова. Мы павінны самі ставіць новыя пытаньні, вырашаць іх і на гэтым ідэйна яднаць організацыю. У старых кадраў напостаўцаў, і расійцаў, і украінцаў, і грузінаў ёсьць яшчэ звычкі і традыцыі мінулага пэрыоду працы, калі мы былі аднэй з плыняў, а зараз мы—ЎсеААПП,—кіруючая організацыя, і мы павінны забясьпечыць такое становішча, калі ўсе, хто ўліваецца ва ЎсеААПП, будуць адчуваць сябе так, што калі я сапраўды пролетарскі пісьменьнік, дык мне ва ЎсеААПП жыць лёгка, са мною лічуцца, хочуць мне даць магчымасьць спакайней і больш упэўнена працаваць, мне тут дапамагаюць, ня гледзячы на разнагалосьсі з думкаю нават усіх напостаўцаў, з думкаю таго ці іншага крытыка, з думкаю кіруючага часопісу і інш. Гэта мы павінны забясьпечыць, бо інакш, мы ня здолеем захаваць адзіны пролетарскі літаратурны рух.

Ва ЎсеААПП маюцца самыя розныя групоўкі. Рост рабочага ядра прывядзе і прыводзіць да таго, што гэтае рабочае ядро будзе—і пачынае—па сапраўднаму кіраваць нашым рухам, але гэта ня значыць, што тым самым зьнікае проблема розных элемэнтаў. У нас маецца інтэлігенцкае крыло, сялянскае крыло, самыя розныя адценьні ў пролетарскай літаратуры.

Калі гутарка ідзе аб консолідацыі ва ЎсеААПП навакол яго, дык гэта азначае, што тут павінны быць цалкам аднародныя погляды. Нам патрэбна консолідацыя, якая вырастае з барацьбы поглядаў, консалідацыя, якая збліжае розныя кадры. Тая консалідацыя, аб якой сьведчыць наш пленум, гэта ня ёсьць консалідацыя на аснове заглушэньня твор-

чых дыскусій і поглядаў, а наадварот, гэта ёсьць такая консалідацыя, літаратурна-палітычная, такая консалідацыя бальшавіцкіх кадраў, якая забясьпечвае і мае на ўвазе спакойнае разгортваньне творчай дыскусіі. Такія творчыя групоўкі, якія паспрабуюць перарасьці ў літаратурна-палітычную фракцыю, загадзя засуджаны на няўдачу, бо наш рух адзіны, ён сваю лінію выпрацаваў у баёх, ён праверыў кожнага чалавека і ўсім ведае цану.

Консалідацыя нашага руху адбываецца навакол напостаўцаў. Напостаўства—гэта ёсьць асноўная плынь, але консалідацыя напостаўцаў павінна прывесьці да росквіту творчых груповак, да значна большага, чым гэта было раней.

У нас мала творчых груповак, хоць мы шмат пра іх гаворым, і галасуем за іх аднагодна. Чаму-ж у нас мала творчых груповах? Мо' з прычыны консалідацыі? Так, моў, „консалідуем", што другіх забіваем? Не, гэта паказчык узроўню пролетарскай літаратуры. У нас мала груповак у пролетарскай літаратуры таму, што яна яшчэ толькі ўступае ў пэрыод сапраўднага творчага росквіту.

Які-ж далейшы шлях пролетарскай літаратуры? Гэта шлях росту як мага большай колькасьці пісьменьнікаў, якія адрозьніваюцца адзін ад аднаго, пісьменьнікаў, у якіх будуць розныя школы, пісьменьнікаў якія ідуць рознымі сьцежкамі па шляху ўтварэньня мэтоду дыялектычнага матэрыялізму. Можна ўжо і на сёньня ўтварыць 20-30-50 творчых груповак, гэта не складае цяжкасьці. Калі даручыць стараннаму крытыку, дык ён здолее напісаць і праграму для груповак, але гутарка ідзе аб тым, каб утварыць такія творчыя групоўкі, якія будуць адлюстроўваць розныя плыні, якія ўжо намецiліся, ці якія толькі намячаюцца ў творчасьці. Кіраўніцтва тады стаіць на вышыні, калі яно ўмее схопліваць праявы таго, што адрозьнівае аднаго пісьменьніка ад другога, умее схопліваць тое, што яшчэ ня ярка выяўляецца. Але тое, што намячаецца, умее схопліваць тэндэнцыі. У гэтым задачы кіраўніцтва. Кіраўніцтва павінна з гэтага выходзіць ва ўсёй сваёй практычнай рабоце. Толькі тады яно мае права на сапраўднае кіраўніцтва.

Калі на пленуме гаварылі аб творчых групоўках, дык некаторыя таварышы зазначалі на небясьпеку, якая з ёй зьвязана. Сапраўды, небясьпек шмат. Небясьпека заключаецца ў тым, што тая ці іншая творчая групоўка можа выразіцца ў групоўшчыну, можа скаціцца да пэўнай келейнасьці ў сваёй рабоце, можа ўтварыць такое становішча, пры якім гэтая группа будзе супроцьстаўляць сябе руху ў цэлым і адрывацца ад яго. Можа ўтварыцца такое становішча, што група, сама не аддаючы сабе справаздачы для чаго яна ўтварылася, няўхільна будзе ствараць абстаноўку чуткаў і плётак. Можа быць такая небясьпека, што група захоча перарастаць у літаратурна-палітычную фракцыю. Гэтыя небясьпекі маюцца. Але той, хто гаворыць толькі аб небясьпеках, той, хто толькі на гэтым спыняецца, той не разумее становішча нашага руху сёньня.

Сёньня нам патрэбна гаварыць аб небясьпеках, зьвязаных з тым, што мала—ужо можа быць больш!—гэтых творчых груповак, што тамсям маюцца мабыць і бюрократычны зажым гэтых творчых груповак. Галоўная небясьпека на сёньнешні дзень заключаецца ў тым, што ня хочуць зацьвердзіць тую ці іншую творчую групоўку, калі яна яшчэ не да канца выпрацавала сваю пляцформу, галоўная небясьпека ў тым, што не адбываецца прысьпешаная творчая разьмяжоўка.

Наша задача заключаецца ў тым, каб па гэтай галоўнай небясьпецы ўдарыць з як мага найбольшай сілай, выкрываючы алілуйшчыну і ў гэтай галіне.

Таму, калі выступала група „напостаўская зьмена“, дык пленум з радасьцю вітаў гэтую групоўку. І мне думаецца, што калі пленум Усесаюзнага аб'яднаньня асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў вітаў групу „напостаўская зьмена“, дык ён вітаў усе групы, якія ўтвараліся і ўтвараюцца ў нашым руху.

Калі гутарка ідзе аб творчых групоўках і аб разгортваньні творчай дыскусіі, дык патрэбна адзначыць галоўнейшае, а іменна: забясьпечыць абмен вопытам, узаемадапамогу, таварыскае супрацоўніцтва. Творчая дыскусія павінна быць пастаяннай практычнай школай для ўсіх нашых пісьменьнікаў, і, асабліва, для новых рабочых кадраў,—школа і вучоба творчаму мэтоду, а ня проста сумай прыкладных тэхнічных прыёмаў.

Перад намі стаіць задача ажыцьцяўленьня гегемоніі ў як найкарацейшы гістарычны тэрмін, але трэба сказаць, што ўзровень пролетарскай літаратуры, яшчэ не даволі высокі. Гэта трэба сказаць з усёй выразнасьцю. Я рад канстатаваць, што калі таварышы выступалі ў спрэчках, дык адчуваўся тон трывогі, і за ажыцьцяўленьне гэтых задач, якія стаяць перад намі, адчуваўся тон трывогі за тое, як мы справімся з усімі гэтымі задачамі, а нічуць ня тон самаздавальненьня.

Адставаньне пролетарскай літаратуры констатавалася ўсімі. Гэта складанае пытаньне, якое шмат кім спрошчвалася і спрошчваецца. Проблема ліквідацыі і адставаньня, гэта ёсьць проблема пераводу пролетарскай літаратуры ў больш высокую клясу, на вышэйшую ступень разьвіцьця, на больш высокі ўзровень сьветапогляду бальшавізму. Ліквідаваць адставаньне па-літфронтаўску—гэта лёгка, але гутарка ідзе аб тым, каб ліквідаваць адставаньне па-бальшавіцку, гэта значыць, ставячы перад сабой вялікія задачы, даючы лёзунг вялікага мастацтва бальшавізму.

Мы сёньня шмат гаварылі аб недахопах, аб хваробах пролетарскай літаратуры. Але трэба бачыць у літаратуры тое, што адрозьнівае яе ад усіх іншых атрадаў савецкай літаратуры. Мы павінны ўмець схопліваць ў творчасьці нават пачынаючага пісьменьніка, рысы новага мастацтва, мастацтва рабочае клясы, нічуць не перахвальваючы гэтага пачынаючага, але выяўляючы зерні таго, што можа стаць заўтра вядучым наперад усю нашу літаратуру.

## Яшчэ аб закліку рабочых ударнікаў

Мы часта спатыкаемся з некаторымі таварышамі з папутніцкага лягеру, ці таварышамі, якім уласьліва орыентацыя на папутнікаў, якія гавораць, што, моў, мы папутнікі, пішам лепш. Бывае, вядома, і так, але ты пішаш лепш з пункту гледжаньня якіх крытэрыяў? Дзе крытэрыі таго, што зьяўляецца мастацкім? Ці-ж можна дазваляць падменьваць разуменьне мастацкасьці літаратурнай тэхнікай? І тут мы сустракаемся з неразуменьнем таго, што гутарка ідзе аб новай якасьці, аб якасна новым мастацтве ў параўнаньні з усім мінулым.

Вядома, тая работа, якую выконваюць закліканыя рабочыя ўдарнікі, стаіць яшчэ вельмі і вельмі часта на нізкім літаратурным узроўні. Але мы цалкам правы, калі аддаем надзвычайную ўвагу ўдарніцка-літаратурнай продукцыі? Чаму гэта важна? Чаму, гэта часта куды больш важна, чым разгляд твораў таго ці іншага выяўленага пісьменьніка, які добра піша з абывацельскага пункту гледжаньня? Нам гэта важна таму, што гэтым ўтвараецца новае слова ў разьвіцьці мастацкай літаратуры. Для нас важна продукцыя рабочых ударнікаў ня толькі таму, што яна дае на сёньнешні дзень, а таму што ў ёй закладзены магчымасьці, якія да гэтага часу яшчэ недаацэнены. На падставе работы з гэтымі закліканымі і з тымі кадрамі, якія з іх зьявяцца, з гэтага абавязкова будзе расьці іменна тое, што якасна адрозьнівае наш рух ад іншых атрадаў савецкае літаратуры, тое, што павінна адрозьніваць усю пролетарскую літаратуру ад самай блізкай папутніцкай. Цяжка часам бывае правесьці мяжу між тым ці іншым паасобным пролетарскім пісьменьнікам і тым ці іншым папутніцкім пісьменьнікам. Але трэба ўмець бачыць мяжу, якая аддзяляе на даным этапе ўсю пролетарскую літаратуру ад усіх іншых атрадаў пролетарскай літаратуры.

Калі гутарка ідзе аб закліку ўдарнікаў, невыпадкова, мне здаецца, ў спрэчках было аддадзена шмат увагі пытаньню аб профэсыяналізацыі. І гэтае пытаньне павінна вырашацца ў літаратуры, мне здаецца, у саадпаведнасьці з неабходнасьцю паставіць больш шырокія задачы і больш глыбокія проблемы. Неабходна паставіць проблему, як мага хутчэй зьнішчыць у нашай краіне супроцьлегласьці паміж разумовай і фізычнай працай,—да чаго мы ўжо расьцем. Мы назіраем, як у нас у краіне, па меры росту соцыялізму, пачынае згладжвацца супроцьлегласьць паміж разумовай і фізычнай працай. Заклік ударнікаў надзвычай ярка выяўляе гэтую тэндэнцыю. У нас зараз 7-гадзінны рабочы дзень. Мы ідзем і да 6—і 5-гадзіннага рабочага дню. Гэтае пытаньне гістарычна яснае. Гэта значыць, што мы ідзем да таго становішча, калі пытаньне аб профэсыяналізацыі будзе ставіцца па іншаму, у сувязі з тым, што ў нас будзе па-сапраўднаму здымацца супроцьлегласьць разумовай і фізычнай працы.

## Паказ герояў комуністычнай працы

У спрэчках малавата гаварылася, што да паказу герояў працы. Я ў сваю чаргу спэцыяльна заявіў, што ў дакладзе не хачу гэта закранаць, бо хачу пасьля спрэчак падвесьці вынікі ўсяму зробленаму асоцыяцыямі. Трэба, таварышы, паклаўшы руку на сэрца, сказаць, што асоцыяцыі аб гэтым вельмі кепска інформавалі. Па сутнасьці справы ў гэтых адносінах шмат якія з нас пакуль што абмежаваліся некалькімі дэклярацыямі, некалькімі прыгожымі заявамі—ня больш. А між тым, таварышы, калі мы гаварылі аб тым, што гэта экзамен для пролетарскага літаратурнага руху, мы ня гулялі ў дурня, ня ў цацкі гулялі, не жартавалі. Гэта сапраўды экзамен. І калі мы ня здолеем партыі даказаць, што мы—Усесаюзнае аб'яднаньне асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў, і з гэтымі задачамі ня здолеем справіцца па-ўдарнаму, ніякага экзамену мы не здамо, а будзем падобны на хлопчыкаў, якія шмат крычалі, а на справе з сур'ёзным даручэньнем справіцца ня здолелі. Я думаю, што мы павінны проста і сур'ёзна нашаму сакратарыяту ЎсеААПП даць наказ: не пазьней чым праз дзьве дэкады высьвесьціць, што зроблена ў гэтай галіне ўсім нашым рухам, каб сакратарыяту ЎсеААПП (новы сакратарыят УсеААПП) на гэтай справе выявіў сябе, як організацыя, якая вядзе ўвесь наш пролетарскі літаратурны рух, ня толькі, як месца спатканьняў, але і як рабочы штаб нашай організацыі. І калі мы гаворым, аб заводзкай тэматыцы, аб паказе герояў працы, мы павінны забясьпечыць на гэтым рост усёй нашай літаратуры і павышэньне яе мастацкай якасьці.

Нам даводзіцца часам спатыкацца з такімі ныцікамі, якія гавораць: „Ах, прыходзіш на мастацкую выстаўку, а на гэтай выстаўцы адны заводы, і ўсе афарбованы ў адзін шэры колер, якое гэта мастацтва?—гэта гібель мастацтва і г. д. і т. п.“.

Гэтыя людзі, таварышы, не разумеюць таго, што ў нашым савецкім заводзе, на прадпрыемствах соцыялістычнага тыпу, у гэтай асноўнай ячэйцы новай грамады, якую мы будуем, што мы ў гэтым заводзе маем магчымасьць атрымаць, зачэрпнуць, такую тэматыку, якую мы ні дзе ні на якім іншым вучастку савецкай рэчаіснасьці ня знойдзем. Гэта па-першае.

Па-другое, гэтыя людзі ня здольны бачыць таго, што іменна гэтыя тэмы спрыяюць выпрацоўцы такога мастацкага мэтоду, якім наша мастацтва павінна спэцыфічна адрозьнівацца ад кожнага іншага мастацтва. Гэтыя людзі ня бачаць надзвычай часта, што хоць і фарбуюць у „шэрую фарбу“, але навучаюцца, навучацца і пойдуць наперад і, галоўнае, ужо здорава ідуць!

## Аб папутніках, аб саюзьніках, аб Аляксею Талстым

Вернемся, аднак, да паказу герояў працы. Гэта для нас абавязкова, гэта ня проста добрае пажаданьне. Паказаць герояў працы—гэта гучыць як загад для пролетарскага пісьменьніка,—гэта абавязкова і для папутніцкіх кадраў.

На проблеме папутніцтва я хачу адумыслова затрымацца, таму, што яна ў спрэчках заняла, як мне здаецца, недастатковае месца. Аб папутніцтве, у маштабе ўсяго нашага руху, гаварылася мала. Што мы маем з папутніцтвам на сёньнешні дзень?

Я гаварыў у дакладзе, што разгром зьменавехаўства, разгром нацыянал-дэмократызму ня здымае проблемы папутніцтва. Што тут патрэбна выпучыць?

Ёсьць нашы пісьменьнікі, якіх мы называем пролетарскімі, каб быць пролетарскім пісьменьнікам ёсьць для іх справа органічная, гэта іх найвялікшая свабода,—іх вольнае разьвіцьцё ёсьць пролетарскае разьвіцьцё. Але ёсьць такія кадры папутніцкіх пісьменьнікаў, якія хочуць пісаць па-пролетарску, жадалі-б пісаць па-пролетарску, хацелі-б служыць пролетарскай рэволюцыі, але яны яшчэ ня могуць, ім яшчэ шмат што перашкаджае. Жаданьне быць пролетарскім пісьменьнікам не заўсёды зьяўляецца для іх органічнай свабодай. Гутарка ідзе аб тым, каб адшукаць такую зачэпку ў адносінах да кожнага папутніцкага пісьменьніка, якая-б забясьпечвала ператварэньне яго неабходнасьці быць пролетарскім пісьменьнікам у ягоную свабоду, гэта значыць, гутарка ідзе аб глыбокай і сапраўднай ягонай перабудове. Таму, патрэбна да кожнага папутніцкага пісьменьніка падыйсьці па-рознаму, каб дапамагчы яму наблізіцца да нас. Мы павінны проста прызнацца, што мы гэта робім нядосыць добра, часта робім гэта ня ўмела, ня ўмеем ухапіцца за асаблівае, што іменна гэтага пісьменьніка хвалюе.

Пытаюся, якім чынам гэтыя папутніцкія кадры перабудоўваць? Тут мы маем два шляхі. Адзін шлях—асабліва часта рэкомэндуецца людзьмі, якія любяць гаварыць аб складанасьці, аб тым, што людзі ў нас складаныя, патрэбна да іх падыходзіць не прымітыўна, што вы лезеце з агульнымі гутаркамі аб клясавай барацьбе, канец палітграмату, моў, уся інтэлігенцыя ідзе да нас. Гэта, вядома, самыя вульгарныя права-опортуністычныя пошласьці, бо, па-першае, ня ўся інтэлігенцыя ідзе да нас і, што ёсьць інтэлігенцыя, якая адыходзіць ад нас. І, калі мы гаворым аб папутніках, самае цікавае заключаецца ў тым, што маюцца ўжо папутнікі, якія нават самі не разумеюць, што яны перастаюць быць папутніцкімі пісьменьнікамі. Як гэта адбываецца? Гэта адбываецца так, што з кожным днём няўхільна ўсьцяж большыя і большыя патрабаваньні ставяцца, і нават самыя „страшныя“ крытыкі, нярэдка адстаюць ад гэтых патрабаваньняў, якія наша эпоха ставіць перад сваёй літаратурай. Шмат якія папутнікі не разумеюць, што бывае так: тое, што ўчора было адценьнем поглядаў, сёньня зьяўляецца двумя рознымі і варожымі лініямі. Быць папутнікам, нічуць не азначае стаяць увесь час на аднэй і тэй-жа позыцыі.

У мяне ў руках кніжка Пётры Шыраева „Внук Тальони“. Мне здаецца, што тут можна было-б так формуляваць два пункты гледжаньня на яе: адзін—вось, моў, памешчыкі займаліся гадоўляй коняй, умелі выгада-

ваць самай высокай якасьці конскія пароды, а зараз у нас сам селянін гэта можа зрабіць. Вось, моў, гавораць, што новая культура—гэта будзе хамства, гібель і ўсё іншае,—нічога падобнага, бачыце, мы яшчэ лепш выводзім пародзістых коняй, чым колішны памешчык. Вось, значыцца, рэволюцыйная ідэя, вось рэволюцыйны твор. Але тыя, якія так гавораць, не разумеюць таго, што яны гавораць аб буржуазна-дэмократычнай рэволюцыйнасьці, што „Внук Тальони", калі і рэволюцыйны твор, дык у буржуазна-дэмократычным сэнсе гэтага слова. Маюцца такія папутнікі, якім па шляху з тым, што наша рэволюцыя дарабіла буржуазна-дэмократычную, а мы сёньня супроцьстаўляем не расійскі і амэрыканскі шляхі разьвіцьця, а супроцьстаўляем буржуазнае разьвіцьцё соцыялістычнаму, супроцьстаўляем соцыялізм капіталізму. І кніжка Шыраева з гэтага адзіна правільнага пункту гледжаньня шкодная, бо гэтая кніжка даводзіць што паасобныя сяляне-індывідуалы могуць справіцца са справаю конягадоўлі лепш, чым буйная памешчыцкая гаспадарка. Гэта найвялікшая недарэчнасьць, тым больш заблытаная, што Шыраеў дае селяніна не кулака, а серадняка і гэтым хоча паказаць, што серадняк можа гэтую рэч зрабіць, не адчуваючы патрэбы ні ў якіх колгасах. Гэта рэакцыйная рэч!

Вельмі магчыма, што Шыраеў, які пісаў гэтую рэч, здаецца, у 1928 г., быў вельмі добра і, як яму здавалася, рэволюцыйна-настроенным, але гэтая „рэволюцыйнасьць" не бальшавіцкая, яна падобна хутчэй на эсэраўскую. І тут справа ня проста ў зьмене ці павялічэньні патрабаваньня,—прычым вельмі часта папутнікі нават і не разумеюць крытыку, і тыя патрабаваньні, з якімі крытыка да іх падыходзіць, яны лічаць зьменай асабістай ацэнкі таго ці іншага таварыша ў адносінах таго ці іншага твору, тады калі гутарка ідзе аб адлюстраваньні клясавай барацьбы, якая абвастраецца і пяглыбляецца,—не, твор Шыраева ў 1927 і ў 1928 г.г. быў-бы шкодным і няправільным.

Потым, маюцца папутнікі, якія вядуць такія гутаркі,—я думаю, што гэта ёсьць ня толькі ў літаратуры расійскай, але і ў літаратуры ў большасьці саюзных рэспублік,—папутнікі, якія высоўваюць такія тэорыі, якое, моў, можа быць зараз мастацтва, калі нічога нельга выдумаць большага, чым наша рэчаіснасьць, што гэтая рэчаіснасьць настолькі вялікая, што нічога новага ня прыдумаеш, і нічога не застаецца для мастацтва. І калі раней пісьменьнік быў правадыром, „уласьціцелем дум", навокал якога маглі вырастаць масы, дык сама маса на гэтулькі вырасла, што пісьменьнік ня можа яе весьці. На першы погляд такія разважаньні выглядаюць так, што быццам: глядзіце, як гэтаму пісьменьніку падабаецца наша рэчаіснасьць і падабаецца рух мас—але на самай справе тут хаваюцца рэакцыйныя ідэйкі аб адміраньні мастацтва, аб немагчымасьці пісьменьніцкай творчасьці ў нашай краіне. Вельмі часта даводзіцца гэтую рэакцыйнасьць вылушчываць з-пад шалупіньня формулёвак, якія маскуюць гэтыя ідэйкі. Мы добра разумеем адкуль і куды

растуць гэтыя тэорыі, падобная гутарка, што пісьменьнік ня можа быць „правадыром“. Мо‘ і няма патрэбы „выдумляць“, але трэба ўмець бачыць ня толькі паверхню зьяў, але і тое, што хаваецца за ёй і прадбачыць заўтра, убачыць сёньня тое, што засталося ад учора, і прадбачыць тое, што наступіць заўтра. Тут для таленавітага чалавека вельмі вялікая задача, і калі гаворыцца, што раней была патрэбна дадактычная літаратура, а зараз яна не патрэбна, 'дык гэта памылкова. З пункту гледжаньня бальшавіцкага выхаваньня мас нам патрэбна такая пролетарская літаратура, якая-б выступала ў якасьці ідэйнага кіраўніка ў адносінах да чытачоў. За такую літаратуру мы змагаемся, такую літаратуру мы ствараем, такую літаратуру мы створым і будзем за гэта змагаецца з кім угодна, у тым ліку і супроць таго ці іншага папутніка, які можа быць пэўны час яшчэ разам з намі на мінулым этапе рэволюцыйнага руху, а зараз адыходзіць ад нас. Я прывяду вам, таварышы, адзін прыклад такой папутніцкай „перабудовы“, каб паказаць, як ня трэба перабудоўвацца, і супроць чаго мы будзем змагацца. Вось кніжка, напісаная брыгадай ВССП, пад назваю „Большая Балахна“ (некаторыя гавораць пра гэтую кніжку, „большое барахло“). Брыгада складалася з пісьменьнікаў: Глеба Аляксеева, Бальшакова, Буданцова, Юрыя Сьлёзкіна (сьмех). Дзеля таго, каб уявіць тое, наколькі агідна тое, што гэтыя людзі зрабілі, трэба паглядзець на канец кніжкі. У канцы кніжкі прыкладзены водзывы рабочых аб гэтай брыгадзе, пры чым атрымліваецца такое становішча, што рабочыя Балахны, натуральна, выступалі, як людзі культурныя і выхаваныя, бо гэтыя пісьменьнікі зьвярнуліся да рабочых, каб рабочыя далі водзывы аб іх дзейнасьці,—ужо адна гэтая рэч мала прыстойная. Можна было пайсьці ў заўком, ці на рабочы сход, зрабіць справаздачу і такім чынам мець водзыў, калі ў ім ёсьць патрэба, ня было патрэбы зьвяртацца да рабочых за падобнымі водзывамі. Амаль 15 старонак займаюць розныя водзывы аб працы гэтай пісьменьніцкай брыгады. Ня так цікава чытаць самыя водзывы, колькі пацешным зьяўляецца самы факт друкаваньня, як прыклад прэтэнцыйнай брыдоты і вялікай фанабэрыі гэтых людзей, якія паехалі „працаваць“ на прадпрыемствы.

Я прывяду адзін прыклад: Бальшакоў напісаў верш:

„Семнадцать тонн дать должен дефибрер,
Машины требуют древесной масы!
Кричи и требуй этого рабкор,
Ты выполняеш волю класса!

Далей ідуць комэнтары: „Нам падабаецца. Мы гатовы пляскаць у далоні“. І надрукаваўшы гэта на 97 старонцы, гэтыя-ж радкі, інакш разьмешчаныя, паўтараюцца на 115 ізноў і яшчэ раз на 127 старонцы—як чатырохсьцішша. Гэта самая нядобраякасная хаўтура, якая нічога агульнага з поэзіяй ня мае, якая нічога агульнага ня мае з барацьбой за прамфінплян, а зьяўляецца як прыклад інтэлігенцкай някультурнасьці,—

а інтэлігенцкая някультурнасьць—адна з самых горшых някультурнасьцяй.

Таварышы, я прывёў некалькі адмоўных прыкладаў, але ёсьць шмат папутнікаў, якія перабудоўваюцца, якія становяцца нашымі саюзьнікамі, якія ідуць па шляху ў пролетарскую літаратурную організацыю, ідуць па шляху да нас. Вазьмеце Нікалая Ціханава, вазьмеце Слонімскага, ягонага „Фому Клешнева“, за якога на яго так несправядліва напалі ў Ленінградзе, што нам пасьля толькі ўдалося выправіць, вазьмеце Сейфуліну, Шагінян, яе апошні выдатны роман „Гидроцентраль“, гэта людзі, якія ідуць да нас. Можна было-б прывесьці рад іншых прозьвішчаў, якія ідуць да нас па-сапраўднаму, якія перабудоўваюцца, з папутнікаў у пісьменьнікаў саюзьнікаў. Вось, напрыклад, тав. Дзям'ян Бедны тут вылаяў Веру Інбер, сьмяючыся над тым, што рабочы ўдарнік ідзе да Веры Інбер. Я лічу, што тав. Дзям'ян Бедны дарэмна вылаяў Веру Інбер, бо як-бы не ацэньваць літаратурны талент Веры Інбер, але ў кожным выпадку гэтая пісьменьніца сумленная. Хто можа сказаць, што яна прыстасоўваецца? Яна сапраўды перастройваецца. Ёй, праўда, далёка яшчэ да пролетарскай літаратуры, і шмат што ў яе творах мы можам крытыкаваць самым жорсткім чынам. Яна не выпадкова была ў групе конструктывістаў, у яе маецца схіленьне галавы перад усякім амэрыканізмам, маецца шмат недахопаў, але сказаць, што яна ад нас адыходзіць—нельга. Нельга яе зьневажаць на нашым пленуме, бо мы не адзін з гурткоў, мы даўно ўжо адыйшлі ад гэтага, мы адказваем за кожнага пісьменьніка—вылаяць лёгка, а што мы зрабілі для таго, каб забясьпечыць добрую марксыцкую крытыку і каб па-сапраўднаму пісьменьніку была вытлумачана, што твая памылка выплывае адтуль і адтуль, але ты таго-та ня ўцяміў, гэта адбілася на тваім мастацкім мэтодзе, гэта зьніжае мастацкасьць твайго твору? Гэтага ў нас вельмі часта ня ўмеюць зрабіць і мы ў адносінах да Веры Інбер гэтага не зрабілі, не зрабілі таго, каб паслаць яе туды, куды гэта мэтазгодна, і да такой групы паслаць, дзе будзе забясьпечаны ўплыў не Буданцова, гэтага земгусара ад літаратуры, а дзе будзе забясьпечаны ўплыў пролетарскіх кадраў. Мы да гэтага часу яшчэ ня здолелі выканаць гэтага асноўнага, ня ўмелі на практыцы нашай дзейнасьці адрываць папутнікаў ад буржуазных пісьменьнікаў, ня ўмелі прымушаць выбіраць.

Гісторыя з Замяціным і Пільняком здабыла надзвычайную сур'ёзнасьць дзякуючы таму, што мы змусілі выбіраць—з кім вы—з намі, з пролетарскай літаратурай, з пролетарскай рэволюцыяй, ці з Замяціным і Пільняком. Так мы паставілі пытаньне і такая пастаноўка пытаньня цалкам сябе апраўдала, бо заўсёды падцьвярджаецца правільнасьць лініі бальшавіцкай прынцыповасьці і заўсёды правальваецца лінія сьціраньня вострых кутоў, лінія ідэйных компромісаў.

Тых пісьменьнікаў, якія ідуць да нас, мы павінны кожны дзень вымушаць выбіраць,—няма адзінай грузінскай, армянскай, украінскай нацыя-

нальнай літаратуры, выбірайце, з кім вы? Вось вам дадзены пролетарскія пісьменьнікі і дадзены такія пісьменьнікі, як Аляксей Талстой, выбірайце—з кім вы? Да рэчы, аб романе Аляксея Талстога „Черное золото“. Я думаю, што такія людзі, як Аляксей Талстой, памыляюцца, калі думаюць, што мы ў тым пэрыодзе, калі нам не да мастацтва, і што мы яшчэ зусім не навучыліся ў ім разьбірацца. Роман „Черное золото“—бульварная аванцюршчына, халтура, якая нічога агульнага з мастацтвам ня мае. Там дадзены стандартны сюжэт любога другараднага аванцюрнага роману, для зацікаўленьня дадзены некаторыя гісторычныя прозьвішчы, Дзенісаў, Мілюкоў, для абывательскага інтарэсу паказана, як яны п'юць гарбату, і г. д., і далей пэўная доля эротыкі, для таго каб можна было перажыць тыя „ідэі“, якія ў парадку прымусовага асортымэнту ад бальшавізму ўкладвае Аляксей Талстой у свой твор. Падобныя творы вельмі лёгка рабіць, асабліва маючы пісьменьніцкія здольнасьці Аляксея Талстога—а гэтыя вялікія пісьменьніцкія здольнасьці адчуваюцца нават і ў „Черным золоте“. Мы павінны ўмець паставіць пытаньне перад усёй масай пісьменьнікаў: вось вам Аляксей Талстой, вялікі пісьменьнік, які можа быць вялікім пісьменьнікам, паглядзеце, што ён на сёньнешні дзень дае, і абмяркуйце чаму ён гэта дае, змагайцеся разам з намі супроць падобных рэчаў, бо барацьба супроць падобных твораў, як „Черное золото“, гэта будзе наша разам з папутнікамі барацьба за мастацкую якасьць. Аляксеі Талстыя любяць гаварыць, што ідзе новая літаратура, але што яна дасьць? Мы можам адказаць, што-б яна не дала, аднак у кожным выпадку гэта будзе ўсё-ж такі лепшым, чым роман „Черное золото“. Але гэта ня крытэрыі. Які крытэрыі „Черное золото“? Вядома мы напішам, і ўжо пішам лепш, чым напісаў Талстой гэтае „Черное золото“. Гэта нават не матэрыял для параўнаньня, для адштурхоўваньня, а гэта матэрыял для адкіданьня (воплескі).

## Ударыць па чырвонай халтуры

Калі я гавару аб „Черном Золоце“, я хачу зазначыць на мімікрыю пісьменьніка. Калі мы гаворым аб барацьбе з буржуазнай літаратурай, у нас ідзе гутарка аб тым, каб умець бачыць новыя формы, у якіх адбываецца барацьба з буржуазнай літаратурай, каб бачыць і ў свой час спыняць, у прыватнасьці,—зьяўленьне чырвонай халтуры, бо і на Украіне і ў Закаўказьзі ёсьць чырвоная халтура. А між тым ніхто аб гэтым нічога не сказаў у спрэчках. А што мы робім для таго, каб па-сапраўднаму выпалаць гэтае пустазельле, якое ў нас маецца ў вялікай колькасьці? Дзе ў нас быў паказальны суд над рэдактарамі кніжак чырвонай халтуры? Дзе мы зьнялі таго ці іншага выдаўца, які выпусьціў гэтую чырвоную халтуру? Дзе і калі арганізавалі грамадзкі суд над падобнымі рэдактарамі, якія друкуюць халтурныя рэчы?

Зараз усе згаджаюцца, што патрэбна зьнішчаць і біць чырвоную халтуру. Давайце аб гэтым менш гутарыць, а больш рабіць. Бо мы-ж адказваем за тое, каб тыя кніжкі, якія ідуць у рабочую масу, у масу колгасьнікаў,—мы, кадры пролетарскіх пісьменьнікаў!—за тое, каб гэта былі ня кнігі, якія разбэшчваюць чытача „легким чтивом", падмяняючы ім барацьбу за мастацкасьць і за формаваньне сапраўдных эстэтычных густаў пролетарыяту. З гэтым мы павінны змагацца і павінны ўзьнімаць на гэта масы.

Выступленьне тут тав. Троіцкага ад „Комсомольской правды" зьяўляецца вельмі каштоўным, бо гэтым самым здымаюцца гутаркі, аб якіх-бы та там ня было рознагалосьсях у нас з „Комсомольской правдой" і комсамолам. У нас быў і будзе, і павінен быць у далейшым самы сапраўдны, самы цесны баявы саюз ня толькі таму, што мы—асноўнае кіраўніцтва ЎсеААПП—амаль усе былыя комсамольцы, прайшоўшыя комсамольскую школу, ня толькі таму, што комсамольцы займаюць і будуць займаць вялікае месца ў нашай літаратуры, але і таму, што комсамол, „Комсамольская правда" больш, чым хто-небудзь іншы, могуць зрабіць для ўтварэньня навакол літаратуры пролетарскай грамадзкасьці для таго, каб супроць чырвонай халтуры ўзьнімалася ўся маса чытачоў, каб ўзьнімаць шырокія пласты пролетарскай грамадзкасьці на барацьбу з чырвонай халтурай і з усімі відамі і формамі буржуазных уплываў і літаратуры. І гэта павінна быць адным з пунктаў нашых гутарак з т. Троіцкім,—давайце возьмем некалькі прыкладаў з украінскай літаратуры, з закаўкаскай літаратуры, з расійскай літаратуры, давайце, уздымем усю масу комсамольцаў на барацьбу з такімі творамі, якія зьяўляюцца чужымі для нас, якія нам не патрэбны. Гэта будзе вельмі карысна, гэта падводзіць нас да пытаньня аб удзеле мас у літаратуры.

## Аб чытачу, бібліотэках і выдавецтвах

Т. Вігалок у надзвычай правільнай і прыгожай прамове, якую ён тут сказаў ад імя ЎсеЦСПС, ставіў пытаньне і адносна большай працы з чытачамі, з бібліятэкарамі і адносна—у гэтым пляне—большага ўплыву на работу выдавецтваў. Гэта правільна, аб гэтым патрэбна гаварыць, і таварыш Халатаў у сваім выступленьні аб гэтым гаварыў. Праўда, з ведамствам тав. Халатава ў нас адносіны складаюцца больш цяжка. Дагаварыцца з ГІХЛ—гэта, як гавораць таварышы, у нас „гіхлае дзела", рэч амаль немагчымая, справа гіблая. Тав. Халатаў сам асабіста дапамагае шмат; калі зьвернешся да яго асабіста, дык ён заўсёды дапаможа, а калі ня зьвернешся асабіста да тав. Халатава, дык заўсёды бывае вельмі цяжка. Гэта дакор тав. Халатаву таму, што я лічу, што ён адказвае за ўвесь ОГІЗ, за ўвесь свой апарат, у тым ліку і за ГІХЛ.

Сапраўды, нам патрэбна на работу нашых выдавецтваў, на становішча нашых выдавецтваў, зьвярнуць значна большую ўвагу, чым да гэтага часу мы зьвярталі. І тут работа з чытачамі, з бібліятэкарамі, іх кантроль над выдавецтвамі зможа даць надзвычай шмат, павінна даць шмат, а калі мы за гэта возьмемся і дасьць шмат тады, калі гэта ня будзе справай паасобных нацыянальных атрадаў, — украінскага, беларускага, закаўкаскага, але калі гэта будзе формай інтэрнацыянальнага дзеяньня нашай адзінай організацыі.

## Шпарчэй перамагаць нацыянальную замкнёнасьць

Мы шмат гаворым аб інтэрнацыянальным адзінстве, але на справе яшчэ вельмі моцная нацыянальная замкнёнасьць, нацыянальная адарванасьць. Напрыклад, калі едуць пісьменьніцкія брыгады, дык украінскія брыгады едуць на Украіну, расійскія ў РСФСР і г. д. Замест таго, каб пасладь украінцаў вывучаць дасягненьні толькі Украіны, чаму-б не пасладь іх на Урал, чаму уральцаў не пасладь на Украіну і г. д. Трэба знаходзіць дзесяткі новых форм, якія-б ірвалі колішнюю нацыянальную замкнёнасьць, якія паказалі-б, што мы не мэханічнае злучэньне нацыянальных атрадаў, але што мы сапраўды моцны, магутны, адзіны саюз пролетарскай літаратуры. Гэта на справе трэба паказаць, ня змазваючы, вядома, спэцыфічных асаблівасьцяй таго ці іншага нацыянальнага атраду, не зьмяншаючы значэньня спэцыфічных задач іх,—але перамагчы нацыянальную замкнёнасьць мы павінны чаго-б гэта не каштавала, і гэтага можна дасягнуць у залежнасьці ад таго, ці будзе ЎсеААПП сапраўды кіруючым органам усёй пролетарскай літаратуры, сапраўды працуючым органам.

Тав. Радзіяні, які найбольш востра і таму найбольш правільна крытыкаваў работу ЎсеААПП, сказаў, што ЎсеААПП не ператварыўся яшчэ ў сапраўды працуючую організацыю, што няма яшчэ становішча, пры якім-бы ЎсеААПП на справе кіраваў усімі нацыянальнымі атрадамі. Сапраўды, УсеААПП лаюць толькі ў часе пленумаў і перад пленумамі, пасьля-ж пленуму наступае цішыня, дабрадушша,—ізноў да наступнага пленуму, калі гавораць: на ранейшым пленуме пастанавілі тое і тое, ізноў ня выканалі; і ізноў гавораць прыгожыя пакаяныя прамовы--нічуць ня горшыя тых пакаянных прамоў, якія на сёньнешні дзень гавораць нашы колішнія ворагі, бо вельмі мала засталося такіх ворагаў, якія не кляліся-б сёньня генэральнай лініяй УсеААПП. Я павінен спэцыяльна папярэдзіць супроць гэтых алілуйшчыкаў: вельм шкодны вораг які перафарбаваўся і шчагаляе сёньня ў мундыры алілуйшчыка (воплескі). Я ведаю надзвычай шмат таварышоў, якія ў эпоху дыскусіі з „Літфронтам спачувалі „Літфронту", а сёньня маюць адвагу абвінавачваць нават РАПП, бадай ня ў прымірэнцкіх адносінах да „Літфронту"; ёсьць такія таварышы, якія абаранялі пераверзеўшчыну, а зараз горда дэклямуюць па

поваду тэй ці іншай памылкі ў нас, у пэрыод нашай барацьбы з пераверзеўшчынай. Трэба падкрэсьліць, што калі мы гаворым аб консолідацыі, мы гаворым, аб прынцыповай кансолідацыі, аб консолідацыі з людзьмі, якія прынцыповы, якія маюць пэўную выразную прынцыповую лінію.

## Самакрытыка—зброя прасоўваньня наперад

У сувязі з гэтым трэба сказаць аб самакрытыцы, аб якой шмат гаварылася ў спрэчках. З гэтай прычыны можна прывесьці вялікую колькасьць спрыяючых заяў любога таварыша, але ажыцьцяўляць самакрытыку на справе значна цяжэй. Па-першае, патрэбна яе ажыцьцяўляць, як гэта заслугоўвае бальшавіцкай організацыі, патрэбна ажыцьцяўляць самакрытыку, якая-б не заключалася толькі ў самадаўлеючым перакідваньні цытатамі, але самакрытыку ідэйную, якая-б узьнімала нас на больш высокі ўзровень. Я думаю, што калі гавораць аб самакрытыцы, гутарка ідзе аб тым, каб стаяць тварам наперад, да новых задач, руху, а не аб тым толькі, каб павярнуцца тварам да старых матэрыялаў і ў іх пароцца. Трэба глядзець наперад, каб і ва ўсім учарашнім разабрацца і яго ўсьвядоміць. Кадры патрэбна правяраць не на тым, ці ўмеюць яны вышукваць цытаты, трэба іх праверыць, як яны новыя пытаньні ставяць, як адбіваецца іх разуменьне мінулага і іх лінія ў мінулым іменна на вырашэньні новых проблем. Нам патрэбна консолідацыя ня людзей, якія маюць заслугі толькі ў мінулым,—гэта добра, але гэта не галоўнае,—нам патрэбна консолідацыя людзей, якія ў новай абстаноўцы, у новую эпоху могуць быць усеапаўцамі, і нашы кадры мы будзем правяраць іменна так. Мала таго, што быў калісьці сакратаром УсеААПП, РАПП і г. д.—гэта ўсё добра і дай бог табе шчасьця, але ў нас новы этап, перад намі новыя задачы і нам патрэбна перастроіцца так, каб усё ўчарашняе зьяўлялася падрыхтоўкай да сёньня. Сёньняшняе-ж—да заўтра і г. д. і т. п.

На гэтым мы абавязкова павінны праверадь нашы кадры і ў гэтых адносінах Пленум УсеААПП зьяўляўся школай для ўсіх нас, бо на ім мы ўпяршыню мелі і такое адзінства ўсёй нашай організацыі і такое вялікае таварыскае разуменьне неабходнасьці настолькі шырока разгарнуць самакрытыку, якая-б навучала нас таму, як патрэбна працаваць ў галіне літаратуры па-бальшавіцку.

## За лінію партыі

Падводзячы вынікі тых спрэчак, якія былі тут, і заканчваючы сваё заключнае слова, я павінен паўтарыць, што асноўны тон быў тонам не самаздавольненьня, а тонам трывогі, гэта і павінна быць асноўным тонам нашай работы, і далей, асноўнай нотай настрояў нашых пісьменнікаў, становішча ў нас яшчэ такое, што наша літаратура яшчэ адстае.

і мы павінны напружыць усе нашы сілы і працаваць больш упарта, каб справіцца з задачамі, якія перад намі стаяць.

Я думаю, што мы павінны падвесьці вынікі работы нашага пленуму, ў форме рапарту Цэнтральнаму комітэту, у форме рапарту тав. Сталіну, рапарту, у якім пролетарская літаратура засьведчыць тое, што кадры пролетарскіх пісьменьнікаў ведаюць цьвёрда, што толькі на аснове няпрымірымай барацьбы за генэральную лінію партыі, толькі будучы стопрацантнымі цьвёрда-каменнымі бальшавікамі, мы здолеем прывесьці нашу пролетарскую літаратуру да гегемоніі і стварыць літаратуру вартую нашага бальшавіцкага часу (працяжныя воплескі).

*КАНЕЦ.*

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ НА ПАРОЗЕ РЭВАЛЮЦЫЙНЫХ БАЎЕ

**П. Крэвіч**

### Капіталістычны крызыс паглыбляецца

Крызыс капіталістычнай гаспадаркі ў фашыстоўскай Польшчы, як і ва ўсім капіталістычным сьвеце, паглыбляецца штодзень. За пару апошніх месяцаў крызыс гэты прыняў катастрафічны характар. Усе мерапрыемствы з боку фашыстоўскага ўраду, каб зьмякчыць крызыс, скончыліся фіаскам. Прамысловая вытворчасьць сыстэматычна скарачаецца. Банкрутуе цэлы рад прадпрыемстваў (зачынена Відзеўская мануфактура і збанкрутаваў гандлёвы банк у Лодзі).

На вуліцу выкідваюцца новыя тысячы беспрацоўных, агульны лік якіх па афіцыяльным даным даходзіць да 300 тысяч, а фактычна кожны другі рабочы ў Польшчы беспрацоўны. Пад уплывам агульнага абвастрэньня крызысу ўсёй капіталістычнай сыстэмы, асабліва ў Нямеччыне, пачынаецца ўцечка капіталаў з Польшчы, што моцна пагражае злотаму. Фактычна злоты польскі моцна хістаецца і хутка паляціць уніз. Распачнецца валютны крызыс і інфляцыя. Каб залатаць агромны бюджэтны дэфіцыт і ўратаваць злоты ад катастрофы, фашыстоўскі ўрад Пілсудзкага-Прыстора выпрасіў некалькі невялічкіх пазычак ад Францыі і пайшоў па лініі скарачэньня бюджэту. Скарачэньне выдаткаў у дзяржаўным бюджэце адбываецца коштам шырокіх працоўных мас і беспрацоўных. Фашыстоўскі ўрад абніжае заробкі чыгуначнікам і ўрадоўцам ад 30 да 40 проц. Скараціў тэрмін карыстаньня беспрацоўнымі дзяржаўнымі дапамогамі з 17 тыдняў да 13. Цэлым катэгорыям беспрацоўных наогул адабраў усякія дапамогі, асуджваючы іх на галодную сьмерць.

Сельска-гаспадарчы крызыс абніжае цэны на ўсе сельска-гаспадарчыя прадукты, моцна б'е і руйнуе шырокія пласты сялянства, сьпіхваючы іх да становішча вясковай беднаты і поўпралетарыяту, асуджваючы на нэндзу і голад. Толькі адна галіна гаспадаркі не адчувае крызысу і працуе поўным ходам — гэта ваенная прамысловасьць. Фашыстоўскі ўрад, рыхтуючыся да нападу на СССР, масава вырабляе танкі, аэропляны, гарматы, труючыя газы і іншыя прылады сьмерці.

## Белы тэрор і нацыянальны ўціск узрастаюць

Каб уратаваць панаваньне буржуазіі і абшарнікаў проці наблі-жаючайся рэволюцыі, фашыстоўская дыктатура ўзмацоўвае белы тэрор і нацыянальны ўціск. Залпамі, труючымі газамі падаўляюцца ўсе ра-боча-сялянскія дэманстрацыі. За кратамі фашыстоўскіх вастрогаў сядзіць 10 тысяч перадавых пралетарскіх рэвалюцыянэраў, становішча якіх штодзень пагаршаецца. Ва ўсіх турмах Польшчы ўводзіцца фа-шыстоўскі турэмны закон, які адбірае ў палітвязьняў усе палёгкі, зда-бытыя ў папярэдняй барацьбе, і зраўнівае іх з крымінальнымі. Цяжкія 10—12-дзённыя галадоўкі, як сродак абароны ў руках палітвязьняў, ня сходзяць цяпер з парадку дня ў фашыстоўскай Польшчы. За кра-тамі знаходзяцца ўсе паслы беларускага пасольскага клюбу „Зма-ганьня“—Гаўрылік, Крынчык, Валынец і Дварчанін. Другі раз здрад-ніцкім спосабам схоплены і пасаджаны за краты пасол Тарашкевіч. На гарады і вёскі Заходняй Беларусі што-раз часьцей наяжджаюць карныя экспэдыцыі акупантаў, масава арыштоўваюць і катуюць сялян, топчуць збожжа, нішчуць дабро. Такія карныя экспэдыцыі мелі сваё месца ў Кобрыне і ў Падбродзьдзі ў красавіку—траўні 1931 г. Самая апошняя крывавая карная экспэдыцыя адбылася 2—3 жніўня ў Карэ-ліцкай гміне Сталпецкага павету, дзе было некалькі забітых, шмат ра-неных і больш як 170 чалавек арыштаваных.

У канцы мінулага году выйшаў дэкрэт прэзыдэнта аб тым, што на працягу 7 год ня можа быць адчынена аніводная беларуская школа. І гэта ў той час, калі фашыстаўскія ўлады цяпер пазачынялі амаль што ўсе беларускія школы і іншыя ўстановы. Таксама вясной гэтага году выйшаў дэкрэт прэзыдэнта фашыстоўскай рэспублікі аб тым, што Віленшчына ўлучаецца ў гэтак званую пагранічную паласу. Што фак-тычна азначае падрыхтоўку грунту да ўвядзеньня там ваеннага пала-жэньня. Зараз-жа за гэтым фашыстоўскія ўлады прыступілі да высяленьня з тэрыторыі Віленшчыны і ўсёй Заходняй Беларусі рэвалюцый-ных рабочых і сялян. Робіцца гэта дзеля таго, каб ачысьціць тыл для нападу на СССР. Тэрыторыя ЗБ гэта ёсьць тая тэрыторыя, на абшары якой разыграюцца будучыя ваенныя падзеі. Каб мець спакойныя тылы для сваёй арміі, фашыстоўскі ўрад высяляе з гэтай тэрыторыі рэвалю-цыйных рабочых і сялян. Цяпер нядаўна віленскі школьны куратар адабраў канцэсыю на 31—32-школьны год для беларускай гімназіі ў Клецку, г. значыць зачыніў яе. У палове ліпеня гэтага году фашыс-тоўскія ўлады арыштавалі ў Вільны паўнамоцную камісію Таварыства Беларускай Школы, апячаталі памяшканьне і канфіскавалі кнігі. Нацыя-нальны ўціск фашыстоўскага ўраду не абмежаваўся толькі ў адносінах да беларусоў, але захапіў таксама ліцьвіноў і яўрэяў. Так, напрыклад, у Вільні ўлады зачынілі яўрэйскую вучыцельскую сэмінарыю, а так-сама яўрэйскую школу імя Фруга (якая потым, пасьля ачышчэньня яе ад

рэвалюцыйнай моладзі, была зноў адчынена), у вёсцы Гуры—Віленскага павету ўлады зачынілі літоўскую школу.

Усё гэта зьяўляецца брутальным праяўленьнем нацыянальнага ўціску беларусоў, яўрэяў, ліцьвіноў польскім імпэрыялізмам і знаходзіць з іх боку рашучы адпор. У сваей палітыцы нацыянальнага і сацыяльнага ўціску фашыстоўскі ўрад знаходзіць актыўнае падтрыманьне з боку гарадзкой буржуазіі і вясковых кулакоў самых прыгнечаных нацыянальнасьцяй, якая ўсё больш зрастаецца з польскім імпэрыялізмам і прадае нацыянальныя інтарэсы сваіх народаў. У адносінах да беларусоў гэтую ролю выконваюць нашыя беларускія нацыянал-фашысты—Луцкевіч, Астроўскі, Ярэміч, Акінчыц. Усе яны хаця і розьняцца паміж сабой і нават сварацца, як апошні час Астроўскі і Акінчыц, але ўсе разам і кожны паасобку зьяўляюцца прадажнікамі інтарэсаў беларускага народу. Іх сваркі паміж сабою гэта толькі торг за падзел даходаў, за права прадажнасьці інтарэсаў беларускага народу. Акінчыц, напрыклад, ясна кажа ў сваёй газэце „Праўда“, што Астроўскі бярэ грошы ад фашыстоўскіх уладаў. Акінчыц таксама не сьвяты, але ён пакрыўджаны тым, што яму мала засталося з той торбы з аўсом, якую павесіў ім на морду Пілсудзкі. Вясной гэтага году нашы нацыянал-фашысты бралі ўдзел у палітычным банкеце ў бышага віленскага ваяводы Кіртыкліса і генэрала Жэлігоўскага. На гэтым банкеце Астроўскі салаўём расьпяваў перад крывавым катам беларускага народу і рабоча-сялянскіх мас свае вернападданыя пачуцьці да фашыстоўскай Польшчы. Гаварыў аб патрэбе збліжэньня паміж братнімі беларускім і польскім народамі. А гэта азначае збліжэньне паміж беларускай і польскай буржуазіяй і кулакамі для барацьбы з супольным ворагам, з рэвалюцыйнымі рабочымі і сялянамі на Заходняй Беларусі і з СССР. Пасьля гэтай нарады мы бачылі якраз яе вынікі ў форме узмацаваньня нацыянальнага ўціску і белага тэрару па ўсей Заходняй Беларусі. Здраднікамі інтарэсаў беларускага народу зьяўляюцца ня толькі Астроўска-Луцкевічаўскі „Цэнтрасаюз“, ці Акінчыцкае „Аб'яднаньне“, але таксама і „Сельсаюз“ Рагулі. Гэтыя апошнія ўсімі сіламі адгараджваюцца ад сваіх таварышоў з „Аб'яднаньня“ і „Цэнтрасаюзу“, прыкрываючыся агульна-нацыянальнымі інтарэсамі беларусоў. Яны захоўваюць яшчэ пэўную апазыцыйнасьць у адносінах да ўраду. Робяць яны гэта выключна дзеля таго, каб захавацца на паверхні палітычнага жыцьця і ня страціць рэшткі сваіх марных уплываў і дзеля таго, каб пры ўгодзе з польскім імпэрыялізмам вытаргаваць для сябе лепшыя варункі.

Ня гледзячы на тэрар і нацыянальны ўціск і на здраду нацыянал-фашыстаў, барацьба прыгнечаных народаў проці польскага імпэрыялізму, проці акупацыі, за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленьне ня слабне, але ўзмацоўваецца. Гэгэмонію ў гэтай барацьбе мае КПЗБ, якая пад сваім кіраўніцтвам мабілізуе і вядзе масы проці ўсякіх пра-

яваў нацыянальнага ўціску, за родную школу і мову, за вольнае разьвіцьцё для масавых арганізацый нацыянальна-вызваленчага руху, за вольную прэсу і г. д. КПЗБ кажа найшырэйшым масам усіх прыгнечаных народаў, што аслабіць нацыянальны ўціск, вырваць у фашызма пэўныя ўступкі ў нацыянальнай справе магчыма толькі шляхам масавай арганізаванай барацьбы. Фашызм дабравольна ня ўступіць, рашае тут толькі сіла. Падкрэсьліваючы гэта, КПЗБ кажа, што аканчальнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў сучаснай Польшчы магчыма толькі шляхам пралетарскай рэволюцыі ва ўсёй Польшчы, калі пад супольнымі ўдарамі рэволюцыі і ўзброенага паўстаньня ўсіх рабочых, сялян і прыгнечаных народаў будзе скінута фашыстоўская дыктатура Пілсудзкага і створаны рабоча-сялянскі ўрад. Дзеля гэтага ўсе прыгнечаныя народы, а ў тым ліку і беларусы, сваю барацьбу проці нацыянальнага ўціску, за поўнае нацыянальнае вызваленьне, павінны цесна зьвязаць з агульна-рэвалюцыйнай барацьбой пралетарыяту і сялянства ва ўсей Польшчы. Аканчальнай мэтай КПЗБ у нацыянальнай справе зьяўляецца „права нацыі на самаазначэньне аж да аддзяленьня ад Польшчы". Пад гэтым лёзунгам КПЗБ вядзе сваю працу, мабілізуючы найшырэйшыя масы беларусоў і іншых прыгнечаных польскім імпэрыялізмам народаў да рэвалюцыйнай барацьбы проці польскага імпэрыялізму.

КПЗБ, будучы партыяй пралетарыяту, бачучы ў СССР бацькаўшчыну міжнароднага пролетарыяту, і прыклад правідловага вырашэньня ўсіх нацыянальных праблем — пакідае сабе права весьці агітацыю за неабходнасьць далучэньня Заходняй Беларусі да Беларусі Савецкай і ўвядзеньня на Беларусі Заходняй, такіх самых парадкаў, якія існуюць у БССР. Але КПЗБ не навязвае гвалтам гэтага погляду масам, пакідаючы права большасьці беларускага народу самаму акрэсьліць формы свайго дзяржаўнага існаваньня.

## Занапад заходня-беларускай прамысловасьці

Крызыс капіталістычнай гаспадаркі ў Польшчы яшчэ з большай сілай праяўляецца на прамысловасьці Заходняй Беларусі, якая дзякуючы грабежніцкай палітыцы акупантаў знаходзіцца ў становішчы сыстэматычнага заняпаду. Аб разьмеры крызысу ў Заходняй Беларусі могуць сьведчыць дадзеныя па Вільні і віленскім ваяводзтве за першае паўгодзьдзе 1931 г., узятыя з афіцыяльнай буржуазнай прэсы. За першае паўгодзьдзе 1931 г. у Вільні і Віленскім ваяводзтве было зьліквідавана 2 цукеркавыя фабрыкі, 7 хэмічных прадпрыемстваў, 19 мэталёвых, 14 адзежных, 14 гарбарных, 2 папяровых, 4 дрэўных, 2 паліграфічных, 65 сталярскіх майстэрняў, 44 сьлясарскіх, 17 кавальскіх, 78 шавецкіх, 29 кравецкіх і г. д.

Альбо прыклад з тартачнай прамысловасьцю. На абшары Віленскага

і Навагрудзкага ваяводзтва было зьліквідавана 85 тартакоў, ці 21 проц. усіх дзейнічаючых тартакоў у 1929 г. Больш паловы ўсіх зьліквідаваных тартакоў прыпадала на Віленскае ваяводзтва.

Тыя прадпрыемствы, якія яшчэ існуюць (тартакі, шкляныя гуты, хэмічныя і іншыя) знаходзяцца ў вельмі цяжкім становішчы і існуюць толькі дзякуючы нячуванаму капіталістычнаму вызыску рабочых ці то ў форме павялічэньня інтэнсыўнасьці працы, ці то павялічэньня рабочага дню да 10—12 і нават 14 гадзін у дзень і скарачэньня заробкаў.

Вось некалькі дадзеных аб рабочых заробках. У Беластоку на фабрыцы Шапіра і Трылінга ткачам абнізілі заробак на 20 проц., на фабрыцы „Стары Сокал“ і „Поляк“ заробкі абніжаны больш як на 30 проц.

Шаўцы, напрыклад, зараблялі калісьці за пару 10 злотых, цяпер—3 злотых. Рабочыя гарбары—калісьці 5—6 злотых, цяпер—3—4 злотых у дзень. Рабочыя шкляных гутаў ад 2 да $3^1/_2$ зл. у дзень, залежна ад кваліфікацыі і г. д.

## Пралетарыят пераходзіць да контр-атакі

Такім чынам агульны крызыс капіталістычнай гаспадаркі ў Польшчы ў спэцыфічных варунках ЗБ знаходзіць мацнейшы яскравы выраз і ўсім сваім цяжарам б‘е па рабочых і шырокіх працоўных масах гораду і вёскі. Лік прамысловага пралетарыяту ЗБ зьменшваецца. Большая палова прамысловых рабочых пераходзіць у рады беспрацоўных і сьпіхваецца на дно нэндзы і голаду. Матар‘яльнае становішча працуючых таксама і беспрацоўных вельмі цяжкае. Усё гэта павялічвае нявавісьць шырокіх рабочых мас проці акупанта, проці ўсёй сыстэмы фашыстоўскай дыктатуры, завастрае іх рэвалюцыйную барацьбу. Дэградацыя (заняпад) Заходня-беларускай прамысловасьці і зьмяншэньне ліку прамысловага пралетарыяту ні ў якім выпадку не паслабляе яго кіруючай ролі ў рэвалюцыйна-клясавай і нацыянальна-вызваленчай барацьбе, а наадварот, павялічвае яе. Бо рэвалюцыйная актыўнасьць і баявая гатоўнасьць рабочых у гэтых варунках узрастае. На тэрыторыі ўсёй Заходняй Беларусі адбыўся цэлы рад забастовак. Забастоўка рабочых пры будове чыгункі Друя—Дукшты і Вільня—Ораны, забастоўка на віленскіх гутах Вітрыум і Шапіра, забастоўка ў віленскіх цагельнях і на тартаках, забастоўка пекароў у Лідзе і пры будове электрычнай турбіны ў Слоніме і шэраг інш.

*У чэрвені м-цы адбылася ўсеагульная забастоўка тэкстыльшчыкаў у Беластоку і камунальных рабочых у Горадні.*

Калі ў Беластоку рабочым на ф-цы Потшэбудзкага фабрыканты абнізілі заробкі на 6 проц.—дык рабочыя аб‘явілі забастоўку.

Каля 800 рабочых з іншых тэкстыльных фабрык зрабілі дэманстрацыю прад фабрыкай Потшэбудзкага і дамагаліся выкананьня рабочых патрабаваньняў і зьняцьця штрэйкбрэхераў. У знак солідарнасьці з гэ-

тым—забаставалі ўсе тэкстыльныя фабрыкі. Усеагульная забастоўка солідарнасьці працягвалася адзін дзень, выявіла ўзрост рэволюцыйных настрояў рабочых і мела вялічэзнай вагі політычнае значэньне, хаця кіраўніцтва ёй захавалі ў сваіх руках соцыял-фашыцкія махэры з ППС, Бунду.

*У Горадні*—усеагульная забастоўка комунальных рабочых выбухла ў знак солідарнасьці з працаўнікамі магістрату, якім улады абнізілі заробкі. Да забастоўкі прыступілі рабочыя электрычнай станцыі і вадаправоду. Да забастоўкі далучыліся таксама і рабочыя дзяржаўнай тытуновай фабрыкі. І гэта забастоўка прашла пад кіраўніцтвам ППС і Бунду—але таксама мела вялікае політычнае значэньне.

Да барацьбы выступаюць таксама і беспрацоўныя. 7-га ліпеня адбыліся баявыя дэманстрацыі беспрацоўных у ліку каля 750 асоб прад палацам ваяводы ў Вільні. Дэманстрацыя праходзіла пад лёзунгам— „Хлеба і працы“, і ў абарону палітвязьняў Лукішскага вастрогу, якія ў той самы час мелі галадоўку. Паліцыя пачала разганяць дэманстрацыю. Дэманстранты наладзілі арганізаваны адпор паліцыі. Завязалася бойка паміж дэманстрантамі і паліцыяй. Паліцыя пусьціла ў ход шаблі, але доўга не магла разагнаць дэманстрантаў. У гэтай бойцы было паранена некалькі паліцэйскіх і 16 паліцэйскіх коняй. Характэрнай рысай усіх гэтых выступленьняў зьяўляецца тое, што яны насілі яскравы палітычны характар. Большасьць з усіх гэтых забастовак ішлі пад кіраўніцтвам КПЗБ і былі выйграны.

## Вёска ў цісках падаткаў і фашыстоўскай камасацыі

У ня менш цяжкім становішчы знаходзіцца заходня-беларуская вёска, якая цяпер з усёй сілай адчувае акупацыйны ўціск і капіталістычны крызыс. Зямельная палітыка фашызму, г. зв. камасацыя, ліквідацыя сэрвітутаў і парцэляцыя ёсьць звычайны рабунак сялянскай зямлі. Напрыклад пры ліквідацыі сэрвітутаў матар‘яльныя варункі сялян звычайна пагаршаюцца, бо сэрвітуты давалі сялянам права на карыстаньне з пастбішчаў, з дрэва, ягад і грыбоў з лясоў і зямель належачых да абшарніка. Цяпер абшарнік лясы вырубае, а зямлю прадае—сэрвітуты ліквідуюцца. За апошнія 10 год на тэрыторыі ЗБ было зьліквідавана сэрвітутаў у 46.460 сялянскіх гаспадарак з агульнай плошчай зямлі, якая знаходзілася пад сэрвітутамі—122.667 *га*.

Пры камасацыі таксама крыўдзяцца шырокія масы беднаты і сераднякоў. Камасацыя гэта па-просту выхад на хутары. У варунках фашыстоўскай дыктатуры гэта праводзіцца з выразнай крыўдай шырокіх сялянскіх мас. Кулакі забіраюць сабе лепшыя і бліжэй паложаныя кавалкі зямлі, адпіхваючы рэшту сялян на кавалкі горшыя і далей паложаныя. На абшарах Заходняй Беларусі такім спосабам за 10 год было

скамасавана 77.241 сялянская гаспадарка, што складае 45 проц. усіх сялянскіх гаспадарак.

У гэтым годзе ўводзіцца новы закон аб „непадзельнасьці грунтаў“. Фашыстоўскі ўрад праз гэта імкнецца—недапусьціць да раздрабненьня ўжо скамасаваных гаспадарак,—захаваць гаспадарчыя пазыцыі кулакоў і пашырыць унутраны рынак. У практыцы гэта азначае закрэпленьне ў нормы права таго рабунку сялянскай зямлі, які адбыўся пры камасацыі. Для найшырэйшых мас сялянства заходня-беларускай вёскі гэта дае: павялічэньне нэндзы і голаду, бо цэлыя слаі сялян астануцца без кавалка зямлі; павялічэньне пералюдненьня заходня-беларускай вёскі, бо „вольныя“, пазбаўленыя кавалка зямлі сяляне ня знойдуць цяпер выхаду ў горад і ў эміграцыю; узмацаваньне капіталістычнага кулацкага вызыску і далейшае зьбядненьне найшырэйшых мас сялянства, бо шукаючы кавалка хлеба бедната будзе змушана за галодныя заробкі працаваць на кулакоў.

Ратуючыся перад фінансавай катастрофай і рыхтуючы вайну проці СССР, фашыстоўскі ўрад па гарадох абніжае заробкі рабочым і ўрадоўцам, адбірае апошні кавалак хлеба ў беспрацоўных, а ў вёсцы забірае апошні грош, даводзячы сялян да руіны і голаду. Падаткі гэта цяпер галоўны біч для сялян Заходняй Беларусі. З усіх бакоў сяляне толькі і чуюць—што плаці. На дзяржаву—плаці, на гміну—плаці, штрафы і нядоімкі—плаці, на будуючыхся дарогах і мастох—шарваркі адрабляй. Уся сума дзяржаўных падаткаў як пасрэдных, так і беспасрэдных сыстэматычна ўзрастае. Толькі цяпер пад ударамі крызысу фашыстоўскі ўрад быў прымушаны пайсьці на скарачэньне дзяржаўнага бюджэту з 3-х да 2 з паловай мільярдаў злотых. Гэта не аблягчае падаткавых цяжараў шырокіх працоўных мас, бо ідзе па лініі палёгкаў для купцоў, прамыслоўцаў і абшарнікаў. У адносінах да рабочых і сялян гэта азначае—далейшае абніжэньне заробкаў і зацісканьне падатковага ярма. Характэрным для гэтага зьяўляецца факт, што ў ліпені м-цы гэтага году спэцыяльным распараджэньнем міністэрства фінансаў былі перарваны водпускі ўсім падаткавым інспэктаром і цэлыя сотні гэтых драпежнікаў кінуты ў заходня-беларускую вёску, каб энэргічней сьцягваць падаткі, бо бюджэт польскай дзяржавы трашчыць, а Пілсудзкаму патрэбны грошы на ўзбраеньне. Апрача падаткаў дзяржаўных стала ўзрастаюць падаткі мясцовыя, як гмінныя, прымусовая страхоўка і іншыя. Сума гэтых падаткаў ва ўсёй Польшчы ў 1929 г. складала 1.300 млн. злотых, а ў 26 г. толькі 485 млн. Агулам на адну сялянскую гаспадарку прыходзіцца падаткаў на год да 150 злотых з серадняцкай гаспадаркі 8 дзесяцін і да 75 злотых з бядняцкай гаспадаркі ў 2 дзесяціны. Сама буржуазная статыстыка прызнае, што велічыня падаткаў цяперашняй Польшчы ў два-тры разы большая як перад вайной.

Сплата падаткаў даводзіць сялянства да руіны—сялянства масава маўляецца плаціць падаткі, бо ня можа. За неплацёж падаткаў адбы-

ваецца масавая ліцытацыя сялянскай маемасьці. З торгаў распрадаецца сялянскае дабро, руйнуючы тысячы сялянскіх сямей. Гэтая ліцытацыя прымае форму адкрытага грабяжу сялянскага дабра з боку фашыстоўскага ўраду. Без разбору бяруць кароў, сьвіней, кажухі, падушкі, адзежу і іншыя рэчы гаспадаркі.

Падатковае ярмо яшчэ большым цяжарам душыць сялян у варунках вострага сельска-гаспадарчага крызысу і нізкіх цэн на вырабы сельскай гаспадаркі. Вось, напрыклад, некалькі дадзеных аб спадку цэн. Пуд жыта ў 27 г. каштаваў 6 зл., цяпер—2, пуд лёну ў 27 г.—50 зл., цяпер—8 зл., за адну штуку жывёлы вагою ў 400 *кг* у 27 г.—400 зл., цяпер—170. Цяпер, каб сплаціць агульную суму падаткаў селянін павінен ў два-тры разы больш прадаць, а сам застацца без кавалка хлеба.

Калі да ўсяго гэтага яшчэ дадаць стыхію паводкі, якой былі ахоплены рад паветаў Віленшчыны і Наваградчыны, *дык жудасны вобраз голаду, нэндзы, руіны, які завіс над заходня-беларускай вёскай, будзе поўны.*

## Вёска раўняецца па пралетарыяце

Правядзеньне фашыстоўскай камасацыі і сплата падаткаў спатыкае рашучы адпор з боку сялянскіх мас.

Каб прыдаць гэтай барацьбе масавы арганізаваны характар, каб яе пашырыць і падняць на вышэйшую ступень—комуністычная партыя Заходняй Беларусі кідае лёзунг: „ані гроша падаткаў фашысцкаму ўраду голаду, тэрору, вайны і беспрацоўя“, „далоў рабаваньне сялянскай зямлі за зямлю для сялян бяз выкупу“.

КПЗБ заклікае сялян не прызнаваць камасацыйных разьмеркаваньняў зямлі—араць і касіць па-старому, ня лічыцца з ліквідацыяй сэрвітутаў, самачынам забіраць, высякаць абшарніцкія лясы, і касіць лугі, і даваць арганізаваны адпор паліцыі, і фашысцкім бандам. Каля ўсіх гэтых спраў, а асабліва каля падаткаў нарастае глыбокае незадаваленьне, шалёная ненавісьць усяго працоўнага сялянства Заходня-Беларускай вёскі—расьце гатоўнасьць сялян да барацьбы...

На гэтым грунце ўжо цяпер мы маем цэлы рад баявых рэволюцыйных выступленьняў у розных мясцовасьцях Заходняй Беларусі, якія выразна скіраваны супроць падаткаў, акупацыі і фашысцкай камасацыі.

*У вёсцы Лучына* Каменец-Кашырскага павету фашыстоўскія ўлады пачалі праводзіць мэліорацыю—якая зьяўляецца толькі ўступам да фашысцкай камасацыі. 23 чэрвеня г. г. сяляне суседніх вёсак у ліку каля 1000 асоб, узброеныя сякерамі і віламі—кінуліся на фашысцкіх урадоўцаў і іх памоцнікаў і прагналі іх з сваіх палёў.

*На лясьнічага маёнтку Чырвоны Двор* напала група сялян, якія імкнуліся яго разброіць. Аднаго селяніна пры гэтым ранілі, рэшту арыштавалі.

У Валкавыскім павеце пры правядзеньні камасацыі ўлады забралі сенажаць вёскі Крываносы і разьдзялілі яе паміж кулакамі вёсак Пасынкі і Дзяцялавічы. На гэтым грунце 25 чэрвеня г. г. дайшло да ўзброенай барацьбы паміж сялянамі вёскі Крываносы і кулакамі вёсак Пасынкі і Дзяцялавічы. Барацьба і перастрэлка трывала некалькі гадзін. Паліцыя памагла кулакам і парабіла арышты.

У Кобрынскім, Высока-літоўскім і Волчынскім раёнах—адбыліся масавыя сходы сялян—на якіх было пастаноўлена не хадзіць на шарваркі.

Сяляне ў гміне Влададоўскай, сабраўшыся на сваёй конфэрэнцыі, пастанавілі не плаціць ані гроша падаткаў фашысцкаму ўраду. Выбралі комітэт барацьбы і стварылі самаабарону—якая дала баявы адпор паліцыі.

Разам з падобнымі масавымі выступленьнямі—на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі вялікі лік індывідуальных стыхійных тэрорыстычных актаў сялян проці акупантаў.

Паляцца абшарніцкія і казённыя лясы і асадніцкія калёніі, забіваюцца паасобныя паліцэйскія, робяцца замахі на чыгункі і цягнікі, паляцца палянізатарскія школы.

Сялянства тут па-свойму распраўляецца са сваімі ворагамі. Усе гэтыя выпадкі, як масавыя, так і індывідуальна-стыхійныя—зьяўляюцца рэволюцыйнымі, але выпадкі масавага характару выражаюць сабой вышэйшы лепшы спосаб рэволюцыйнай барацьбы.

Гэтыя выступленьні пры сваім разьвіцьці будуць паступова перарастаць у масавыя аружныя—партызанскія баі сялян з акупантамі. Першыя ластаўкі такіх баёў мы маем ужо цяпер.

*У вёсцы Каздровічы* каля Баранавіч у лесе ўкрывалася група ўзброеных сялян. Мясцовая паліцыя ў Азанах зрабіла на іх аблаву. Завялася перастрэлка—у часе якой быў забіты паліцэйскі камэндант Касінскі і ранены адзін з партызанаў, які праз гэта папаўся ў рукі паліцыі.

Барацьба сялян проці фашысцкай камасацыі—вельмі часта цяпер прымае форму братабойчай барацьбы сялян паміж сабой. Пры разьдзеле зямлі ўзьнікла сварка паміж жыхарамі двух вёсак—Вярбункі і Садумішкі. Сварка хутка перашла ў бойку палкамі, якая працягнулася 2 гадзіны, і ў выніку якой 2 было паранена і адзін памёр.

Выпадкаў такіх маем шмат. Каб зьвясьці барацьбу сялян проці фашысцкай камасацыі з адзіна правідловага шляху клясава-рэвалюцыйнай барацьбы—проці акупанскай улады і „сваіх“ кулакоў—мясцовыя ўлады сьвядома кіруюць яе на торы братабойчай барацьбы сялян паміж сабой. Аб чым сьведчаць усе гэтыя падзеі як у гарадох так і па вёсках Заходняй Беларусі. Перад усім яны сьведчаць аб тым, што рэволюцыйная барацьба на Заходняй Беларусі ня толькі завастрылася, але значна пашырылася. Пад ярмом капіталістычнага вызыску, уціску і тэрору—павялічыліся нужда і голад шырокіх працоўных мас, узрастала іх гатоўнасьць да рэволюцыйнай барацьбы з фашысцкай дыктатурай. Масы

ўсё больш і больш пачынаюць разумець, што адзіным выхадам з капіталістычнага крызысу зьяўляецца толькі рэволюцыя.

У барацьбу пачынаюць уцягвацца самыя шырокія пласты, як пролетарыяту так і сялянства, якія да гэтага часу былі досыць пасыўнымі. Барацьба паднялася на вышэйшую ступень, носіць чыста палітычны характар, і ўсім сваім вастрыём скіравана супроць фашысцкай дыктатуры.

У гэтай барацьбе ўжо ясна выявіліся элемэнты грамадзянскай вайны (выпадкі ў Карэлічах).

Трэба яшчэ зазначыць, што апошняя забастовачная барацьба Гродзенскага і Беластоцкага пролетарыяту выказала досыць вялікую манэўраздольнасьць соцыял-фашыцкіх партый ППС і Бунду. Гэтыя партыі маюць яшчэ досыць вялікія ўплывы і патрапляюць досыць спрытна ашукоўваць масы. На барацьбу супроць гэтых партый КПЗБ мобілізуе сваю ўвагу.

Характэрнай рысай разьвіцьця цяперашніх рэволюцыйных падзей на Заходняй Беларусі зьяўлаецца тое, што дасьпяваюць яны амаль аднačасна як па гарадох, таксама і па вёсках. Гэта гавора аб тым, што пролетарыят Заходняй Беларусі—пераходзячы да контр-атакі проці капіталістаў, проці акупацыі і фашыцкай дыктатуры—падцягвае і вядзе за сабой сялянскія рэзэрвы.

Супольная барацьба па гарадох і вёсках узмацоўвае саюз рабочых і сялян, пашырае і выроўнівае фронт барацьбы—забясьпечвае гегемонію пролетарыяту.

Калі ўсе падзеі на Заходняй Беларусі браць ва ўсёй іх суцэльнасьці да рэволюцыйных падзей ва ўсёй Польшчы, дык таксама трэба будзе адзначыць, што тут за апошнія месяцы фронт барацьбы выраўніваецца. Заходняя Беларусь значна падцягнулася да караной Польшчы, хаця яшчэ да гэтага часу застаецца ў тыле.

Вострасьць рэволюцыйнай барацьбы на Заходняй Беларусі, яе організованасьць, яе масавы характар і кіруючая роля ў ёй комуністычнай партыі яшчэ слабейшыя чым караной Польшчы.

У варунках усё абвастраючагася капіталістычнага крызысу, нэндза, голад і цярпеньне шырокіх мас рабочых, сялян і беспрацоўных будуць бязупынна павялічвацца. На гэтай падставе будзе расьці іх рэволюцыйная актыўнасьць і баявая гатоўнасьць.

Падзеі разьвіваюцца хутка. Масы на сваім уласным досьледзе вучацца. У гэтых падзеях хутка выраўняецца фронт барацьбы як паміж пролетарыятам і сялянствам ва ўсёй Польшчы, так і паміж караной Польшчай і Заходняй Беларусяй і Заходняй Украінай. Адзіным шырока разгорнутым рэволюцыйным фронтам усіх рабочых, сялян і прыгнечаных народаў—пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі Польшчы—пачнецца генэральная контр-атака на фашыцкую дыктатуру Пілсудзкага.

Маем надзею і пэўнасьць, што гэта контр-атака кончыцца нашай перамогай.

Жнівень 1931 г.

## КНІГАСЬПІС

### Н. Кабакоў. „Поэта—бальшавік“

*Творчы шлях поэты Я. Гольдмана*

Ужо прайшло больш двух гадоў, як мы страцілі Яшку Гольдмана. У красавіку 1929 г. Гольдман стрэлам з рэвальвэру спыніў сваю літаратурную творчасьць, пакончыў рахункі з жыцьцём. Яўрэйская пролетарская літаратура страціла ў твары Гольдмана аднаго з лепшых сваіх прадстаўнікоў, пазбавілася вельмі таленавітага поэты, поўнага рэвалюцыйнага патасу, заўжды гатовага сумленна служыць справе сацыялістычнага будаўніцтва, справе рабочае клясы. У твары Гольдмана, які пісаў усяго некалькі год, мы мелі ўжо зусім аформіўшагася партыйца-поэту, барацьбіта за генэральную лінію партыі.

І неяк дзіўным здаецца, што якраз Гольдман, які ў адным з сваіх вершаў пісаў: (Усе пераклады—вольныя і ні ў якой меры не перадаюць рытму, мілагучнасьці вершаў Гольдмана).

> Я падняўся і паглядзеў—
> Так! прастор, такі прыгожы сьвет!

І далей:

> Будзь блаславёны, мой сьвет і ты,
> жанчына,
> За лета, за вясну, за восень, за расу...

А ў другім вершы „Будаўніку“ ён пісаў:

> Хвала таму, хто да самага верху далезе,
> Хвала таму, хто да канца данясе!

А вось сам Гольдман да канца не данёс... не данёс свайго поэтычнага агню на вяршыны, не аддаў яго рэвалюцыі, а сам уласнымі рукамі гэты агонь патушыў.

У гэтым—трагэдыя Гольдмана. І ён сам у сваім прадсьмяротным лісьце піша: „Маё становішча вельмі цяжкае і самае пячальнае заключаецца ў тым, што самі ўрачы ня ведаюць, што са мною рабіць. Працаваць я не магу і мне нельга“.

Цяжкая хвароба, якой ён даўно хварэў, давяла яго да самагубства. Гэтага мы, канешна, ніколі ня можам апраўдаць. І ён, адчуваючы гэта, у сваім прадсьмяротным лісьце піша: „Дарагія таварышы. Мне ня страшна ні сьмерць, ні тое, што я сам сябе забіваю. Страшна і вельмі больна тое, што я гіну не за тую справу, за якую я жыў, пакутаваў, балеў і радаваўся, што мая гібель зьяўляецца такой бяссэнсавай і некарыснай... Як я зайздрошчу табе, о, Ботвін! І табе, Багданаў! Ох, калі-б я мог цаной маёй галавы ратаваць хаця-б адзін савецкі паравоз“ [1]).

І ня толькі ў гэтым супярэчнасьці Гольдмана—чалавека, Гольдмана—поэты, Гольдмана—камуністага. Калі ўважліва прачытаць усю кніжку яго вершаў, усю тую невялікую спадчыну, якую нам пакінуў Гольдман за 5—6 гадоў сваёй паэтычнай працы, дык мы ўбачым, што ўся яго творчасьць, увесь яго паэтычны шлях быў поўны супярэчнасьцяй, барацьбы з самім сабою.

У творчасьці *Я. Гольдмана* (асабліва за апошнія часы яго жыцьця) чырвонай істужкай праходзіць яго

[1]) Ботвін, Багданаў—гэта рэвалюцыянэры, якія аддалі сваё жыцьцё рэвалюцыі.

*партыйнасьць і інтэрнацыянальнасьць.* У сваіх вершах Гольдман адгукаўся на партыйныя актуальныя пытаньні і на рэвалюцыйныя падзеі.

У поэзію Гольдмана ўрываецца (праўда, рэдка) публіцыстыка і гэта ня толькі не зьмяншае мастацкай каштоўнасьці гэтых-жа вершаў, але, наадварот, прыдае ім больш актуальнасьці, палітычнай завостранасьці, ідэолёгічнай вартасьці і злабадзеннасьці. Тут, мабыць, дае сябе адчуваць і тое, што Гольдман апошнія гады свайго нядоўгага жыцьця працаваў у рэдакцыі газэты.

У сваім артыкуле „Перамога адставаньня ці ліквідацыя мастацтва" т. Авербах піша: „Плеханаў пісаў, што бываюць пэрыоды, калі публіцыстыка пранікае ў творчасьць мастацтва. Гэта вельмі важная заўвага. Пролетарскае мастацтва праходзіла і яшчэ будзе праходзіць праз такую „інтэрвэнцыю". Зразуменьні літаратуры і публіцыстыкі, наогул зразуменьні гістарычна конкрэтныя і граніца іх умоўная, падзьвіжная і зьменная. Пэрыоды рэволюцыі, пэрыоды праяўленьня новага клясавага мастацтва, яго першыя крокі ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы стваралі спрыяючыя абставіны для такой інтэрвэнцыі. Пакуль кляса яшчэ не пачала на ўвесь голас гаварыць у мастацтве, да гэтай пары інтэрвэнцыя публіцыстыкі іграе нярэдка ролю аружжа пролетарскай перабудовы старога мастацтва наогул, наступленьне на яго. „Але гэта зусім ня значыць, што публіцыстыкай—мышленьнем сілагізмамі—мы можам замяняць спэцыфіку мастацтва—мышленьне вобразамі.

Дэталёвае азнаямленьне і вывучэньне творчага шляху Гольдмана пераконвае нас у тым, што Гольдман, як поэта, як мастак-змагальнік, з кожным годам усё больш і больш дужэў, што мастацкая моц і ідэалёгічная поўнакаштоўнасьць яго вершаў з кожным разам усё больш і больш узмацнялася. Гольдман, ня гледзячы на яго маладосьць, зусім аўладае рытмам. Адшліфаванасьць кожнага радку, кожнай рытмы, прастата кампазіцыі, маляўнічасьць, месцамі хвалюючы лірызм, мілагучнасьць, багацьце і поўнакроўнасьць мэтафар, параўнаньняў, эпітэтаў—вось чым выдзяляецца поэтычная творчасьць Гольдмана, вось якімі магутнымі мастацкімі сродкамі ён уплывае на чытачоў, змагаецца за справу рабочае клясы. Вось чаму ў твары Гольдмана мы страцілі вялікага мастака, вялікага майстра поэтычнага слова, поэту-бальшавіка, які вельмі многа мог-бы яшчэ даць нашай пролетарскай літаратуры.

Бязыменскі калісьці пісаў:

Прежде всего я член партии,
А стихотворец потом.

Вось гэтыя словы можна цалкам аднесьці да Гольдмана, які, паміж іншым, сам пісаў аб сабе:

З усіх любвей—твая самая магутная,
Мая кроўная, мая сьветлая партыя.
Табе аднэй належыць сэрца маё і розум,
Чырвоны цьвет маіх маладых гадоў.
Якая радасьць прасьці сьветлую песьню
На прасьле твайго пакаленьня!

Тут перад намі зусім аформіўшыся поэта-партыец, поэта-бальшавік, які сваім пяром вядзе жорсткую барацьбу за генэральную лінію партыі, тут поэта прызнаецца ў любві партыі, тут ён сапраўды „прадзе сьветлую песьню" на партыйнай прасьле.

А вось у другім вершы Гольдман выступае супроць Троцкага і троцкізму. Гэты верш азаглаўлены „Нябожчыка—вон!".

Бачым—
На нашым караблі нябожчык
Ужо цэлыя суткі
І цягне ўніз
І цягне карабель
У чорную глыб
На марское дно.

І вось як поэта адказвае таму троцкісту, які хоча давесьці, што калісьці Троцкі быў „волатам".

...Калісьці,
Было вельмі добра,

А зараз згніла,
А зараз ён мёртвы.
Ї калі галава гніе—
Дык адсякі яе
Ды выкінь!

Вось як ён па-бальшавіцку ставіць пытаньне аб барацьбе з Троцкім.

Аб гэтым ён гаворыць і піша ўпэўнена, бо ён верыць у моц рабочай клясы, у моц камуністычнай партыі і яе правадыра т. Сталіна.

Гэты-жа верш аб Троцкім ён канчае наступнымі радкамі:

Вядзі нас уперад, капітан,
Вядзі ўперад нас,
Сталін!

Вось дзе бальшавіцкая ідэёвасьць! Ідэйны камуністычны ўзровень дасягнуў тут свайго апагэя.

А вось аб другой вельмі характэрнай рысцы ў творчасьці гэтага поэты—аб інтэрнацыянальнасьці яго поэзыі. Гэта таксама зьяўляецца неад'емным элемэнтам партыйнасьці, бо партыя рабочай клясы, камуністычная партыя—яна ніколі ня была і ня можа быць нацыянальна абмяжованай, яна па сутнасьці сваёй заўсёды была і ёсьць інтэрнацыянальнай.

У вершы „У агні" ён сам і піша:

Ї я стаў дзіцям усіх
Ї я стаў бацькаю ўсіх...
...Таму—
У агні і ў саветах
Я выхоўваўся, гадаваўся.

А ў другім месцы ён піша, што яго сэрца не супакоіцца пакуль „боль апошняга і кроўнага кулі, пакуль боль кожнага не супакою". Вось як ён клапоціцца аб кітайскіх кулі, аб болі *кожнага*, гэта не Байранаўская ці Лермантаўская „Мировая скорбь". Не. Гэта рэвалюцыйнае жаданьне перабудаваць сьвет, гэта імкненьне да пролетарскай рэволюцыі ва ўсім сьвеце. Тут адчуваецца інтэрнацыянальнасьць яго творчасьці.

Адзін з сваіх лепшых вершаў „Здрада" Гольдман прысьвяціў кітайскай рэвалюцыі:

Растоптаны ляжыць сьцяг
Шанхайскага рабочага савету,
Расстрэлян.

Але ён ня хныча, ня плача, ня сумуе:

О, краіна ўсходу,
Гэта зараз усходзіць на табе
Чырвоны пяты год Расіі.

Гэта значыць, што рэволюцыя 1905 года пачалася ў Кітаі.

Ї верш канчаецца:

Я чую, чую ўва ўсім ваяўнічы кліч,
Кліч паўстаньня і перамогі.

Ён піша аб забастоўцы ангельскіх рабочых, ён зьвяртаецца да лёнданскіх рабочых:

Браты далёкія, з туманнага Лёндану,
Браты з патухшымі ліхтарамі,
Калі гэта патрэбна, дык бярэце маю
русую галаў,
Калі толькі праз яе вам сьвятлее стане.

Гольдман напісаў верш пра забойства Сака і Ванцэці, пра Камінтэрн.

Такім вось партыйцам—бальшавіком—інтэрнацыяналістым мы ведаем паэту. Але як ён дайшоў да гэтага? Які шлях ён прарабіў, каб стаць гэтым сапраўдным пролетарскім пісьменьнікам?

Вядомы яўрэйскі пролетарскі крытык Дунец у сваім артыкуле аб творчасьці Я. Гольдмана піша:

„Тут (у апошніх вершах Гольдмана, якія я вышэй прыводзіў—*Н. Г.*) мы маем ужо зусім сьпелага, ужо камуністычна адукаванага і выхаванага чалавека, але прыйшоў ён да гэтага цяжкімі крокамі". Гэта зусім правільна. Гольдману прышлося перамагчы ў сабе ўсе свае індывідуалістычныя, часам анархічныя рэшткі, пакуль ён цьвёрда стаў на рэйкі пролетарскай літаратуры, пакуль ён знайшоў новы стыль, пакуль ён ня прыйшоў да сапраўднай камуністычнасьці, бальшавізму свайго поэтычнага слова. Мы ня маем ні біографіі, ні аўтабіографіі Гольд-

мана, але, мяркуючы па яго вершах, мы пераконваемся ў тым, што ён паходзіць з небагатай мяшчанскай, патрыярхальна-клерыкальнай сям'і, хаця сам з юнацкіх год быў рабочым і рана ўступіў у шэрагі КСМ і партыі. Гольдман прыехаў у СССР з Польшчы. Вось што ён аб сабе піша:

Я нарадзіўся ня ў гэтым краі,
Другая зямля мяне карміла, паіла.
І рана запрогся ў калымажку
Нэндзы і пакуты.

Ён так сумаваў па СССР, па першай соцыялістычнай краіне, яму так цяжка было ў панскай Польшчы, што, як ён аб гэтым сьпявае ў адным з сваіх вершаў, нават у Віслу ледзь ня кінуўся, але ратавала яго, што—

Пашоў з другімі сьмелымі сынамі,
З непакойнымі сынамі Польшчы.

Поэта пашоў у Маскву і ён ёю захапляецца. Вялікае ўражаньне на яго ўтварае маўзалей Леніна і Маскву ён называе „горадам вялікага цуду“.

Бацька і матка Гольдмана ніяк ня могуць мірыцца з тым, што іх сын уцёк да бальшавікоў, што сам ён, Яшка, бальшавік. І ў адным з лірычнейшых, біографічна-інтымных вершаў „Ліст“ ён апісвае, як яго маці ня можа знайсьці сабе ўцехі ў страце свайго сына.

Вось як ён піша:

Двесьці далёка, дзесьці далёка
У набажным плачы бацька свае худыя
рукі ламае,
А ў Савецкай Расіі пастанавілі
Перавесьці мяне ў партыю.

Вось дзе, так сказаць, разрыў паміж тэй бацькаўскай спадчынай, што яму засталася, і тым новым, партыйным, сапраўды бальшавіцкім, што ён выхаваў гадамі барацьбы. Гэту барацьбу сваю супроць старога поэта вельмі выразна апісвае:

На свае-ж-а, на кроўныя карэньні
Я падымаю сваю сякеру...

І далей:

Чую, але не хачу чуць
Плач маей маткі,
Я-ж сам дапамагаю руйнаваць
Усё, што згінуць павінна.

А гэта нагадвае нам вядомыя радкі з Маякоўскага:

Но
я
себя
смирял,
становясь
на горло
собственной песьне.

Наогул трэба сказаць, што ў творчасьці Гольдмана адчуваецца пэўны ўплыў Маякоўскага плюс Бязыменскага, а дзе-ні-дзе, у першых раньніх вершах, і Ясеніна.

Гольдман „падняў сякеру на свае кроўныя карэньні“, ён перамог у сабе рэшткі індывідуалістычных, а месцамі і анархічных настрояў, дашоў да мастацкай вышыні, выбіўся на шырокі шлях пролетарскай літаратуры, у якой ён стаў адным з перадавых яе прадстаўнікоў.

Гольдман напісаў найпрыгажэйшыя, поўныя вялікай мастацкасьці і ідэолёгічнай глыбіні вершы аб Чырвонай арміі. Адзін з лепшых яго вершаў (як па зьместу, так і па форме) прысьвечаны сьмерці Фрунзэ. Гольдман першы пачаў пісаць аб Чырвонай арміі, ён-жа адным з першых унёс у яўрэйскую пралетарскую літаратуру БССР непасрэднае жыцьцё фабрыкі, заводу.

Гольдман глыбока лірычны поэта, я-б сказаў, глыбока пяшчотны, кволы поэта, але ў яго творчасьці мы ня маем тае размагнічанай, інтэлігенцкай „душэўнай“ сьвістапляскі, чыста пачуцьцёвых успрыяцьцяў, калупаньне ў падсьвядомым жыцьці. Лірыка Гольдмана, яго інтымнейшыя пераживаньні зьвязаны з агульнымі задачамі пролетарыяту. Яго лірыка гэта сацыяльная лірыка. Нават у любві ён бачыць сродак для барацьбы за соцыялізм, за новы сьвет.

У творчасьці Гольдмана мы маем

элемэнты новага творчага мэтаду, у некаторых яго апошніх вершах ён падымаецца да ўзроўню дыялектычна-матэрыялістычнага ўспрыняцьця і разуменьня жыцьцёвых зьяў. Гольдман дае нам сутнасьць зьяў, як клясавую сутнасьць, ён умее ў паасобным бачыць агульнае і ў агульным— паасобнае.

Вось як ён піша:

Глядзеце: у нас любоў таварыская ёсьць,
Простая, як хлеб наш аржаны.

І ў гэтым-жа самым вершы:

У нас кожны дзень мае новы гук
І песьню...

Любоў Гольдмана асацыруецца ў яго з камсамолам, з фабкомам:

„Але рэдка, рэдка бачу я цябе"—ты
працуеш у райкоме,
А я цяпер абраны старшынёй фабкому.

І далей:

Гаварыла ты тады аб этыцы, аб
камсамольскай этыцы:
Дзяўчына-таварыш. яна ня толькі
для гульні і забаў...

Мы асабліва хочам падкрэсьліць, што творчасьць Гольдмана насычана бадзёрасьцю, пролетарскім оптымізмам:

Усе дарогі ў Маскву вядуць (ст. 67).

Паэта верыць у перамогу рабочае клясы:

І чырвоны сьцяг будзе ўзьвівацца над
Варшавай.

Гэта нагадвае радкі з паэмы беларускага паэты П. Броўкі „Прамова фактамі".

Над Бэльвэдэрам
Загарыцца
Сьцяг чырвоны.

Яшка Гольдман—наш поэта, пралетарскі поэта, поэта-партыец. Кніжка яго вершаў—гэта каштоўны ўклад у нашу пралетарскую літаратуру.

У вершы, прысьвечаным сьмерці Ясеніна, Маякоўскі пісаў:

В этой жизни помереть нетрудно.—
Сделать жизнь значительно трудней.

Але і сам Маякоўскі ня вытрымаў і ў хвіліну маладушша паўтарыў Ясеніна. Гольдман, які сьпяваў аб тых будаўнікох соцыялізму, якія „данясуць да канца", які, падобна Маякоўскаму, „падняў сякеру на свае кроўныя карэньні", падняў, падобна Маякоўскаму, і руку на сябе. У гэтым—трагэдыя, у гэтым тое адмоўнае, антыпролетарскае, антырэволюцыйнае, што мы павінны рашуча асудзіць.

Яшчэ два словы: чаму не ўвашоў у зборнік Гольдмана верш „Урааджай", перакладзены з Маякоўскага?

Лепшым помнікам Гольдману будзе, калі мы з яшчэ большай энэргіяй, яшчэ большай адданасьцю будзем працягваць нашу барацьбу за новы, сонечны сьвет соцыялізму, за перамогу пролетарыяту ва ўсім сьвеце, аб чым марыў і сьпяваў рана згінуўшы таленавіты поэта Гольдман.

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* З 17 па 21 жніўня ў Менску адбываўся першы ўсесаюзны зьезд польскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. Зьезд адкрыў тав. Нэйман—рэдактар „Трыбуны Радзецкай".

— „Зьезд гістарычнай важнасьці,— гаворыць тав. Нэйман,—адкрываецца ў час, калі пролетарыят разам з асноўнымі масамі працоўнага сялянства пераможна будуе соцыялізм і атрымлівае перамогу за перамогай на фронце культурнай рэволюцыі. Зьезд зьбіраецца ў час калі жыцьцё разьбіла „ўшчэнт" тэорыі польскіх нацопортуністаў аб тым, што ў СССР нельга пабудаваць польскую пролетарскую культуру, што яе можна пабудаваць толькі ў межах этнографічнай Польшчы. Польскі пролетарыят, польскія колгасьнікі ў радох лепшых ударнікаў змагаюцца за прамфінплян за перабудову вёскі на соцыялістычны лад. Польская вёска па колектывізацыі ідзе ўперадзе. Польскія працоўныя масы на базе экономічных дасягненьняў нашай краіны з посьпехам разгортваюць будаўніцтва польскай пролетарскай культуры.

Створаная намі, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, польская пролетарская культура, у межах СССР—будзе зьяўляцца культурай ўсяго польскага пролетарыяту"

У склад прэзыдыуму зьезду ўвайшлі таварышы: Бруно Ясенскі, Р. Стандэ, Чарнушэвіч, Каваленка (сакратар УсеАПП), Лынькоў (Бел АПП), Нэйман („Трыбуна Радзецка"), Прынц („Орка"), Сьлівінскі, Сьвішч, Сьцібальскі (рабочы-ўдарнік з Кіева) і інш.

Пад бурныя воплескі быў выбраны ганаровы прэзыдыум: політбюро ЦК УсеКП(б), Бюро ЦК КП(б)Б і ЦК КПП, т. т. Ленскі, Тэльман і Максім Горкі.

Ад імя ЦК КП(б)Б зьезд пісьменьнікаў вітаў тав. Чарнушэвіч.

— Сам факт, што зьезд адбываецца ў СССР, зьяўляецца найлепшым довадам правільнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

Тав. Чарнушэвіч у кароткіх рысах адзначыў вялікія дасягненьні ў галіне колектывізацыі сельскае гаспадаркі, у галіне індустрыялізацыі краіны і культурнага будаўніцтва БССР. У БССР шпарка расьце і разьвіваецца польская культура нацыянальная па форме і соцыялістычная па зьмесьце.

Зусім іншы малюнак на тым баку мяжы. Фашыстоўскі ўрад Польшчы кожны год скарачае выдаткі на культурна-асьветныя мэты. 47 проц. дзяржаўнага бюджэту Польшчы ідзе на ваенныя мэты. Школьная сетка скарачаецца, адбываецца рэдукцыя польскага настаўніцтва. Сялянства прыгнечана непамернымі падаткамі і іншымі павіннасьцямі. У горадзе пануе беспрацоўе.

Зьезд пралетарскіх польскіх пісьменьнікаў павінен зьявіцца пераломным момантам на фронце культурнай рэволюцыі, на фронце будаваньня польскай пролетарскай культуры і літаратуры. Трэба змагацца за партыйнасьць у літаратуры.

Тав. Бруно Ясенскі зачытаў зьезду адозву ад сакратарыяту міжнароднага аб'яднаньня пролетарскіх пісьменьнікаў.

Ад УсеАПП зьезд вітаў на украінскай мове тав Каваленка.—„Колёніяльны рэжым, прыдушэньня самых элемэнтарных правоў нацменшасьцяў, пацыфікацыя Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі—вось зьмест політыкі польскага фашызму. Мы будуем ня толькі польскую культуру ў СССР, мы будуем культуру ўсяго пролетарыяту.

Першы ўсесаюзны зьезд польскіх пролетарскіх пісьменьнікаў гэта ня толькі сьвята народаў СССР, але і сьвята польскага пролетарыяту, які знаходзіцца ў ціскох польскага фашызму.

Там, на другім баку кардону, насаджваецца паліцэйская культура—культура Луцку, Вронак і Лукішак".

Ад БелАПП'а зьезд вітаў тав. Лынькоў:

— „Крывавыя лічбы забітых у Польшчы і зьняволеных характарызуюць польскую „цывілізацыю".

За 1931 год у Польшчы забіты 93 рэволюцыянэры, 1.397 чалавек атрымалі 3.288 год турмы.

Буржуазная культура — культура шыбеніц. Як і ў часы царызму фашыстоўская Польшча душыць найменшыя праяўленьні нацыянальна вызваленчага руху.

Мы павінны гартаваць тыя сілы, якія зруйнуюць стары сьвет. Задачы пролетарскага пісьменьніка—узьнімаць абароназдольнасьць савецкае краіны, змагацца за ленінскі стыль нашай літаратуры, наблізіць літаратуру да штодзенных патрэб будаваньня соцыялізму".

Зьезд віталі дэлегацыі заводаў „Комунар" і „Бальшавік", а таксама польскага нацыянальнага колгасу „Комінтэрн" (Койданаўскі раён).

Бурнымі аплёдысмэнтамі зьезд сустрэў запрашэньне дэлегатаў наведаць колгас „Комінтэрн".

Каля трыбуны тав. Рышард Стандэ—прадстаўнік рэволюцыйных пісьменьнікаў у Польшчы. Яго сустракаюць бурнай авацыяй.

„Фашыстоўская Польшча,—гаворыць прадстаўнік ЦК КПП,—перажывае востры экономічны крызіс, які пераходзіць у катастрофу. Адбываецца шалёнае наступленьне, на рабоча-сялянскія масы Польшчы, Заходняй Украіны і Беларусі. 10.000 політзьняволеных пакутваюць у польскіх турмах Макатова, Сьвятога Крыжу, Вронак, Равіча, Беластоку, Лукішак.

Толькі ў СССР, у гэтай цудоўнай краіне, няма беспрацоўя, толькі ў СССР працоўныя ўсіх нацыянальнасьцяй з энтузіязмам будуюць соцыялізм. Вашы дасягненьні прысьпяшаюць прыход рэволюцыйных падзей у Польшчы і даюць нам бадзёрасьць, веру ў перамогу пролетарыяту ў нашай цяжкой барацьбе. Пад выпрабаваным кіраўніцтвам КПП, мы пабудуем польскую рэспубліку Саветаў (усе ўстаюць і сьпяваюць „Інтэрнацыянал").

Зьезд паслаў прывітальныя тэлеграмы ЦК УсеКП(б) і ЦК КПП і вынес рэзолюцыю протэсту супроць разгулу белага тэрору ў Польшчы.

18-га жніўня тав. Каваленка выступіў з вялікім дакладам аб культурным будаўніцтве СССР.

20-га жніўня на зьезьдзе выступіла тав. Камянецкая з дакладам аб задачах польскай пролетарскай літаратуры ў СССР. У спрэчках выступалі тав. Малецкі (Масква), Гурын, Бабінская, Гараўскі і інш.

У часе спрэчак першы ўсесаюзны зьезд польскіх пролетарскіх пісьменьнікаў прышлі вітаць яўрэйскія пісьменьнікі тав. Дунец, Харык.

Раніцою 21 жніўня з дакладам аб міжнароднай рэволюцыйнай літаратуры выступіў тав. Бруно Ясенскі.

— Міжнародны літаратурны рух не аднародны. У нашых шэрагах маюцца пісьменьнікі, якія з дробнабуржуазнага асяродзьдзя, а таму бываюць розныя адхіленьні і памылкі. Гэтыя памылкі няўхільны, бяручы пад увагу велічыню нашага

літаратурнага руху. Наша організацыя яднае пісьменьнікаў 22 краін з калёніямі.

— Найманнейшымі рэволюцыйнымі організацыямі ў капіталістычных краінах зьяўляюцца організацыі нямецкіх і японскіх літаратурных згуртаваньняў.

— Мы маем, вялікія дасягненьні ў справе прыцягненьня ў сваю організацыю пісьменьнікаў, якія становяцца на нашу пляцформу і вядуць барацьбу за дыктатуру пролетарыяту.

Тэорыі Троцкага ў міжнародным літаратурным руху прынесьлі вялікую шкоду рэволюцыйнаму атраду літаратуры.

Нам прыходзіцца змагацца з тэорыяй Анры Барбюса (Францыя), а таксама з „левымі" адхіленьнямі ад нашай лініі. Нам прыходзіцца змагацца з соцыял-фашыстоўскімі тэорэтыкамі і мастакамі слова, як, напрыклад, польскі фашыст, прыдворны пісьменьнік Пілсудзкага Кадэн-Бандроўскі.

З гэтымі плынямі мы вялі і будзем весьці бязьлітасную барацьбу.

21-га вечарам—на апошнім паседжаньні—зьезд зацьвярджае пастановы па парадку дня. Выбіраецца польская ўсесаюзная комісія пры ВОАПП'е.

Зьезд зачыняе рэдактар „Трыбуны Радзецкай" таварыш Нэйман.

— Таварышы колгасьнікі, якія прыходзілі вітаць наш зьезд, наракалі на вялікі недахоп польскай пролетарскай літаратуры,—гэты недахоп мы павінны неадкладна ліквідаваць.

Гэту задачу—задачу стварэньня польскай пролетарскай літаратуры, мы павінны выканаць па бальшавіцку.

* * *

У доме Ком. Асьветы адбыўся вялікі інтэрнацыянальны вечар сустрэчы беларускіх і яўрэйскіх пісьменьнікаў з дэлегатамі зьезду польскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. Вечар адчыніў сакратар БелАПП'у тав. Лынькоў.

Пад бурныя воплескі ў прэзыдыум запрашаюцца т. т. Бруно Ясенскі, Мысьлінскі, Кузьма Чорны, Харык, Крапіва, Каваленка (сакратар ВОААПП), Гараўскі, Нэйман, (рэдактар „Трыбуны Радзецкай"), Броўка, Маракоў, Сташэўскі і інш.

Літаратурны вечар распачынаецца выступленьнем тав. Стандэ—прадстаўніка рэволюцыйных пісьменьнікаў у Польшчы. Аўдыторыя спаткала тав. Стандэ бурнай авацыяй. Тав. Стандэ прачытаў свае вершы „Словы", „Сканфіскавана" і „Пляц". Аўдыторыя паўторна выклікае тав. Стандэ, які прачытвае яшчэ сваю навейшую поэму „Суд над 1931 годам". Гэта поэма зрабіла на прысутнасьць вялікае ўражаньне. Уся заля ўстае і наладжвае яму грамавую авацыю. Гэта авацыя сьведчыла аб тым, што пісьменьніцкая грамадзкасьць БССР, усе дэлегаты зьезду і працоўныя Менску віталі ня толькі тав. Стандэ, але і ўсю польскую пролетарскую літаратуру, увесь рэволюцыйна-вызваленчы рух і комуністычную партыю Польшчы, якая кіруе барацьбой польскага пролетарыяту, якая вядзе працоўныя масы Польшчы да дыктатуры пролетарыяту.

Пасьля Стандэ, Бруно Ясенскі зачытаў свой верш прысьвечаны політзьняволеным—палоньнікам польскага фашызму і ўрывак з поэмы „Слова пра Якубу Шэлю".

Далей выступалі тав. Броўка (БелАПП), яўрэйскі поэт Ізі Харык, Сьлівінскі (дэлегат зьезду з Ленінграду), Квецінскі (прадстаўнік „Маладняка" Украіны), Крапіва, Лужанін („Узвышша"), Гараўскі, Сьвішч, Сташэўскай і Мысьлінскі.

* *У МенАПП.* 10 верасьня адбудзецца пераклічка рабочых літаратурных гурткоў з мэтаю падсумаваньня працы.

25 верасьня адбудзецца конфэрэн

цыя Менскай Асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў.

* *Сярод пісьменьнікаў.* Пятрусь Броўка піша нізку вершаў з жыцьця фабрыкі і апавяданьне для дзяцей „Піонэрам пра паперу“.

— Зьмітро Астапенка піша фантастычна-прыгодніцкі раман „Магіла Атоміру“.

— Юлі Таўбін падрыхтаваў да друку зборнік вершаў Гайнэ (перaклады).

— Валеры Маракоў піша драму „Ксеня Лабанок“, якая адбівае барацьбу за кадры.

— Барыс Мікуліч зьбірае матэрыял для раману аб хэмічнай вайне „Кароль—Газ“.

— Вышла з друку кніга Александровіча „Вершы і поэмы“.

— Хадыка Ўладзімер здаў у БДВ два зборнікі вершаў: „Выбраныя вершы“ і „Адбіткі сэрца“.

— Мае друкавацца кніга М. Багуна „Рэволюцыі“.

— М. Нікановіч здаў у друк аповесьць „Скарабея“.

Выходзіць другім выданьнем зборнік яго апавяданьняў „Радасьць“.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* 30 жніўня гэтага году склікаецца чарговы пленум РАПП. На пленуме будуць зроблены наступныя даклады:

*І. Макар'еў*. Пра мастацкі паказ герояў пяцігодкі.

*В. Кіршон*. Пра першыя вынікі закліку рабочых ударнікаў у літаратуру.

*А. Сілеваноўскага*. Папутніцтва ў саюзьніцтве.

* З 1-га верасьня пачне рэгулярна выходзіць Маппаўская газэта „Ударнік літаратуры“.

Праводзячы літаратурна палітычную лінію РАПП, новая масавая газэта будзе кіраваць работай раённых АПП Маскоўскай акругі, раённых бюро і нізавых літаратурных гурткоў.

Устанаўленьне моцнай сувязі паміж раёнамі, гурткамі і цэнтрам,— адна з асноўных задач газэты.

Газэта аддасьць асаблівую ўвагу правядзеньню сталага творчага агляду. У кожным нумары будуць друкавацца творы ўдарнікаў, побач з крытычнымі артыкуламі пра іх творасьць. Будзе давацца і падрабязны разгляд найбольш значных твораў кваліфі аваных пісьменьнікаў і водгукі літгурткоўцаў на друкаваныя творы. „*Ударнік Літаратуры*“ будзе таксама даваць ацэнку літаратурнай рабоце нізавога друку.

* Рэдакцыя масавага часопісу „Комбайн“ выпускае спэцыяльны нумар прысьвечаны Сярэдня-Волжскаму краю. Нумар будзе зроблены на месцы сіламі закліканых у літаратуру ўдарнікаў саўгасаў і колгасаў. Для правядзеньня гэтай работы на Сярэднюю Волгу выехаў інструктар часопісу „Комбайн“ тав. Некрасаў.

* У дваццатых лічбах жніўня МАПП адкрывае пры інстытуце ЛІМ Комакадэміі двухмесячныя курсы па падрыхтоўцы кіраўнікоў літгурткоў. Курсы будуць скомплектаваны з творчага актыву рабочых ударнікаў. Прымуць 60 чалавек. Курсамі кіруе І. Сіткоўскі.

* У склад рэдколегіі часопісу „Красная Новь“ сакратарыятам ФОСП уведзены для сталай працы тав. В. Сутырын.

* МОРП устанаўляе цесную сувязь з выдавецтвам чужаземных рабочых у СССР. МОРП выказала гатоўнасьць садзейнічаць выдавецтву ў выбары лепшых узораў сусьветнай мастацкай літаратуры. Лепшыя творы, што друкуюцца ў органе МОРП,—часопісу „Літаратура сусьветнай рэволюцыі“,—будуць выходзіць асобнымі выданьнямі ў выдавецтве чужаземных рабочых у СССР.

* Літгрупа „Напостаўская Зьмена“ гэтымі днямі здае ў друк літаратурна-мастацкі зборнік, прысьвечаны 17 МЮД. У зборніку зьмешчаны вершы, нарысы і артыкулы пра комсамол.

* Заходня - Сібірскае таварыства пролетарска-колгасных пісьменьнікаў падрыхтавала да друку два зборнікі: першы на тэмы ўборачнай компаніі, другі—прысьвечаны гігантам— збожжа-саўгасам. У складаньні гэтых зборнікаў прымаюць удзел актыў організацыі, ударнікі, закліканыя ў літаратуру, колгасьнікі і рабочыя саўгасаў і МТС.

* *МАПП і МосЛАЧАФ на авіозаводзе.* МАПП і МосЛАЧАФ організавалі 1 жніўня ў клюбе заводу

№ 1 супольнае выяздное паседжаньне сваіх сакратарыятаў, прысьвечанае міжнароднаму антываеннаму дню.

* Максім Горкі зьвярнуўся з лістом да ўсіх удзельнікаў грамадзянскай вайны аб напісаньні „Гісторыі грамадзянскай вайны“.

ЦК УсеКП(б) сваёю пастановаю ад 30 ліпеня ўхваліў адобрыць ініцыятыву М. Горкага і прыступіць да выданьня для шырокіх працоўных мас „Гісторыі грамадзянскай вайны“ (1917—1921 г. г.) у 10—15 томах у выглядзе гістарычных артыкулаў і літаратурна-мастацкіх твораў.

Для рэдагаваньня „Гісторыі грамадзянскай вайны“ утварыць:

1) Галоўную рэдакцыю ў складзе тав. Горкага, Молатава, Варашылава, Кірава, Бубнова, Гамарніка і Сталіна.

2) Гістарычную рэдакцыю ў складзе тав. Пакроўскага, Бубнова, Горкага, Яраслаўскага, Скрыпніка, Гамарніка, Якаўлева, Я. А, Акундова, Стэцкага, Папова, Н. Н. і Эйдземана.

3) Мастацкую рэдакцыю ў складзе Горкага, Д. Беднага, Фадзеева, Б. Іванова, Лявонава, Мікітэнка, Чарота, Кіршона, Эйдэмана, Федзіна, Панферева і Міх. Кальцова.

* Сакратарыят РАПП зацьвердзіў оргбюро Паўночнай краёвай Асоцыяцый пролетарскіх пісьменьнікаў. У склад оргбюро ўвайшлі тав. Сідарэнка, Шубін, Новасельскі, Матвеяў, Зорын, Дзямідаў, якім даручана пачаць падрыхтоўку да краёвага зьезду пролетарскіх пісьменьнікаў, які склікаецца ў верасьні.

* Пры Ленабліспалкоме створана сталая комісія па палепшаньні быту пісьменьнікаў. У склад комісіі ўвайшлі: тав. Рафаіл М. (ОГИЗ), Назарэнко (облисполком), прадстаўнікі літорганізацый, рэдакцый газэт, буйнейшых заводаў, „Ленснабу“, ЛСПО і „облздраву“.

* Вышаў першы нумар вайсковай літаратурнай газэты Ленбалт ЛАЧАФ. Газэта выходзіць у лягерыскай дывізыі.

* Далучыўшыся да думкі сакратарыяту ФОСП, Мосгарком пісьменьнікаў зьвярнуўся ў Саўнарком РСФСР з протэстам супроць выпрацаванага „ОГИЗ“ новага законопроекту аб аўтарскім праве, не абмеркаванага пісьменьніцкімі організацыямі.

* Цэнтральны літгурток саюзу папернікаў і друкароў прыступіў да правядзеньня шэрагу выяздных паседжаньняў на прадпрыемстве. Першае паседжаньне, праведзенае ў літгуртку друкарні „Іскра рэволюцыі“, прайшло дужа пасьпяхова, выклікаўшы вялікую зацікаўленасьць з боку гурткоўцаў і рабочых друкарні.

* На апошнім паседжаньні ЦС ЛАЧАФ Лібэрман зьвярнуў увагу на небясьпеку зрыву зімніх заняткаў літаратурных гурткоў ЛАЧАФ з-за адсутнасьці вучэбных програм. Леташнія програмы ўстарэлі і патрабуюць сур'ёзнай пераапрацоўкі. ЦС ЛАЧАФ выбраў комісію ў складзе т. т. Данілова, Марына і Суботскага якой даручана неадкладна прыступіць да пераапрацоўкі і дапаўненьн лачафаўскіх програм для літгурткоў

* Маскоўская група РАПП „Кузьня“ і масавы сэктар часопісу „Пролетарскі авангард“ правялі вечар агляду літаратурных твораў пра герояў пяцігодкі. Крытыкаваліся толькі што вышаўшыя з друку нарысы сяброў „Кузьні“: Д. Касімава, В. Зыранава, Н. Ляшко і інш.

У далейшым вырашана рэгулярна праводзіць такія вечары, пры непасрэдным удзеле самых ударнікаў. Апрача таго, выяздныя рэдакцыі будуць спэцыяльна накіроўвацца на прадпрыемствы і там праводзіць абмеркаваньне новых рэчаў. У найбольш далёкія месцы нарысы будуць пасылацца на пісьмовыя водгукі. Такія водгукі пра нарысы Н. Ляшко атрыманы ад рабочых бежацкага заводу. Яны складаюць сабою дужа цэнны крытычны матэрыял.

* 17 жніўня па ініцыятыве МАПП і рэдакцыі часопісу „Рост“ было арганізавана аднадзённая параходная гулянка—шпацэр ударнікаў, закліканых у літаратуру.

У гулянцы апрача т. т. Кіршона, Авэрбаха, Халатава, Сэйфулінай, Агнёва, Селівкаоўскага, Макар'ева, Суркова, Лугаўскога і іншых прынялі ўдзел 250 маладых, закліканых у літаратуру ўдарнікаў. Дзякуючы добра праведзенай падрыхтоўчай працы, програма гулянкі, разьлічаная на абмен вопытаў заводзкіх літгурткоў, на ўзмацненьне кіраўніцтва імі, зусім апраўдала сябе.

Пасьля прыбыцьця параходу „Чырвоны Піонэр“ у Каломенскае быў арганізаваны мітынг-дыскусія аб далейшых пэрспэктывах працы з ударнікамі-літаратарамі, на якім выступалі т.т. Баравы, Кіршон, Сэйфуліна, Авэрбах, Агнёў, Сахараў (Паўночная ЧД) Сіткоўскі (ЛІМ), Ілеш і Халатаў.

Пасьля мітынгу быў арганізаваны агляд работы літгурткоў, на якім члены літгурткоў заводаў „Саматочка“, „Дынамо“, „Электрозаводу“ і іншых дзяліліся сваімі ўражаньнямі.

# УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Да гэтага часу мы ня мелі перакладаў з твораў Шэўчэнкі на мовах нацменшасьцяй Украіны. Хоць, праўда, дзе-ні-дзе поэзія Шэўчэнкі, перакладзеная на польскую мову, пабачыла яшчэ сьвет у старыя часы, але цяпер гэтыя пераклады застарэлі; некалькі вершаў Шэўчэнкі ёсьць перакладзенымі на яўрэйскую мову, гэтыя пераклады, пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі рабілі лепшыя яўрэйскія поэты (Д. Гофштэйн, Фэфэр і іншыя).

Ёсьць старыя пераклады поэзіі Тараса Шэўчэнка і нямецкаю мовою. Але гэтыя пераклады ня могуць задаволіць ні з погляду колькасьці, ні з погляду якасьці. Каб даць новаму нацменаўскаму чытачу асноўнае з творчасьці Тараса Шэўчэнка, выдавецтва „ЛІМ“ рыхтуе да друку „Кобзара“ польскаю, яўрэйскаю і нямецкаю мовою, пад рэдакцыяй Інстытуту імя Тараса Шэўчэнкі. Інстытут склаў стандартны зьмест твораў Шэўчэнкі, якія ўвойдуць у гэты „Кобзар“.

„Кобзар“ польскаю мовою ўжо друкуецца, яўрэйскаю мовою ўжо амаль гатовы, а на нямецкую мову перакладаецца.

На працягу 1931-32 году ўсе гэтыя выданьні „Кобзара“ выйдуць з друку.

* Сіламі мясцовае організацыі ВУСПП організаваны новы творчы гурток ВУСПП'у пры чыгуначным дэпо станцыі Днепра-Пятроўску. Гурток праводзіць заклік рабочых ударнікаў у літаратуру, выклікаўшы на соцспаборніцтва літгурток пры вагонна-рамонтным заводзе.

У газэце „Ударнік Транспорту“ 23 лютага гурток выдаў першую сваю літстаронку. Рабочы ўдарнік член ВУСПП тав. Марозаў здаў у друк. ДВОУ кніжку мастацкіх нарысаў. Гэтага-ж таварыша філія ўвяла ў склад сакратарыяту, а разам з ім і таварыша Харламава (ударнік заводу імя Пятроўскага).

* Пісьменьнік В. Гжыцкі напісаў п'есу „Наступ“. П'есу ўхваліў да пастаноўкі Галоўрэпэрткам. У гэтым тэатральным сэзоне п'еса ідзе ў Харкаўскім чырвоназаводзкім тэатры і ў іншых тэатрах Украіны.

* Кіеўскі драматург О. Карнійчук скончыў п'есу пад назвай „Штурм“. П'еса трактуе надзвычайна актуальныя пытаньні—штурм прарываў на Донбасе і штурм крэпасьці капіталу на Захадзе.

Гэту п'есу ўзяў для пастаноўкі дзяржаўны тэатр імя Франка і Чырвоназаводзкі тэатр у Харкаве.

* Мясцовая група ВУСПП у Камянцы на Падолі, узмоцненая прыездам на працу ў раён сяброў ВУСПП'у т.т. І. Куліка, і Л. Пёнтэка, наладзіла пры газэце „Чырвоны Кардон“ сталую літаратурную старонку. У ёй прымаюць удзел камянецкія маладыя пісьменьнікі (Ю. Шабленко, Ол. Дністровы, поэт В. Р. і інш.); ня чураецца літстаронка і перадруку.

* У ЦБ „Плуга“ распачата падрыхтоўчая праца да дзесяцігадовага юбілея „Плуга“, які адбудзецца ў траўні 1932 г.

Ухвалена да гэтай пары падрыхтаваць да друку юбілейны альманах „Плуга“ і крытычны зборнік пад назваю „Шляхі разьвіцьця пролетарскай сялянскай літаратуры“.

Упарадкаваньне альманаху, даручана тав. Пілыпэнко, Штангееву, і Ярмоленкаву, а крытычнага зборніку—т. т. Лаўрыненкаву, Зайцэву і Панаву.

* Выйшаў другі том трохтомнага выданьня „Антолёгія Украінскай поэзіі“, пад рэдакцыяй В. Атаманюка, Е. Плужаніна і Ф. Якубоўскага.

Выбар твораў папярэджвае артыкул Ф. Якубоўскага „Шляхі разьвіцьця украінскае поэзіі“. У канцы дадзены выбар твораў 34 поэтаў ад Карманскага да Сэмэнка ўключна. Партрэты пісьменьнікаў выканаў проф. В. Г. Крычэўскі. „Антолёгія“ выйшла коштам выдавецтва „Кнігаспілка“ і выдавецтва пісьменьнікаў „Маса“.

У хуткім часе выйдзе трэці і апошні том гэтага выданьня.

* У адзнаку памяці Васіля Блакітнага ДВОУ выпусьціла партрэт поэта работы Л. Кавалёва. Апрача гэтага, выдала ў масавым тыражы выбраныя творы поэта і новыя зборнікі твораў.

---

*Рэдакцыйная колегія*

**Ал. Сянкевіч,**
**А. Некрашэвіч,**
**Р. Мурашка,**
**П. Галавач,**
**С. Рычкоў.**

*Выдавец*

**Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі**

## ЗЬМЕСТ





БДВ



Тэлефон рэдакцыі 17-09
Тэлефон бюро падпіскі 17-12

АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫЯДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

# ПАДПІШЫСЯ НА 1931 ГОД

АДЗІНЫ Ў БССР ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВЫ ЧАСОПІС ТЫПУ ЛЕПШЫХ ІЛЮСТРАВАНЫХ ЧАСОПІСАЎ СССР

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ“ НА ПРАЦЯГУ 1931 ГОДУ БУДУЦЬ ЗЬМЕШЧАНЫ:

**АПАВЯДАНЬНІ:** Авалава, З. Еядулі, С. Баранавых, Іл. Барашкі, Вольнага, Тараса Гушчы, Цішкі Гартнага, Платона Галавача, Даўгапольскага, Міхася Зарэцкага, Ізбаха, Васіля Каваля, Элі Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, К. Чорнага, Міхася Чарота і інш.

**ПАЭМЫ І ВЕРШЫ:** А. Александровіча, Астапенкі, Янкі Бобрыка, П. Броўкі, М. Вагуна, Алеся Звонака, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Крапівы, Максіма Лужаніна, Валерыя Маракова, І. Плаўніка, Юлія Таўбіна, Ізі Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, Міхася Чарота, С. Шушкевіча і інш.

**НАРЫСЫ І ФЭЛЬЕТОНЫ:** Бяліна-Падгаецкага, Бэндэ, Вольнага, Яўгена Жука, Цімоха Зарэчнага, Клімчука, Мікуліча, Васіля Сташэўскага, Шкадарэвіча, Х. Шынклера.

**МАЛЮНКІ І ФОТО:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра, Булычова, Вал. Волкава, Давідовіча, Кіпніса, Барыса Малкіна, Маээлева, Ул. Семянякі, Салавейчыка, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых карэспандэнтаў.

УСЯГО „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД: ЗВЫШ 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама замежнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ БУДЗЕ ВЫСЬВЯТЛЯЦЬ: самыя шырокія праявы жыцьця, рэконструкцыйнага пэрыяду і магутнага сацыялістычнага наступу па ўсім фронце сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 к.**

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: аддзелам падпісных і пэрыядычных выданьняў БДВ, Менск, Савецкая, 79, усімі кнігарнямі, кіёскамі і ўпаўнаважанымі БДВ, усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і крамамі спажывецкай каапэрацыі.

ЦАНА 1 руб. 1855



АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 1931 ГОД

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

X год выданьня

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
А. СЯНЬКЕВІЧА, П. ГАЛАВАЧА,
А. НЕКРАШЭВІЧА, Р. МУРАШКІ,
С. РЫЧКОВА

X год выданьня

ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ,
12 КНІЖАК НА ГОД, памерам кожная ў 10—12 аркушоў.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 12 мес. . . . . . . . 10 руб.
„ 6 „ . . . . . . . . 5 „ 50 кап.
„ 3 „ . . . . . . . . 3 „

КОШТ АСОБНАГА НУМАРУ 1 руб.

ПАДПІСЧЫКІ, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць у 1931 годзе ДАРМОВЫ ДАДАТАК—літаратурна-мастацкую часопісь „УЗВЫШША“ за 1927 або 1928 год, па жаданьню.

НА ВЫПЛАТУ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА:

ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 р. 50 к., да 1-га красавіка—3 руб. і да 1-га ліпеня—2 руб. 50 кап.

ПОЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 р. 50 к. і да 1-га красавіка—1 руб. 50 кап.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: У аддзеле падпісных і пэрыодычных выданьняў ДВБ (Менск, Савецкая, 79, тэл. 17-12); Цэнтральнай Кнігарняй Дзярж. Выд. Беларусі (Менск, рог Ленінскай і Савецкай); усімі гарадзкімі аддзяленьнямі Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі; аддзелам падпіскі пэрыодсэктару ГЗ'у РСФСР (Менск, Савецкая, 54); усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і ўсімі кніжнымі крамамі спажывецкіх таварыстваў БЕЛКООП-САЮЗУ.

